АНАТОЛЬ
ЖАЛЯЗОЎСКІ

# ГОРКІ ХЛЕБ

**АПОВЕСЦЬ
І АПАВЯДАННІ**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985



## 1

— Трымай! Трымай яго!..— пачуўся раптам крык.

Арцём выбег за веснічкі і ўбачыў, як з завулка выкацілася хлапчанё і памчала вуліцай. Было яно босае, у шэрых штанах, замурзанай кашулі. З-за пазухі, якую ўцякач падтрымліваў знізу рукамі, сыпаліся чырванабокія яблыкі.

Чалавека, які гнаўся за ім, яшчэ не было бачна, але голас набліжаўся.

— Трымайце яго! Людзі, трымайце бандыта! Каб ён падавіўся!

Лінька падскочыў да Арцёма напалоханы, бледны.

— Ратуй, Негр! Каюк!

— Што здарылася?

— Зосіма шуруднулі, а ён заўважыў! Схавай мяне хутчэй! — ледзь пераводзячы дыханне, прашаптаў ён.

— У крапіўнік!.. Ці ў бульбу! Хутчэй!

Лінька праслізнуў у брамку і, прыгнуўшыся, панёсся за хату. Праз некалькі секунд з таго ж завулка паказаўся хударлявы даўгалыгі мужчына з кіем у руцэ. На скрыжаванні вуліц ён азірнуўся па баках:

— Куды ён падзеўся? Ты не бачыў? — спыніўшыся каля Арцёма, спытаў Зосім.

Дыхаў ён цяжка, хрыпла. Кашуля ўзмокла ад поту. Рэдкія шэрыя валасы, агаліўшы лысіну на макаўцы, ускудлаціліся, прыліплі да мокрага лба.

— Хто? Пра каго вы? — спытаў Арцём такім тонам, быццам нічога не ведаў і не бачыў.

— Ну гэты... зладзюга! Турэмшчык... Лінька.

Непрыгожы твар мужчыны быў перакошаны, храшчаваты нос трапятаў тонкімі ноздрамі. Чорныя маленькія вочы то змрочна патухалі, то ўспыхвалі злавесным агнём.

— Не... нікога я не бачыў.

Але Зосім стаў абмацваць вачыма ўсё навокал. Раптам погляд яго спыніўся на яблыку, які ляжаў у траве, за веснічкамі.

— Адкуль ён тут? — паказаў Зосім на яблык вачыма.— У вас жа свайго саду няма?

— Не ведаю,— абыякава сказаў Арцём і адчуў, як перахапіла дыханне, нібы ён апусціўся ў ледзяную ваду.

— Не ведаеш? Затое я ведаю! Вы ўсе аднаго поля ягадкі!

Ён ірвануў брамку і таропка пашкрэбаў за хату.

— Каб ты падавіўся! Каб табе кішкі вырвала! Каб табе глотку заклала!..— прыгаворваў ён.

Арцём куляй уляцеў у хату, раскатурхаў бацьку:

— Тата, ідзі хутчэй! Ён яго заб'е!

— Хто?.. Каго?..— падхапіўся бацька.

Арцём не адказаў, выскачыў за дзверы, знік на агародзе.

Зосім хадзіў па барознах, ламаў малады бульбоўнік, сіпеў злосна:

— Усё роўна знайду! Жывым ад мяне не ўцячэш! Як ката збродлівага ўніз галавой падвешу!

Арцём не ведаў, што рабіць. Сэрца білася і трапятала, быццам хацела выскачыць з грудзей.

Зосім, як чапля, высока паднімаючы ногі, падаўся да прыбіральні, дзе буйна разрасліся крапіва, дзядоўнік і маліна. Ён расхінаў і тыцкаў палкай у зялёныя зараснікі. Раптам ірвануўся, з усяго маху паваліўся ў крапіву і выцягнуў адтуль... Ліньку.

— Ага, папаўся, сукін сын!..

Лінька не прасіў літасці, не вырываўся, маўчаў і дзіка, загнана бліскаў з-пад ілба.

— Ты што гэта робіш, Зосім? Адпусці хлапчука! — пачуў Арцём голас бацькі.

— А ты ведаеш, што ён мне ўсю яблыню паламаў?! — шалёна, з віскам закрычаў Зосім.— Я з яго скуру зараз здзяру!.. Я яго ў турме згнаю! Я ўсё іх семя зладзейскае вынішчу!

— І не сорамна? Ты ж дарослы чалавек,— спакойна, з міралюбным дакорам працягваў бацька. Затым падышоў, вырваў у Зосіма палку, паламаў аб калена, адкінуў і нечакана гнеўна сказаў:

— Пайшоў вон з майго двара!

— Ну добра... Ты яшчэ за гэта адкажаш! Знойдзецца і на цябе ўправа... халуй нямецкі,— душыўся помстай і лютасцю Зосім. А бацька прыхінуў Ліньку да сябе і, ускудлаціўшы яго светлую чупрыну, разважна, спакойна прамовіў:

— Навошта ж ты, сынок? Нельга на чужое кавапіцца. Прывыкнеш — цяжка адвыкаць будзе.

— Я есці хацеў.— Голас у Ліньκі задрыжаў.

— Усё роўна не трэба. Лепш папрасі, але чужое не бяры.

Бацька завёў яго ў хату, адрэзаў лусту хлеба, скрылік сала і, выправіўшы за веснічкі, заўважыў:

— Хутка, сынок, вырасце ў мяне свой сад. Вось тады прыходзь і бяры, колькі тваёй душы захочацца...

...Дыміўшая цыгарка абпаліла Арцёму пальцы і вывела з глыбокай задуменнасці. І Лінька, і бацька, і Зосім, якія раптам выплылі з глыбінь памяці, пабляклі і растварыліся, быццам заслала, зацягнула іх туманістым покрывам.

Ён страсянуў рукой, выпусціў недакурак, падзівіўся нечаканым успамінам. Колькі гадоў прайшлопраляцела, а вось не забываецца. Раптам ні з таго ні з сяго, як віхор, мінулае ўварвецца ў душу, ускалыхне яе, узбударажыць.

Арцём падняўся, пацягнуўся, размяў ад доўгага сядзення здранцвелае цела, закаціў у склад балон, здаў прыёмшчыку, кінуў у куток манціроўку, гаечныя ключы, папрасіў:

— Няхай тут паваляюцца да наступнай змены. Не хочацца ў раздзявалку цягнуцца.

— Пакідай. Каму гэтыя жалязякі патрэбны,— абыякава адказаў Ігнат, пануры негаманкі чалавек гадоў шасцідзесяці.

Арцём узяў з падлогі кавалак белай анучы, выцер ёю рукі, зноў закурыў і зазначыў:

— Хопіць на сёння. І так норму перавыканаў. Нешта няймецца.

— Адпачні. Работа не вол — корму не просіць,— памяркоўна параіў Ігнат.

Арцём і на самой справе пачуваў сябе кепскавата: нылі намазоленыя рукі, застарэлы радыкуліт ламаў паясніцу. А да канца змены яшчэ заставаўся час, і, каб неяк прабавіць яго, Арцём пайшоў па цэху.

Адзін за другім паўзлі на «ямы» тралейбусы. Электрыкі, змазчыкі, механікі, балоншчыкі аглядалі, рамантавалі машыны і заганялі ў дэпо, а на іх месца ставілі другія. У цэху моцна пахла нагрэтым машынным маслам і паленай гумай. На электралініі

суха патрэсквалі штангі, пырскалі снапамі ярка-сярэбраных іскраў.

Каля рамонтнай вышкі стаялі рабочыя. У цэнтры — малады хлопец з медна-чырвонай кучаравай галавой і рабацінiстым тварам. Ён нешта цікавае расказваў. Арцём падышоў бліжэй.

Але не стаў увязвацца ў размову, схадзіў ва ўмывальнік, выпіў шклянку газіраванай вады і выйшаў на свежае паветра праганяць сон, што неадольна ламаў яго.

Восеньская ноч дыхнула ў твар халоднай сырасцю, цвілым водарам апалага лісця. Дзесьці ў цемры пранізліва ўскрыкнуў паравоз, быццам паскардзіўся на некага. Арцём глянуў на неба і здзівіўся небывалай прыгажосці яго. Бледны, з бэзавым адценнем сярпок месяца імкліва ляцеў насустрач нізкім попельна-шэрым хмарам, высвятляў між імі глыбокія ямы, у якіх ліхаманкава гарэлі зоркі. За каменнай агароджай парку ў сіне-дымным змроку ледзь прыкметна выступалі абрысы дамоў, гублялася ў туманнай вышыні тэлевізійная вышка. Арцёма скаланула ад золкага холаду, і ён, зацягнуўшыся ў апошні раз цыгаркай, пакіраваў у цэх. Яшчэ крыху патаптаўся сярод рабочых і рушыў на склад, дзе валяліся непатрэбныя камеры, прылёг на хісткі тапчан, імгненна заснуў.

## 2

Яму прысніўся сон.

Быццам узышоў Арцём на высокі, парослы стракатым разнатраўем узгорак, адкуль далёка-далёка было бачна наваколле. Перад ім, як акінуць вокам, распасціраліся карычневыя, жоўтыя, зялёныя дываны палёў з высокімі свечкамі бяроз. А над га-

лавой вісела бязвоблачнае, густа-сіняе неба. Яно было так блізка, што здавалася, працягні руку — і дакранешся да яго мяккай аксамітнай сінечы. «Як жа я жыў раней, што не заўважаў навокал такой прыгажосці»,— здзівіўся Арцём і раптам убачыў бацьку ў салдацкай форме з рэчавым мяшком за спіной. «Чаму так апрануты бацька,— падумаў Арцём.— Вайна ж ужо даўно закончылася».

— Тата! — радасна закрычаў ён.— Тата!

Але бацька нават не азірнуўся. Ён ішоў цераз поле нетаропкай хадой, шырока размахваючы рукамі. Цёплы пругкі вецер калмаціў яго жорсткія русявыя валасы, надзімаў гімнасцёрку, закручваў у віхор узняты нагамі пыл.

— Тата! — з трывогай і страхам яшчэ раз гукнуў Арцём. Але бацька быў амаль нябачны. І раптам зусім знік, нібы растварыўся ў паветры. І ўжо з адчаем і мальбой з усяе сілы паклікаў ён бацьку. І тут жа пачуў над сабой:

— Чаго лямантуеш? Уставай. Змена закончылася.— Над ім стаяў даўгалыгі электрык Трафім, дабрадушна піхаў у бок. Арцём ускочыў, утаропіўся на яго соннымі вачыма.

— Чаго табе?

— Тэлеграма вось...

Ён выхапіў з рук Трафіма паперку, пацёр далонню вочы, прачытаў: «Цяжка захварэў бацька. Прыязджай».

Арцёма міжволі скаланула. І тэлеграма, і сон, які толькі што бачыў, выклікалі ў ім шчымлівае прадчуванне бяды. Ён паспяшаўся да зменнага майстра.

У закіданай акуркамі дзяжурцы стаяў самаробны стол з рассыпаным на ім даміно. У кутку прытуліўся бачок з пітной вадой і алюмініевай конаўкай. На аблупленых сценах віселі плакаты аб мерах бяспекі.

Майстар, высахлы, як трэска, мужчына, драмаў за сталом, наклаўшы галаву са зблытанымі жоўта-попельнымі валасамі на тонкія, нібы ў дзяўчынкі-падлетка, рукі. Арцём асцярожна крануў яго за плячо.

— Фаміч, а Фаміч?

— Ну што?

— Ды вось справа такая... Дамоў трэба.

Той прыўзняў галаву, адваліўся да сцяны. Худы, зямліста-шэры твар яго з вострым носам і светлымі маленькімі вочкамі быў памяты. Амаль безвалосыя бровы незадаволена папаўзлі на лоб.

— Чаго гэта табе раптам загарэлася?

— Тэлеграма... з дому — бацька захварэў.

Фаміч доўга глядзеў на паперку, а потым нагадзіўся:

— Ехаць трэба. Я не супраць.

— Ну тады я пайшоў?

— Пачакай, пачакай,— майстар нацадзіў з бачка вады, выпіў некалькі глыткоў, сеў на ранейшае месца.— Ёсць у мяне просьба, Арцём. Папрацуй сёння ў першую да дванаццаці і потым — на ўсе чатыры бакі.

— Не магу, майстар! Зразумей ты! У другі раз колькі захочаш, сёння — не.

— Ну што ж,— нахмурыўся Фаміч. — Як-небудзь буду выкручвацца.

— Не сярдуй, Фаміч,— вінавата апраўдваўся Арцём.— Сам жа ведаеш...

Фаміч памякчэў, усміхнуўся, ляпнуў яго па плячы, выпіхнуў за дзверы. У душы ў Арцёма ўсё роўна як лёд растаў... Ён любіў майстра той любоўю, калі рады для чалавека зрабіць усё што можаш. Гэта сяброўства вялося ўжо не адзін год. З-за справы, здаралася, спрачаліся, нават сварыліся. Але ненадоўга.

Фаміч аднойчы моцна выручыў Арцёма, і з таго часу той адчуваў сябе вечным даўжніком перад майстрам. Арцём памятаў, як ён, паўгалодны навучэнец тэхнікума, прыйшоў уладкоўвацца ў тралейбуснае дэпо. Трэба было вучыцца, а стыпендыі не хапала. Ні на ежу, ні на адзенне. І пачуццё нейкай непаўнацэннасці пастаянна мучыла яго. Але ж паспрабуй знайсці такую работу, каб і займацца можна было і падзарабіць на жыццё. Начальству гэта не падабалася, і яно гаварыла: «Выбірайце адно з двух: альбо заработкі, альбо вучобу». Але многія навучэнцы прыстасоўваліся хто як мог.

У аддзеле кадраў сядзеў вялы, тоўсты, нібы сонны чалавек. Ён нават не падняў на Арцёма свае падслепаватыя вочы, загнюсявіў тонкім бабскім галаском:

— Ну які з цябе рабочы? Не зможаш ты, тым больш у начную змену. Раз-два выйдзеш, павалаводзішся з гэтымі балонамі і кінеш. А мне толькі марока з табой.

— Ды змагу я,— напорыста пераконваў яго Арцём.— Не тое даводзілася рабіць.

— Не, хлопец. Не буду я цябе браць. Зашывайся ты лепш куды-небудзь у кантору. Там чысцей і лягчэй.

І тут выпадкова ў пакой уляцеў маленькі сухенькі чалавек, увесь ускудлачаны, як верабей. Унікнуўшы ў сутнасць размовы, ён запатрабаваў:

— Ты вось што, начальнік, насылай хлопца да мяне! Зменны слесар-балоншчык надта патрэбны.

Арцём з удзячнасцю паглядзеў на гэтага вёрткага смелага мужчыну, і ў сэрцы яго зарадзілася надзея.

Начальнік пакрывіўся, штосьці прабубніў і стаў афармляць Арцёма.

А мужчына той хітра падміргнуў яму рухавым і

вострым сваім вокам: «Мяне Фамічом завуць. Знойдзеш потым».

Арцём хутка стаў сапраўдным балоншчыкам. Потым пераве́ўся на завочнае аддзяленне, скончыў тэхнікум, але так і застаўся ў дэпо. Да таго прывык і пасябраваў з рабочымі, што ўжо не ўяўляў сабе іншага жыцця: яму падабалася гэта простая грубая работа, у якой ён ні ад кога не залежаў.

У раздзявалцы ён таропка скінуў замасленую робу, наспех прыняў гарачы душ, апрануўся і выскачыў за прахадную.

З-за высокай агароджы ўжо выглядала бляклае, без промняў сонца, скупа асвятляла маслянiстыя лужынкі на асфальце, цёмныя мокрыя сцены цэхаў і складоў. За ноч вецер агаліў дрэвы, запляміў зямлю жоўтымі, барвовымі, чырвонымі лісцямі.

Горад ужо прачнуўся і пачаў сваё мітуслівае жыццё. Па вуліцах і завулках спяшаліся людзі, зліваліся ў натоўпы на прыпынках. З сухім шорхатам праносіліся таксі, далёка распырсквалі лужыны, з непрыемным скрыгатаннем і свістам тармазілі аўтобусы. Ад густога бензінавага смуроду было цяжка дыхаць, пяршыла ў горле.

У інтэрнаце ён нацягнуў чорны выхадны касцюм, накінуў плашч, захапіў чамаданчык і памчаў на чыгуначны вакзал.

Да бацькоў Арцём ніколі не ездзіў з пустымі рукамі, набіраў каўбасы, масла, селядцоў. Бацька вельмі любіў хлеб з кмінам, пры выпадку заўсёды прасіў прывезці. І хаця спяшаўся Арцём — баяўся спазніцца, усё ж заскочыў у магазін, напіхаў у сумку духмяна свежых боханаў і накіраваўся да білетных кас. Але білетаў ужо не было. Засмучаны, ён выйшаў з вакзала і пабрыў да поезда. Калі перон апусцеў і да адпраўлення засталіся лічаныя хвіліны, падышоў да маладзенькай правадніцы.

— Гаспадынька, як бы гэта паехаць, га? Вось так, пазарэз трэба. Бацька мой...

— Білет у вас ёсць? — спытала яна строга.

— У тым-та і бяда, што няма.

— Без білета не магу, самі разумееце. Ідзіце да брыгадзіра.

Брыгадзіра ён адшукаў каля апошняга вагона, стаў таропка расказваць усё як ёсць. Той уважліва і цярпліва выслухаў яго, цяжка ўздыхнуў, потым гукнуў правадніцу:

— Маша, пусці гэтага хлопца. Потым разбяромся.

Арцём умомант апынуўся ў тамбуры. Цеплавоз паслаў гораду развітальны гудок і паволі крануўся. Паплыў вакзал са шматлюдным натоўпам на пероне. Услед поезду махалі рукамі, дарылі развітальныя ўсмешкі, штосьці крычалі.

Арцём праціснуўся сюды-туды па праходзе ў пошуках вольнага месца. Але ніхто не пасунуўся, не запрасіў яго сесці. Ды знайшоўся дабрадзей. Гэта быў стары з нерухома каменным тварам і калматай сівой барадой. Ён прагудзеў глухім басам:

— Садзіся, сынок, садзіся. У нагах праўды няма...

Пад прыемнае пагойдванне вагона і аднастайны перастук колаў Арцём, як у цёплую ваду, пагрузіўся ў дрымоту. Потым прыйшоў брыгадзір і павёў яго да сябе ў купэ.

— Тут і размяшчайся. Хочаш — спі, хочаш — чытай. Ехаць яшчэ гадзіны тры,— сказаў ён, сеў насупраць за столік, адамкнуў невялікі сейф, дастаў з яго пачак білетных бланкаў, на адным з якіх стаў нешта пісаць. І, як заўважыў Арцём, быў ён нямітуслівы ў рухах, па-гаспадарску важны. І твар у яго такі ж спакойны, просты, з рэзкімі грубаватымі рысамі.

— А чаго ты такі ўзмылены? Ты ж яшчэ зусім малады хлопец.

— Білета не было... Дома бацька хворы,— неахвотна адказаў Арцём.

— А што з бацькам? — Брыгадзір адставіў пустую шклянку і выцер далонню рот.

— Ды што бацька...— уздыхнуў Арцём.— Ужо слабы здароўем. Тэлеграма вось,— ён падаў паперку брыгадзіру.

Той пацерабіў у руках скамечаную тэлеграму, потым глянуў на яе. Выцвілыя бровы папаўзлі ўверх, сабралі складкамі скуру на лбе.

— Дык тваё прозвішча Апаровіч? А дзе жыве бацька? На якой вуліцы?

— У Дымках. На Прагоннай.

— Дык ты, значыць, сын Пятра? — не зводзячы вачэй з Арцёма, дапытваўся брыгадзір.

— Сын,— адказаў Арцём і спытаў: — Адкуль вы ведаеце майго бацьку?

— Як гэта адкуль? Ды ён мяне ад смерці выратаваў. Я ў партызанскім атрадзе «Бура» быў сувязным. Чуў пра такі? Восіп Гадун быў камандзірам. Ага. Ну дык вось, узялі мяне немцы. У першы раз я ад іх уцёк. А другім разам папаўся зусім недарэчна. У Паддубіне на паліцая знаёмага наскочыў. У час калектывізацыі сям'ю яго раскулачваў. Кінулі мяне ў лазню, вартавога прыставілі. Справа зімою была. Маразы лютыя. Ведаў, што расстраляюць, спадзявацца не было на што. Ну і давай я па кутках мацаць. Хацеў масніцу адарваць. Ды дзе там! Зруб зусім свежы. Дошкі вялізнымі цвікамі прыпаяны. А ў прылазніку акенца было, кратамі закрытае. Відаць, немцы там і да мяне людзей трымалі. Крануў я краты — паддаюцца як быццам. Толькі як жа вартавога ашукаць, думаю. І давай нагамі, рукамі ў дзверы малаціць. Грукаю, быццам мне па патрэбе прыспічыла. А немец ходзіць сабе ўзад-уперад і як не чуе. Тут мяцеліца, на маё шчасце, усчалася. Хутка

зусім сцямнела. Я за сваё: то ў дзверы грукаю, то з песнямі па краты налягаю. І адкуль толькі ў мяне сіла ўзялася. Выламаў я іх, распрануўся да сподняй бялізны, зняў боты і цераз дзірку ў гурбу. З мінуту сяджу ні жывы ні мёртвы... Бога малю, каб немец не заўважыў. Чую, як ходзіць ён з другога боку лазні і штосьці сабе пад нос мурлычыць. Адбег я і зноў — бух у снег. Паляжаў і, як заяц, далей. Толькі ног ужо не адчуваю, але ўсё роўна бягу. Праз агароды і да Апаровіча. Той вочы вырачыў — думаў, я з таго свету. Запрог ён каня, мяне ў сані — і на бліжэйшы хутар, да сваіх людзей. А тыя ўжо мяне да партызан перакінулі. І як толькі мы з вёскі выскачылі, да гэтага часу не разумею. Калі б затрымалі нас тады немцы, не нарадзіцца б табе на свет, хлопец. А вось мы, здаецца, і пад'язджаем,— глянуўшы на гадзіннік, сказаў ён.— Цябе як завуць?

— Арцём.

— Арцём,— хітравата ўсміхнуўся ён.— Я ж цябе хлапчуком памятаю. А вось цяперашняга не ведаю. Не падобны на бацьку.

— Я больш на маці.

— Шчаслівы будзеш,— пажартаваў брыгадзір.

— Можа быць,— задуменна прамовіў Арцём і, развітаўшыся з ім за руку, пайшоў да выхаду.

Але брыгадзір затрымаў яго.

— Скажы бацьку... Прывітанне перадай. Каб доўга жыў і здаровы быў. І яшчэ — што прасіў прабачэння, даўно не бачыліся. Работа ў мяне шалёная. Усё на калёсах...

— А як вас завуць? — запытаў Арцём.

— Кандыба... Іван Кандыба. Помніць ён мяне, ведае.

## 3

На пероне вецер піхнуў яго ў спіну, сыпануў у твар пяском, пагнаў па асфальце жухлае лісце. Пасажыры высыпалі з вагонаў, заспяшаліся да высокага моста, перакінутага цераз чыгуначныя пуці. Арцём хутка апынуўся на цеснай прывакзальнай плошчы, абстаўленай рознымі ларкамі і двухпавярховымі шэрымі дамамі. Непадалёк ад плошчы, насупраць цырульні, стаяла таксі. Да машыны падбягалі людзі, нешта пыталіся ў вадзіцеля і чамусьці адыходзілі. «Цану набівае, ці што?» — падумаў Арцём з раптоўнай злосцю і таксама падышоў да таксіста.

— Паслухай, прыяцель! Падкінь да Дымак.

Малады хлопец у скуранай куртцы і такой жа кепцы бесцырымонна адказаў:

— Далей не еду...

— Чаму гэта не едзеш? — спытаў Арцём.

— Адпрацаваў сваё.

— То якога д'ябла тут стаіш? — крыху счакаўшы, сярдзіта сказаў Арцём.

— За пятак падкіну.

Арцём нічога не адказаў, улез у машыну, якая імкліва ўзяла з месца, нахіляючыся на паваротах то на адзін, то на другі бок. З люстэрка насупраць на Арцёма глядзеў засяроджаны твар з рыжымі вусікамі і чорнымі вачыма.

— Калыміш? — з'едліва спытаўся Арцём.

— А ты хіба не?

— Я жыву на зарплату, як і ўсе сумленныя людзі.

Размова хутка патухла. Але праз некаторы час вадзіцель сказаў:

— Тутэйшы?

— Быў калісьці.

— Да каго ж едзеш? У госці, самагонку піць?

— Да бацькі.

Машына імчала па няроўнай шашы, выплёсквала лужы на блізкія агароджы. Вось і знаёмы паварот.

«Волга» ткнулася ў гразь на ўзбочыне, зарыпела тармазамі.

Арцём выняў з кішэні скамечаную пяцірублёўку і працягнуў таксісту.

— За каго ты мяне лічыш?

— Сам жа сказаў...

— Ды мала я што мог сказаць? Такім макарам людзей пазнаю. Іншы просіць, моліць, горы залатыя абяцае, потым на чацвяртак наездзіць, а як расплачвацца — дробязь дае. Іншы ж, вось як ты, сядзе, не падступіцца, не пагаварыць. На капейкі праедзе, а рубель дае. Чалавекі — яны розныя. Сам разумееш,— падвёў вынік размове вадзіцель.

— Ведаеш, браток, удзячнасцю пуза не памажаш. Вазьмі ўсё ж грошы,— папрасіў Арцём.

— Ладна, так і быць,— пагадзіўся ён неахвотна, як бы пагрэбліва, узяў пяцірублёўку, скамечыў яе і абыякава засунуў у кішэню.— Калі раптам спатрэблюся, пазвані ў парк і папрасі Жорыка. Хлопцы скажуць, дзе я і як мяне знайсці.

— Давай краба,— павесялеў Арцём, паціснуў таксісту руку і вылез з машыны.

Ён пастаяў, пакуль таксі не знікла за паваротам, потым збочыў у вулачку, якая вяла да яго дома.

Уласна кажучы, гэта была не вулачка, а хутчэй сцежка, вузкая, гладка ўтаптаная нагамі. З аднаго боку цягнуліся платы, з другога — абрыў, на дне якога хавалася рэчышча некалі глыбокай рэчкі Куцеенкі. Сотні задняпроўскіх хлапчукоў вывела гэта сцежка ў вялікае жыццё, дзе яны рассыпаліся, нібы зярняты з неспелых каласоў. І хаця шмат розных

дарог адолеў ён, сцежкі не забываў. Часта нагадвала яна пра сябе, цягнула да дзяцінства, да мінулага, да дому.

Арцём прыпыніўся, успомніў, як шмат гадоў назад на гэтым месцы, дзе ён цяпер стаяў, дубчыкам часта пісаў для суседскай дзяўчынкі: «Я цябе кахаю, Зойка». Але смуглявая, чарнавокая, з доўгімі русымі косамі ў белых бантах Зойка здавалася яму недасягальнай, быццам нейкая незямная істота. І варта было толькі застацца адзін на адзін з ёй, як яго ахопліваў удушлівы страх. Вусны запякаліся, твар гарэў, як у ліхаманцы пачыналі стукаць зубы.

Успомніўшы пра гэта, Арцём з горкім жалем усміхнуўся. Зойка не дачакалася яго з арміі, выскачыла замуж. Пазней колькі разоў Арцём выпадкова сустракаў яе, заўважаў, як блякне твар, тухне гарэзлівы і вясёлы бляск непаўторна прыгожых вачэй. Потым яна разышлася з мужам і пакінула горад, знікла назаўсёды, быццам памерла. А ў душы яго і цяпер жыло незразумелае і балючае пачуццё горычы ад страты. І дзе б ён ні быў, успамінаў яе заўсёды. Такую, з якой расстаўся перад арміяй.

Арцём яшчэ з хвіліну пастаяў у роздуме і пайшоў далей. Сцежка павяла, пацягнула яго на невысокі пагорак, і ён прыгадаў, як тут у дзяцінстве рэзаўся з хлапчукамі ў «цюк». Гулялі ў асноўным на медзякі. Арцёму ніколі не шанцавала, а выйграць хацелася хаця б для таго, каб купіць хлеба і наесціся ўволю.

З прыгорка сцежка вілася ўніз, злівалася з вуліцай, якая рэзка паварочвала направа. На абочыне стаяў былы настаўнік Зосім Сцяпанавіч у рыжым брызентавым плашчы. Ён трымаў на повадзе пярэстую — чорную з белым — карову, якая ля самага плота старанна вылізвала траву. Арцём запаволіў крок, хацеў павярнуць назад з намерам зрабіць ліш-

ні круг і з другога боку падысці да дому. Не хацелася яму сустракацца з гэтым чалавекам. Але Зосім Сцяпанавіч ужо заўважыў яго. «Ладна, як ішоў, так і пайду. Здароўкацца не буду»,— вырашыў Арцём. Але чым бліжэй падыходзіў, тым больш пільна, засяроджана глядзеў на яго настаўнік. Погляд яго балюча калоў Арцёма. Ён параўняўся з Зосімам, запаволіў крок, спытаў:

— Чаго гэта вы на мяне так гледзіцё? Не пазнаеце, ці што?

— Пазнаю, як жа,— спакойна адказаў той.

— Тады ў чым справа?

— Ды проста гляджу, як вы перамяніліся.

— А што вам да мяне? — холадна спытаўся Арцём.

— Вы ж як-ніяк мой вучань.

— Шмат вас, такіх «настаўнікаў»,— непрыязна адрэзаў ён.

— Сярдуеш? — вінавата спытаў настаўнік.

— Не сярдую, але помню...— ціха прамовіў Арцём і адчуў, як усё ў ім ускіпела ранейшай помслівай крыўдай. У грудзях быццам штосьці пякло. І ён не стрымаўся, дадаў: — Ненавіджу.

— Дарэмна вы так. Нянавісць не ўпрыгожвае чалавека.

— Затое ачышчае душу.

Арцём адвярнуўся і хутка пайшоў. Але потым прыпыніўся, азірнуўся і паглядзеў на Зосіма. Той стаяў стары, пануры, разгублены. І вострае джала віны кальнула яму ў сэрца: «За што я яго пакрыўдзіў? Не трэба было, ён таксама многа чаго не ведаў пра майго бацьку... Гэта прачнуўся ўва мне той, ранейшы Арцём,— помслівы, пакрыўджаны. А я не павінен быў так гаварыць з ім».

Арцём вярнуўся назад да яго, пастаяў, памаўчаў,

не знаходзячы патрэбных слоў для апраўдання, і, хаваючы вочы, прамовіў урэшце:

— Прабачце, Зосім Сцяпанавіч. Прабачце мне. Я пагарачыўся. Усялякае было ў жыцці... Чаго ўжо там? Не маю я зла на вас...

Настаўнік заморгаў вейкамі, нібы збіраўся заплакаць. Потым пашукаў сваім патухлым поглядам нечага ў вострых, але ўжо астылых вачах Арцёма, ледзь чутна, здушаным голасам сказаў:

— Ідзі, ідзі, сынок! Ідзі хутчэй! Цябе чакаюць.

Арцём устрапянуўся. Але Зосім паглядзеў на яго нейкімі страшнымі вачыма, схапіў павадок і пацягнуў бакастую непаваротлівую карову. Арцём доўга ўглядаўся ў яго старэчую спіну, ахоплены няясным халадком трывогі, а потым пакіраваў дадому.

Вуліца была ўсё такая ж вузенькая, травяністая. Толькі трава даўно адцвіла, завяла, пабурэла ад непагадзі. Арцём падумаў, што шмат вады з таго часу сцякло ў рэчцы Куцеенцы. Шмат у яго жыцці было перамен, прыемных і непрыемных падзей. А родны куточак зямлі так нічым і не змяніўся, ляжаў маленькім нерухомым астраўком у імклівай плыні жыцця і быў быццам непадуладны часу. Тыя ж таполі, толькі з голымі вершалінамі, тыя ж лавачкі пад ліпамі і бярозкамі, тыя ж абамшэлыя прысадзістыя хаты...

Арцём спусціўся ў нізінку, адкуль была ўжо добра відна бацькоўская хата. Невысокая, з касымі падслепаватымі акенцамі, з дахам, залатаным кавалкамі бляхі, яна нібы саромелася свайго непрывабнага выгляду і хавалася ў зарасніках высокага вішняку, агароджанага старым плотам. Але не надта прываблівае, закінутае бацькоўскае жытло ўскалыхнула сэрца радасцю — дзіцячай, узнёслай, і як быццам падзьмула ў твар цёплым ветрыкам з жытнёвых палёў.

Падышоўшы бліжэй, Арцём убачыў каля дома натоўп людзей. Ён спатыкнуўся, як ад раптоўнага штуршка. У сэрца востра кальнула. Нешта гарачае, густое папаўзло па целе, замінала дыхаць. Ён сарваўся з месца і пабег, кожнай клеткай сваёй істоты прадчуваючы бяду.

Ён бег і быццам бачыў чорную хмару, якая павольна вырастала над зямлёю, зацямняла ўсё перад ім. Яна разрасталася да неверагодных памераў, густа наліваласяя крывава-чорным колерам і непамерным сваім цяжарам абвальвалася на Арцёма. На імгненне ён нібы страціў прытомнасць. Яго асляпіла і закружыла ў чорна-барвовым гарачым віхры. Потым хмара адхлынула, зменшылася і прапала зусім. Арцём яшчэ нічога не зразумеў, але ўжо адчуў, што здарылася тое, чаго ён больш за ўсё баяўся, калі думаў пра бацьку, што пастаянна трывожыла душу. Гэта было чорнае крыло смерці, якое толькі ледзьледзь кранула яго, нагадаўшы пра сваё існаванне, і забрала бацьку ў вечнасць.

У цеснай нізкай хаце маўкліва тоўпіўся народ. Арцём расштурхаў тых, хто стаяў наперадзе, і ўбачыў бацьку. Ён ляжаў у труне, абабітай чырвоным паркалем, з тварам заспакоеным і прасветленым, усыпаны кветкамі. У галавах мігала трапяткім полымем свечка, разганяла змрок. Ля труны ўся ў чорным сядзела маці, гаротна склаўшы на каленях рукі. Арцём прыхінуўся да яе. Яна ўздрыгнула, павярнулася да яго. На змучаным, зрэзаным маршчынкамі твары, пачырванелыя ад слёз, вочы застылі ў разгубленасці і пакуце.

— А... гэта ты, Арцём,— прамовіла яна слабым голасам.

Арцём стаў на калені, уткнуўся тварам у яе рукі, ціха заплакаў. А маці раптам загаласіла жудасным нечалавечым голасам:

— Пятрок! Пётрачка!.. Ну ўстань ты! Устань, паглядзі! Сынок твой прыехаў, Арцём...— Затым нізка нахілілася над нябожчыкам, просячы, молячы яго: — Ну што ты, Пётрачка?! Расплюшч вочы. Арцём чакае цябе і не дачакаецца! Людзі чакаюць! Паглядзі, Пётрачка, колькі людзей. Гэта ж яны да цябе прыйшлі... Ах божа... божа...

Яна застагнала, павалілася на грудзі нябожчыка і стала паволі спаўзаць з крэсла. Арцём усхапіўся, разгублена азірнуўся навокал, глухім голасам сказаў:

— Вады! Вады! Дайце хутчэй вады!..

Хтосьці падаў яму шклянку з вадой. Арцём паднёс яе да вуснаў маці, амаль сілай прымусіў зрабіць некалькі глыткоў. Апрытомнеўшы, яна выцерла хусцінкай твар і вочы, заціхла, надоўга нерухома застыла. Арцём падышоў да бацькі, стаў углядацца ў знаёмыя родныя рысы. Яму ўсё яшчэ здавалася, што бацька вось-вось прачнецца, падніме павекі, усміхнецца, збіраючы вакол вачэй пучкі маршчынак. Закратаецца на верхняй губе радзімка з кусцікам светлых валаскоў. І адразу ўспучыцца лоб складкамі скуры, знікне на ім прадаўгаваты рваны шрам, які застаўся ад вайны.

Але бацька быў нерухомы, маўклівы, дзіўна і непатрэбна, як здавалася Арцёму, апрануты ў свой адзіны чорны касцюм і чорныя чаравікі, у белую накрухмаленую кашулю з вузенькім чорным гальштукам. Нават рукі, як памятае Арцём, такія вялікія, дужыя, з узбухлымі венамі, цяпер да непазнавальнасці змяніліся, быццам зменшыліся, высахлі. Арцём, як загіпнатызаваны, з хваравітай увагай глядзеў на бацьку і ніяк не мог адарваць ад яго вачэй.

Ён ніколі не сутыкаўся так блізка са смерцю. Для яго раней яна была нечым далёкім, пабочным, што не датычыла яго самога. І вось цяпер перад ім ляжаў бацька, назаўсёды пакінуўшы жыццё. Яго як

быццам памаладзелы, з разгладжанымі маршчынамі жоўта-васковы твар, пергаментна-бледны лоб, шчыльна сціснутыя тонкія пасінелыя вусны — усё сведчыла аб тым, што ўжо гаспадарыць смерць.

Здарылася тое, чаго Арцём больш за ўсё баяўся. Ён ведаў, што рана ці позна гэта павінна было напаткаць і яго, і баяўся болю і пакут, якія давядзецца перажыць. Але цяпер лавіў сябе на думцы, што ні болю, ні пакут ён не адчуваў, было толькі тупое здзіўленне і недаўменне перад нечым страшным, загадкавым і неабдымным. Перад ім у вобразе памёршага бацькі быў твар смерці — звычайны, будзённы. Арцём не мог ні зразумець, ні асэнсаваць таго, што здарылася. Усё здавалася простым і натуральным да такой ступені, што не хацелася верыць у рэальнасць падзеі.

Пачулася цяжкае ўздыханне і ўсхліпванне. Да яго падышоў малодшы брат Уладзік, тварам — вылітьы бацька. Ціха абняў за плечы і праз праход у натоўпе павёў у другі пакой — цесны, змрочны, з ложкам, сталом і старой шафай для адзення. Пасадзіўшы яго, Уладзік адкаркаваў бутэльку гарэлкі, наліў у шклянку.

— Выпі, Арцём... палягчэе.

Арцём зрабіў некалькі глыткоў, паставіў шклянку, выцер рукавом вусны. Потым устаў, здзіўлена, як на незнаёмага чалавека, паглядзеў на брата і ціха прамовіў:

— Трэба паведаміць мне на работу...

— Добра, Арцём, зробім,— неакрэслена адказаў Уладзік і выйшаў.

Арцём крыху пастаяў і таксама падаўся да людзей, хоць яму нікога не хацелася бачыць, гаварыць. Тут былі сваякі па бацьку і маці, іх знаёмыя і суседзі, старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, дзяўчаты, падлеткі. Большасць — са спачуваннем і жа-

лем, іншыя — дзеля цікаўнасці. Усе яны цярпліва тоўпіліся каля хаты, моклі пад даждлжом.

Арцём туляўся па двары, не ведаў, куды сябе падзець: ад непамернага гора, выпітай гарэлкі і стомленасці ён ледзьве трымаўся на нагах. Думкі блыталіся, у душы нараджалася страшэнная пустэча, і паволі разрастаўся боль, які ажно раздзіраў грудзі. Арцём разумеў, што трэба ўзяць сябе ў рукі, заглушыць, схаваць хоць на час свае пакуты. І не мог. Усё, што бачыў, усё, што адбывалася, па-ранейшаму здавалася нечым выдуманым, нерэальным. Ні розум, ні сэрца не маглі ніяк успрыняць тое, што адбылося, і змірыцца з ім.

Арцём бязмэтна пабрыў на агарод. Там валяўся непрыбраны бульбоўнік, моклі яблыневыя галіны. З рыхлай глебы, вымытыя дажджом, выглядалі белыя бульбіны. Пад яблынямі, што трапяталі рэдкімі лістамі, ляжалі ападкі. «Прыбіраць няма каму і есці таксама»,— з горыччу падумаў ён і прыхіліўся да мокрага ствала. Яшчэ хлапчуком садзіў ён гэтыя дрэвы. Даўно тое было, вельмі даўно. А маленькая падзея адбілася ў памяці назаўсёды і раптам паўстала перад ім з усімі падрабязнасцямі ў свежых і яркіх фарбах вясновай раніцы.

...Цёплае мроіва, разлітае красавіцкім сонцам, ахутвала далячынь у срэбны туман. Нерухома застылыя на краі далягляду кучаравыя і белыя, як снег, воблакі песціліся ў соннай дрымоце. У бяздоннай сінечы нябёс залівaецца ўрачыста радаснай песняй жаўранак. Ад разамлелай зямлі соладка пахне прэлым лісцем, старою травою, цвіллю бярозавых і асінавых дроў. «Трымай, трымай яблыньку прама, сынок! Вось так, малайчына! Падымі крышку вышэй,— гаворыць бацька Арцёму і ўвішна падграбае лапатай з бакоў зямлю, засыпае карэнні.— Дрэва, як і

чалавек, калі адразу не паставіць роўна, пойдзе расці наперакасяк, і толку ад яго мала будзе».

Восенню Арцём абвязваў маладыя яблынькі саломай, каб не памерзлі ў маразы, даглядаў іх, пакуль жыў у бацькоўскім доме. Потым пакінуў яго назаўсёды, а сад застаўся. Арцём ведаў, што бацька ў апошнія гады часта хварэў і ўжо не было ў яго сілы прыглядваць за садам. Недагледжаны і закінуты, ён разам з бацькам старэў і павольна паміраў.

## 4

Арцём прыплёўся ў гародчык, сеў на бярозавы цурбан, згорбіўся, сціснуўся сіратліва ў камяк. Некаторы час сядзеў нерухома і нібы збоку наглядаў за чужым чалавекам. Арцём спачуваў яму да болю, караў сябе невыносна цяжкай пакутай. Потым забыццё адступіла, і Арцём зразумеў, што пакуты другога, уяўнага чалавека — гэта яго ўласныя пакуты. Каб не думаць пра самога сябе і неяк прыглушыць душэўны боль, ён зноў стаў пільна разглядаць усё, што было перад вачыма. Пад старымі яблынямі ляжалі кучкі смецця, валялася бярозавае паленне. Тут жа ў зарасніках агрэсту, маліnніку, высокага палыну і лебяды моклі ложак, стол і тумбачка. Арцём падняўся, зрабіў крок да ложка і надоўга застыў, здзіўлены, што бацькоўскія рэчы нехта выставіў сюды. Ён апусціўся на ложак.

Намаганнем волі прымусіў сябе ўспамінаць мінулае, шукаў у ім радасць і заспакаенне. Але сярод розных падзей з яго жыцця памяць выбірала толькі тое, што было звязана з бацькам. І гэты закінуты гародчык, і старыя разгалістыя яблыні, і асірацелыя рэчы, выкінутыя з цеснага пакоя, вялі яго ў маленства.

Вясна ў той год выдалася ранняя. Пасля жорсткіх лютаўскіх маразоў наляцелі цёплыя вільготныя вятры. Абмяк, пацямнеў у полі снег, агалілася чорнымі латкамі зямля. Сіратліва голыя, мокрыя дрэвы расталырванымі галінкамі прагна цягнуліся да неба. У нізінках і ўпадзінах, на шэра-рыжым шчацінні лугоў збіралася і разлівалася возерцамі празрыстая талая вада. Павесялела, налілося чыстай сінечай неба. Да сцюдзёных лужын і ручаёў высыпалі хлапчукі, пускалі лодачкі і караблікі, зробленыя з сасновай кары ці паперы, бегалі на раку паглядзець, ці крануўся лёд. А яшчэ праз некалькі дзён сышоў снег, падсохла зямля, з раніцы да вечара ззяла ў паднябессі цёплае, але не спякотнае сонца. І адразу папрыгажэла, абнавілася ўсё навокал. Заспакоена зашапацелі сады, аздобленыя маладой зялёнай ліс-.тотай, мяккай муравой пакрыліся ўзбочыны вуліц. І стары бацькоўскі сад, у якім Арцём цяпер сядзеў, паўстаў перад ім зусім іншым. Быццам снег сцякае, сыплецца з кучаравых стройных яблынь белая квецень. Пад кожным дрэўцам карункі. Арцём бегае ад адной яблынькі да другой з нявыказаным захапленнем і ніяк не можа надзівіцца цуду. Бацька з маці выносяць у сад сталы, ставяць радком, накрываюць такімі ж бялюткімі, як яблыневы цвет, абрусамі. Маці вясёлая, святочная, у стракатай хустцы на плячах, чарнабровая, цёмнавокая, з цяжкімі косамі, абвітымі каронай вакол галавы. Бацька, як заўсёды, у сваіх нязменных салдацкіх ботах, галіфэ і гімнасцёрцы, падпяразанай шырокім рэменем з пяцікутнай зоркай. Ён расстаўляе бутэлькі з віном, закускі і ціхенька напявае: «Па Дону гуляе, па Дону гуляе, па Дону гу-ля-а-ае казак малады...»

— Гэй ты, казак! Пераапрануўся б,— кажа маці бацьку.— Ужо пяць гадоў, як вайна скончылася, а

ты ўсё ў салдацкім. Госці могуць падумаць, што апрануць няма чаго.

— Мне «хэбэ» даражэй за самыя прыгожыя касцюмы. Прывык я да яго. Чалавекам у ім сябе адчуваю.

— Свята ж у цябе, Пятрок,— мякка дакарае маці.— Мог бы і касцюм апрануць, гальштук завязаць.

— Адчапіся. Я сёння па ўсёй салдацкай форме пакажуся. Ордэны, медалі начаплю.

Ён абцягвае, папраўляе гімнасцёрку, дурасліва ўсміхаецца, раскінуўшы рукі, наступае на маці і паранейшаму напявае сваю любімую «Па Дону гуляе...». Яна прытка ўцякае ад яго і больш не настойвае — ведае яго ўпарты характар.

Бацька, урачысты, быццам памаладзелы, усё чакае не дачакаецца гасцей. А госці знарок позняцца, каб не падумалі, што іх цікавіць пачастунак. Прыходзіць уся радня, былыя партызаны і камандзіры, суседзі, знаёмыя. Народу шмат. Маці мітусіцца, гасцінна запрашае за сталы. Госці для прыліку аднекваюцца, ніхто не хоча ісці першы. А калі ўсе нарэшце ўселіся і чаркі напоўнілі «рускагоркай», бацька дрыготкім ад хвалявання голасам гаворыць першы тост:

— Госці мае дарагія!.. Піце і гуляйце ў маім доме. І хоць не на памінкі мы сабраліся, а на свята маё, прашу вас памянуць сяброў нашых баявых... беларускіх партызанаў, тых, каго няма больш з намі...

Сціхае гамонка, устаюць людзі і выцягваюцца ў струнку, як салдаты, застываюць у маўчанні, потым гэтак жа маўкліва апаражняюць чаркі. Бацька сам амаль нічога не п'е, толькі частуе гасцей. Арцём час ад часу падбягае да яго, узлазіць на калені, з цікаўнасцю разглядае незнаёмых людзей.

— Пастой, Пятро! Пастой! — устае з месца высо-

кі мужчына ў афіцэрскім кіцелі без пагон, з густымі, як абсыпанымі сярэбрана-шэрым пылам валасамі і раскошнай барадой.— Вы, народ, і вы, маё воінства, шумець перастаньце! Камандзіра свайго паслухайце!

Ён паднімае чарку, горда і паважна выпрамляецца, абводзіць прысутных поглядам чалавека, які прывык, што яму падпарадкоўваюцца, нетаропка гаворa:

— Прыйшлі мы, Пятро, павагу сваю табе выказаць, тваё саракагоддзе адзначыць, былое наша ўспомніць. Хачу выпіць за тваю храбрасць, за тваю мудрасць, за тваё партызанскае мінулае. Многія з тых, хто сядзіць тут, абавязаны табе жыццём. Жыві здаровы доўга, наш разведчык, паважаны Пятро Апаровіч!

— Дзякую, Палікарп Навумавіч,— пачырванеўшы, ціха прамовіў бацька.— Дзякую і вам, сябрытаварышы мае дарагія, — да зямлі пакланіўся гасцям.

Мужчына ў пышнай шапцы белых, як вапна, валасоў няўпэўнена выйшаў з-за стала і закульгаў да бацькі:

— Правільна сказаў камбрыг! Добра сказаў! Калі б не Пятро тады ў блакаду, не быць бы мне сёння за святочным сталом. Вось за гэта я і пацалую цябе!

Ён прабраўся да бацькі, абняў яго за шыю, надоўга прыліп вуснамі да шчакі, потым пабрыў у сад, па-бабску крыкліва заспяваў:

Над ракою ў час вячэрні
Рассцілаецца туман,
Б'е бясслітасна фашыстаў
Беларускі партызан.

— Тата, хто гэта? — пытае Арцём.
— Камандзір партызанскі, сынок. Восіп Гадун.

— Ды ніхто ўжо нікога даўно не б'е,— крычыць мужчына ў міліцэйскай форме.— Што вы ўсё пра вайну ды пра вайну? Ну-тка, давайце што-небудзь вясёленькае.

— Правільна, Лазар,— падтрымлівае яго аднавокая жанчына.— Ну яе к чорту, гэту вайну! Я вось без вока праз яе, расправклятую, засталася. Што ж мне рабіць? Не плакаць жа ўсё жыццё, не гараваць. Я зараз вып'ю і спяваць буду.

— Ну і добра, Матруна! Давай-ка па чарцы рэзнем ды і завядзём песню,— падбадзёрвае яе Лазар Чаранок.

Матруна хавае пад блакітную, у гарошак хусцінку раскалмачаныя валасы, зацягвае вісклівым тонкім дыскантам: «Расла верба ў канцы грэблі, што я пасадзіла».

— Не тое, Матруна! Не тое! Што ты завяла свой дапатопны грамафон! — перапыняе яе Лазар. Матруна сціхае, і раптам узвіваецца чыйсьці звонкі чысты голас: «Степь да степь кругом. Путь далек лежит. В той степи глухой замерзал ямщик». Песню падхоплівае многагалосы хор, вядзе лёгка і раздольна. У тонкім спляценні галасоў выдзяляецца адзін — моцны, задушэўны, журботны. Гэта спявае хударлявы смуглатвары мужчына з чорнымі вачыма.

— Тата,— пытае Арцём,— а як завуць таго дзядзю, які лепш за ўсіх спявае?

— Гэта, сынок, мой камандзір, начальнік разведкі. Міхась Зарудны,— тлумачыць бацька і даганяе песню.

Арцём больш ні пра што не пытаецца. Ён па-ранейшаму сядзіць у бацькі на каленях і глядзіць у неба, адкуль скрозь частую сетку галінак шчодра сыплецца сонечнае святло, адбіваецца на тварах людзей, на сталах і траве светлымі плямкамі. Арцём прыслухоўваецца да песні, і бачыцца яму бяскрайні

стэп з пустыннай доўгай дарогай і адзінокім змучаным падарожнікам на ёй. Стомлена ідзе ён па дарозе да таго часу, пакуль не пакідаюць яго апошнія сілы. І раптам падае ніцма, шырока раскінуўшы рукі... Арцём адчувае, як на вочы набягаюць слёзы, коцяцца па шчоках. Ён цішком выцірае іх рукавом, спаўзае з каленек бацькі і бяжыць у сад. Госці таксама разыходзяцца, збіраюцца групкамі. Арцём прыстае то да адной, то да другой, з прагнай, недзіцячай цікаўнасцю слухае гаману дарослых.

Ля плота, на складні альховых цурбаноў, прымасцілася групка былых партызан, і сярод іх бацька. Арцём падкаціўся да яго ног, сеў на бервяно, стаў прыслухоўвацца.

— Вайна ёсць вайна! Але і на вайне чалавек павінен заставацца чалавекам,— памяркоўна кажа Гардзееў.— Памятаецца мне такі выпадак. У блакаду прыязджаю я ў адзін атрад, а камандзір мне і кажа: «Таварыш камбрыг, шпіёнаў злавілі».— «Вядзі іх сюды». Прывялі, значыцца, бабу гадоў трыццаці пяці, ды яшчэ з дзіцем. «Вось дык шпіён»,— думаю і стаў іх дапытваць. «Ты адкуль будзеш, цётка?» — «З Крынічнага».— «А дзе твой чалавек?» — «На станцыі, кажуць, немцам боты шые». — «Ты бачылася з ім?» — «Не, не бачылася».— «Ну дык вось, цётка, ідзі на станцыю і скажы свайму мужу, што ён з немцамі тваю хату спаліў».

Камбрыг перарваў расказ, рукой пагладзіў раскошную бараду і палез у кішэню па папяросы.

— І што ж было далей? — нецярпліва пытае Восіп Гадун.

— Кінулася мне ў ногі баба і давай боты цалаваць, лямантуючы: «Не пайду да паліцая! Расстраляйце лепш на месцы!»

— Дык жа маглі і расстраляць,— крыху счакаўшы, робіць заключэнне Лазар Чаранок.

— Маглі,— пагаджаецца камбрыг.— Але мы яе ў атрадзе пакінулі і партызанкай зрабілі.

— Я б яе расстраляў к чортавай матары! Усіх іх выpадкаў паліцэйскіх знішчыў! — быццам уджалены, падхапіўся з бярвенняў мужчына з чырвоным тоўстым тварам і жоўтай лысінай, што блішчала скрозь рэдкія валасы.

— Ну, ну, ну!.. Ахаланіся, воінства! Ты, здаецца, служыў у маім злучэнні,— спыніў яго камбрыг.

— Служыў і цяпер Радзіме служу! Ну і што?

— Астынь і не кіпяціся. І падумай, перш чым гаварыць.

— А чаго мне думаць? Яны, калі нашых у расход пускалі, шмат думалі?!

— Ты канкрэтна кажы. Гамонка пра нашых людзей ідзе. Вось узяў бы я тады яе і расстраляў. І ніхто б мяне не асудзіў. Час ваенны. Паспрабуй разбярыся, што да чаго. А калі яе муж спецыяльна быў пасланы партызанамі да немцаў? Колькі было выпадкаў, што мы людзей сваіх такім чынам засылалі? Тады як?

Мужчына ўзмакрэў. Твар яго стаў барвовы. Ён нервова варушыў вуснамі, то наморшчваў, то разгладжваў лоб і не ведаў, што сказаць.

— Вось як яно было, Кірыла. Так, здаецца, завуць цябе, калі не забыў? — павучальна закончыў сваю прамову Гардзееў.

— Памятаеце, памятаеце, але ўсё роўна я з вамі не згодны.

— Справа твая,— абыякава адказаў камбрыг.

— Ты памыляешся, Кірыла,— настойліва і сур'ёзна заўважыў Зарудны, які да гэтага маўчаў.

— Дай табе тады ўладу — натварыў бы спраў, і цяпер не разабраліся б,— дадаў Гардзееў.

Кірыла маўчаў, а Лазар журботна заўважыў.

— Эх, вайна, вайна... колькі спраў нарабіла. Да гэтага часу забыць не можам.

Спрэчка, якую ўсчалі партызаны, была тут жа патушана прыходам старога. З малінавым носам, у суконных галіфэ, хромавых ботах, ва ўкраінскай кашулі, падпяразанай тоненькім рознакаляровым паяском, ён выпісваў нагамі адмысловыя выкрутасы, ішоў па двары і крычаў усім, хто трапляўся:

— Я — кубанскі казак! А мая дачка глаўурач рыйона! Тры госпада хрыста бога вашу маць...

— Які ж ты кубанскі казак, Ярома? Ты ж хахол! Самы натуральны хахол,— перагарадзіў яму дарогу русявы чалавек у шэрым касцюме, пры гальштуку, з гладкім белым тварам і светла-сінімі вачыма.

— Гэта хто? Я — хахол?..— спыніўся Ярома.

— Цоб-цобе, цоб-цобе,— дражніў, падступаў да яго мужчына. Госці шчыльна акружылі іх, забаўляліся смешным прадстаўленнем. Ярома, набычыўшыся, спрабаваў увярнуцца ад назойлівага насмешніка.

— Актрыса ты шалудзівая! Скамарох гарохавы! Я — казак чыстых крывей! А мая дачка глаўурач рыйона. Хрыста вашу тры госпада бога маць!..

— Ацэ, хахол мазніца, давай дражніцца! — крыўляўся перад ім мужчына і раптам развёў рукі ў бакі, пайшоў вакол Яромы, жартаўліва прытанцоўваючы.

Ярома, раззлаваўшыся, плюнуў пад ногі, вырваўся з натоўпу, пад смех і жарты пабрыў са двара. А мужчына раптам пасур'ёзнеў, заспяваў прыгожым грудным голасам:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла...

Высока ўзвіўся голас яго, звінеў, пераліваўся мноствам адценняў і гукаў, зачароўваў людзей.

2 Зак. 765

— Эх, які талент... Які чалавек! Сынок!.. Косця, Косця,— цяжка ўздыхнуў бацька.

Арцём адышоў ад бацькі і непрыкметна прыстаў да трох мужчын, якія стаялі і гаварылі каля суседняй хаты.

У высокім хударлявым ён пазнаў настаўніка Зосіма. Двое іншых былі яму незнаёмы. Адзін — карацелька з масіўным тлустым падбародкам, тоўсты і круглы, як кадушка, другі — лядашчы, з маленькім цыганскім тварам, зарослым смаліста-чорнымі валасамі да самых вачэй.

— Бач, як гуляе Апаровіч,— зайздросліва гаварыў Зосім,— я — настаўнік, і то не магу сабе такой раскошы дазволіць, а то просты рабочы...

— На чужым дабры рукі грэе,— змрочна паблісквуў вугольна-чорнымі вачыма і хрыпата нашэптваў мужчына з цыганскім тварам.— А рукі вунь у крыві па локаць. А кроў — людская.

Страшныя словы яго, што выпаўзалі з глыбокай шчыліны рота ў касматай калючай поўсці, былі поўныя злосці і прагі расплаты.

— Да пары да часу збан ваду носіць. Знойдзецца і на яго ўправа,— пагрозліва паабяцаў таўстун.

— Хітры! Ох і хітры мужык! У немцаў служыў, а выкруціўся. Умець жа трэба,— шаптаў і шаптаў ядавіта-ліслівым галаском той, з цыганскім тварам. З мокрых тонкіх губ яго словы сцякалі брудным шапаткім струменем.

— Колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе,— запэўніў Зосім.— Я думаю, знойдуцца людзі, якія рана ці позна паведамяць куды трэба.

— Гэта вы што?! Пра тату майго так? Я вось зараз усё раскажу яму,— не вытрымаў Арцём.

Усе трое як па камандзе павярнуліся да яго.

— Ды не, сынок. Гэта мы зусім пра іншага чала-

века,— з прытворнай ласкавасцю апраўдваўся Зосім. Доўгі, як у каня, твар яго зморшчыўся ў вымучаную ўсмешку.

— На табе, хлопчык, цукерку,— салодзенька сказаў таўстун і няёмка працягнуў да Арцёма мясістую руку з шырокай, як лапата, кісцю.

— Сам еш сваю цукерку! — агрызнуўся Арцём і пабег да бацькі. Але на бярвеннях таго ўжо не было. Ён згубіўся сярод гасцей. А тыя мужчыны пайшлі па вуліцы і хутка прапалі.

## 5

Моцны парыў ветру сцебануў Арцёма па твары вільготнай хваляй. Ён устаў і, як гнаны ветрам, падаўся ў двор, прымасціўся на яловы цялеш пад паветкай. Сядзеў доўга, бяздумна глядзеў, як вецер шалеў у садзе, як суконна-шэрае неба з калматымі хмарамі паўзе над дахамі хат. Ён не заўважыў, як падышоў, быццам падкраўся, стары мужчына, моўчкі сеў побач, нізка схіліў галаву. Арцём павярнуўся да яго, і адразу іскрай мільганула ў памяці: «Чаранок! Так-так, Лазар Чаранок». Быў ён нейкі як разгублены. Нагадваў чалавека, прыціснутага ці то непапраўнай віной перад кімсьці, ці то непасільным горам. Міліцэйская фуражка спаўзла на вочы, ялавыя разбітыя боты, шырокія ў халявах, зморшчыліся на тонкіх нагах гармонікам. Лазар парываўся нешта сказаць і не мог. Потым усё ж ён хрыпата прашапялявіў:

— Добры чалавек быў твой бацька...

— Вы лепш бы яму самому пра гэта сказалі.

Лазар глянуў у вочы Арцёму і наткнуўся на халодны пагляд, апусціў галаву. Паміж імі пралягло цяжкае маўчанне. Але калі Чаранок споўз з бервя-

на і панура пасунуўся прэч, Арцём хацеў спыніць яго, кінуць у твар крыўдны, балючы папрок: «А памятаеш?!» Але не крануўся з месца. Нейкая сіла ўтрымала яго. З'яўленне Лазара разбудзіла мінулае, асляпляльнай знічкай высветлілася паўзабытае, даўняе...

Лютуе зіма. У гурбах, як у пярынах, патанаюць хаты. З дзікім стогнам гуляюць вятры па вуліцах. Начамі мароз з моцным вухканнем коле дрэвы. Вокны заінелі сярэбрана-крыштальнымі ўзорамі.

Арцём сядзіць на палацях за печчу і чытае казку чатырохгадоваму Уладзіку. Шырока раскрыўшы вочы і разявіўшы рот, Уладзік хоча ўсё зразумець і таму часта перапытвае. Маці нешта шые і павольна калыша ў люльцы маленькую сястрычку Валю. Цёпла і ўтульна. Хутка прыходзіць з млына бацька, увесь у мучным пыле, як выбелены. Ён распранаецца, адразу садзіцца за стол. Маці грукоча на прыпечку чыгункамі, накрывае стол, а бацька тым часам вымае з сумкі бохан белага хлеба, адразае хлапчукам па акрайчыку. Хлеб пахне марозам і здаецца незвычайна смачным. Маці ставіць гарачы боршч і садзіцца насупраць бацькі. Той ломіць хлеб маленькімі кавалачкамі, есць нетаропка, потым зграбае са стала крошкі, лепіць іх у камячок і кідае ў рот. Раптам у хату без стуку ўвальваюцца двое з цаглянапырвонымі тварамі і сівымі ад інею бровамі. Адзін — у міліцэйскім шынялі, другі — у ваенным, у завязаных пад падбародкамі шапках-вушанках. Заходзяць па-начальніцку смела, не адразу зачыняюць за сабой дзверы, усё роўна як знарок хочуць выстудзіць хату. Халоднае паветра хлынула ў дзверы, пракацілася па падлозе, сцюдзёным дыханнем ахутала Арцёма. Іх раптоўны прыход спалохаў яго. Калючы халадок прабег па целе.

— Здарова, Пятрок,— гаворыць мужчына з за-

мкнёным строгім тварам і развязвае матузкі пад падбародкам.

— Здарова, Кірыла! Дабрыдзень і табе, Лазар. Сядайце, гасцямі будзеце. Я толькі што з работы, і вы, відаць, не з вяселля. Халадэча сёння страшэнная — пагрэцца нікому не пашкодзіць,— прыветна сустракае бацька сваіх знаёмых і адчыняе шафку, дзе ў яго стаіць гарэлка.

Але Кірыла і не думае садзіцца. Ён стаіць у дзвярах, заклаўшы рукі ў скураных пальчатках за спіну, з-пад ілба падазрона глядзіць на бацьку. Лазар перамінаецца з нагі на нагу, рыпіць новымі, залубянелымі на марозе ботамі, жмурыцца, нарэшце кажа:

— Не трэба, Пятрок... Збірайся, пойдзеш з намі,— і вінавата апускае вочы.

— Куды?! — пытае бацька з такім тварам, нібы яго стукнулі па галаве.

— Не ведаю... Загадалі прывесці.

Пятрок з нямым пытаннем глядзіць Кірылу ў вочы, быццам хоча атрымаць ад яго тлумачэнне, падтрымку і спачуванне.

Але той стаіць па-ранейшаму ў позе пабочнага назіральніка. Маці прыхінулася да печы, як акамянела. Вочы поўныя жаху.

— Што ты зрабіў, Пятрок? — дрыжачым голасам пытаецца яна.

— Гэта, відаць, нейкая памылка,— разгублена кажа бацька. Ён накідвае на плечы кажух і выходзіць. Арцём забіваецца ў кут на палацях, з жалем глядзіць на маці. Тая па-ранейшаму стаіць ля печы з недаўменнем на твары. Спуджана глядзіць на маці Уладзік. Ціха плача сястрычка. Чутно, як шалёна кідаецца ў вокны вецер, жалобна і надрыўна гудуць правады.

— Мама, куды павялі тату? — парушае цішыню Арцём.

— Не турбуйся, сынок. Ён хутка вернецца,— супакойвае яна, а сама нібыта знямела.

Маці кожны дзень ходзіць да бацькі, пакуль яго не пераводзяць у іншы горад, дзе вядзецца следства. Вярнуўшыся, кожны раз гаворыць Арцёму адно і тое ж: «Хутка, сынок, усё высветліцца, і бацька вернецца».

Аднойчы з'явілася бацькава сястра цётка Матруна. Маленькая птушыная галоўка ахутана тоўстай клятчастай хусткай, адзінае вока на хударлявым, абпаленым марознымі вятрамі твары патанае ў складках маршчын, часта міргае, слязіцца. Яна ўладкоўваецца на лаўцы, развязвае хустку, расшпільвае верхні гузік паддзёўкі, вымае з кішэні штаноў складзеную квадрацікам газету і тытунь у засаленым скураным капшуку, па-мужчынску хутка і спрытна згортвае самакрутку і закурвае ад вугольчыка на комінку, памяркоўна раіць:

— Вось што, Ганна, можа, карову прадаць, га? А не — дык да мяне завесці... Пракармлю як-небудзь.

Маці качаргой варушыць у печы вуголле і доўга збіраецца з думкамі. На худым твары яе мітусяцца барвова-чырвоныя водбліскі агню. Матруна моўчкі курыць, глыбока зацягваецца, выпускае з носа густыя сінія струменьчыкі. Салодкі махорачны дым расцякаецца па хаце, тонкім празрыстым воблачкам плыве да печы.

— Не разумею я, Матруна. Навошта гэта?

— А што тут разумець? Карову ўсё роўна забяруць, сэрцам чую. Канфіскацыяй гэта ў іх завецца.

— Хто гэта забярэ? — трывожна ўглядаецца ў яе маці.

— Ну, гэтыя, што Петрака забралі...

— А дзеці? Яны ж без малака...

— А што ім да дзяцей тваіх? — перабівае Матруна, не дакурыўшы, кідае ў печ папяросу і, упёршы рукі ў калені, задумваецца.

Маці выцягвае з печы чорны гаршчэчак з бульбай, абхоплівае з абодвух бакоў анучкай, перакульвае ў вялікую міску.

Густая пахучая пара цягнецца да столі, паволі растае, казыча Арцёму нос прыемным душком. Маці запрашае Матруну паснедаць, тая ахвотна згаджаецца, есць нетаропка, кожную картоплю старанна пасыпае соллю.

Маці сядзіць, гаротна счапіўшы рукі, думае нейкую толькі ёй адной вядомую горкую думу. Плешчацца ў печы вясёлае полымя, зрэдку пастрэльвае вугольчыкамі. Чырвоны водбліск крывяніць яе твар, светлымі зайчыкамі рассыпаецца па сцяне. Арцём уважліва прыслухоўваецца, а Матруна расказвае: «Здаралася і такое: засылалі да нас немцы дыверсантаў. Памятаю, у сорак трэцім блакадным годзе... Восенню было. Немцы да балота нас прыціснулі. Дзён гэтак з дзесяць адбіваліся мы, а як патроны скончыліся, харч выйшаў, сталі аб прарыве думаць. Людзі з голаду пухнуць пачалі. Ну і камандаванне вырашыла: ці грудзі ў крастах, ці галава ў кустах. А ў гэты час прыбіўся да нас перабежчык з нямецкага боку. Зусім яшчэ малады хлопец такі. Назваўся ён славакам, маўляў, ваяваць за фашыстаў не хачу і ўсё такое. І тут жа сказаў, чым можа памагчы. Я, кажа, ведаю слабае месца ў нямецкай абароне. Кажа, прарвацца можна і амаль без страт. Ды наша камандаванне не клюнула па гэту вудачку...»

— А што ж з тым славакам? — пытаецца маці.

— Вядомая рэч — расстралялі. Дапыталі яго, і высветлілася, што ніякі ён не славак. Праўда, смелы быў, падлюга! Літасці не прасіў, а толькі крычаў: «Я ўсіх вас ненавіджу! Зямлю вашу ненавіджу!» Во

нягоднік які, га?.. Гэта ж трэба так. Зямлю, якая яго выгадавала і выкарміла...

— Як жа вы з тых балот потым выбраліся?

— У тую ж ноч, прама пад носам у фрыцаў, ды яшчэ на голым такім пагорку. Немцы не думалі і не гадалі. З туманам мы як ударылі ім у лоб! Там я і вока сваё пакінула.

Матруна моўчкі даядае бульбіну, выцірае рукі аб зашмальцаваныя штаны, у одуме наморшчвае лоб, потым кажа:

— Дзякуй, Ганна, за сняданак. Падсілкавалася. На работу пара... Наконт маёй парады падумай...

Яна захінаецца ў хустку, зашпільвае на паддзёўцы гузікі, падыходзіць да Арцёма, калмаціць яго светлую яршыстую чупрыну:

— Цярпі, казак, атаманам будзеш!..

Пасля адыходу Матруны ўсталёўваецца самотная цішыня. У вокны павольна цэдзіцца сіняе світанне. Блякне ў печы агонь. Больш рэзкімі і выразнымі становяцца рысы твару ў маўклівай маці. Цяжка Арцёму ведаць, пра што яна думае. І зусім яму няўцям, што неадступныя думкі яе — усё пра бацьку ды пра тую ж карову, з якой невыносна балюча ёй расставацца. А расставацца трэба.

На другі дзень Арцём і маці выводзяць з цёмнага хлява лагодную чорна-бурую Красулю і скрозь мяцеліцу вядуць у вёску. Карова не хоча ісці, часта спыняецца, гне да зямлі галаву. Калі прывялі, Матруна сказала:

— Па малако прыходзіць будзеце. Не так ужо далёка.

Маці абдымае Красулю за шыю, гладзіць яе і плача. У Красулі вочы наліты сумам. Яна доўгім языком аблізвае матчыны рукі, жалобна мычыць. Назад вяртаюцца полем, па калені правальваючыся ў снег. Марозны пякучы сівер сячэ ў твар снежнымі

крупамі, валіць з ног... У той няшчасны год Матруна была адной з нямногіх, хто не пакідаў сям'ю Апаровічаў у бядзе: памагала бульбай, салам, часам грашыма. Ведаў пра яе Арцём зусім нямнога, ды і то па расказах бацькі. Жыла яна адзінока, мела прысядзібны ўчастак з садам, трымала карову і парася. Перад самай вайной выйшла замуж, але дзяцей нажыць не паспела. Мужа яе вайна пахавала на чужой зямлі недзе за Польшчай.

Адтуль, з дзяцінства, выплывала яна нязменна бадзёрая, з хітрынкай у адзіным воку.

Працавала Матруна ў горадзе ў нейкім дарожным упраўленні конюхам, апраналася па-мужчынску, у паддзёўку ці кажух, у ватовыя штаны, боты ці валёнкі. У адной руцэ трымала доўгую пугу, у другой — самакрутку з махоркі. І твар у яе быў як у мужчыны: чырвона-цагляны, прадублены вятрамі, пракалены маразамі і спякотай. Пахла ад яе канём, сенам, тытунём.

## 6

І вось цяпер Арцём стаяў на скразным сцюдзёным ветры, упэўнены, што Матруна абавязкова павінна быць на пахаванні бацькі. Аб тым, што яна тут, сведчыла і старая гнядая каняка са зблытанай грывай і раздутымі, як у каровы, што аб'елася, бакамі, запрэжаная ў вазок. Яна ляніва і абыякава жавала сырую траву і панура касавурылася на людзей, якія цярпліва моклі пад дажджом.

Апошні раз ён сустракаўся з Матрунай гадоў дзесяць таму назад, і яму вельмі захацелася пабачыць яе. Арцём стаў шукаць яе вачыма, але не знаходзіў. Магчыма, яна была ў хаце і стаяла ля труны. Але ісці туды не было сілы.

Ён крануўся з месца, падышоў да вазка, прыхіліўся да яго спіной. Няўжо гэта той, калісьці гарэзлівы малады конік? Калі гэта так, то Матруна панейшаму працуе ў дарожна-рамонтным упраўленні. А можа, хто-небудзь прыехаў з далёкіх родзічаў, каб развітацца з бацькам?

Але тое, пра што ён цяпер думаў, толькі падводзіла яго да ўспамінаў, што ўзніклі, калі ён убачыў каня.

...У сонечна марозны дзень на заледзянелую пасля адлігі горку высыпалі катацца хлапчукі з усёй вуліцы. Хто на санках, хто на каньках, хто на казе. І бесклапотная хлапечая весялосць умомант абудзіла сонную вуліцу. Арцёму катацца не было на чым. Ён стаяў убаку надзьмуты, як верабей, з горкай балючай зайздрасцю глядзеў на хлопчыкаў.

Вельмі хацелася катацца, весяліцца, дурэць. І калі б папрасіў ён у каго-небудзь пракаціцца на санках, ніхто б яму не адмовіў. Але Арцём быў ганарысты. Прасіць яму здавалася прыніжэннем.

І ён сабраўся ўжо ісці дадому, як на вуліцу вылецеў сівы ад інею конік, запрэжаны ў сані, на якіх ва ўвесь рост стаяла цётка Матруна. Адной рукой яна трымала нацягнутыя лейцы, другой размахвала ў паветры пугай. Твар у яе быў чырвоны, з рота валіла белая пара.

Падкаціўшы да хаты, яна гучна, працяжна тпрукнула, асадзіла каня, лёгка і спрытна выскачыла з сапей, весела крыкнула Арцёму:

— Гэй, казак, маці дома?

— Ага.

— Збірайся, у лазню паедзем.

І праз некалькі хвілін маці ўжо сядзіць на санях з маленькай Валяй на руках, захінутай у коўдру і стары бацькоўскі кажух. Арцём ляжыць на баку,

падціснуўшы ногі, крысом сваёй паддзёўкі прыкрывае Уладзіка.

Матруна стаіць на самым перадку саней, накручвае пугай, пукае на каня. Звонка вішчаць, нарыпваюць палазы на хрумсткім і калючым снезе. Хутка бяжыць конь, выбіваючы падкаванымі капытамі камякі мёрзлага снегу. Вось ужо выскачылі за ваколіцу і памчаліся праз поле. Пустое, голае, у рэдкіх сухіх быльнягах, яно бяжыць, абцякае дарогу. Чмяк-чмяк-чмяк — стукаюць капыты, соладка пахне конскім потам, пасвіствае ветрык над вухам. І так хораша, спакойна, што ехаў бы Арцём бясконца па гэтай пустэльнай зімовай дарозе. Але ехаць зусім недалёка: неўзабаве яны ўжо ў вёсцы, у цёплай Матрунінай хаце з вялізнай печчу.

Хутка прыходзяць мыцца двое мужчын у валёнках, кажухах і шапках-вушанках.

Арцём з Уладзікам і мужчынамі ідуць у лазеньку, якая прыляпілася да агарода і патанула ў сумётах. У халаднаватым прылазніку нетаропка распранаюцца і ныраюць у цеснае спякотнае нутро лазні. Пахне бярозавым венікам, едкім застаялым дымком і сасновай смалой ад чорных закураных бярвенняў. У цьмяным святле газоўкі, прыладжанай на падаконні маленькага акенца, не адразу бачыць Арцём дзве шырокія лаўкі ля сцяны, грудок распаленых да чырвані каменняў, бочкі з гарачай і халоднай вадой. Застылае цела адагрэлася, налілося прыемнай млявасцю.

Дзядзькі мыюцца весела, шумна, бадзёра размаўляюць і нязлосна мацюкаюцца. Да знямогі сякуцца распаранымі венікамі, потым выскакваюць вон, кідаюцца ў сумёты, крычаць і рагочуць. Пасля мужчын парыцца ідуць жанчыны, а Арцём і Уладзік залазяць на гарачую печ, адлежваюцца, лускаюць гарбузікі.

Пасля лазні, раздабрэлыя, распараныя, з аднолькава пунсовымі тварамі, Матруна і маці збіраюць вячэру. На стале, прыкрытым ільняным абрусам, у місках дыміцца капуста, ружавее сала. На белым ручніку важна ўссядае бохан хлеба. Апошняй паяўляецца запацелая бутэлька самагонкі, заткнутая папяровым коркам.

— Гэй, казакі! Ану да стала! — кліча іх Матруна.

Арцём і Уладзік умомант скочваюцца з печы, уладкоўваюцца ў кутку на лаўцы пад абразамі божай маці ў драўлянай рамачцы з залаціста-сярэбраным акладам.

— Нешта ў цябе Уладзік зусім худзюшчы,— заклапочана ўздыхае Матруна і разлівае ў чаркі самагонку.

— Дай бог каб здаровы быў. А мясам абрасце,— уздыхае маці.

Уладзік камандуе:

— Налівайце! Піць будзем!

— Чаго ж табе наліць, п'яшка-алкашка? — смяецца Матруна.

— Піва.

— Піва няма. А вось настойкі вішнёвай мы вам з Арцёмам дадзім.

— Што гэта — п'яшка-алкашка? — пытаецца Уладзік і па чарзе да кожнага цягнецца сваёй чаркай.

— Шмат ведаць будзеш — хутка састарэеш,— забаўляецца з ім Матруна і перакульвае чарку, соладка прыжмурвае вока, прымаецца за капусту.

— Не плямкай губамі, цётка Матруна,— кажа ёй Уладзік.

— Надта ты разумнік вялікі, Уладзік. Напэўна, вучоным будзеш,— жартуе Матруна і заліваецца дробным смяшком.

Маці таксама ўсміхаецца, гладзіць Уладзіка па галаве, ласкава кажа:

— Ён у мяне харошы, пацешны. Неяк мне дрэнна стала. Прылегла я на ложак. Думаю, не дай бог, калі што — застануцца дзеці сіротамі. «Памру я хутка, сынок,— кажу яму.— Аддам тады табе валёнкі, фуфайку цёплую». А ён кажа: «Ты, мама, не памірай, пакуль я не вырасту. А як вырасту — надзену тваё валёнкі і фуфайку, тады паміраць можаш».

— Малы, а кумекае, што да чаго,— глыбакадумна заўважае Матруна.

— І не малы я зусім. Мне пяцьсот ужо гадоў,— важна паведамляе Уладзік.

— Не пяцьсот, а пяць год,— папраўляе яго Арцём.

Павячэраўшы, зноў забіраюцца на печ, лускаюць семкі. Маці і Матруна сядзяць за сталом з пасалавелымі вачыма на раздабрэлых, нібы абмяклых тварах, нетаропка цягнуць нітачку гамонкі. Маці паварочвае да свайго.

— Ты ведаеш, Матруна, спраўдзіліся твае прароцтвы. Праз некалькі дзён, як забралі Пятра, зноў прыйшлі тыя двое.

— Пра каго гэта ты? — перапытвае Матруна.

— Ну тыя... Кірыла ды Лазар.

— Чула я. Мужчыны баялі.

— Твар у Кірылы гладкі, сыты,— працягвае маці,— вочы ў яго, як у барана, такія мокрыя, зенкі крывёю наліліся. Ходзіць па хаце, як гаспадар, усё аглядае так падазрона, абмацвае кожную рэч, на печ лезе, пад палаці глядзіць.

— Во зараза, га! Ні сораму, ні сумлення ў яго,— абураецца Матруна.

— Лазар, праўда, нічога. Сеў на лаўку, хмурыцца, маўчыць. «Паказвай,— гаворыць Кірыла,— дзе тут у цябе зброя схавана. Мужанёк твой разлюбезны на ўсякі выпадак, нябось, прыхаваў. Улады другой чакае. А ў такіх выпадках ручны нямецкі кулямёт

ой як спатрэбіцца! Ды і маўзеры, калі пару штук пра запас, таксама не зашкодзяць».— «Перастань, Кірыла! І не сорамна?» — дакараю я яго. «Гэта табе павінна быць сорамна, што мужанёк у цябе такі «герой»,— пасміхаецца ён.— Ты мне зубы не загаворвай. Яны ў мяне не баляць. Скажы чэсна, дзе ў яго гэта гаспадарка прыхавана. Закон усё ўлічыць».

— На закон напірае?! А сам ён яго прытрымліваўся? — злосна пытае Матруна.— Тады, у сорак другім, можа, памятаеш выпадак з крынічанскім падполлем?

— Не, не памятаю,— круціць галавою маці.

— Дык вось паслухай,— пачынае расказ Матруна.— Немцы падпольную групу высачылі і чуткі пусцілі, праз свайго правакатара, бытта аблава будзе. А да партызанаў так давялі, што, маўляў, ноччу пераапранутыя нямецкія дыверсанты ў брыгаду прыйдуць. Нашы людзі ў лес, да партызанаў, а тыя іх і праўда за дыверсантаў прынялі. Кажуць, і Кірыла ў гэтай аперацыі быў. Пасля разабраліся. Вось табе і закон.

— Ды няўжо? — дзівіцца маці.— Штосьці не верыцца ў такое...

— Вайна, Ганна. Колькі такіх выпадкаў было. Каго толькі да нас не засылалі немцы. Цяпер гэта ўжо не сакрэт. Вунь сам Гардзееў расказваў, як у яго брыгадзе аднаго вылавілі... Фрыцы таксама не дурні былі.

Абедзве замоўклі, задумаліся кожная пра сваё. Вечаровы змрок распоўзся па кутках хаты, засініў заінелыя вокны, ценем лёг на твары маці і Матруны.

Арцём, разамлелы ад гарачыні, упарта змагаецца са сном, які ўладарна і ўчэпіста спавівае яго дрымотнай млявасцю. Уладзік ужо спіць соладка і моцна.

— Ага. Дык на чым гэта мы завязлі? — спахопліваецца Матруна.

— А там, на гарышчы, каля коміна, пад пілавіннем зброя схавана,— кажу я Кірылу. «Вось з гэтага і пачынала б,— узрадаваўся ён.— Лезь, Лазар». Выйшлі яны з хаты. Чую, ужо лезуць па драбінах. Па столі ходзяць, пра нешта між сабой гавораць, нагамі шкрэбаюць, старызну розную перакідаюць. Дошкі на столі пад імі хадуном ходзяць. Не дай бог, думаю, праломяцца... Ну, патапталіся яны там, злезлі і ў хату. Бацюхны! Усё роўна як з падпечча іх выцягнулі. І смех і грэх! Мурзатыя, як чэрці! Апратка ў пацярусе, морды і шапкі ў павуцінні, ды яшчэ з высахлымі мухамі.

Матруна заходзіцца тоненькім смяшком, потым разлівае рэшткі самагонкі ў чаркі. Маці расказвае: «Ну як, знайшлі?» — пытаюся, а саму смех душыць, кісну, як капуста. Кірыла аж пабялеў ад злосці. І я закіпела адразу. «Ведаю, чаго вы прыйшлі! — крычу на яго.— Забірайце! Усё забірайце! Але папомніш мяне, Кірыла, і ты, Лазар. Пакарае вас бог за гэта. Ёсць на зямлі праўда людская».— Бачу, дзеці аж спужаліся. Валя заплакала, Уладзік забіўся ў куток, як мышаня. А Арцём... Калі б ты бачыла, што з ім сталася! Вочы ўтаропіў і глядзіць на іх, не міргае, з такой нянавісцю, што... Эх, сынок, думаю, шкада, ты не дарослы і яшчэ не можаш адпомсціць за крыўду. Але і за гэта табе дзякуй.

— Ну, а Лазар? — перапыняе яе Матруна.

— А што Лазар? «Ты не сярдуй на мяне, Ганна,— вінавата так апраўдваецца перада мной.— Я загад выконваю».

— А ты сказала б яму,— павучае Матруна,— савецкая ўлада яму закон дала не для таго, каб самавольнічаць, а праўду абараняць.

— Яму тады было гаварыць усё роўна, што мёртвага парыць,— адказвае маці.

— Лазар — ён сам па сабе нядрэнны чалавек,—

кажа Матруна,— але слабы характарам. Бязвольны. Калі б ён трапіў да немцаў, то і ім служыў бы гэтак жа спраўна. Такім, як Лазар, усё роўна каму служыць.

Маці і Матруна выпілі яшчэ па кілішку, моўчкі ўзяліся есці.

Стала цямнець, і хата непрыкметна налівалася густой і ўтульнай цемрай. На гарачай печы Арцём зусім размяк і ўжо з цяжкасцю супраціўляўся сну, які наваліўся на яго. Але расказ маці намагаўся даслухаць да канца.

— Зноў я табе дагаварыць не дала,— вінавата ўсчала гамонку пасля маўчання Матруна.

— Дык, значыць, Лазар,— спахапілася маці,— сказаў мне пра закон. А Кірыла як накінецца на яго: «Ты што перад ёй выпендрываешся?! Гэта ж нямецкія прыслужнікі! Іх вешаць усіх трэба! І выраджаў іх знішчаць пад корань, каб не пладзіліся». Сунула б я яму тады чым-небудзь. Няхай бы судзілі потым. Шкада, пад рукі нічога не трапіла.

— І трэба было. Нічога б яны з табой не зрабілі.

— Я вачыма зірк па кутках,— працягвае маці далей.— Бачу, вілкі. Ну, думаю, не дай бог кране Арцёма — праткну пуза. Аж тут Лазар умяшаўся. «Ды кінь ты, Кірыла... хлапчанё ж зусім»,— гаворыць. А Кірыла на Лазара: «Што гэта ты ўсё іх абараняеш? — і прама свідруе яго вачыма.— Трэба мне і табой заняцца. Паглядзець, што ты за птушка такая».— «Угаманіся, Кірыла. Выпіў, дык не дурыся»,— дакарае яго Лазар, неяк нясмела так, няўпэўнена. Па ўсім відно, што нас яму шкода, але баіцца ён Кірылы. «Ты не вучы мяне! — зноў раве Кірыла.— Я ведаю, што мне рабіць. Я кроў на вайне праліваў, а яны тут немцаў салам кармілі». Лазар нічога не сказаў, пайшоў да саней. Кірыла пахадзіў, патаптаўся — і таксама вон са двара. Лазар лейцамі

крапуў, і — пакацілі вуліцай. Як цяпер памятаю, кабылка такая рыжая, гладкая. І толькі снежны пыл з-пад капытоў. А мы стаім з Арцёмам і глядзім услед...

— Кажуць, да вайны Кірыла не быў такі,— задуменна вымаўляе Матруна.— Бач, што натварыла яна, вайна гэта, з чалавекам. Чула я, у сорак трэцім немцы яго жонку згвалцілі, а потым павесілі. Вось пасля гэтага і стаў ён такім, нянавісці сваёй выхаду не знаходзіць.

Ужо зрабілася зусім цёмна. Лілася, струменіла, цурчала гамонка маці і Матруны, не парушаючы цішыні ў хаце. Арцём засынаў. Словы, як далёкае рэха, ледзь кранaлі слых. Толькі памяць па-ранейшаму была вострай і выразнай. Ён згадаў, як пасля таго выпадку яны прадалі Красулю. Маці з таго часу пачала старэць не па днях, а па гадзінах. Арцём здагадваўся, што палохае яе невядомае будучае, мучыць страх за лёс бацькі. У апошні час яна рана выходзіла з дому і вярталася позна з нейкім памутнелым паглядам, надзіва спакойная і абыякавая. І калі ён аднойчы спытаў пра тату, яна сказала, што нічога невядома.

Але вось і маці і Матруна засталіся за мяжой свядомасці, нібы ператварыліся ў бясплотныя цені. Ён засынаў і бачыў сон — як у выстылую, прамерзлую ў кутках белым інеем хату ўпаўзае заледзянелая цішыня ў вобразе нейкай калматай сівой істоты. Ад страху дзіка закруціліся мёртвыя вочы ходзікаў на сцяне, якія з надакучлівай і непатрэбнай гучнасцю адмервалі час. Пачулася, як студзень, змучаны маразамі і завеямі, завыў, заплакаў, застагнаў. І нехта гучна, суха стукнуў за сцяной... Арцём праваліўся ў гарачую цемру, заснуў.

## 7

Дождж то пераставаў, то зноў пачынаў ліць. Тады з даху з манатонным цурчаннем сцякалі ручайкі вады, зліваліся ў лужыну. Заціхаў у садзе глухі перарывісты шум ветру. Толькі сіратліва трапяталіся рэдкія лісткі вішняку.

Арцём не заўважаў ні дажджу, ні людзей, ні мітусні, якая бывае на пахаванні. Учэпістая балючая памяць яго хапалася за мінулае, быццам шукала там заспакаення. Ён нават не заўважыў, як падышла сястра Валя, маўкліва журботная, заклапочаная, асцярожна, ласкава сказала:

— Ідзі, Арцём, у хату, замерзнеш.

Ён выпраміўся, прыўзняў галаву. Над ім схіліўся дзявочы твар з чорнымі дужкамі броваў і доўгімі каштанавымі валасамі. Вецер вырываў іх з-пад хусткі, трапаў, рассцілаў па плячах. «Уся, як маці»,— міжволі падумаў Арцём. Ён падняўся і з падтрымкай сястры падаўся ў бацькаў пакой. Валя сцягнула з яго плашч, павесіла сушыцца ля печкі і знікла. Праз некалькі хвілін прыйшоў Зарудны. Арцём узрадаваўся нечаканай і жаданай сустрэчы. У душы нібы растала ледзяная глыба і расцякалася па целе гарачымі струменямі. Яны моўчкі, па-мужчынску моцна абняліся. Зарудны сеў на табурэт, пранікліва паглядзеў на Арцёма стомленымі вачыма. Быў ён, як раней, хударлявы целам і смуглявы тварам, на якім маладым бляскам свяціліся вочы, выпраменьвалі ціхае жывое цяпло. Толькі кароткія валасы былі перавіты сярэбранымі ніткамі і густа бялелі ля скроняў, быццам прыхопленыя інеем.

— Ну што, сынок... суцяшаць цябе я не буду. Сам усё бачыш і разумееш... У цябе не стала бацькі, у мяне — адзінага сябра. І трэба нам гэта гора адолець, перажыць.

Арцём доўга не азываўся, глядзеў на запэцканую нагамі масніцу з круглым, як манета, сучком. І хоць не час быў для размоў, але не мог Арцём не спытаць у Заруднага пра тое, што яго непакоіла.

— Скажыце, Міхал Іванавіч, чаму жыццё было такім несправядлівым да бацькі? Ён ніколі нікому не зрабіў зла...

— Жыццё, сынок,— рэч складаная... Пакуль разбярэшся, што да чаго... Ды калі гэта яшчэ ад многіх людзей залежыць...

— І ўсё ж нехта павінен адказваць, ад каго гэта залежыць — каб разабрацца,— Арцём пільна глядзеў на Заруднага запытальным позіркам, чакаў адказу.

— Не ведаю, сынок,— не адразу адказаў той.— Я сам многа чаго не разумею. Чым больш жывеш, тым цяжэй бывае адказваць на пытанні.

Арцём схаваў твар у далоні, застыў нерухома.

Зарудны паклаў яму руку на плячо.

— Ты ўжо выбачай, Арцём,— прагаварыў ён,— павінен я ісці. Клопатаў у мяне там шмат. Чакаю не дачакаюся Гадуна з аркестрам. У пахавальным бюро не атрымалася, дык ён пайшоў некуды ў арганізацыю. Ды і Гардзееў вось-вось з дэлегацыяй ад савета ветэранаў павінен прыйсці. У пяць гадзін трэба кранацца, а машыны яшчэ няма.

— Міхал Іванавіч, дык давайце я сам усё зраблю! — прапанаваў Арцём.— Дарэчы, вазьміце вось грошы.

— Не турбуйся, Арцём. Потым. Ты ўжо тут нічым не паможаш.

Падступілі горкія думкі аб тым, што вось памірае чалавек і, каб пахаваць яго, столькі клопатаў і турбот трэба. І памінальны стол са шчодрым пачастункам і выпіўкай... «Эх, людзі, людзі...» — цяжка ўздыхнуў Арцём і ў думках вярнуўся да Заруднага, які нібы звязаў яго перарваныя ўспаміны.

...Аднойчы вечарам прыйшоў да іх Зарудны. Ён прынёс з сабой пах аўчыны, машыннага масла і горку салодкіх пернікаў і ліпкіх падушачак. Разам з ім уварвалася кучаравае воблака, разбеглася па хаце, распужала гарачы дух ад напаленай печы, нервова загайдала чырвоны язычок газоўкі. Маці разгублена сказала:

— Прабач, Іванавіч, пачаставаць няма чым.

— Я не за гэтым прыйшоў, Ганна.

Як быў, у кажуху, ён садзіцца на лаўку, ссоўвае на патыліцу заячую шапку, доўга маўчыць, потым кажа ў глыбокім одуме:

— Разумееш Ганна, быў я ў следчага, які справай Пятра займаецца.

— Выходзіць, што і справу на яго завялі?

— Так, завялі. Толькі пачакай, не перабівай. Мужчына такі ўжо немалады, у гадах. Слоў на вецер не кідае. Прыйшоў я да яго, кажу — так і так... Маўляў, партызанілі разам. Пасадзіў ён мяне, слухаў доўга, цярпліва, толькі ўсё хмурыўся неяк, усё роўна як спачуваў. Выгаварыўся я, сяджу, чакаю, што ён скажа. «Я, вядома, вам веру,— гаворыць ён так спакойна, памяркоўна.— Мы абавязкова вас паслухаем як сведку, улічым вашу станоўчую характарыстыку яго баявой дзейнасці. Магчыма, гэта ў некаторай ступені змякчыць прысуд». Відно адразу: чалавек адукаваны, вучоны, гавора складна і прыгожа. Ды ўсё на закон напірае, артыкулы кодэкса называе, нават з нумарамі і параграфамі. Ну, думаю, раз ужо артыкулы там розныя пералічваць стаў — справа карасінам пахне. «Ды што ж гэта такое? — пытаюся я.— На аснове чаго Апаровіча арыштавалі?» — «А на аснове фактаў, шаноўны таварыш»,— адказвае ён мне. «Якіх такіх фактаў»,— сумеўся я. «На аснове тых, што сведчаць аб супрацоўніцтве Апаровіча з фашыстамі».— «Адкуль жа маглі такія весткі паступіць? Ад

каго?» — не адступаюся я. «Разумееце,— кажа следчы,— мы не маем права вас з імі пазнаёміць. Што ж датычыць асабіста вас, чалавека, які добра ведае Аповіча, то спадзяюся, што мы з вамі яшчэ сустрэнемся для высвятлення цэлага шэрагу абставін і пытанняў».

— Я так мяркую, што пехта згарадзіў на Пятра паперу,— сказаў заклапочана Зарудны.— Але якую? Пра што там напісана? Эх, ні халеры я не разумею ва ўсёй гэтай катавасіі... Але чалавека ўсё роўна ратаваць трэба.

— Як жа гэта здарылася, Іванавіч? Можа, Пятро і праўда вінаваты? — пытаецца маці.

— Калі яшчэ ты пачнеш сумлявацца, Ганна, тады ўсё — яму канец. Пасаромелася б нават думаць так. Жыццё ж пражылі разам і радасць і гора дзялілі... А тут сумняваешся,— дакараў яе Зарудны.

— Ды што ты, Іванавіч. Гэта ж толькі так, да слова...

— Ну дык вось, трымай свае словы лепш за зубамі.— Ён устае, прахаджваецца туды-сюды па хаце, накульгвае на левую, падвернутую ўсярэдзіну нагу, потым зноў садзіцца, вядзе далей гамонку:

— Не! Ні ў чым ён не вінаваты...

— Дзе ж тады праўда?

— Пра тое, што Пятро працаваў на нас,— кажа Зарудны,— ведалі камандзір, начальнік штаба, камісар ды я. Мы не маглі... не мелі права гаварыць партызанам, што ён наш чалавек. Час быў такі. І сярод сваіх сустракаліся здраднікі. Падкулачнікі, што затаіліся на некаторы час, крымінальнікі розныя — уся-лякая дрэнь выплыла. Вайна ўвесь гэты бруд, нібы ў паводку, на паверхню вынесла. А для такіх чалавек усё роўна што казяўка якая — стаў ды і расцёр у парашок. Вось таму камандзіры нашы вымушаны былі захоўваць асаблівую сакрэтнасць. Тады, у сорак

трэцім, пры прарыве блакады яны галовы свае злажылі... Эх, доля іх горкая. Уцалеў толькі я, ды і то выпадкова. Як успомніш цяпер, дык не верыцца, што так яно ўсё было. Адбіваліся мы чацвёра сутак, адступалі на базавы востраў, дзе харчы захоўваліся, параненыя знаходзіліся і ўсё іншае. Нашы наступалі, вось-вось фрыцам каюк. Ну, яны ад гэтага асатанелі, азвярэлі. Востраў наш самалётамі зруйнавалі, думалі ўсіх нас знішчыць. Вырашылі мы тады прабівацца. Справа гэта была цяжкая, рызыкоўная, але іншага выйсця ў нас не было. Немцы заперлі гаць, праўда, сіл там у іх было нямнога. Прабіліся нашы ўначы з вялікімі стратамі... І камандзір, і начштаба, і камісар засталіся там, на гэтай гаці... Якія б яны былі камандзіры, калі б не пайшлі першымі? Народ не паверыў бы, не памкнуўся наперад. А так тыя, хто ўцалеў, дзякуючы ім і цяпер па зямлі ходзяць... Мне тады параненых загадалі адвозіць. Двое сутак я бадзяўся па балотах, каня загнаў, а ўсё ж з вогненнага пекла гэтага выбраўся і параненых вывез... Пашанцавала мне. Напэўна, у кашулі нарадзіўся. На трэція суткі да сваіх прыстаў... А архівы тады ці то згубілі, ці то ўтапілі ў балотах. Паспрабуй цяпер адшукай, прачытай сакрэтныя данясенні Пятра. Даказаць няма чым.

— Што ж рабіць, Іванавіч?

— Жыць трэба, Ганна.

— Як?

— Уладкоўвайся на работу.

— Працаваць-то найду, а вось з ёй што? — ківае маці на калыску з Валяй.— Арцёмку ў школу трэба, а Уладзік яшчэ зусім маленькі.

Міхал Іванавіч выпрамляецца, расшпільвае кажух. Вялізны цень ад яго скача па сцяне. Арцём і Уладзік грызуць пернікі, Валя смокча цукерку, цмо-

кае губамі. Адыходзячы, Зарудны кладзе на стол грошы.

— Не падай духам, Ганна. Пятра я не дам у крыўду. Свет, як кажуць, не без добрых людзей.

— Нешта не верыцца мне,— безнадзейна махае яна рукой.— Радасць чалавек дзеліць з усімі, а ў бядзе — адзінокі. Няма з кім яе падзяліць.

— Ды ну цябе, Ганна! Няўжо былыя партызаны не паверацъ мне — свайму начальніку разведкі. У маім жа ўзводзе быў Апаровіч,— суцяшае маці Зарудны.

Праз некалькі дзён ён прыходзіць зноў, упэўнены ў сабе, бадзёры.

— Вось што, людзі мае, я прыдумаў: трэба раней, чым к гэтаму следчаму ісці, падтрымкай сваіх людзей заручыцца.

— Якіх жа людзей, Іванавіч? Нікога быццам і няма, хто б ведаў Пятра,— няўпэўнена гаворыць маці.

— А Лазар Чаранок? А Восіп Гадун? А камбрыг Палікарп Навумавіч?..

— Ат, Іванавіч, свая кашуля бліжэй да цела. Каму ахвота рызыкаваць?..

— Ты кінь гэта, Ганна! Па-бабску развàжаеш. Не такія яны людзі, каб ад чалавечай бяды адвярнуцца.

Ганна цяжка ўздыхнула, а Зарудны, наадварот,— узбадзёрыўся. Ён быў упэўнены ў поспеху сваёй задумы.

— Ану, Арцёмка, давай збірайся! — загадаў ён.— Ты, па майму разуменню, ужо самы сапраўдны мужчына. Пойдзем мы з табой справай зоймемся, а то, калі будзем сядзець склаўшы рукі, нічога добрага з гэтага не выйдзе.

Арцём імгненна вылузваецца з коўдраў і рознага рыззя на палацях, абкручвае ногі анучамі, улазіць

у кірзавыя боты, нацягвае паддзёўку, шапку — усё бацькава.

— Ну во, адразу відно, што яшчэ хоць і слабаваты ў крылах, затое нагамі моцны. Увесь у бацьку. Глядзіш, хутка маці і падмога будзе.

Яны ідуць па заваленай сумётамі вуліцы. Зарудны ідзе хутка, накульгвае на левую пакалечаную нагу. Арцём ледзь паспявае за ім. Над хатамі, якія патанулі ў стылым снежным моры, над пахілымі белымі дахамі і хвалістай роўняддзю мёртвага поля, якое зліваецца з сівой імглой далягляду, плыве сярод кісейных хмарак падслепаватае, без промняў сонца. Матляюцца самотныя ў сваёй аголенасці, ссечаныя ўсімі непагадзямі дрэвы.

Калі сцяжына вывела іх у нізінку, дзе ў разводдзе білася ў цесных берагах хуткая Куцеенка, вецер раптоўна ўгаманіўся. Зарудны правальваўся ў глыбокім, сыпучым, нібы пясок, снезе, упарта крочыў рэчышчам туды, дзе рака рабіла круты паварот і выводзіла да вуліцы, на якой жыў Лазар Чаранок. Зарудны, быццам для таго, каб падрыхтаваць Арцёма да гутаркі з Чаранком, скрозь частае перарывістае дыханне расказваў:

— Тады, у канцы сорак другога, давялося нам твайго бацьку адправіць у нямецкае логава. Выправілі, можна сказаць, на верную гібель. Не падумай, што прымусілі ці загадалі, сам ён на гэту справу папрасіўся. Надта смелы чалавек быў, ды яшчэ і мясцовы. А было яно вось як, Арцём. Атрад у сорак першым мы сабралі ў асноўным з акружэнцаў-франтавікоў. Народ не з баязлівага дзесятка — пораху добра панюхаў. Хоць мы і адступалі тады, а немца білі і ў хвост і грыву, аж пер'е ляцела. Я ў сотай гвардзейскай быў разведчыкам. Пад Мінскам мы тры дні і ночы насмерць стаялі. У палон мяне ўзялі параненага, не памятаю ўжо як, але не ў гэтым справа.

Дык вось — сабралі мы атрад, а з насельніцтвам мясцовым сувязі няма, бо месцы гэтыя мы не вельмі ведалі. А без падтрымкі доўга не паваюеш. Вось неяк вечарам сядзім у зямлянцы: камандзір, камісар, начштаба і я, мазгуем, як выходзіць на сваіх людзей. «Трэба падымаць маральны дух у народа,— кажа камандзір,— згуртоўваць яго на барацьбу... кожную вёску, кожны хутар пераконваць у тым, што Чырвоная Армія ўсё роўна пераможа. Для гэтага мы павінны ствараць арганізацыі, выхоўваць нашых людзей і папаўняць імі партызанскія атрады».

«А я вось што думаю,— азваўся камісар.— У дзесяці кіламетрах ёсць вялікае мястэчка Паддубіна. Там стаіць нямецкі гарнізон. Дык ці не паслаць нам туды свайго чалавека?» — «Што ж, камісар, прапанова твая вельмі слушная,— адказвае камандзір.— Але каго паслаць? Выпадковага чалавека не адправіш. Калі б мясцовага, які сваіх аднавяскоўцаў ведае. Тут можна версію, ды яшчэ якую, згарадзіць».— «Ёсць такі чалавек»,— кажу я і называю твайго бацьку. Адразу выклікалі яго. Камандзір кажа: «Вось начальнік разведкі паведаміў нам, што вы з Паддубіна. Ці так гэта?» — «Так. З Паддубіна»,— адказвае бацька. «Як вы глядзіце на тое, калі мы вас адправім дадому?» — пытае камандзір. «Я ўцёк з палону не для таго, каб з бабамі на печы сядзець, а для таго, каб ваяваць»,— запярэчыў бацька. «Вось для гэтага мы цябе і пасылаем, таварыш Апаровіч. Збірай свае манаткі і падавайся ў Паддубіна. Ідзі да немцаў, скажы, што дэзерціраваў з арміі...» Расталкавалі мы твайму бацьку, што да чаго і навошта гэта трэба. Змікіціў ён адразу, падумаў і гавора: «Тым, што я з арміі ўцёк, іх не здзівіш. Але калі я скажу, што ад партызан уцёк,— тут іх да костачак праняць можна».— «А калі павесяць цябе як партызана?» — зноў пытаецца камандзір. «Павесяць дык павесяць, а

калі павераць, дык ужо зусім павераць... Бацька мой заможным гаспадаром быў да калектывізацыі. Скажу, што савецкая ўлада крыўдзіла. Ды ці мала чаго прыдумаць можна».

— Немцы паверылі яму,— працягвае Зарудны,— і нават чын нейкі далі. Моцна памагаў нам бацька. І зброяй, і харчамі, і медыкаментамі. Людзей сотні дзве прывёў у атрад. Помню, у блакадным сорак трэцім, калі фрыцы ў балотах нас прыціснулі, твой бацька пераправіў дзесяць вазоў з мукой. Сотні людзей мы тады ўратавалі ад галоднай смерці. У самым гушчары балотным ён праход ведаў цераз багну. Расказваў мне, што на астравах у сенакосную пару трава ў рост чалавека была. А вывозіць яе як будзеш? Вось мудрыя вясковыя дзядкі і прыдумалі такую падводную дарогу з бярвенняў, ды яшчэ па верху вязаным голлем услалі. Дык вось ён па гэтай нябачнай дарозе і пераправіў муку.

Зарудны замоўк. Арцём чуў сухое рыпенне снегу пад нагамі, бачыў, як на снежных гурбах ускіпае пазёмка калматымі, белымі, нібы мучны пыл, віхрамі.

— Вось і цяпер у маёй памяці ўсё як на далоні,— аддыхаўшыся, загаварыў Зарудны.— Там, у фашысцкім гняздзе, не кожны сумеў бы так, як ён. І не магу я ніяк змірыцца, што бацьку твайго абвінавачваюць у здрадзе.

Хутка яны звярнулі ўлева, падняліся на пагорак, пайшлі вуліцай.

— Лазар шмат гадоў пражыў з тваім бацькам па суседству, ведае яго добра. Няўжо не падтрымае, не скажа сваё слова там, дзе трэба? Быць такога не можа,— разважаў Зарудны.

Дом Лазара стаяў на самай гары, стары, непрыкметны, нечым падобны на свайго гаспадара, нецікавага на знешнасць, з тварам, пабітым маршчынамі. Калі яны падышлі да брамкі, гарэза-вецер уздыбіў

воблакам снежны пыл і пагнаў па сумётах белыя змейкі. З будкі рыжым клубком выкаціўся сабака, заліўся брэхам. Дзверы адчыніліся, і ў цёмным праёме іх паўстаў Лазар, як і заўсёды, у сваёй нязменнай міліцэйскай форме. Нагой загнаў сабаку ў будку, крыкнуў:

— Заходзьце, не бойцеся!

Яны акунуліся ў цёплы дух добра напаленай хаты. Неўзабаве Арцём адчуў, як яго цела адагрэлася, налілося прыемным цяжарам і млявай стомленасцю.

— Здзіўляешся, што зайшлі? — запытаў Зарудны.

— Ды не. Здагадваюся чаго.

— Здагадваешся? — пільна ўглядаецца ў Лазара Зарудны.— А памагчы чалавеку не здагадаўся?

— Ды што ты на мяне накідваешся адразу, як каршун на курыцу? — абараняецца Лазар.— Каму памагчы?

— Апаровічу!.. Пятру Апаровічу!

Лазар цяжка ўздыхнуў, сабраў вакол вачэй пукі глыбокіх маршчын.

— Што я магу зрабіць? Маленькі я чалавек. Што скажуць, тое і раблю.

— Лазар, ты ж ведаеш: не мог Пятрок здрадзіць. Я табе расказваў, як усё было.

Лазар нахіліў галаву. Напружылася худая і жылістая шыя, бязвольна павіслі вялыя, у складках, няголеныя шчокі. Вялікі нос здаваўся лішнім на твары, нявечыў яго.

— Тады, у вайну, многія нутром мяняліся,— выціснуў ён.

— Ты што? Пра Апаровіча так думаеш? — закрычаў Зарудны.

— А хто яго ведае? — кінуў ён раздражнёна.— Я ж з ім разам не ваяваў.

— Хочаш сказаць — не ў адным атрадзе. Затое ў адной брыгадзе!

— У брыгадзе больш як чатыры тысячы чалавек было.

— Лепш скажы, што за сваю шкуру дрыжыш.

— Калі хочаш — баюся! Ага, баюся! — усхапіўся Лазар.— У мяне сям'я. І я не буду ў гэту справу ўлазіць. Пасля вайны ўжо вунь колькі часу мінула. Паспрабуй зараз разбярыся, што да чаго. Ёсць на гэта людзі, няхай і разбіраюцца. Ім за гэта грошы плацяць.

На тонкай доўгай шыі Лазара нервова заскакаў кадык. Рукі ліхаманкава шнырылі ў кішэнях шырокіх галіфэ. Убегла жонка, караткаюгая тоўстая жанчына, застыла ў здзіўленні.

— Ідзі, ідзі, Гашка! Не замінай нам гаварыць,— прагнаў яе Лазар.

Жонка бокам выкацілася ў другую палову хаты, а Зарудны сарваў з вешалкі кажух, апрануўся, сказаў:

— Няма пра што нам з табой гаварыць.

— Як знаеш,— абыякава павярнуўся да яго спіной Лазар.

Не развітаўшыся, яны выйшлі ў беспрасветную завіруху. Навокал мяло, круціла густой белай каламуццю. Зарудны абураўся, надрываючы на марозным ветры голас:

— Вось табе і Лазар! У вайну храбры быў, а цяпер баязліўцам стаў. Мяняюць жа людзі сваю скуру, як тыя гадзюкі.

## 8

На вуліцы ўсё ўзмацнялася гамана. «Чаго яны так раскрычаліся? Хто такія?» — міжволі падумаў Арцём.

Да хаты падыходзілі незнаёмыя людзі з музыч-

нымі інструментамі, якія блякла адсвечвалі меддзю. З іх прыбліжэннем павольна затухалі галасы, нібы ўбіраліся раскіслай, як цеста, зямлёй. Гэта ж духавы аркестр — нарэшце дайшло да Арцёма.

Музыканты падышлі да двара і сталі. Ад іх аддзяліўся чалавек у ботах, у доўгім скураным паліто, з непакрытай белай галавой. Ён адчыніў веснічкі і пабег да дома. За ім услед рушылі аркестранты. Яны хісталіся з боку на бок, нібы ішлі па карабельным трапе, у гародчыку зноў шчыльна збіліся пад яблынямі ў чараду. Адны курылі, хаваючы ад дажджу папяросы ў рукавы паліто, другія прадзімалі мунштукі труб. Праз скразную сетку галін Арцём бачыў твары гэтых людзей. Былі яны бясколерныя, як восеньскія цені на зямлі. «Якая ім справа да чужога гора? — горка падумаў ён.— Для іх гэта работа. Звычайная работа. Яны падудзяць, атрымаюць плату і пойдуць у іншае месца. За што іх вінаваціць? Чаго патрабаваць?»

Чалавек з сівой галавой вярнуўся да музыкантаў з дзвюма бутэлькамі «Маскоўскай» і чаркамі. Арцём устаў, падышоў да акна, пільна паглядзеў яму ў спіну, у пакатую патыліцу. Той усё роўна як адчуў на сабе погляд, павярнуўся, мімаходзь ускінуў вочы на акно. Твар яго нібы вызваляецца ад старэчых маршчын — маладзее і выклікае ў памяці Арцёма вобраз Восіпа Гадуна. «Так, так... Гэта ж Гадун! Восіп Гадун!» І ён зноў там, у сваім мінулым, ходзіць з Зарудным па пакутах, шукае чалавечай праўды...

Ад Лазара яны накіраваліся тады ў цэнтр горада. Рэдкія прахожыя хавалі твары ў каўняры паліто, мітусіліся па тратуарах. Белы віхор бушаваў на гарадской плошчы, заганяў людзей у пад'езды дамоў.

Зарудны навальваўся ўсім целам на сівы пругкі вецер, з надрывам крычаў Арцёму:

— Я ў сваёй памяці перабраў усіх партызанаў.

Якраз тых, хто хоць трохі ведае твайго бацьку. І ўспомніўся мне, як ты думаеш хто? Абавязкова дапаможа! Іду зараз з табой, і радасць ва мне агнём гарыць. Не, сынок, Восіп не адмовіць,— падбадзёрвае Зарудны Арцёма,— бо не можа ён не памятаць, як бралі бураўцы нямецкі гарнізон у Паддубіне. Тая ноч для многіх акупантаў аказалася апошняй. Многія да госпада бога трапілі. Каго ў рай накіравалі, каго ў пекла — гэта ўжо не наш клопат. Там віднеей. Дык вось у тую ночку бацька твой напаіў самагонкай ахову. Паліцаі, вядома, скапыціліся, як парэзаныя. Атрад амаль без шуму ўвайшоў у гарнізон. Пацеха, кажуць, была. Немчура спрасонку ў адных падштаніках з вокнаў выскоквала. А іншыя ў чым маці нарадзіла.

Засыпаная снегам вуліца паўз сквер вывела з горада, узбегла на круты бераг Дняпра і нечакана ўперлася ў чырвоны цагляны дом. Ён стаяў на горцы, на высокім фундаменце, углядаўся заспанымі вокнамі ў белую прастору ракі. Ад грунтоўнай трываласці гэтага дома, ад яго замкнёна змрочнага выгляду Арцёму стала неяк не па сабе. Ён інстынктыўна насцярожыўся, нібы прадчуваў, што дарэмна яны ідуць сюды.

Мяцеліца, быццам растраціўшы свае сілы, стала сціхаць, пакорліва залегла снежнымі дзюнамі ля сцен, ля плота, ля варот. А мароз мацнеў, звонка рыпеў снегам пад нагамі. Арцём замёрз. Яму хацелася толькі аднаго — сагрэцца. І ён радаваўся, што зараз, як у цёплую ваду, нырне ў чужую, але жаданую цеплыню.

Восіпа засталі дома. Ён сядзеў голы да пояса за круглым, як кола, сталом, засланым квяцістым абрусам, і нешта пісаў. На стале ляжаў стос спісанай паперы, стаяла попельніца, поўная недакуркаў, стыў чай у шклянцы. Восіп, як здалося Арцёму, узрадаваўся прыходу нечаканых гасцей і ўсміхнуўся той

шчырай усмешкай, якой усміхаюцца вельмі добрыя людзі. Ён энергічна падняўся, выпраміў сваё невялікае, але моцна збітае цела, паздароўкаўся за руку, распрануў іх, правёў у свой пакой, пасадзіў. Арцём прысеў на канапу і адразу пагрузіўся ў нешта глыбокае, цёплае і мяккае, быццам пасля страшэннага пакутлівага холаду залез у горача напаленую лазню. Ён з горкай зайздрасцю падумаў, як хораша, сытна і ўтульна жывецца людзям у гэтым доме. А Зарудны, нібы падслухаўшы недзіцячыя думкі Арцёма, не змаўчаў. Сваімі знарок вясёлымі вачыма ён абабег пакой, ацаніў усё і сказаў з захапленнем:

— Моцна жывеш, Восіп! Вельмі моцна! Ты — як карась у ціхай сажалцы. Ніхто цябе не трывожыць, не турбуе. Скрозь дываны, а праз тоўстыя сцены вудачку да гэтага карася не закінеш.

Гадун нацягнуў кашулю, адкінуўся на спінку крэсла, распраміў плечы, паважна прамовіў:

— А чаго ж і не пажыць цяпер? Недарэмна я, браток, ваяваў. Мы ж вайну выйгралі.

Зарудны сагнаў з твару іранічна-вясёлую ўсмешку, нахмурыўся, сур'ёзна спытаў:

— Што ты ўсё пішаш? Ці не пісьменнікам вырашыў стаць?

— Кнігу пішу пра атрад. Няхай нашчадкі чытаюць пра сваіх бацькоў.— І стаў усхвалявана, часта блытаючыся, расказваць Заруднаму пра тое, што гэта будзе за кніга, якія баявыя эпізоды ў ёй апіша, пра каго раскажа.

— Спадзяюся, ты нікога не забыў?

— Не, браток, нікога. Перачытаў свае дзённікі, у музеі ўсе архівы перапароў. Ведаеш, як падумаю, што кніга будзе, ажно душа ў мяне ад радасці замірае.

— Ну, раз так, значыць, грошы атрымаеш.

— Не ў грашах соль,— абыякава адмахнуўся Во-

сіп.— Хачу, каб праўду пра нас ведалі, жывых славілі, а тых, хто загінуў,— памяталі.

Часта заходзіла жонка, ветлівая, яшчэ не старая жанчына, ставіла на стол закусь. Калі ў цэнтры заняла сваё ганаровае месца паўлітроўка, Восіп адсунуў паперы, сказаў:

— Давай па чарцы, браток, пакуль гарачанькае, а то астыне.

— А скажы мне, Восіп, ці ёсць у тваёй кніжцы што-небудзь пра паддубінскі бой? — здалёк пачаў Зарудны.

Восіп адказаў не адразу, нахмурыўся, надоўга замкнуўся ў маўчанні, быццам адшукваў у памяці нешта даўно забытае, але важнае. У прыжмураных, яшчэ маладых калючых вачах трывожна ўстрапянулася ці то спачуванне, ці то раскаянне. У мяккіх пальцах узнятай рукі ўздрыгвала чарка, у ёй ледзь прыкметна ўспыхвалі водбліскі.

— Гэта калі мы гарнізон бралі? — Гадун спрытным рухам перакуліў чарку ў рот.

— Так, так... пра гэта,— як бы між іншым напомніў Зарудны, і ў вачах яго заскакалі злыя смяшынкі.

— Ну ёсць... а што?

— Успомніў я пра тое,— прамовіў Зарудны, па-ранейшаму не зводзячы вачэй з твару Восіпа,— як тады Пятро Апаровіч моцна табе дапамог.

Гадун зноў напоўніў да краёў чарку, сурова ссунуў кучаравыя бровы, апусціў вочы долу.

— А вось пра гэта я якраз і не пішу,— цяжка выдыхнуў ён.

— Чаму?

— Для чытача гэта малаперакаканаўча. У кнігах пра паліцаяў пішуць як пра ворагаў народа. Такімі яны і былі на самой справе. ...Тое ж самае і з Пятром.

Ён жа іх форму насіў, а значыць, хацеў ці не хацеў, а неяк і ім служыў.

— Гэта мы паслалі яго служыць туды, да іх. Так трэба было. Але ён служыў не ім, а нам. Радзіме служыў.

— Ну, памог ён тады, сапраўды памог. А калі б і не зрабіў гэтага, усё роўна мы гарнізон узялі б.

— Якой цаной? Колькі байцоў ты не далічыўся б у атрадзе...— сказаў Зарудны.

Арцём бачыць, як камянее, пакрываецца бледнасцю твар Заруднага, як цямнеюць, наліваюцца чорнай каламуццю вочы.

— Яно, вядома, так. Але напішу я пра гэта ці не напішу — нікому дрэнна не будзе. Мінулае палыном парасло, браток. Як кажуць, было, ды сплыло. Можа, і сапраўды я што-небудзь не ўспомніў. Але ж не наўмысна гэта, не знарок. І калі ўдумацца, не хочацца мне ў гэтай ролі выстаўляць Пятра. А раптам што не так? Мёртвым, сам ведаеш, не баліць, а жывых усіх не зробіш героямі.

Арцём заўважыў, як Восіп замітусіўся, стаў няёмка дагаджаць Заруднаму, сілком частаваць яго. Нейкае імгненне Зарудны сядзеў паглыблены ў сябе, нібы прыбіты, прыдушаны раптоўным і непапраўна цяжкім горам. Потым распраміўся, закурыў. Твар стаў спакойны і сур'ёзны. Ён падумаў і сказаў:

— У тым і бяда, Восіп, што адзін пацярпеў ужо. Вось таму я і прыйшоў да цябе з яго сынам, Арцёмам. Каб ты праўду сказаў. Смела і сумленна сказаў. Трэба памагчы невінаватаму чалавеку, і ты гэта мог бы зрабіць, Восіп. Мне аднаму — не па сіле. Патрэбны сведкі.

І Зарудны падрабязна расказаў, што здарылася з Пятром.

Восіп зарыў пальцы абедзвюх рук у валасы, упарта маўчаў.

— Як гэта зрабіць?

— Пайдзі і скажы, што абвінавачваюць несправядліва. І ў кніжцы пра Апаровіча напішаш.

Гадун вылез з-за стала, стаў хадзіць па пакоі, цяжкім сваім целам угінаў масніцы. Белая галава яго ў разліве яркага электрычнага святла здавалася сярэбранай. Раптам ён спыніўся, быццам спатыкнуўся аб нябачную перашкоду, катэгарычна сказаў:

— Не, Міхал, нікуды я не пайду. Дзе мае доказы? Ён жа не ў маім атрадзе быў. Ды і хто мяне цяпер паслухае?

— Ну чаго табе баяцца? — наступаў на яго Зарудны.— Ты скажы толькі пра тое, што ведаеш. Пра паддубінскі бой скажы. Гэта і будзе тваім доказам невіноўнасці Пятра. Двум нам паверацъ, разумееш? Трэба выблытаць яго з ліпкай павуціны, навешанай нейчай злоснай рукой.

У вачах Заруднага, як устрывожаныя птушкі, мітусіліся разгубленасць і недаўменне.

— Ты ж у вайну першы пад кулі лез. І не баяўся. І людзей вёў за сабой,— ціха, з горыччу прамовіў Зарудны.

Восіп цяжка апусціўся на крэсла, паклаў жылістыя рукі з набрынялымі венамі на шырока расстаўленыя калені, пільна глядзеў у падлогу, быццам штосьці шукаў.

— Дык то ж было ў вайну, браток. Там бачна, дзе вораг, а дзе свой. А тут усё пераблыталася.

— Значыць, ты не верыш, што Пятро невінаваты? — ва ўпор спытаўся Зарудны.

— І веру і не веру,— пасля доўгага маўчання выціснуў Гадун.

— Вось як! — Зарудны схапіў са стала чарку, выліў у рот гарэлку.— Ну што ж, бывай, камандзір, пішы сваю кнігу.— Адным рыўком сарваў з вешалкі кажух, таропка апрануўся, крыкнуў Арцёму: — Пай-

шлі, сынок! Нам пара. Кажуць, нязваныя госці — горш за татарына.

Арцём ускочыў, нібы спружыны канапы, на якой ён сядзеў, укалолі яго, пабег апранацца. І ўсё, што было перад вачыма ў гэтым пакоі — ад дарагіх дываноў, прыгожых фарфоравых цацак да ежы на стале, здалося яму чужым, далёкім і фальшывым.

— Пагавары з камбрыгам. Ён цяпер вядомы ў горадзе чалавек. Напэўна, зможа памагчы,— неяк разгублена і вінавата прапанаваў Гадун.— А мне трэба падумаць.

— Не будзеш ты думаць, Восіп. Не палашчы мне мазгі! — перарваў яго Зарудны, нервова зашпільваючы гузікі.

— Не крыўдуй, Міхал,— мякка папрасіў Восіп.— Усё гэта не так проста, як ты думаеш. Хто яго ведае, як там было. А раптам...

— Калі б раптам ды...

— Абяцаць я нічога не буду, Міхал, але паспрабую,— няўпэўнена сказаў Гадун.

— Паспрабуй, паспрабуй, Восіп. Толькі ведай, з якога боку. А то адзін воўк кабылу паспрабаваў — без зубоў застаўся,— з'едліва сказаў Зарудны.— Гара з гарой не сыходзіцца, Восіп, а мы з табой яшчэ сыдземся.

— Ладна, чорт з табой! — закрычаў Гадун.— Што-небудзь зраблю...

...Арцём так паглыбіўся ва ўспаміны, што, калі пачуў крык, не адразу зразумеў, што крычыць маці. Ён страсянуў галавой, каб адкаснуцца ад думак, ачнуцца.

— Арцём! Арцёмка! Ідзі хутчэй сюды! Ідзі, ідзі! Вокны расчыні!

Голас маці зноў вяртаў яго да сённяшняга дня. Азораны святлом балючай памяці, малюнак мінулага раптам пабляк, зацягнуўся туманнай смугой.

Арцём уздрыгнуў, ірвануўся на кліч. Нібы праз густы лес прабраўся ён праз натоўп, які акружаў нябожчыка, падышоў да маці. Глянуў у яе збалелыя, спакутаваныя вочы, і да горла падкаціўся гарачы камяк. Ён абняў згорбленую постаць, пагладзіў сівыя, быццам попелам абсыпаныя, валасы, зашаптаў:

— Мама... мамачка! Родная мая! Ну не трэба, не трэба!..— Ён кусаў вусны, глытаў і глытаў горкі камяк і ніяк не мог праглынуць.

— Вокны! Вокны адчыні, сынок!

— Мама, навошта ж вокны? На вуліцы дождж, вецер,— угаворваў ён яе, як дзіця.— Ды і няможна. Ці ты забылася?..

Яна сцішылася, утаропілася ў яго пустымі вачыма. І здавалася, што яны нічога не бачаць. Потым, быццам прыгадаўшы нешта, стала горача і таропка гаварыць:

— Учора, сынок, перад заходам сонца... змрочна было так. Бацька ўсё святла прасіў... Вокны прасіў адчыніць... А як жа я расчыню іх? Выняць іх сіл маіх не хапіла... Можа, бацька і не памёр бы, калі б ты прыехаў раней і вокны адчыніў...

Натоўп заварушыўся, пачуліся глухія ўсхліпванні, уздыханні. У прыгнятлівай цішыні павіс перарывіста тонкі гук нястрымнага плачу. Арцём ступіў да дзвярэй, але ўбачыў барадатага чалавека і даў яму дарогу. Расступіліся людзі, вызваліўшы праход да труны. Барадаты і яшчэ двое незнаёмых бясшумна падышлі да нябожчыка, паставілі да яго ног вянок з робленых кветак, зялёных лісцяў, перавітых чорнай і чырвонай стужкамі, на якіх золатам ззялі словы: «Храбраму воіну і партызану на вечную памяць ад савета ветэранаў». Але не надпіс на вянку зацікавіў Арцёма, а гэты рослы грузнаваты чалавек з шырокай, як лапата, рыжавата-русай барадой, што распаўзалася па твары да самых вачэй. Быў ён змроч-

ны і спакойны, паклаў вянок, пастаяў і, ні на кога не гледзячы, выйшаў з пакоя. Арцём праводзіў вачыма яго дужую спіну, вялікую галаву з лысінай. Гардзееў...

## 9

У прыёмнай за столікам сядзела маладая жанчына і маленькай пілачкай абточвала на руках доўгія ружовыя пазногці. Крэслы з зялёнай абіўкай, столік для часопісаў і квяцісты тоўсты дыван на паркетнай падлозе выклікалі ў Арцёма захапленне. Ён, як напалоханае кацяня, заціснуўся ў кут, каб не быць на вачах. У непамерна вялікіх бацькоўскіх ботах, у цяжкой паддзёўцы, зашмальцаванай шапцы-вушанцы, Арцём адчуваў сябе дзікуном, лішнім сярод гэтай раскошы. Ён ціхенька споўз з крэсла, наважыўся выслізнуць за дзверы, але Зарудны зноў пасадзіў яго і пагразіў пальцам.

Тоўпіліся людзі, паважна, нягучна размаўлялі. Большасць з іх былі ў белых кашулях, з гальштукамі, салідныя, строгія. Калі яны зніклі за дзвярыма таямнічага кабінета з шыльдачкай «Упраўляючы», Міхаіл Іванавіч спытаў жанчыну:

— Як мне трапіць да Палікарпа Навумавіча?

Тая павярнула да яго белы, як цеста, чырванагубы твар з халоднымі сінімі вачыма. Пілачка застыла на мезеным пальцы.

— Да яго цяпер нельга,— сказала яна суха, і пілачка энергічна пабегла вакол вострага кіпціка.

— Разумееце, вельмі трэба...— не адступаў Зарудны.

— Усім трэба. Прыходзьце ў пятніцу, у яго прыёмны дзень.

— Мы з Палікарпам Навумавічам разам ваявалі.

У мяне да яго вельмі важная справа.

У жанчыны ажылі вочы, яна ўважліва паглядзела на Заруднага.

— Так бы і сказалі адразу,— страпянулася сакратарка.— Пачакайце крыху, я скажу пра вас Палікарпу Навумавічу. Вядома, калі ён зможа прыняць.

— Прыме, абавязкова прыме!..

Яны то хадзілі па доўгім пустым калідоры, то сядзелі ў прыёмнай, баючыся прапусціць Гардзеева. Абодва былі змучаны чаканнем, таму маўчалі. Зарудны толькі сказаў:

— Вялікім чалавекам стаў наш камбрыг, сынок. Нават і падысці да яго не ведаю як. Што казаць? Ці паслухае? Ці паможа? Клопатаў у яго сваіх больш чым трэба. Важнейшых за нашы.

А казаць нічога не давялося. Нячутна адчыніліся дзверы, у прыёмную выйшаў сярэдніх гадоў мужчына ў цёмным касцюме, з пышнай русай барадой, якая вольна рассцілалася па пінжаку, па чорным, у белую крапінку гальштуку, па белай, як снег, кашулі. Гардзееў сам падышоў, з сяброўскай фамільярнасцю павітаўся:

— Ну, здарова, здарова, разведчык! Як жывеш?

— Пазналі? — здзівіўся Зарудны, прыўстаючы.

Ад радасці і хвалявання Арцём таксама падхапіўся.

— А то як жа! Хочаш, каб я не пазнаў свайго партызана? А гэта хто з табой?

— Сын Апаровіча. Калі памятаеце, быў у маім узводзе такі. Мы з ім разам з палону ўцяклі, разам ваявалі.

— Прыпамінаю... Дык заходзь, паталкуем. І ты таксама, хлопчык,— ласкава сказаў Гардзееў Арцёму.

Прайшлі праз двайныя дзверы ў прасторны кабінет з ружовымі шторамі. Доўгі паліраваны стол літарай «Т». На маленькім століку пісьмовы прыбор

з наборам ручак і алоўкаў, попельніца, некалькі тэлефонных апаратаў.

— Нешта беднавата жывеш, разведчык,— зазначыў камбрыг ці то жартам, ці то ўсур'ёз, калі Заруднынаёмка вылез з кажуха і павесіў яго на вешалку ў шафе.

— Ды не... Дзякую, Палікарп Навумавіч, плакаць не прывык.

— Дык чаго ў кажусе ходзіш? Паліто пашыць трэба. Капялюш купіць напаказ — з гордасцю і шыкам. Хай людзі ведаюць, няхай зайздросцяць.

— Наконт кажуха, Палікарп Навумавіч, гэта вы правільна сказалі. Ды толькі вось прывычка ў мяне даўняя да яго. Як для салдата шынель, так для партызана кажух. У любое надвор'е і накрые, і сагрэе. Не магу без яго.

Заклаўшы рукі за спіну, Гардзееў прахаджваўся па паркетнай падлозе, на правах былога камандзіра паблажліва ўшчуваў Заруднага:

— Ладна, кажух дык кажух. Справа не ў тым. Гальштук не носіш — таксама зразумела. Не кожнаму гэта звыкла. Усё роўна як карове сядло. Куды ні павярніся — усюды цісне, трэ. А вось скажы, Міхал, чаму ты медалі і ордэны не носіш? — Гардзееў прыпыніўся насупраць Заруднага.

— Цяжкавата насіць, Палікарп Навумавіч. Да зямлі цягнуць,— пажартаваў Зарудны.

— Трэба, каб не да зямлі, а да сонца цягнулі. Каб на грудзях ззялі і звінелі. І на звон гэты спыняліся людзі і, як бывала некалі, шапкі ламалі. Нам зимны паклоп білі, геройству нашаму пакланяліся.

Зарудны сядзеў моўчкі, не перашкаджаў Гардзееву гаварыць. А калі той грузна ўмасціўся ў крэсла, сказаў:

— Не для ордэнаў я ваяваў, Палікарп Навумавіч, не для славы. І ніякі я зусім не герой. Звычайны ча-

лавек. Мільёны такіх, як я, чатыры гады рабілі перамогу. І я таксама рабіў тое, што ўмеў, што мог.

— Здзіўляеш ты мяне, Міхал! — сказаў Гардзееў.— Сціплы ты чалавек. Нічога табе не трэба. Іншыя да славы, да пашаны рвуцца, а ты вось... Ну, як бы гэта сказаць...

Ён задумаўся, пагладзіў бараду, зноў стаў замкнёна сур'ёзны.

— Ну, давай бліжэй да справы,— крута змяніў тон Гардзееў.

Зарудны нахмурыўся, нецярпліва заварушыўся на крэсле, захваляваўся, пачаў блытана расказваць:

— Бяда здарылася, Палікарп Навумавіч... «Дзеда», ну таго, які ў пушчу... у блакаду тады муку пераправіў...

— Які дзед? Якая мука? Толкам расказвай,— нецярпліва перапыніў яго Гардзееў.

— Мянушку мы яму такую далі... нашу, партызанскую.

— Каму гэта — яму?

— Апаровічу. Пятру Апаровічу.

— Што ты ўсё ходзіш кругамі? Мы ж з табой не на вайне. Дык давай ужо напрамую, як ёсць,— падахвоціў Гардзееў.

— Забралі яго па даносу ці па падазрэнню якому, ніхто нічога не ведае.

— Каго забралі?

— Разведчыка гэтага, Апаровіча. Памятаеце, такі хударлявы, рослы?

— Дык гэта той, паддубінскі Дзед?

— Ён самы, Палікарп Навумавіч.

— Здаецца, памятаю...

— Атрымалася памылка нейкая, Палікарп Навумавіч. Апаровіч працаваў па нашаму заданню.

Арцём, затаіўшы дыханне, уважліва слухаў расказ Заруднага пра бяду, якая спасцігла яго бацьку.

Вачыма, поўнымі надзеі, сачыў ён за выразам твару Гардзеева, спрабаваў улавіць у ім калі не жаданне памагчы, то хаця б спачуванне. Але камбрыгаў твар наглуха замкнуўся, быццам застыў. Ён упарта маўчаў, нешта думаў, потым прамовіў:

— Я веру, што Апаровіч працаваў на нас. Але хто можа даць гарантыю? Я? Патрэбны факты яго невіноўнасці. А дзе яны? У мяне іх няма. І ў цябе, разведчык, таксама няма.

— Але ж у нас ёсць факты, што Пятро працаваў на нас. Хіба гэта не доказ?

— Арыштавалі яго, думаеш, так... без доказаў? Без усялякіх на тое падстаў? Слізкая, відаць, тут справа. З якога канца ні вазьміся за яе, выслізне, як уюн.

Гардзееў стаў абгладжваць бараду, другой рукой размерана пастукваў алоўкам. Зарудны нізка прыпаў да стала, нібы ў чорным люстры яго спрабаваў разгледзець свой твар.

— Увогуле, трэба пашукаць яшчэ людзей. Калі Апаровіч невінаваты — яго адпусцяць, калі вінаваты — пакараюць. Што датычыць мяне, то я абяцаю табе высветліць усё і, калі будзе хоць маленькая магчымасць, вырашу пытанне станоўча.

— Апаровіч быў разведчыкам у маім узводзе, і я не пакіну яго ў бядзе,— цвёрда сказаў Зарудны.— Як бы там ні было, а я паеду на Вялікую зямлю. Праўду шукаць паеду.— Ён ціха і павольна ўстаў з-за стала і накіраваўся да шафы, дзе вісеў кажух.

— Толькі не гарачыся. А калі ты памыляешся?

— Падумаў... Перш чым да вас ісці, Палікарп Навумавіч. Вельмі добра падумаў.

— Могуць быць непрыемнасці. Сам разумееш,— мякка пераконваў Гардзееў.

— Горш за тое, што было на вайне, не будзе,— адказаў Зарудны.— А баяцца мне няма чаго.

Гардзееў разваліста, парыпваючы паркетам, наблізіўся да Заруднага, па-сяброўску паклаў яму руку на плячо і, гледзячы проста ў вочы, прамовіў:

— Давай паразважаем, Міхал. Усе мы франтавікі, партызаны, падпольшчыкі, адным словам, тыя, хто ваяваў, жывём у мінулым. Мы ўсё яшчэ там, дзе вайна... як быццам на іншым канцы жыцця. І разважаем, і працуем, і ствараем — усё ў мінулым. І ўчынкі людзей звяраем па мінулым. Надта шмат на тым далёкім канцы жыцця засталося нашай крыві і пакут... А жыццё абышло, абагнала нас і стала развязваць, разблытваць вузлы, якіх, ох як многа, навязала гэта вайна.

— Пры чым тут Апаровіч? — не вытрымаў Зарудны.

— Пры тым, Міхал, што, магчыма, і ён навязаў вузельчыкаў у сваёй партызанскай біяграфіі. Толькі раней ніхто не ўгледзеў іх. Часу для гэтага не было. А цяпер вось заўважылі.

— Вы хочаце сказаць, што Апаровіч...

— Я гэтага не сказаў. Я толькі мяркую... Ты, як і я, для ўсяго горада аўтарытэт. Партрэт твой на гарадской Дошцы пашаны. Я вось нядаўна быў у адной школе на ваеннай гульні. Дык хлапчукі маім і тваім імем камандзіраў сваіх называюць. Во як, голубок мой!

— Вы ўжо прабачце, Палікарп Навумавіч, што я па прастаце сваёй вясковай патурбаваў вас... Але я паеду... Усё роўна паеду... І пісаць буду.

— Ну вось жа ўпарты які,— нездаволена хмыкнуў Гардзееў,— я ж табе паабяцаў, што пастараюся вывучыць гэтае пытанне. Калі трэба будзе, умяшаюся. Я ніколі не даваў і не даю ў крыўду сваіх партызанаў. І пастараюся, каб Апаровіча не пакрыўдзілі дарэмна. Я не маю права па асабістых схільнасцях, сімпатыях ці антыпатыях вырашаць такія пытанні.

Перш чым штосьці сказаць ці зрабіць, я павінен сто разоў падумаць. Я — чалавек дзяржаўны.

— Вось пра гэта я якраз і не падумаў, Палікарп Навумавіч...— ціха сказаў Зарудны.

Гардзееў выйшаў праводзіць іх. Арцём бачыў, як мякка, павольна, нячутна ішоў Зарудны па дывановай дарожцы. Твар яго быў напружаны і змрочны. Ён маўчаў і быццам не чуў Гардзеева, які ўсё гаварыў і гаварыў, ці то разважаў, ці то апраўдваўся перад Зарудным:

— Нядаўна ў газеце пісалі... можа, чытаў? Дырэктара школы аднаго судзілі. У вайну быццам сувязным быў, а як аказалася на самой справе, правакатар, немцам нашых людзей прадаваў. Як бачыш, шыла ў мяшку не схаваеш. Вось якія людзі ёсць. У душу кожнаму, як у калодзеж, не заглянеш. Ці табе расказваць пра гэта?!.

Ля дзвярэй на развітанне Гардзееў падаў руку і сказаў шматзначна:

— Калі трэба што яго сям'і — звяртайцеся, памагу заўсёды.

Пры выхадзе Зарудны паслізнуўся на абледзянелых прыступках, паваліўся, недарэчна падагнуўшы пад сябе нагу. Арцём кінуўся падымаць яго. Той зморшчыўся ад болю, ледзь устаў, вылаяўся:

— Каб яна адвалілася, праклятая! Лепш бы яе тады зусім адбілі! Як яна ўжо абрыдла мне!

— Навошта вы так на самога сябе? Не трэба,— з ласкавым спачуваннем угаворваў яго Арцём.

— Баліць, не горш за зуб. Асабліва ў сырое надвор'е. Ну прама ратунку няма.

— Дзе вы яе так?

— На вайне, сынок... На ёй, на праклятай.

Зарудны з дапамогай Арцёма дакульгаў да лаўкі насупраць суседняга будынка, сеў, шумна і цяжка дыхаючы, прамовіў:

— Пачакаем трошкі, няхай боль сунімецца.

— Як гэта здарылася, Міхал Іванавіч? Калі?

— Тады, калі ты яшчэ нават пехам пад стол не хадзіў,— нязлосна адмахнуўся Зарудны.

— Мне хочацца ўсё пра вас ведаць.

— Глядзі ты, які цікаўны. А ці ведаеш ты, што цікаўнай Варвары нос адарвалі? Навошта табе пра мяне ведаць?

— Цікава! Гардзееў вунь як пра вас гаварыў. А я і не ведаў, што вы такі.

— Гардзееў ярка свеціць. Але ад гэтага святла ні холадна, ні горача,— сумна заўважыў ён. Сагнуўся, патрымаў рукой за ступню, адваліўся на спінку лаўкі, уздыхнуў, сказаў: — З нагой гэтай маёй, сынок, цэлая гісторыя выйшла... Як цяпер памятаю той востраў.

— Які востраў?

— Багун... Багун, сынок. Жанчын і дзяцей мы хавалі на гэтым востраве ў блакаду. Навокал багны былі непралазныя. Некалькі дзён немцы яго бралі боем. Узялі, вядома, заслон у нас там невялікі быў. Адбілі мы яго, ды было позна. Ніводнай жывой душы не засталося. Але Варка, адна Варка засталася жывая. І якім цудам — ніяк не зразумею. Знайшлі мы яе прывязанай калючым дротам да сасны. Васемнаццаць асколачных і кулявых ран налічылі. Да апошняга патрона адбівалася.

— Хто яна, Варка гэта?

— Простая дзяўчына. Аднекуль з-пад Віцебска. У Маскве закончыла спецшколу. Кінулі яе ў нашы лясы на дыверсійную работу... Вынеслі мы яе тады на базу. Бабы травамі адпайвалі і залечвалі. Праз тыдзень яна апрытомнела і хлеба папрасіла. А дзе яго ўзяць, той хлеб? Ні крошкі. Кару з дрэў елі, рамяні ад конскай збруі... А Варка, наша Варка свае вачаняты нябесна-сінія адкрые і хлеба просіць: мне б,

кажа, толькі панюхаць хлебную скарыначку. Я, кажа, забылася, як пахне хлеб. Не мог я больш гэта чуць. Адпрасіўся ў камандзіра, узяў з сабой Змітрака — падрыўнік у маім узводзе быў, сапраўдны сарвігалава, надта смелы хлопец. На коней мы з ім і — у Паддубіна. Пад раніцу дабраліся да вёскі. Ужо халады моцныя стаялі, марозіла. Але дрэвы яшчэ не абляцелі. Нам гэта на руку — не так прыкметна... Пакінуў я Змітрака з коньмі ў хмызняку, а сам цераз бульбяное поле да твайго бацькі. Хата яго з краю была, бліжэй за іншыя да лесу. Сагнуўся ў тры пагібелі, бягу крадком. Спыняюся, прыслухоўваюся. Цішыня навокал. Нават сабакі не брэшуць. Пад дрот пралез і да хаты. Па дамоўленаму знаку ў акно пастукаў. Бацька дзверы адразу адчыніў... Сядзім, агню не запальваем, самасад смалім. Пра Варку расказваю я. Маці твая на стол сняданак збірае.

«А да каго ты пойдзеш па хлеб? — пытаецца бацька.— У кожнай хаце немцы».— «Не магу я ў атрад вярнуцца з пустымі рукамі»,— кажу. «Навошта табе з пустымі рукамі вяртацца,— кажа ён і хітравата ўсміхаецца.— Нясі, Ганна, тую, што ў кладоўцы».

Гляджу, цягне яна нешта ў мяшку і перада мною ставіць. У цемры не разабраць. «Што гэта?» — пытаюся я. «Мука,— кажа бацька.— Апошняя. Больш нічога няма. Хоць шаром пакаці».— «Ну, а вы як жа?» — «Як бог дасць»,— уздыхнула твая маці...

Узваліў я мяшок на плечы і назад. Іду і ні аб чым не думаю. Толькі Варку бачу перад сабой, з ёй гавару. Ну і забыўся пра гэту калючую агароджу. Цемра была — хоць вока калі. Уліп я ў гэты дрот, як муха ў павуцінне. Банкі, шклянкі розныя, што віселі на ім, так і зазвінелі на ўсе галасы. Немцы пальбу адкрылі. Ледзь-ледзь выблытаўся і да лесу. Паўзу, мяшок за сабой цягну, а лес яшчэ далёка. Мог

бы падняцца ды бегчы, толькі дзе там? Скосяць кулямі... Мінут праз пятнаццаць чую: бацвінне бульбяное аб боты шархаціць. Ідуць, значыць. Яшчэ далёка, але ідуць. І сэрца ў мяне абарвалася. Усхапіўся я і — бегчы. Мяшок да зямлі гне, ногі ў бацвінні блытаюцца. Слабасць у іх такая, што ўсё роўна як з ваты зроблены, гарачы пот твар залівае... А галасы ўсё бліжэй. Злосць мяне разабрала. Залёг я—і яны. А тут ужо світаць пачынае. Вось-вось цемра развеецца. Падымаюся — і зноў бегчы. Кусты ўжо блізка, дзе Змітрок мяне чакае. Толькі раптам у нагу кальнула нешта, ды так балюча стала, што на міг прытомнасць страціў: ну, думаю, адваяваў, Міхал. Маці шкода, сваіх шкода і Варку таксама. Думаю, хлеба яна не паесць. Усё роўна паўзу і мех за сабой валаку. Кулі вакол мяне, як жукі, шмяк ды шмяк... І тут голас твайго бацькі: «Мы яго жывым возьмем!» Страляніна і спынілася адразу. Здагадаўся ён, як немцаў падмануць, і даў мне час да лесу дайсці. А мне толькі гэта і трэба. Яшчэ метраў трыццаць паўзці давялося на пузе, а тут Змітрок ужо чакае. Здаровы хлопец быў. У адну руку мяшок з мукой, другой — мяне падхапіў, як куль на плечы ўзваліў, і да коней... Уцяклі мы. Шукай ветру ў полі.

— А з Варкай вашай што, Міхал Іванавіч?

— Варка выжыла. І цяпер жыве. Толькі хлеб тады здаўся ёй горкім, сынок... А нага мая, каб на яе ліха, да гэтага часу спакою не дае... Вось, здаецца, адышла, пакуль мы гаварылі, можна ісці.

Яны ўсталі — маўклівыя, невясёлыя — і нетаропка пайшлі дадому.

## 10

Калі мінулі двухпавярховы дом, што патанаў у казачна-прыгожым зімовым парку, і выйшлі на вуліцу, ужо вечарэла. Далёка за горадам, на небасхіле, нарадзілася першае воблачка, якое доўга стаяла над полем, быццам драмала. Арцём спыніўся, з пачуццём горкай журбы доўга наглядаў за ім. Павольна растае пяшчотна-ружовая яго тканіна... Скрозь яе праступае самотнае аблічча маці ля труны. Сухенькая, невялікага росту, з маленькімі худымі рукамі, якія нерухома звіслі з каленяў. І калі б не травяніста-попельны бляск валасоў на яе галаве і старэчая, у зморшчынах, шыя, яе можна было б прыняць за дзяўчынку-падлетка, пакрыўджаную некім. Арцём у думках сваіх нібы бачыць адразу дзвюх маці. Адну тут, якая сядзіць каля нябожчыка, другую там, у незваротным мінулым. І тонкая нітка памяці, як сцяжынка, павяла, пацягнула — у той далёкі час.

...Маці ўстае вельмі рана, ідзе ў горад шукаць работу. Арцём, паснедаўшы бульбаю, улазіць у бацькоўскія боты і паддзёўку і бяжыць у школу. Уладзік застаецца з сястрычкай. У абед Арцём вяртаецца, сячэ яловы сушняк, распальвае настылую печ, рыхтуе няхітрую ежу. Надвячоркам прыходзіць маці. Некалі прыгожы твар яе пабраўся маршчынамі, схуднеў. У куточку рота пралеглі горкія складкі, стомленыя вочы рэдка ўсміхаюцца.

— Ну што ты, мама? Не думай... Як-небудзь пражывём,— суцяшаў яе Арцём.

— Як жа мне не думаць, сынок? Я табе не ўсё расказала...

— А што? Цябе не ўзялі на работу з-за нас? — схамянуўшыся, спытаў Арцём і адчуў, як нешта ўдушліва сціскае грудзі, быццам у хаце зусім няма паветра і яму няма чым дыхаць.— А ты б іх падма-

нула, мама! Каб яны не ведалі пра нас,— раіць ён, як дарослы.

— Ды як жа я магу, сынок, сказаць, што вас у мяне няма? Язык не павярнуўся б.

Арцём кідаецца на палаці, нырае галавой у падушку, зарываецца ў яе, каб маці не чула яго рыданняў.

— Хопіць, сынок, хопіць. Я табе не ўсё яшчэ расказала. Усё добра абышлося. Успомніла, як ты гаварыў, што Гардзееў абяцаў памагчы, калі ўжо вельмі трэба будзе. Праўда, не хацелася мне ісці да яго. Ведаю, сыты галоднаму не спагадае. Але пайшла. Суняла сваю гордасць і пайшла. Прыняў ён мяне добра, нават чаем пачаставаў і на работу ўладкаваў.

— Куды, мама? — адарваўся ён ад падушкі.

— А ў бальніцу, сынок. Работа чыстая і не цяжкая, і паесці можна.

— А пра тату што ён сказаў?

— Сказаў, што клапоціцца...

— Мама, і я пайду на работу! — з радаснай гатоўнасцю выпаліў Арцём.— Паглядзі, які я вырас... Як бацька ўжо.

— Высокі, сынок, ды кволы. Рана табе яшчэ на работу. Ды і хто цябе возьме? Вучыцца трэба, сынок. Невучонаму цяжка цяпер жыць. Будзеш потым, як твой бацька,— грузчыкам, а мяне дакараць станеш, маўляў, не вывучыла цябе, на дарогу верную не паставіла.

— Мама, мама, мамачка! Не буду. Далібог, не буду! Я ў школу і праўда не хачу, ой як не хачу, калі б ты толькі ведала!

У поглядзе яго такая мальба, быццам ад таго, што скажа маці, залежыць яго лёс.

— Я, мама, Зосіма ненавіджу. Я не магу яго бачыць! Ён глядзіць на мяне так, быццам я ў яго штосьці ўкраў. І прыдзіраецца да мяне на ўроках.

— Нічога, сынок. Пацярпі. Будзе і на нашай вуліцы свята. А на Зосіма не глядзі. Калі вырасцеш, пагаворыш з ім, як роўны з роўным. Хоць і нядобраму я цябе вучу, але крыўду, сынок, не трэба забываць.

— Як жа ў школу мне, мама... Ісці ці не ісці?

— Ідзі, сынок. Абавязкова ідзі. І вучыся толькі добра, каб іншыя зайздросцілі.

І ён назаўтра з падручнікамі і сшыткамі, з акрайчыкам чорнага хлеба ў кішэні панура пайшоў у школу.

Надвор'е стаяла хмарнае, але цёплае. Снег на вуліцы ператварыўся ў вадзяністую кашу. Месцамі чорнымі бакамі агаліліся каля Куцеенкі абрывістыя берагі. Арцём адолеў сцежку, што вызвалілася з-пад снегу, выйшаў да шашы. І, трымаючыся ўзбочыны, каб машыны не заляпалі гразёю, паскорыў крок. Насустрач чарадой цягнуліся падводы, гружаныя макухай. Сяляне вазілі яе з хлебазавода на корм скаціне. Схуднелыя за зіму коні надрываліся з апошніх сіл, цягнулі па мокрым пяску калёсы. Мужчыны паганялі іх сярдзіта, секлі пугамі па худых баках і смачна, нараспеў мацюкаліся.

Арцёму было шкада коней. Хацелася кінуцца на возчыкаў, адабраць гэтых замучаных жывёлін. І ён раптам уявіў сябе на чале гарэзлівых, бясстрашных задняпроўскіх хлапчукоў. Уявіў, як яны падпільноўваюць гэтыя фурманкі і налятаюць на возчыкаў з вясёлым гіканнем і свістам, звязваюць і піхаюць у канаву. Потым адразаюць папругі, адсякаюць аглоблі, сядлаюць коней і імчаць у вольнае поле. Коні, вызваленыя з хамутоў і збруі, ляцяць з радасным іржаннем, хутка, як стрэлы. Зялёным агнём ззяюць іх дзікія вочы, развяваюцца на ветры хвасты і грывы...

Клас сустрэў Арцёма шматгалосым і бесклапотным шумам. Але галасы не закраналі яго, не даходзілі да душы. Ён ведаў, што аднакласнікі не хінуліся

да яго, бо адны баяліся, другія недалюблівалі, трэція проста не хацелі з ім звязвацца. І ростам і сілай Арцём апярэдзіў іх, але быў маўклівы і замкнёны.

Раптам Арцём пачуў пах белага хлеба. Ён павярнуўся і ўбачыў справа ад сябе дзяўчынку, якая апетытна ўплятала пульхную, як яе тварык, абсыпаную макам булачку. Ён праглынуў сліну, успомніў пра чэрствы акрайчык хлеба, які застаўся ў кішэні світкі, і пашкадаваў, што не схаваў яго ў парту. Ён стаў марыць пра цёплы пахучы хлеб, што дзесьці ляжаў у магазінах. Уяўляў сабе такі малюнак: вось ён вяртаецца са школы і знаходзіць грошы. Шмат грошай. Ён адразу ж пабяжыць у магазін, накупляе хлеба, прынясе дадому. Уладзік закрычыць, схопіць мяккі, яшчэ цёплы бохан і ўп'ецца ў яго зубамі. А потым прыйдзе маці, таксама парадуецца і будзе есці хлеб гэтак жа спакойна і акуратна, як, бывала, еў бацька.

Арцём так задумаўся, што не заўважыў, як у клас увайшоў настаўнік, як усе ўсталі, прывіталі яго, як пачаўся ўрок.

— Адкажы мне, Апаровіч, як пішацца «не» з прыметнікам «шчаслівы».

Арцём ачнуўся, падхапіўся, утаропіўся на настаўніка. «Чаму Зосім? — здзівіўся ён.— Па раскладу ж павінна быць нямецкая мова?»

— Ты што, не чуў пытання? — павысіў голас настаўнік і, не дачакаўшыся адказу, звярнуўся да класа: — Пра такіх, як Апаровіч, ёсць вершык: «Паміж небам і зямлёй парасёнак віўся і замурзаным хвастом к небу прычапіўся».

Дружны рогат пракаціўся ад парты да парты і нібы варам абдаў Арцёма. Ён імкліва выбег з класа.

Прабадзяўшыся да вечара, прыйшоў дамоў стомлены, галодны і злы. Там яго ўжо чакаў дырэктар школы — высокі даўгатвары мужчына гадоў пяцідзесяці, з постаццю тонкай, як у падлетка, па мянушцы

«Калі ласка». Колькі ведае яго Арцём, той заўсёды хадзіў з тоўстым чорным партфелем і карычневай кавенькай з набалдашнікам у форме ашчэранай сабачай пашчы. Тулава ён трымаў прама, высока ўскідваў падбародак. Пры сустрэчы з вучнямі вітаўся ласкава, заўсёды прыўзнімаў капялюш і нахіляў галаву. І да дарослых і да дзяцей ён звяртаўся толькі на «вы». Непрыязнасці да дырэктара Арцём ніколі не меў. Наадварот, ён нават падабаўся яму сваім дзівацтвам і тым, што быў не падобны да іншых настаўнікаў.

Але цяпер Арцём спужаўся і хацеў ужо кінуцца назад, як адчуў на сабе погляды — спачувальна-ласкавы маці і засяроджана-нахмураны дырэктараў, і прыхінуўся да дзвярэй.

— Ну што вы, хлопчык мой, такі нецярплівы? — спытаў Калі ласка.— Я чуў, вас пакрыўдзілі сёння?

— Я вам не скардзіўся. Адкуль вы ведаеце?

— Як дырэктар я павінен усё ведаць,— растлумачыў ён.

— Навошта вы прыйшлі да нас? — спытаў Арцём, усё яшчэ ў стане насцярожанасці і непрыязнасці.

— А за тым, каб папрасіць прабачэння ў вашай маці за ўчынак настаўніка і вярнуць вас у школу.

— Не пайду я! — недаслухаўшы, запярэчыў Арцём.

— Чаму?

— Перавядзіце мяне ў іншы клас,— папрасіў Арцём,— туды, дзе няма Зосіма.

— З ахвотай. Але ж вы ведаеце, што Зосім Сцяпанавіч выкладае мову ва ўсіх класах.

— Тады не пайду!

— Ну, не... З гэтым я не згодзен. Калі ласка, прыходзьце. Вельмі прашу вас, прыходзьце,— угаворваў яго дырэктар ласкава і настойліва, а потым сказаў маці: — Трэба, каб хлопчык наведваў школу. Абяцаю

вам, што гэтага больш не паўторыцца. А ўчынак настаўніка мы разбяром на педагагічным савеце.

— Я хачу, каб ён вучыўся. Але прымушаць сына не буду. Няхай сам вырашае.

— Шкада, шкада,— пахітаў галавой дырэктар.

— Вы ж ведалі раней, які ён у вас, гэты настаўнік,— з ледзь прыкметным дакорам сказала маці.

— Ведаў, вядома... але ж бачыце... заслужаны чалавек... узнагароды мае.

— Па мне што? А вось ён,— кіўнула маці на Арцёма,— якую будзе мець карысць ад такой вучобы?

Дырэктар маўчаў. Маўчала і маці, прытуліўшыся спіной да печы, потым спыталася:

— Чаму ён у вас такі, настаўнік гэты?

— Ды разумееце...— пачаў тлумачыць дырэктар і замоўк.

— Дзеці ж ні пры чым,— сказала маці.

— Вы кажаце праўду. Але звольніць яго мы не можам. Разумееце? Вось і даводзіцца ўсяму калектыву несці гэты цяжкі крыж.

Дырэктар устаў, насунуў капялюш, зашпіліў плашч, узяў партфель, яшчэ раз папрасіў Арцёма прыходзіць у школу, на развітанне сказаў «Калі ласка» і пайшоў.

Арцём абяцаў вучыцца, але на настаўнікаў і асабліва на Зосіма затаіў крыўду.

Пасля заняткаў у школе ён бадзяўся каля прадуктовага магазіна, дзе бывала шмат рознага люду. Аматары выпіць скідваліся тут па рублю на таннае віно. Сяляне з бліжэйшых вёсак куплялі маргарын, ліверную каўбасу, селядцы. Як хваля прыбівае да берага ўсялякае смецце, так прыбівала сюды падазроных асоб, неахайна апранутых маладых хлопцаў. Яны падоўгу тоўпіліся ў магазіне, уціраліся ў чаргу, кралі ў разявак кашалькі з грашыма. Як толькі паказваўся міліцыянер, хлопцы нібы скрозь зямлю

правальваліся. Каля магазіна часцяком аціраўся Донька-дурненькі, які кожнаму сустрэчнаму расказваў пра вынайдзены ім вечны рухавік. Хадзіў ён у цяжкіх чаравіках, ногі да каленяў былі абкручаны салдацкімі абмоткамі. У любое надвор'е — без шапкі. Светла-русыя валасы яго былі заўсёды ўскалмачаны, на худым тонкім твары з цёмным пушком на падбародку таямніча свяціліся мяккага блакіту вочы.

Арцёму падабалася гэтае вясёлае месца. «Хлапец, скокні па гарэлку», «Прынясі-тка, малец, закусь»,— сыпаліся бясконцыя просьбы. Арцём стараўся. Да вечара ў яго кішэні набіралася нямала медзякоў. За паслугу сяляне часта давалі вялікія скрылі сала, акрайцы хлеба, недаедзеныя кансервы. Але з наступленнем разводдзя не стала прыезджых вяскоўцаў, знікла падазрона блатная кампанія. Толькі Донька-дурненькі па-ранейшаму чапляўся да кожнага сустрэчнага з назойлівым расказам пра вечны рухавік.

Каля магазіна Арцём больш не паяўляўся, стаў хадзіць на рынак. Аднойчы ён cноўдаўся ля гандлёвых радоў з надзеяй раздабыць некалькі рублёў. Мычалі каровы, вішчалі ў цесных клетках парасяты, пранізліва бляялі козы, глядзелі з вазоў сумнымі вачыма авечкі, круціліся цыганы каля каня незвычайнай прыгажосці. У марозным паветры плаваў едкі пах жывёлы. Нейкі мужчына паклікаў Арцёма, падаў вядро, папрасіў напаіць каня. За гэта Арцём атрымаў траяк. Назаўтра ён прыхапіў з дому вядро і зноў рушыў на базар. Цэлы дзень насіў копям ваду. Сяляне плацілі колькі хто мог: рублямі і нават траякамі. Вечарам ён вярнуўся дамоў з уласным заробкам. Цяпер у Арцёма была свая работа.

Але неўзабаве ён захварэў: распацелы, напіўся ледзяной вады з калонкі. Маці напаіла яго ліпавым адварам, перад сном нацёрла карасінай, загарнула ў кажух, паклала на гарачую печ.

## 11

У мёртвую цішыню хаты ўвінчваецца тонкі назойлівы гук, выводзіць Арцёма з глыбокай задуменнасці. Ён нібы прачынаецца і ўжо бачыць сябе не на печы хворым, а ля труны бацькі, над якой кружыць вялікая восеньская муха, і гудзе, і гудзе. Гэта назойлівае гудзенне прыводзіць Арцёма ў шаленства. Яму хочацца злавіць яе, без жалю растаптаць. Але ногі здаюцца незвычайна цяжкімі, у яго не стае сіл, каб скрануцца з месца, быццам ступакі прыбіты да падлогі.

А муха зрабіла яшчэ некалькі кругоў пад столлю, нібы развіталася з нябожчыкам назаўсёды, і раптам ударылася ў твар тоўстай жанчыне, што застыла нерухома, і вылецела вон. Жанчына хіснулася назад усім целам. Арцём адразу пазнаў родную сястру маці, цётку Марфу. Яна зусім не змянілася з той пары, як яе апошні раз бачыў Арцём. Тое ж іканапіснае аблічча, тыя ж чорныя як смоль валасы, з вільготным бляскам вочы. Толькі цела яе непамерна раздалося ўшыркі, туга выпірала з-пад адзення.

Арцём пільна ўглядаецца ў твар Марфы і не бачыць яго. Міжволі прыгадваецца той далёкі дзень, калі ён у ліхаманцы курчыўся на гарачай печы.

— Пацярпі, пацярпі, сынок. З потам хвароба выходзіць. А можа, схадзіць таблетак якіх папрасіць?

— Нікуды не хадзі, мама, сам папраўлюся,— засмяглымі вуснамі шэпча Арцём.

— А можа, да Міхала Іванавіча?

— Не трэба... Сорамна да яго. Ён і так шмат для нас зрабіў.

— Паеду тады ў горад, там і куплю што-небудзь.

— Не трэба, мамачка. Ты забылася, грошай жа ў нас ні капейкі... Я апошні час нічога не прыносіў.

— Так-так, сынок, але дасць бог, паправішся. На тым тыдні да Марфы сходзім. Не адмовіць жа яна нам, пазыча грошай. Сястра ж як-ніяк.

— Да Марфы можна, мама,— згаджаецца Арцём.

Як толькі Арцём паправіўся, яны з маці пайшлі да цёткі Марфы. Па-вясноваму гразкая вуліца прывяла іх да хаты, якая непрыветна глядзела на свет цёмнымі вокнамі. Як чужых сустрэла іх цётка Марфа. Па халодна-замкнёнаму твару яе, як дробныя хвалькі на воднай роўнядзі, перабягалі незадаволенасць і абыякавасць. Ад веснiц да сенцаў нетаропка, развалiста несла яна сваё вялікае, яшчэ не сапсутае рыхласцю цела. За ёй, баючыся паслізнуцца, часта ступала маці, а ўслед неахвотна валокся Арцём. Усе трое акунуліся ў цёмны змрок сенцаў і вынырнулі ў светлым прасторным пакоі. Чужое жытло дало ў нос Арцёму нафталінам і старым адзеннем, церпка-салодкім душком, які ішоў ад мяшэчкаў з травамі і вязанак сухіх грыбоў, што віселі ў кутках пад столлю.

Марфа не запрасіла прысесці, не нарэзала хлеба. А як думаў Арцём пра хлеб! Усё роўна пра які — чорны ці белы. Здавалася, ён сам па сабе, як гэта бывае ў казках, павінен паявіцца на абрусе-самабранцы, нарэзаны вялікімі лустамі, з непаўторным, ні з чым непараўнальным пахам. Але дзіцячае галоднае ўяўленне Арцёма не кранала сытую душу цёткі Марфы. Моцная круглая рука яе саслізнула з тлустых каленяў у шафку і, замест такога жаданага хлеба, выцягнула мяшэчак. Кароткія тоўстыя пальцы развязалі яго, набралі шчэпці сушаных яблык і кінулі ў рот.

— Частуйцеся, дактары кажуць, трэба есці, каб жывот не балеў.

— Дзякуй богу, я на гэта не скарджуся, сястра. Арцём калі хоча, няхай пасмакуе. Дзеці — яны любяць садавіну.

Ён і рад быў бы працягнуць руку да мяшэчка, зарыцца ўсёй пяцярнёй у пахучую мякаць, напхаць у кішэні, набіць перапоўнены слінай рот. Але рукі нібы анямелі, не служылі яму.

— Пятрок піша? — з робленай цікаўнасцю пытае Марфа.

— А што ён будзе пісаць?

— Як гэта што? Ён жа не чужы табе.

— Колькі б ён ні пісаў, мне ад гэтага не лягчэй. Дзецям бацька патрэбен.

Горкія словы маці ціха падаюць у нямую пустэчу пакоя, не выклікаючы на твары Марфы ніякіх пачуццяў... Зубы яе старанна пераціраюць яблычную мякаць.

— Дзяцей і ў прытулак аддаць можна.

— Што б ты сказала, каб у цябе свае былі?

— Мне і без іх добра: клопатаў менш.

— Яно і відаць.

Нетрывала звязаная гамонка рвецца, як павуціна. Яшчэ больш злавеснай становіцца цішыня ў пакоі. Толькі словы Марфы, абыякавыя, жорсткія, балюча, як камень, б'юць Арцёма па галаве.

— Выходзь лепш замуж,— раіць Марфа.

І ўжо не ў галаву, а ў сонечнае спляценне б'юць гэтыя словы Арцёма. Твар маці слаба кранае горкая ўсмешка.

— А чаго па ім сохнуць, чакаць яго?

— Пятрок не вінаваты. Ды яго ж яшчэ і не судзілі.

— Каб быў не вінаваты, не забралі б.

І зноў Марфіна рука варушыць пальцамі, набліжаецца да мяшэчка.

— Я да цябе не так прыйшла,— мяняе маці гамонку.

— А чаго ж ты хацела?

— Пазыч грошай.

— Якія ў мяне грошы! Сама ведаеш, перабіваюся з капейкі на капейку.

— Ну, няма дык няма... Што ж зробіш. Даруй, сястра, калі так,— устала маці з цёмным, як ноч, тварам і накіравалася да дзвярэй.

— Не крыўдуй, Ганна, няма ў мяне цяпер. Пазней, можа, як. А наконт замужжа падумай. У мяне на прыкмеце ёсць адзін, магла б пазнаёміць.

Кінутыя Марфай услед словы сякуць Арцёма, як пугай па спіне, па твары, па галаве. І здаецца яму, што ад гэтых хлёсткіх удараў ускіпаюць на целе барвовыя рубцы, сочацца крывёю.

— Дзякуй, Марфа, толькі я свайго дачакаюся,— нават не павярнуўшыся, адказвае маці.

У той дзень яны абышлі амаль усіх родзічаў. Ім спачувалі, давалі парады, як жыць далей, але ніхто так і не памог. Больш за ўсё Арцёма ўразіла, што яны не верылі — бацька не вінаваты.

Дома ціха плакала маці, хавала слёзы, гаварыла:

— Не, нікуды я вас не аддам. Памру, а не аддам.

Раніцой Арцём устаў, калі ўсе яшчэ спалі, апрануўся, выйшаў на двор, узяў у хляве кошык і рушыў да калгаснага поля, дзе летась расла бульба. Дзьмуў пранізлівы, але ўжо не зімовы вецер. Высока ўзнімалася сонца, і снег, які месцамі ляжаў на раллі, нагадваў Арцёму цукар. Сыта пахла адталае поле.

Правальваючыся ў размяклую зямлю, Арцём хадзіў да таго часу, пакуль не назбіраў поўны кошык перамерзлай бульбы. Маці была рада. Яна перабрала бульбіны, перацерла са жменяй мукі, напякла праснакоў. Арцёму тады здалося, што на свеце няма нічога больш смачнага за гэтыя праснакі. І смак і пах ён запомніў на ўсё жыццё.

На другі дзень маці дастала з куфра свае адзіныя, ні разу не абуваныя туфлі, палюбавалася на іх колькі хвілін.

— Навошта ты іх дастала? — здзівіўся Арцём.

— Прададзім іх, сынок, грошы будуць,— уздыхнула яна.

— Яны табе самой патрэбны, мама.

— Бацька мне падарыў іх у дзень нараджэння. Але нічога, наступіць час, вернецца, падорыць другія.

— Сама прадавай, а я не панясу,— нахмурыўся Арцём.

— Дурненькі,— ласкава сказала маці,— за іх жа людзі грошы дадуць. Пайшла б сама, але, здаецца, захварэла я.

У доме і сапраўды было пуста. Прадаваць туфлі трэба. Арцём загарнуў іх у чыстую анучку, паклаў у сумку і пайшоў на базар. Там было шматлюдна. Арцём нырнуў у чалавечы натоўп, выбраў сабе зручнае месца, засунуў руку ў сумку і знямеў: туфляў не было. Арцём у роспачы трасе сумкай, але дарэмна — яна пустая. Адчай, разгубленасць, злосць захліснулі яго.

— Укралі! Укралі, гады! — закрычаў ён.

Людзі кінуліся да яго, загаманілі:

— А чаму такі разява, хлопец?

— Навошта цябе матка аднаго на базар выправадзіла?

— Трэба міліцыянера паклікаць, няхай шукае.

Арцём горка плача і нікога не бачыць. Да яго падыходзіць расхрыстаны мужчына ў калматай шапцы, абдымае за плечы, гудзе на вуха прастуджаным басам:

— Ты мне скажы, хлопча, што ў цябе ўкралі?

Арцём глядзіць яму ў твар, сустракаецца з яго трывожна-спагадлівым поглядам, халадзее ад страху: гэта ж Ярома! Дзядзька Ярома. Пазнае і маці ўсё раскажа.

— Туфлі матчыны.

— Адразу бачна — не з раскошы прадаеш.

Арцём яшчэ ніжэй згінаецца ад сораму і гора, а больш ад страху, што Ярома раскажа маці, як укралі ў яго туфлі. Але той не пазнае Арцёма, здзірае з сівой галавы шапку, выцягвае з кішэні некалькі пакамечаных рублёў, кідае ў яе, крычыць:

— Гэй, народ! Кладзі, колькі хто можа, мальца абакралі!

Людзі спыняюцца, зразумеўшы, што да чаго, таропка падыходзяць. Да шапкі цягнуцца рукі.

— Стоп! Хопіць! — камандуе Ярома, прыкрывае далонню шапку. Выграбае з яе грошы, пералічвае, кажа:

— Тут больш, чым каштуюць тваё туфлі, у некалькі разоў. Кладзі за пазуху ды хутчэй зматвайся.

Не помнячы сябе ад перажытага гора, а цяпер і радасці, Арцём памчаў дахаты. Маці пералічвае грошы, дзівіцца:

— Дзе ты гэтулькі ўзяў?

— Колькі далі,— хітра адказвае ён і толькі баіцца, каб ні аб чым не даведалася маці.

Але яна так і не даведаецца пра здарэнне на базары. Пра сваю прыгоду ён не раскажа. Што было пасля ў яго жыцці, Арцём не ўсё памятаў. Лагічная сувязь успамінаў перарывалася. Шум чалавечых галасоў прымусіў Арцёма ачнуцца і глянуць на ўсё як бы збоку: успаміны яго падобныя на мост, які трымаецца на нябачных апорах мінулага і цяперашняга. І ён ходзіць узад-уперад з аднаго часу ў другі, на шляху сваім сустракаючы тых, хто ўрэзаўся ў памяць. І хацеў ён тут жа ўзважыць і ацаніць кожнага на шалях часу, убачыць, што пераважае ў чалавеку — добрае ці дрэннае. Але не паспеў, бо ўжо не шум, а нечы голас мацнеў, наліваўся сілай і скрозь шчыльную масу іншых галасоў пранік у пакой.

Арцём ірвануўся насустрач гэтаму голасу, але ля самых дзвярэй сутыкнуўся твар у твар з мужчынам, які напралом лез да нябожчыка. Жывы, шчыльны чалавечы круг моцна сціскаў яго, адпіхаў да веснічак. Людзі з дакорам шапталі:

— Чаго ты сюды? Чаго?

— Ідзі, Доня! Не перашкаджай.

— Не крыўдзі нябожчыка.

Чалавек быў у зацёртай да маслянага бляску ватоўцы, падперазанай аборынай, у грубых чаравіках, заляпаных гразёю, у салдацкіх абмотках, неахайна абкручаных вакол тонкіх ног. На худым твары з казлінай бародкай ліхаманкава-радасным бляскам свяціліся вялікія вадзяніста-блакітныя вочы.

— Пакіньце яго. Не чапайце,— ціха папрасіў Арцём.

Кола рассунулася, аслабела. «Гэта ж Донька-дурненькі»,— успомніў Арцём і спытаўся:

— Ну што ты хочаш, Доня?

— Таварыш дырэктар... Таварыш дырэктар, рухавік ужо гатовы. Засталося толькі трубу... трубу... Трэба паставіць яе... і на канцы прапелер. Драўляны, лёгкі трэба.

Арцём узяў Доньку пад руку і павёў з двара на вуліцу. Той забег яму наперад і, адступаючы спіной, захлёбваўся словамі:

— Таварыш дырэктар, прапелер ужо круціцца... Ён будзе круціцца вечна... Гэта мой, мой геніяльны рухавік. Вы разумееце мяне? Рухавік для вашага бацькі. На ім ён узляціць высока- высока...

— Разумею, разумею, Доня,— са спачуваннем прамовіў Арцём.

— Толькі нікому пра гэта не гаварыце. Калі людзі даведаюцца, яны страцяць розум,— перасцярожліва і таямніча лапатаў ён Арцёму на самае вуха.

— Не, Доня, я нікому не раскажу. А цяпер ідзі.

— Пайду, пайду, а то за мной ворагі сочаць. Вунь ужо адзін ідзець.

Донька зайшоўся дробным смяшком, з-за пазухі выцягнуў пакамечаны букецік амаль засохлых рамонкаў, уклаў у руку Арцёму і, падскокваючы, пабег па вуліцы.

Сустрэча з Донькам выклікала ў яго няясныя, неспакойныя думкі. Арцём прыпыніўся на пясчаным абрыве над высахлай Куцеенкай. Па-над распранутымі садамі і рыжымі плямамі агародаў, над спаласаванымі мокрымі вятрамі хатамі, над непрыветнай восеньскай зямлёй клубілася, успухала брудна-шэрай пенай нізкае неба. І ад усяго, што было навокал, павеяла на Арцёма невыноснай журбой. Ён глядзеў на аплыўшае, зарослае сівымі травамі і чаротам рэчышча, на космы высокіх вербаў і думаў, што яшчэ пятнаццаць гадоў назад кіпелі, плёскаліся, бурлілі воды Куцеенкі, абмывалі і паілі маляўнічыя берагі. А цяпер яе няма. Рэчка памерла. І разам з ёй памерла ўсё звонкае, вясёлае, радаснае, што жывілася ад гэтай рачулкі. Тады ж быў поўны сілы і бацька. А цяпер вось яго таксама няма.

Арцём пачуў нечыя нетаропкія крокі, павярнуўся да сцяжынкі, якая зверху збягала проста да яго, і ўбачыў мужчыну. Калі той падышоў зусім блізка, Арцём без цяжкасці пазнаў дзядзьку Ярому. Той слаба ўсміхнуўся выцвілымі слязлівымі вачыма, абхапіў Арцёма, прытуліў да сябе.

— Пазнаў цябе я, сынок, адразу. Ды і як не пазнаць?

— Я вас таксама, дзядзька Ярома...

— Эх, сынок, сынок... Пайду развітаюся з бацькам. А ты не гайдайся, як галінка на ветры, стой магутным дрэвам... Куды ад жыцця схаваешся? Куды ад яго падзенешся?

Цяжкай хадой Ярома павольна пайшоў вуліцай.

А Арцём зноў вярнуўся туды — у сваё дзяцінства...

## 12

Красавіцкае сонца растапіла снягі, што заляжаліся ў нізінах, расчысціла неба да лазурнай сінечы. Бадзёра спявае певень, лапоча крыламі, нібы скідвае з сябе зімовую спячку. Гучна кудахчуць куры, паважна прагульваючыся па двары. На чорных і голых дрэвах весела пераклікаюцца гракі. Вясна. Арцём разграбае прызбу, якой акопвалі восенню сцены. Стаміўшыся, ён прыхінаецца да цёплай сцяны хаты, зводзіць павекі. Ад гарачага сонца, ад птушынага гоману, ад духмяна-салодкага паху зямлі па целе разліваецца прыемная млявасць. Але Арцём не дае сабе расслабіцца, зноў хапае рыдлёўку і пачынае паспешліва капаць, быццам у работу хоча ўкласці ўсю сваю сілу. Захоплены, ён не заўважыў, як падышоў дзядзька Ярома, паклаў яму на плячо сваю вялікую цёплую далонь.

— Пачакай, сынок. Дай-тка і мне косці свае размяць. А ты астынь крыху.

Ён забірае ў Арцёма рыдлёўку, адвальвае камяк жоўтай глiністай зямлі.

Раскідаўшы прызбу, выцер далонню лоб, спытаў:

— А маці дома?.. Ну, калі дома, тады пайшлі, пагаворым.

Ярома ўвальваецца ў хату, бесцырымонна, як у сябе дома, садзіцца ля стала, выцягвае з-за пазухі цёмную бутэльку, моцна прыпячатвае яе да абруса. З кішэняў вымае па адным курыныя яйкі, абкладвае імі бутэльку. Калі апошняе яйка легла на стол, ён зняў сваю калматую шапку, паклаў побач, сказаў:

— Дабрыдзень, Ганна. Зайшоў праведаць цябе, пра Пятра даведацца. Можа, падмога якая трэба?

— Дзякуй, дзякуй, Ярома! Падмогі мне ніякай не трэба,— адказвае маці і пачынае збіраць сняданак.

— За хлеб-соль дзякуй, Ганна. Толькі ты ўсё гэта прыбяры. Я раніцой не ем... Гарэлку п'ю. Так яно, ведаеш, выгадней, расходаў менш,— жартуе Ярома.

— Гэта ты дарэмна, Ярома... здароўе сваё губіш,— шкадуе яго маці.

— Няма для каго мне здароўе берагчы.

— Для дачкі сваёй.

— Грэбуе яна мной. Кажа, што я яе сарамачу перад людзьмі, п'янствую. А ці ведае яна, чаму п'ю, дачка мая? Эх-ма... адзінокі я, Ганна, як былінка пры дарозе. Нікога ў мяне на свеце няма. А да людзей у мяне жаласць... Не магу я гора чалавечае бачыць.

Ён адкаркаваў бутэльку і за адзін раз апрастаў яе. Нават не зморшчыўся, пачаў піць сырыя яйкі. Калі расправіўся з апошнім, скруціў «казіную ножку», густа задыміў.

— А як з Пятром? — парушыў ён маўчанне.

Яркі прамень сонца прабіў густыя тытунёвыя воблакі, што расцягнуліся па пакоі, слізгануў па твары маці, высветліўшы кожную маршчынку на ім. Арцём блізка-блізка ўбачыў яе вочы, замутнёныя журбой.

— Чуў я далёкім слыхам, нібыта Зарудны мужчынам расказваў, што выпусцяць яго хутка.

— Усякае кажуць. Ды не верыцца ўжо мне,— уздыхае маці.

Быццам адшукаў ён тых партызанаў, у якіх важныя дакументы ад вайны захаваліся. Пра Пятра там тваёго сказана.

Набрынялы хмелем, мякка, ціха, як махорачны дым, сцелецца хрыплаваты яго голас. Малінава-ру-

жовы румянец расцёкся па твары, быццам разгладзіў маршчыны, замуціў вочы.

— Вось што, Ганна,— мяняе ён гаворку,— па мальца твайго я прыйшоў. Без справы ён у цябе, а значыцца, і без сэнсу. Няхай да мяне ходзіць, навучу яго шавецкай справе. Глядзіш, каму што пашые, падаб'е, а табе — падмога.

— Пойдзеш, сынок? — пытаецца маці.

— Пайду, мама,— радасна згаджаецца Арцём.— І як толькі навучуся, пашыю табе самыя прыгожыя туфлі. Нават прыгажэйшыя за тыя, што табе падарыў тата.

— Малайчына, хлопец, малайчына! Адразу відаць — бацькоўская жылка. А раз так — пойдзем за работу брацца.

Маці глядзіць на Арцёма доўгім і такім пяшчотным поглядам, што яму хочацца прытуліцца да яе, сказаць самыя ласкавыя словы. Але ён стрымаўся, засаромеўся гэтага парыву, апусціў галаву, нахмурыўся.

Ярома ўстае, прапаноўвае:

— Збірайся, Арцёмка. Мне сёння перадкі нацягнуць трэба. А ў нядзелю пойдзем з табой на базар новыя боты прадаваць.

Жыў Ярома недалёка. Старэнькая хатка яго з тоўстых бярвенняў нагадвала лазню цёткі Матруны. Стаяла яна ля самай рэчкі, двума невялікімі акенцамі глядзелася ў ваду. Ззаду быў агарод з трыма разлапістымі яблынямі і маладым вішняком каля плота. Калі яны ўвайшлі ў хату, рэзкі пах сырамятных скур, воску, насмоленай дратвы непрыемна заказытаў нос. Арцём з непрывычкі зморшчыўся, ледзь не задыхнуўся ад цяжкага духу, але не падаў выгляду. У адно імгненне акінуў вачыма няхітрае ўбранства хаты: даўно нябеленая печ, жалезны ложак ля сцяны, стол без абруса з брудным посудам і вядро з ва-

дою. Ля другой сцяны — нізкі доўгі варштат з інструментам, драўлянымі калодкамі, абрэзкамі белых, чорных, карычневых скур, кучкамі медных і жалезных цвікоў і іншай дробяззю, якая неабходна шаўцу. Тут жа стаяў нізкі зэдлік з прагнутым сядзеннем, сплеценым са скураных паяскоў. Ля дзвярэй, на цвіках, вісела старое адзенне.

— Вось так я і жыву, Арцём,— вешаючы на цвік паддзёўку і шапку, сказаў Ярома.— Падабаецца табе ў мяне? Ну, раз падабаецца — пачнём працаваць. Я толькі вось чайку сагрэю.

Ён дастаў з-пад лаўкі керагаз, паставіў на агонь чорны ад копаці чайнік, пачаў нетаропка тлумачыць:

— Спачатку я цябе навучу дратву сукаць. Потым, калі на вус хутка будзеш наматваць,— дам сшываць халявы. Справішся — дазволю заднікі прышываць. А як з імі зладзіш, паспрабуеш перадкі нацягваць. Гэта работа асаблівая. Тут трэба скуру як сваё сэрца адчуваць. Ледзь перацягнуў — яна і трэснула, бот сапсаваў, не дацягнуў, форму страціў. А без формы бот як валёнак. Хто яго купіць? Абутак любы — ён перш за ўсё формы патрабуе, прыгажосці. Ну, а як ужо гэты сакрэт спасцігнеш, усё астатняе як па масле пойдзе... Падэшву прыбіць ці аздобу зрабіць — гэта ты зможаш. Была б толькі ахвота.

— Ахвота ёсць, дзядзька Ярома.

— Калі ахвота ёсць — навучышся.

Яго хрыплы басавіты голас, нібы цаглінку да цаглінкі, нетаропка выкладвае словы ў стройны рад. Арцём пільна прыслухоўваецца да кожнай заўвагі, стараецца запомніць, захаваць у памяці ўсё, што кажа Ярома.

Работа спорылася. Праз месяц Арцём ужо сшываў халявы, прышываў заднікі, спрытна прыбіваў драўлянымі цвікамі скураную падэшву на хромавы

бот. Толькі вельмі балелі пальцы, зрэзаныя дратвай. Не адмывалася ніякім мылам смала на руках.

Часта заходзілі суседзі, нейкія незнаёмыя людзі, прасілі адрамантаваць абутак. Увесь дробны рамонт Ярома аддаваў Арцёму, і ён спраўляўся з ім лёгка і хутка. Заробак увесь да капейкі аддаваў маці. Акрамя рамонту, за тыдзень яны рабілі адну пару ботаў. Ярома жалезным крукам чапляў калодку, з натугай выцягваў яе з новага бота, скабліў рашпілем канцы драўляных цвікоў. Затым расцягваў халявы на правілы, фарбаваў боты чорнай бліскучай фарбай і выстаўляў на варштат сушыцца. Боты атрымоўваліся на рэдкасць прыгожымі. Арцёму нават не верылася, што яны зроблены яго ўласнымі рукамі.

А ў нядзелю Ярома запіхваў па аднаму боту пад крысо паддзёўкі, падпяразваўся шырокім рэменем і разам з Арцёмам ішоў на базар. Яны пільна сачылі, каб не нарвацца на міліцыю, якая чамусьці не дазваляла прадаваць абутак. Па сходнай цане боты звычайна збывалі вяскоўцам.

— Боты трэба? — пытае Ярома, падыходзячы да групы мужчын.

— Які памер?

— А які табе трэба?

— Сорак пяты.

— У цябе не нага, а мядзведжая лапа,— жартуе Ярома.— Табе лапці насіць трэба, а не боты. У мяне сорак трэці.

— Мне патрэбен сорак трэці,— кажа другі мужчына.

— Пойдзем прымяраць,— прапаноўвае Ярома і, азірнуўшыся, вядзе пакупніка куды-небудзь за вугал. Пасля прымеркі, для прыліку патаргаваўшыся, пакупнік аддаваў Яроме грошы і хаваў боты ў мех ці сумку. А ў гэты час у Арцёма сэрца калацілася ад страху. Больш за ўсё ён баяўся, каб іх не ўбачыў

міліцыянер. З таго часу ўсё жыццё Арцём будзе баяцца міліцыі.

Пасля ўдалага продажу ботаў Ярома запіваў. Яго часта можна было бачыць на вуліцах ці ля магазіна, дзе ён сакавіта і закавырыста, як ніхто іншы, лаяўся ці гучна пахваляўся кожнаму сустрэчнаму, што яго дачка «глаўурач рыёна». Піў ён з раніцы да вечара ў кампаніі такіх жа, як і сам, п'яніц, пакуль у кішэні не заставалася ніводнай капейкі. Тады запой спыняўся, ён станавіўся змрочны і маўклівы, як галодны на хлеб, накідваўся на работу, суткамі праседжваў за варштатам. Неяк майскім пагодлівым днём завітала прыгожа апранутая бялявая жанчына з такімі ж, як у Яромы, блакітнымі вачыма. Была яна ўсхваляваная і сярдзітая.

— Тата, скажыце нарэшце, калі вы мяне перастанеце ганьбіць?! Увесь горад смяецца нада мной і над вамі. Навошта вы крычыце на кожным рагу, што ваша дачка «глаўурач рыёна»? Што за дурацкая пахвальба? Мне сорамна! Разумееце, сорамна!

Яна села, стала каляровай хусцінкай выціраць павільгатнелыя вочы. Ярома маўчаў.

— І навошта вы столькі п'яце? Вы ж аблічча чалавечае страцілі. Паглядзіце на сябе, у чым вы ходзіце!

— Ведаю, дачка, што ты саромеешся мяне, таму яшчэ больш піць буду.

— Але навошта?! Навошта?! Які ў гэтым сэнс?..

Вачыма, поўнымі слёз, яна з мальбой глядзіць на бацьку, потым адварочваецца да акна. Арцём бачыць, як цяжка ўздрыгваюць яе маленькія круглявыя плечы, і яму робіцца шкада жанчыну.

— Горка мне, дачка... жыць горка. Сэрца маё не загойваецца, таму і п'ю,— жаласліва тлумачыць Ярома.

І ўжо шкада Арцёму іх абоіх, такіх блізкіх і такіх чужых, незразумелых адно аднаму і няшчасных.

Яна знікла так жа раптоўна, як і прыйшла, пакінуўшы на памяць аб сабе панурае, глухое маўчанне, тонкі водар свежага адзення і дарагіх духоў.

— Эх, дачка, дачка,— цяжка ўздыхнуў Ярома.— Я выгадаваў яе, вывучыў, у людзі вывеў... а яна цяпер мяне саромеецца, грэбуе. Навошта, маўляў, п'ю? А што мне ў гэтым жыцці засталося? Што мне ад яго трэба? За свае ж п'ю, не за чужыя. Развярэдзіла яна мне душу.

Ярома кінуў на варштат недароблены бот, устаў, падышоў да шафкі, адчыніў ніжнія дзверцы, дастаў непачатую бутэльку.

— У жыцці маім, Арцёмка, добрага было мала,— працягваў ён скардзіцца. Сеў на табурэцік, паставіў на варштат бутэльку, нарэзаў у міску хлеба і сала.

— Памятаю сябе гадоў з пяці. На Кубані мы тады жылі. Бацька мой багаты быў. Любіў гулянкі, гарэлку і баб асабліва. Неяк восенню загадаў работнікам вуліцу саломай услаць, мужчын сабраў, напаіў да бяспамяцця, а потым давай, як коней, у сані запрагаць. Здурнеў народ зусім. Усе равуць, рагочуць. Бацька ў сані — і баб туды цэлую араву, ды і давай запрэжку пугай паганяць. Мужчыны тужацца, праз усю вёску сані валакуць па саломе. Званочак пад дугой звініць. Бацька з бабамі цалуецца, на гармоніку іграе, песні гарлапаніць, крычыць на ўсю моц: «Гэй, халопы, шапкі далоў! Атаман вяселле гуляе...»

Любіў ён такія забавы. Страшны быў чалавек, хацяі прыгажун пісаны.

— А як жа маці ваша, дзядзька Ярома?

— Праз яго вельмі рана богу душу аддала. Я ўжо не памятаю яе. А як маці не стала, узненавідзеў я бацьку лютай нянавісцю.

— Я б не дараваў яму такое,— рашуча кажа Ар-

цём.— Калі б хто-небудзь пакрыўдзіў маю маці, я яго забіў бы.

Ярома адпівае некалькі глыткоў з бутэлькі, нюхае хлебную скарынку, расказвае далей:

— У семнаццатым мужыкі прыкончылі яго. Курэнь запалілі з усіх бакоў, а яго ў агонь.

На момант уяўляецца Арцёму ахоплены шалёным полымем вялізны дом. Доўгія крывавыя языкі агню вылізваюць да вугальнай чарнаты сцены, высока ў небе зліваюцца ў тоўсты вогненны слуп. Барвовыя водбліскі далёка адхінулі начную цемру, высвецілі цёмныя постаці людзей, што тоўпіліся навокал. У цесным кальцы кідаецца чалавек, спрабуе вырвацца на волю. Але ні ў кога няма ні жаласці, ні спачування да яго. Нямыя, варожыя, маўклівыя людзі перагароджваюць яму дарогу, хапаюць за рукі, раскачваюць і, як мяшок, кідаюць у полымя. Перадсмяротны страшны крык скалыхнуў мёртвы стэп...

Арцём углядаецца ў Ярому, намагаецца адгадаць, аб чым той думае. Але твар яго зусім спакойны, погляд нерухомы і самотны. І цяжка зразумець, шкадуе ён маці, ці праклінае бацьку, ці ў сваёй старэчай памяці спрабуе ажывіць бляклыя малюнкі свайго бязрадаснага дзяцінства.

— А як жа вы ў нашы месцы трапілі? — цікавіцца Арцём.

— Гэта доўгая гісторыя. Сумна мне на Кубані было, журботна. Плаўні з камарамі ды стэп навокал. Няма за што воку зачапіцца. Падаўся я на Урал. Цягнула мяне да новых людзей, свет хацелася пабачыць. Гэта цяпер некаторыя ўсё пад сябе грабуць... На Урале я пражыў доўга. Кім толькі не быў! Больш за ўсё мне запомнілася рака Чусавая, па якой лес сплаўлялі, усялякі тавар. Вось гэта рака — звер! Па вясне як разбушуецца, бывала, колькі спраў натворыць, колькі гора наробіць людзям!

Ярома гэтак жа нетаропка, як і расказвае, дастае з кішэні пакамечаную газету, адрывае ад яе кавалачак, сыпле з капшука махорку і, наслініўшы краёк, згортвае цыгарку, рассыпаючы на штаны тытунь.

— У якім годзе, ужо не памятаю, ледзь не аддаў я богу душу на гэтай праклятай рацэ. Паводка паднялася высока, плынь хуткая. Шмат тады плытоў разбілася. У тым ліку і наш. Вынесла нас на быстрыню і паперла прама на «баец». Гэта скала такая пасярод ракі. Як ні грэблі, як ні рваліся, але не змаглі вывернуць плыт. Ударыліся мы бортам аб гэты баец, і ўсіх змыла вадой. Крыкі, праклёны. Мяне людзі з берага выратавалі. А тых, хто слабей быў целам, Чусавая забрала. Было гэта не так далёка ад Пярмі.

Арцём як зачараваны слухае Ярому, уяўляе бездапаможных людзей, якіх шалёная рака топіць у ледзяной каламутнай вадзе.

Вечарэе. Тонкі, празрысты, як вэлюм, змрок затапляе хату.

Ярома паклаў няголены падбародак на вялікія вузлаватыя, як карэнні, кісці рук з парэзанымі дратвай пальцамі, глыбока зацягваецца дымам, выпускае яго тонкімі струменьчыкамі. Вочы нібы зацягнутыя вільготным туманам — нерухомыя, задуменныя.

— Дзядзька Ярома, а што ж потым? — нясмела парушае яго думкі Арцём.

— А потым нічога, сынок. Пажыў у Якуціі, на далёкай Поўначы. Чалавек усюды аднолькавы: і добры, і злы, і прагны, і шчодры. Усюды яму лёгка і цяжка. У трыццатыя гады сюды трапіў. Жонку тут сабе знайшоў, прыжаніўся, ну і назаўсёды застаўся.

— Адкуль жа вы бацьку майго ведаеце?

— Ты лепш спытай, хто яго не ведае. У сорак трэцім, памятаю, пайшоў я ў разведку, ды каля вёскі на засаду напароўся. Адстрэльваўся, пакуль патро-

ны былі. А калі ў нагу параніла, зразумеў, што не выйсці мне жывым... Было гэта ўначы. Каля балота, дзе мяне прыціснулі, кучы ламачча навалены. Будзь што будзе, вырашыў я, і залез пад гэты сушняк. Ляжу ні жывы, ні мёртвы. Чую, немцы падыходзяць, гергечуць. Доўга шукалі мяне па балоце, стралялі. Потым сталі сушняк варушыць нагамі. Ну, вось і канец твой прыйшоў, Ярома, думаю сабе. Усё маё жыццё перад вачыма ўмомант прамільгнула. Але, відаць, надакучыла ім мяне шукаць, пастралялі, пастралялі і пайшлі. Да раніцы я сцёк крывёю, і ўжо не было сіл нават на тое, каб выбрацца са схованкі. І так мне горка і крыўдна стала, што паміраць даводзіцца не ў баі, не па-чалавечы...

Ачомаўся я ў атрадзе і самому сабе не паверыў. А атрымалася так, што бацька твой чуў начную страляніну і раніцой выправіўся ў лес, як мне потым расказваў, агледзець месца бою. Натрапіў на крывавы след, які і прывёў прама да кучы ламачча. Так і знайшоў ён мяне.

— А чаму вы адзін, дзядзька Ярома? Няўжо ў вас нікога, акрамя дачкі, няма? — зусім як дарослы пытаецца Арцём.

— Эх, сынок, сынок! — цяжка ўздыхае Ярома.— Была ў мяне сям'я... Жонка, трое сыноў, дачка. Вялікая сям'я. У сорак трэцім спалілі іх немцы. Засталася адна Клава. Зусім выпадкова — у лесе карову пасвіла. А так бы і яе...

— Як жа гэта? За што? — ускідваецца Арцём і адчувае, як узнімаюцца на галаве валасы, а па целе прабягаюць дрыжыкі.

— Ды ні за што... Сагналі людзей з трох вёсак у адзін хлеў, аблілі карасінам і падпалілі... Думалі народ запалохаць, партызанам помсцілі.

Насупраць за ракой відна хата, вокны якой палаюць водбліскамі захаду. Барвовае святло ад іх адбі-

ваецца вузкімі палоскамі на твары Яромы. Арцём бачыць, як з ягоных вачэй выкаціліся дзве слязінкі і папаўзлі па шчоках, падобныя на дзве кропелькі крыві.

Ярома дапівае гарэлку, кідае бутэльку ў парог, прагна зацягваецца дымам.

— Таму і п'ю. Горкае гора сваё заліваю. Злосць-нянавісць таплю ў гарэлцы. А яна, Клава, зразумець не хоча, асуджае, што я такі... А я люблю яе! Ох як люблю, крывіначку маю, і ганаруся ёю. Ды і каго ж мне яшчэ любіць, калі не сваю адну-адзіную дачушку?

...Патухаюць вокны. Гусцее вячэрні змрок, зацягвае ліловай смугой Яромаў твар... І ўжо няма перад Арцёмам ні Яромавай хаты, ні дачкі яго Клавы.

Ён спахапіўся, што даўно стаіць над абрывістым берагам высахлай ракі. Арцём увабраў у плечы галаву, глыбей засунуў рукі ў кішэні плашча, рушыў дахаты.

З дзвярэй выходзілі людзі. Потым вынеслі труну і паставілі на машыну. Самыя блізкія селі ў кузаў. Арцём на машыну не палез. Яму хацелася пехам праводзіць бацьку туды, адкуль ніхто не вяртаецца.

У сенцах Арцём сутыкнуўся з маладым мужчынам. Вочы ў яго блакітныя, як вясновае неба, валасы, густыя, русыя, баранчыкамі кучараваліся на скронях. Толькі нос псаваў знешнасць, быў расплюшчаны, уціснуты ў пераноссі, як у баксёра.

— Прымі, дружа, мае самыя шчырыя спачуванні,— кажа ён і моцна сціскае Арцёмаву руку. Той недаўменна глядзіць яму ў твар, дарэмна напружвае памяць.— Не памятаеш хіба мяне?

— Не прыпомню,— віпавата круціць галавой Арцём.

— Лінька! Лінька я... У цюрагах і калоніях дзесяць год адбыў. А цяпер вось якар кінуў. Хопіць! На-

дакучыла! Жыць хочацца па-людску... Выбачай, табе зараз не да мяне.

Лінька праслізнуў праз брамку, згубіўся ў натоўпе. І тут жа надрыўна застагнаў, заплакаў аркестр. Музыканты падаліся за машынай, выдзімаючы з медных труб жалобны марш. Следам рушыў народ. Разам з усімі ішоў і Арцём.

## 13

...Арцём вяртаўся з базару з дзядзькам Яромам. Дзве пары ботаў яны збылі сялянам, не абышлося без барышу. Таму Ярома выпісваў нагамі адмысловыя выкрутасы і крычаў ва ўсё горла п'яным голасам:

— Пастухі вы ўсе! Пастухі! А мая дачка — глаўурач рыёна,— і дадаў мудрагелістую лаянку.

Цікаўныя спыняліся, глядзелі, пасмейваліся, знарок дражнілі яго. Арцём ледзь прыцягнуў Ярому дамоў, раснрануў, паклаў на ложак. Стары адразу ж заціх, скруціўся абаранкам, як маленькае дзіця. Арцём прыкрыў яго коўдрай, зачыніў за сабой дзверы і пайшоў па вуліцы. Рабіць яму не было чаго, а ісці дахаты не хацелася. Быў надзіва прыгожы дзень. На краях сіне-блакітнага неба ўскіпалі воблачкі, акаймоўвалі белымі хвалямі. У зіхоткім сонечным разліве той жыццёвы круг з шавецкімі клопатамі, з п'яным буянствам Яромы, у якім замыкаўся апошні час Арцём, здаўся яму цесным і нікчэмным. Яго пацягнула да людзей, і ён прыбавіў кроку, быццам хацеў як мага хутчэй уцячы ад тых пачуццяў, што захліснулі яго. Але куды ісці? Блізкіх сяброў у яго не было, і ён без усялякай мэты, без якіх-небудзь пэўных намераў рушыў да магазіна.

Там, як заўсёды ў базарныя дні, тоўпіўся народ,

стаялі вазы, запрэжаныя худымі калматымі клячамі. Крыху воддаль Арцём убачыў такіх жа, як і сам, ці, можа, крыху старэйшых падлеткаў. У цесным коле іх размахваў рукамі п'яны Донька-дурненькі, танцаваў і спяваў пахабныя куплеты, а хлапчукі заходзіліся ад смеху. Донька закатваў зенкі наіўна-шчаслівых вачэй і цягнуў вісклівым тонкім дыскантам.

Доня адбіўся ў памяці Арцёма сур'ёзным маўклівым хлопчыкам. Жыў ён у бараку ў канцы вуліцы з маці — выхавацелькай дзіцячага дома. Ягоны бацька ў вайну прапаў без весткі.

Арцём ніколі не бачыў, каб Доня, як іншыя хлапчукі, ганяў футбольны мяч, вудзіў у Куцеенцы печкуроў ці гуляў у лапту. Хадзіў ён павольна і нячутна, заўсёды з кніжкай пад пахай, паглыблены ў нейкія свае думкі. Але часцей за ўсё ён сядзеў на лавачцы ля барака і чытаў ці майстраваў караблікі, ветракі, нейкія дзіўныя машыны. Настаўнікі яго паважалі, ставілі ў прыклад аднакласнікам, прадказвалі яму вялікую будучыню.

Але неяк Доня прыйшоў да дырэктара і рашуча заявіў:

— Я вынайшаў вечны рухавік. Ніхто да мяне гэтага не здолеў зрабіць... Я хачу паказаць вам...

Дырэктар спачатку паглядзеў на яго разгублена, а потым вочы яго напоўніліся спачуваннем.

— Сядайце, сядайце, калі ласка,— замітусіўся ён.— Раскажыце, як ён дзейнічае.

Доня ўзяў крэйду, падышоў да дошкі, моўчкі начарціў конусападобную трубу з лопасцямі на канцы, а ўнізе — нейкае збудаванне. Калі ласка здзіўлена наглядаў за вучнем, пакуль той не загаварыў.

Доня гаварыў з запалам і доўга, але Калі ласка яго ўжо не слухаў. Ён вымучана ўсміхнуўся, падзякаваў вынаходніку і сказаў, што падумае, як лепш прымяніць гэту ідэю.

Доню не задаволіла гутарка з дырэктарам, і ён стаў чапляцца да кожнага сустрэчнага, дакучліва расказваць пра свае вынаходніцтва. Спачатку яго ўважліва слухалі. Потым сталі насміхацца, а часам і здзекавацца. Доня, абражаны абыякавасцю і неразуменнем, лез у бойку, хадзіў скардзіцца на вучняў у настаўніцкую. Аднойчы падкаціла да школы «хуткая» і забрала Доню. Ён таямніча знік, а праз год паявіўся зноў ужо ў тым абліччы, у якім быў цяпер каля магазіна.

Калі Арцём падышоў зусім блізка, ад хлапчукоў адкаціўся нізкарослы кучаравы падлетак з прыгожымі, як у дзяўчыны, нябеснага колеру вачыма. Пакатыя, не па ўзросту шырокія плечы шчыльна аблягала блакітная кашуля, з-пад якой былі бачны сінія палоскі марской цяльняшкі. Чорныя, як сажа, клёшныя штаны з востра адпрасаванымі стрэлкамі накрывалі чаравікі.

— Прывітанне, Негр! Кажуць, цябе са школы турнулі?

— Здарова, Лінька,— Арцём сціснуў працягнутую руку, сказаў абыякава: — Быў выпадак.

— За што?

— Ды Зосім...

— Вунь як,— хмыкнуў Лінька, прыўзняў крылы броваў, а рукі яго нетаропка нырнулі ў кішэню.— У мяне з ім таксама старыя рахункі. Курыць будзеш?

— Не, не куру.

Лінька пагрэбліва глянуў на яго, з'едліва ўсміхнуўся, вывернуў ніжнюю губу:

— Можа, ты і да дзевак не ходзіш? І гарэлку не п'еш?

— І гарэлку не п'ю, і да дзяўчат не хаджу,— пачырванеў Арцём.

— Ну і дзівак... У нас у Дымках такіх няма,—

з падробленым расчараваннем прамовіў Лінька і цыркнуў праз зубы сабе пад ногі.— А дзе ты зараз?

— У Яромы. Боты кляпаем.

— Гарбееш, значыць?

— Гарбею.

— А башлі маеш?

— Ды так... хапае.

— Вось я і чую — псінай ад цябе патыхае, прама з ног валіць. Думаю-гадаю, ці то з сабакамі спіш, ці не мыешся. Трэба мяняць занятак, Негр.

Арцёмаў твар заліла чырвань. Лінька, нібы нажом па сэрцы, паласнуў яго па самалюбству. Але Арцём авалодаў сабой, утаіў крыўду. Ён ведаў, што ад яго сапраўды патыхае застаялым душком сырамятных скур, лаку і махоркі.

— Хацеў бы памяняць, ды не бяруць на работу. Непаўналетні я.

— Правільна кажаш,— пагадзіўся Лінька, піхнуў кулаком Арцёма ў грудзі, спытаў: — Бацьку твайго, я чуў... зацапалі.

— Ага,— не адразу адказаў Арцём, спахмурнеў і зноў адчуў укол болю, быццам нехта незнарок дакрануўся да незагоенай раны.

— За што? Ён жа чалавек добры...

— Адкуль я ведаю?! Адчапіся ты! — раззлаваўся Арцём.

— Чаго ты? Я ж да цябе па-сяброўску.

— Абрыдла! Усе пытаюць. А навошта? Каму якая справа?! — ускінуўся Арцём.

— Не падай духам. Апаровічаў я паважаю. Бацьку твайго асабліва. Калі б не ён тады, не ведаю, што са мной зрабіў бы Зосім.

Арцём маўчаў, а Лінька некалькі разоў змерыў яго поглядам і сказаў:

— Хочаш, я цябе ў сваё кодла вазьму? З сапраўднымі людзьмі пазнаёмлю. Хлопцы што трэба.

Арцём вагаўся. Вядома, заманліва мець такіх сябрукоў, але ж і страшнавата было звязвацца з Лінькам. Два старэйшыя яго браты і бацька ўжо не адзін год знаходзіліся ў калоніях. Лінька ўпэўнена ішоў па іх слядах. Уся задняпроўская «блатва» лічыла яго сваім атаманам. І ён выклікаў давер: быў адважны і задзірлівы. Хадзілі чуткі, што на сумленні Ліньки нямала крадзяжоў. Так гэта ці не, Арцём не ведаў. Яго прыцягвала Ліњкава смеласць, але разам з тым насцярожвала і нават палохала грубая разбэшчанасць.

— Ну дык як, Негр?

— Не ведаю.

— Дрэйфіш? Баішся ў штаны нахезаць?

— Не дрэйфлю. Перад Яромам няёмка.

— Дзівак ты... Падумай! Толькі глядзі, пра нашу размову — нікому! Зразумеў? А то зубоў у роце не ўтрымаеш. Пад старасць арэшкаў нечым будзе пашчоўкаць... Ну, трымай краба,— Лінька працягнуў яму растапыраную, са скурчанымі пальцамі пяцярню.— А мы сёння Зосіму ўстроім рабінавую ночку.

— Зосіму?! — перапытаў Арцём.— І я з вамі пайду.

— Даўно б так,— пахваліў яго Лінька.— Тады ў дзевяць на мосце.

У прызначаны час Арцём быў на драўляным мосце з хісткімі парэнчамі, масціцы якога ашчэрваліся тоўстымі ржавымі цвікамі. Будавалі яго адразу пасля вайны спехам, так, як, дарэчы, тады рабілі ўсё самае неабходнае. Гэты сціплы з выгляду масток цераз Куцеенку ў свой час добра паслужыў людзям. Ён звязваў цэнтральную магістраль, якая разразала горад на дзве роўныя часткі, і выводзіў бясконцую плынь грузавых машын з Украіны і Малдавіі на Ленінград, Маскву, Мурманск. Потым, калі пабудавалі новы мост, стары ў параўнанні з тым стройным і

прыгожым жалезабетонным, стаў як бы гістарычным экспанатам.

Але людзі не забываліся пра яго. Дарослым падабалася пастаяць на ім, пагаварыць пра жыццё. Юнакі і дзяўчаты назначалі тут свае спатканні. Хлапчукі любілі на быстрыні паміж тоўстых драўляных быкоў вудзіць плотку, акунёў, печкуроў.

Да прыходу Арцёма тут ужо тоўпіліся падлеткі. Лінька пазнаёміў яго з сябрамі:

— Негр пойдзе з намі. Хлопец свой.., Бацька ў яго ў законе.

— Ды чаго там? Няхай застаецца. Ён жа наш, задняпроўскі.

— Галоўнае, каб не закладваў.

— Наконт гэтага галавой ручаюся,— запэўніў Лінька.

Арцёма крануў давер Ліньki, ён адразу адчуў сябе больш упэўнена ў гэтай пакуль што незнаёмай кампаніі.

— Што будзем рабіць? — спытаў нехта.

— Перш-наперш зойдзем у «Мутнае вока», хлабыснём па шклянцы, а там бачна будзе,— распарадзіўся Лінька.

Кампанія рушыла па вуліцы. Лінька ішоў віхлястай паходкай, з рукамі ў кішэнях, пыхкаў «беламорынай», напяваў сабе пад нос:

Когда я был мальчишкой,
Носил я брюки-клеш...

Астатнія падхоплівалі:

Соломенную шляпу,
В кармане финский нож.

Арцём не ведаў слоў песні, што спявалі хлопцы, але падладжваўся пад іх, імкнуўся падпяваць. Хутка падышлі да «Мутнага вока». Яно па завязку было набіта людзьмі. Ля высокіх сталоў, заваленых рыбнымі

вантробамі, луской, аб'едкамі, мужчыны наліваліся півам, танным віном. Калі зайшоў Лінька са сваёй кампаніяй, усе расступіліся. Арцём адзначыў, што Ліньку тут паважалі і нават баяліся. Вунь як папёр прама да «паплаўка»! Узяў некалькі бутэлек віна, па чарзе напаўняў шклянку і пускаў па кругу. Калі выпілі ўсё, задымілі папяросамі і выйшлі вон. Ад віна ў Арцёма закружылася галава, цела здалося незвычайна лёгкім.

У парку было людна. З рупара соладка ліўся жаночы голас. Ён спяваў пра «ландышы светлага мая прывет». У ліпавых алеях прагульвалася па-святочнаму апранутая моладзь. Некаторыя куплялі білеты і ішлі на танцпляцоўку. Але большасць па некалькі гадзін запар прасавала асфальт, разглядала сустрэчных.

На цэнтральнай алеі Лінькава світа ўрэзалася ў чалавечы натоўп і, штурхаючыся, пакіравала супраць плыні. Хлопцы саступалі ўбок, дзяўчаты з абурэннем кідалі ўслед:

— Зноў гэтыя хуліганы!

Упэўнена і шумна ўваліліся на танцпляцоўку. Лінька выпнуў грудзі, піхаў плячыма хлопцаў і дзяўчат, ішоў уперавалку, нібы рабіў круг гонару. Сябрукі цягнуліся за ім гуськом. Арцём замыкаў шэсце і лавіў сябе на думцы, што яго перапаўняе гордасць: ён сярод такіх моцных і смелых хлопцаў, якіх усе баяцца. Потым яны стоўпіліся насупраць аркестра, і Лінька плюнуў сабе пад ногі, грэбліва сказаў:

— Адны чувіхі. Нават пабіцца няма з кім.

— Праўда, Лінь. Нават банку няма каму прыварыць.

— Лінь, а можа, гарадскім увалім, га?

— Няма настрою,— адмахнуўся Лінька,— іншым разам.

У горадзе спрадвеку існавала варожасць паміж

задняпроўскімі Дымкамі — з аднаго боку, і «вакзалам», «горадам» — з другога. Ніхто не ведаў яе прычыны, не памятаў, з чаго яна ўсчалася. Але факт: задняпроўцы па адзін бок Дняпра, усе астатнія — па другі, а паміж сабой — лютыя ворагі. Задняпроўцы вечарам баяліся паяўляцца па адным у раёне вакзала ці ў цэнтры горада. Адзіночак, якія адважваліся пераступіць у забаронены час свяшчэнныя межы, білі жорстка і бязлітасна. Але ва ўсіх сутычках, ці то гэта была проста кулачная бойка, ці «бітва» з нажамі і каменнем, перамагалі задняпроўцы. Страшная, але зайздросная слава замацавалася за Дымкамі. Паміж сабой жа яго жыхары амаль ніколі не спрачаліся, не біліся — за рэдкім выключэннем,— жылі мірна і дружна.

Калі над горадам навіс халодны змрок, Лінька і яго кампанія здаволіліся блуканнем па парку і вярталіся дадому. Гаварылі гучна, спрачаліся, спявалі блатныя песні. Сваю мову перамешвалі такой лаянкай, што выпадковыя прахожыя кідаліся ў бакі. Лаяліся не ад злосці, не ад недахопу слоў. Рабілі гэта ад жадання здавацца горшымі, чым былі на самой справе. Да такой высновы Арцём прыйдзе пасля, калі ўжо стане дарослым і будзе не раз у памяці перабіраць прыгоды свайго дзяцінства. Цяпер жа ад гэтай адборнай цынічна-грубай лаянкі ён адчуваў няясную ўзрушанасць і нават асалоду. Ля моста яны сустрэлі хлопца з дзяўчынай.

— Ну што, паказычым яго? — спытаўся Лінька.

— Ох, як банку прыварыць хочацца!

— А калі гэта наш?

— Свайго чапаць не будзем.

— Ды не... гэта хутчэй за ўсё гарадскі — інтэлігент. Нашы ў капелюшах не ходзяць,— катэгарычна сказаў Лінька і крыкнуў: — Прывітанне, кавалер!

— Добры вечар,— прыпыніўся хлопец.

— Дай закурыць!

— Калі ласка,— выцягнуў з кішэні пачак папярос, падаў Ліньку. Той закурыў, пачаставаў сяброў, у тым ліку і Арцёма, вярнуў папяросы, ветліва спытаў:

— А ты адкуль?

— Як адкуль?

— Ну, у сэнсе...

— З горада, а што?

— А-а, з горада,— шматзначна, як бы са здзіўленнем прамовіў Лінька.— А ты хіба не ведаеш, што мы забараняем гарадскім праводзіць нашых чувіх?

— Я тут нядаўна жыву.

Незнаёмца акружылі. Ад страху той, відаць, страціў мову.

Дзяўчына ведала, якая можа быць расправа, таму жаласліва прасіла:

— Ну за што вы?! Адпусціце яго. Ён жа вам нічога дрэннага не зрабіў...

— Вось што, чувіха,— сказаў Лінька.— Я табе абяцаю, што біць мы яго не будзем. Але мост змераць запалкай ён павінен. А ты чашы адсюль, пакуль я добры.

Дзяўчына заплакала і пабегла, а яе праважаты, ні жывы ні мёртвы, аддаўся на волю натоўпу. Нібы вострым нажавым болем апякло Арцёма. Яго скаланула, калі ён уявіў сабе на імгненне, як зараз спакойна і абыякава пачнуць біць хлопца. Цела яго напружынілася і сціснулася, у роце перасохла, а сэрца, здавалася, вось-вось выскачыць з грудзей.

— Лінька, не трэба, не трэба біць... Навошта,— слабым дрыготкім, нейкім чужым голасам папрасіў Арцём.

— Не хезай у штаны! На ліха ён нам здаўся! — злосна абарваў яго Лінька, а хлопцу загадаў: — Ну што, пайшлі мост мераць.

Той не супраціўляўся,— пакорліва пайшоў за Лінькам. На мосце, скупа асветленым цьмянымі электрычнымі лямпачкамі, Лінька дастаў з кішэні карабок з запалкамі, узяў з яго адну, падаў незнаёмцу і загадаў:

— Будзеш мераць з самага пачатку да канца. Зразумеў? Ну вось і добра. Я ведаю, што гэта цяжэй, чым землямеру, таму што запалка карацейшая, але я думаю, ты справішся. Фраер ты інтэлігентны, у капелюшы ходзіш, датумкаеш, што да чаго. Давай пачынай.

Хлопец згорбіўся і пачаў запалкай мераць дошку. Лінька стаяў у сваёй звычайнай позе і пасміхаўся. Яго прыяцелі ад асалоды вішчалі, нібы дзікуны, нешта незразумелае выкрыквалі. Толькі Арцём у здранцвенні наглядаў за сцэнай і не верыў у яе рэальнасць. Ускіпела злосць на Ліньку, на ўсіх яго сябрукоў... Ён хацеў кінуцца на Ліньку з кулакамі, паваліць яго і біць да таго часу, пакуль той не стане крывавым кавалкам мяса. Але ён ведаў, што калі зробіць гэта, то сам праз некалькі хвілін стане такім жа. І не ў думках, а наяве. Жывёльны страх перад болем стрымліваў Арцёма. І ён, як паралізаваны, стаяў ля парэнчаў, не ў стане нават варухнуць рукой ці нагой. Пасля Арцём будзе не раз успамінаць гэты выпадак і шкадаваць, што не абараніў чалавека, будзе саромецца той слабасці і баязлівасці, што прыкулі яго на адным месцы.

— Не магу я больш... стаміўся,— павольна разагнуўся хлопец.

— А ты на калені. Так будзе зручней,— параіў Лінька.

Ён апусціўся на калені і зноў стаў мераць. Кампанія па-ранейшаму заходзілася ад смеху. Калі нарэшце мост быў перамераны, Лінька зняў з хлопца капялюш, надзеў сабе на галаву, падвёў вынік:

— Ну вось, фраер, цяпер ты будзеш ведаць, які доўгі і цяжкі шлях да задняпроўскай чувіхі. Ідзі дамоў і ўсім раскажы, зразумеў? А капялюш падары мне. Ён мне больш да твару. Правільна кажу, пацаны?

— Законна, Лінь.

— На ім ён як сядло на карове.

— Вось бачыш! Значыць, давай шуруй... тупай. А то я магу і раззлавацца.

Хлопец нічога не сказаў, апусціў галаву і паплёўся назад. Нібы каменне, услед яму ляцелі зняважлівыя словы.

Неўзабаве пачуўся слабы глухі гул, які паступова нарастаў. Усе глядзелі ў той бок, дзе чорная стужка шашы зліваласся з цемрай, раствараласся ў ёй. Там было відно, як два пругкія промні святла, нібы пражэктары, паролі цемру, высока ўпіраліся ў неба, дрыжалі і гайдаліся на ім шырокім светлым зарывам.

— МАЗ! — упіўся поглядам у цемру Лінька.— Шуруй, Негр, да плота. Ляж і пільна глядзі за дарогай. Калі раптам мільтоны, крычы «атас» і сам змывайся. Зразумеў?

— Зразумеў,— адказаў Арцём і адчуў, што яму страшна. І гэты страх дрыжыкамі закалаціў усё яго цела.

— Братва, хутчэй стужку! — крыкнуў у цемры Лінька.

Арцём адбег убок, паваліўся, шчыльна прыціснуўся да халоднай зямлі. Ён адчуваў гулкія штуршкі крыві ў скронях, прагна ўдыхаў духмяны вільготны пах травы. Арцём бачыў, як хлопцы цераз шашу на метровай вышыні нацягнулі нейкую стужку, а самі рассыпаліся па канавах. Усё раптам нібы вымерла, толькі зверху з-за гары ўжо зусім блізка чуўся роў матора. Ад фар машыны падалі два яркія снапы святла, разліваліся па дарозе, высвятлялі кожную

калдобіну на ёй, кожную былінку на ўзбочыне. Пераадолеўшы спуск на халастых абаротах, машына рванулася на пад'ём, натужліва зараўла, але тут жа некалькі разоў чхнула і спынілася перад нацягнутай стужкай. З кабіны выскачылі два дужыя дзядзькі, доўга прыглядаліся да стужкі, мацалі яе рукамі, потым адзін з іх ірвануў яе на сябе, засмяяўся, вылаяўся і сказаў:

— Цэ ж пацаны, Міцяй!..

Яны зноў забраліся ў кабіну, машына завурчала. У гэтае імгненне з канавы вынырнула цёмная постаць і кінулася да задняга борта. Гэта быў Лінька. За ім матляпуліся астатнія. А яшчэ праз некалькі секунд Арцём пачуў, як на зямлю стала падаць нешта цяжкае і мяккае. Неўзабаве, калі тры мяшкі з яблыкамі сцягнулі на ўзбочыну і схавалі за плотам Лінькавага дома, а машына набрала ход і знікла за пагоркам, усхваляваныя і разгарачаныя, хлопцы выхваляліся адзін перад адным, расказвалі, як рэзалі брызент, як спрытна і хутка праз дзірку выцягвалі мяхі з яблыкамі і кідалі за борт. Усе адчувалі сябе героямі, усё роўна як толькі што зрабілі нешта надзвычайнае. Арцём стаяў убаку, яму было сорамна. Ён ведаў цяпер, што больш ніколі не прыйдзе ў Лінькава кодла. Помста, якая прывяла яго сюды, здавалася цяпер да смешнага недарэчнай і непатрэбнай.

Калі ўсе нашумеліся, яблыкі раздзялілі пароўну. Арцём паспрабаваў адмовіцца ад сваёй долі, але Лінька злосна загадаў:

— Ведаеш, Негр, кінь фраерыцца. Зразумеў? Бяры яблыкі і кацiся. З Зосімам разбяромся заўтра. Сёння позна.

Арцём зняў кашулю, завязаў каўнер і рукавы, склаў у яе яблыкі і панёс дадому. Пераваліла за поўнач. Чуйная начная цішыня вісела над соннай зямлёй. Толькі адзінокі сонны крык пеўня, што раней

часу прачнуўся, ці рэдкі брэх сабакі трывожыў яе спакой.

У доме свяцілася акно. У няяркім святле яго, што шырокай палоскай падала на дрэвы, бляклa blішчала лістота маладога вішняку. Яна трапяталася ад перадранішняга ветрыку... «Не спіць маці»,— падумаў Арцём, адчыніў брамку, асцярожна прайшаў у агарод, прынік да сцяны, прыслухаўся. Было ціха. Востра пахла расой, язмінам і крапівой.

Ён ціхенька пастукаў у акно і пайшоў да дзвярэй.

— Што такое, сынок? Што ты прынёс? — спалохана і здзіўлена глядзела на яго маці.

— Яблыкі, мама.

— Дзе ты іх узяў?

Арцём маўчаў. Прачнуўся Уладзік, працёр вочы, споўз з палацяў, схапіў яблык і прагна ўпіўся ў яго зубамі.

— Не чапай! Пакладзі назад! — строга запатрабавала маці.

Уладзік кінуў надкушаны яблык, заплакаў. Маці апусцілася на лаўку і таксама зайшлася ціхім плачам. На вочы Арцёма навярнуліся слёзы, а горла нешта моцна сціснула. Было вельмі шкада і маці, і Уладзіка, але ён не ведаў, як іх суцешыць.

— Бацька твой ніколі травінкі не сарваў у чужым агародзе. А ты? — усхліпвала яна.— У вайну апошні пуд мукі аддаў партызанам...

— Не плач, мама... не трэба... Мне самому цяжка... Даруй мне.

— Глядзі. Ты ўжо не маленькі, сам усё разумееш. Не хочацца мне, каб ты ў маладыя гады сядзеў, як сядзяць Ліцькавы браты.

— Я хачу працаваць, мама. Я ўжо дарослы.

— Куды ж цябе ўладкаваць? Не ведаю. Можа, пайсці на канатную фабрыку? Там робіць адзін наш

знаёмы. Кастусь Залатухін. Ён быццам за артыста ў клубе. А яблыкі, сынок, нясі туды, дзе ўзяў.

Арцём не пярэчыў. Ён узваліў кашулю з яблыкамі на плечы, падышоў да Куцеенкі, высыпаў іх у ваду, пакінуўшы адзін для Уладзіка.

Маці ён так нічога і не расказаў. І не раскажа ніколі. І зусім не таму, што баяўся. Яму было сорамна, і не хацелася рабіць ёй балюча. Ён толькі скажа маці, што быў у Лінькавай кампаніі.

## 14

Арцём страціў адчуванне часу. Ён ішоў і не бачыў ні дарогі, ні людзей, што былі побач, не рэагаваў на гукі. Ён нібы заснуў на хаду, і яму прысніўся сон пра хлопчыка, жыццё якога было вядома яму да драбніц.

І, магчыма, доўга цягнуўся б гэты сон, калі б Арцём не праваліўся нагой у каляіну, вымытую ручаём. Ён здрыгануўся не столькі ад страху, колькі ад адчування пустэчы пад нагой і ледзь не паваліўся. Хтосьці ўзяў яго пад руку, падтрымаў. Арцём кіўком галавы падзякаваў чалавеку і пайшоў услед за машынай, якая пакідала глыбокія каляіны на зямлі. Пад ногі кладліся яловыя галінкі. Старанна ігралі аркестранты апошнюю мелодыю для бацькі.

Разбуджаная жалобнай музыкай, вуліца запаўнялася народам. Маўкліва стаялі ля веснічак жанчыны і мужчыны, старыя і дзеці. Многія з іх далучаліся да працэсіі.

Надрыўна стогне медзь. Вецер нясе гукі ў пустое голае поле. Ідзе бясконцы дождж. Арцём асцярожна ступае па рыхлай дарозе, разглядвае людзей. Вось цяжкай няўклюднай хадой ідзе таўшчэзная Марфа.

На твары яе тупое недаўменне. Нізка прыгнуўся да зямлі і хутка коціцца на крывых нагах Лазар. Дробнымі крокамі трусіць цётка Матруна і бясконца выцірае хусцінкай адзінае сваё вока. Нібы камяк снегу на фоне шэрага натоўпу, вылучаецца белая як лунь галава Восіпа Гадуна. З цяжкасцю валачэ сваё разбітае гадамі і алкаголем цела Ярома. Пругкай, маладой хадой крочыць Лінька. Арцём прыкмячае ў натоўпе чалавека з попельна-русай галавой. Штосьці знаёмае было ў яго постаці і твары. Арцём даганяе і ідзе амаль у нагу з ім. Доўгія валасы яго ўскалмачаны ветрам, змочаны дажджом, падаюць на высокі лоб зліплымі пасмамі, з якіх на твар сцякаюць струменьчыкі вады. Арцём з нейкай дакучлівай цікаўнасцю паварочвае галаву ў яго бок, імкнецца ўспомніць, чаму яму знаёмы гэты класічна правільны профіль. Мужчына, відаць, адчуў на сабе погляд, павярнуўся да Арцёма, узяў яго пад руку і пайшоў побач плячом да пляча, выказаўшы гэтым сваё спачуванне. Арцём успомніў, што тады, даўным-даўно, ён гэтак жа, як і цяпер, трымаў яго за локаць, вадзіў па фабрыцы. Гэта было той далёкай вясной, якая на ўсё жыццё, як маршчына ў твар, урэзалася ў памяць.

...На другі дзень, пасля выпадку з яблыкамі, маці павяла яго на канатную фабрыку. Была яна сярдзітая і маўклівая. За ўсю дарогу не прамовіла ніводнага слова.

Фабрыка размяшчалася ў некалькіх доўгіх цагляных аднапавярховых карпусах, што ляпіліся ля самага Дняпра. Працавалі на ёй у асноўным жыхары Дымак, якія ведалі адзін аднаго ў твар. Пасля работы жанчыны, як звычайна, спяшаліся дамоў, а мужчыны збіраліся ля прахадной, каб скінуцца па рубліку і пайсці ў «Мутнае вока».

Прыйшлі яны не ў аддзел кадраў, як спачатку думаў Арцём, а ў фабрычны клуб — невялікі драўля-

ны будынак, пафарбаваны ў зялёны колер і ўпрыгожаны плакатамі і лозунгамі. Там было шмат моладзі. На сцэне перад групкай юнакоў і дзяўчат хадзіў і нешта гаварыў мужчына ў светлым касцюме. Нібы адчуўшы чужых, ён павярнуўся, саскочыў са сцэны і пайшоў ім насустрач. Высокі, плячысты, з прыгожа ўзнятай галавой, ён лёгка і імкліва перасёк залу. Калі падышоў, шырока ўсміхнуўся, ад чаго ярка заззялі шэрыя вочы на смуглым твары. Адной рукой узяў працягнутую насустрач руку маці, другую паклаў на плячо Арцёму, і той адразу ўспомніў яго на вясёлай гулянцы ў дзень юбілею бацькі. З далёкай далечыні, пяшчотна кранаючы слых, данесліся чароўныя словы песні: «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»

— Рад цябе бачыць, Ганна. Расказвай, што прывяло цябе сюды? — аксамітам паліўся яго голас.

— Кастусь Сяргеевіч, просьба ў мяне,— нерашуча прамовіла маці.

— Кажы, Ганна, не саромейся. Пастараюся зрабіць усё, што можна.

— Памажы ўладкаваць на работу Арцёма. Яму чатырнаццаць.

— Ды яму ж вучыцца трэба, а не працаваць,— нахмурыўся Залатухін.

— Што ж паробіш? Так ужо атрымалася. А хлопец адаб'ецца ад рук.

— Не хачу я ў школу! — прабурчаў Арцём.

— Ладна, пра школу потым,— Залатухін павярнуўся да маці: — У мяне цяпер рэпетыцыя, я вельмі заняты. Але ты хлопца пакінь. Праз гадзіну я закончу і мы з ім паталкуем.

Маці развіталася і пайшла, а Залатухін узяў Арцёма пад руку і павёў на сцэну.

— Мы ставім музычную камедыю, і мне патрэбен акцёр на эпізадычную ролю. Усяго некалькі слоў.

Ты як, спяваць умееш? Дыкцыя ў цябе добрая? — пацікавіўся ён.

Арцём маўчаў. Ён ніколі не выступаў на сцэне, не чытаў вершаў і не спяваў песень. І хаця ў школе была мастацкая самадзейнасць, яму ніхто не прапаноўваў займацца. На школьных вечарах ён заўсёды садзіўся ў першым радзе і з зайздрасцю глядзеў на шчаслiўчыкаў на сцэне, якім апладзіравала зала. І вось цяпер, калі на яго пасыпалася столькі пытанняў, Арцём спалохаўся. Ад хвалявання перасохла ў роце, а сэрца гатова было выскачыць. Менавіта цяпер, у гэтую хвіліну, ён павінен быў сцвердзіць сваё права на такое прыгожае чалавечае захапленне ці раз і назаўсёды развітацца з надзеяй, якая даўно ў ім жыла.

— Ну, што маўчыш? — паўтарыў пытанне Залатухін.

— Я не ведаю... можа, паспрабую?

— У школьнай самадзейнасці быў?

— Не...

— А дарэмна. Мне здаецца, у табе штосьці ёсць.

Яны ўзышлі на сцэну, і Залатухін сказаў сваім выхаванцам:

— Яго завуць Арцём. Толькі цяпер ён будзе капралам.

Залатухін хадзіў па сцэне, настойліва тлумачыў Арцёму:

— Я — разбойнік. І мяне цікавіць багаты скарб. Ты — капрал і трасешся перада мной ад страху. Калі я заспяваю: «Што за скарб, хутчэй кажы!», ты адкажаш: «Гэты скарб завецца Роз-Мары». Я злую, кідаюся на цябе з кулакамі: «Ты мне пра скарб хутчэй кажы». А ты ад страху хаваешся пад стол. Зразумеў?

Арцёма апранулі ў мундзір, і рэпетыцыя пачалася. Ён зрабіў усё так, як тлумачыў Залатухін. У той

момант, калі капрал ад страху лез пад стол, усе клаліся ад смеху. Пасля рэпетыцыі Залатухін сказаў Арцёму:

— Будзеш займацца ў нашай студыі. Тэхніцы я цябе навучу. Астатняе прыйдзе. У цябе ёсць інтуіцыя, здаецца, нават здольнасці. Голас невялікі, камерны, але прыемны. Спяваць таксама зможаш, толькі праз мікрафон. І на работу я цябе ўладкую.

У той жа дзень яны пабылі ў аддзеле кадраў, дзе Арцёма часова, як непаўналетняга, прынялі на работу align рознарабочым. А потым Залатухін знаёміў яго з фабрыкай. Арцём быў па-сапраўднаму шчаслівы ад таго, што парваў з блатной кампаніяй, што ўладкаваўся нарэшце на самастойную работу, што пазнаёміўся з Залатухіным, які быў так не падобны на ўсіх вядомых яму людзей. Арцём зразумеў, што ўступае ў новае, нязведанае жыццё. Гэта адначасова і радавала, і хвалявала, і трывожыла яго.

Часальны цэх, куды яго накіравалі, размяшчаўся ў доўгім цагляным будынку з маленькімі вокнамі і мноствам электрычных ліхтароў пад столлю, з двума радамі станкоў і нешырокім прамым праходам. У цэху было заўсёды душна і так пыльна, што ўсё навокал быццам плавала ў густым, гарачым, шэрым тумане. І работніцы, што стаялі за станкамі з павязкамі на тварах і кідалі на круглы зубчасты барабан валакно, здаліся Арцёму нейкімі прывідамі з аднастайнымі механічнымі рухамі. Але самым непрыемным быў рэзкі пранізлівы гул. Калі ён зайшоў упершыню ў цэх, то адразу ўспацеў, аглух і ледзь не задыхнуўся. Потым ён, вядома, прывыкне і да гарачага пыльнага паветра, і да шуму, і нават перастане ўсё гэта заўважаць. Прывыкне так, як прывыкае кожны чалавек да любой работы і абставін. Але цяпер, у першыя дні, яму было вельмі цяжка. Даводзілася падмятаць падлогу, вазіць у вязальны цэх тачкі з

ільняной стужкай, з якой рабілі шпагат і вяроўкі, падносіць з бункера да станкоў валакно. Жанчыны глядзелі, як, узваліўшы на плечы пяцідзесяцікілаграмовы цюк, пераламаўшыся ў паясніцы, валок яго па праходзе, накідваліся на Арцёма з той жаласлівай лаянкай, якой звычайна ўшчуваюць маці сваіх дзяцей:

— Ты што гэта, сынок, робіш? Пуп развяжацца.

— Глядзі, хлопец, дзяцей не будзеш мець.

— Нарвеш грыжу і застанешся на ўсё жыццё калекам.

— Кінь ты гэта! Вазьмі тачку!

На першым часе ў яго страшэнна балелі плечы. Да канца змены нямелі рукі, дрыжалі і падкошваліся ў каленях ногі, вострым болем рэзала паясніцу. Змучаны стомаю і гарачынёй, ён брыў у душавую і доўга стаяў пад моцнымі пругкімі струменямі, якія вярталі целу бадзёрасць і лёгкасць.

Успамінаючы сваё далучэнне да працы, Арцём будзе ганарыцца сваёй недзіцячай воляй, сілай і вынослівасцю. Ганарыцца тым, што працаваў не кім-небудзь, а рознарабочым і грузчыкам.

Як яму раіў Залатухін, Арцём стаў чытаць кнігі, завучваць на памяць вершы, песні і байкі. Больш за ўсё яму падабалася быць на рэпетыцыях, дзе Залатухін вучыў яго майстэрству артыста, прымушаў па шмат разоў вымаўляць адну і тую ж фразу, спяваць куплеты, смяяцца ці сумаваць, хадзіць па сцэне.

А хутка адбыўся і дэбют Арцёма. У фабрычным клубе недзе было яблыку ўпасці. З усіх канцоў Дымак і старыя, і малыя прыйшлі, каб паслухаць, як спявае Залатухін.

Арцём, хоць і выконваў невялікую ролю капрала, але вельмі хваляваўся. Залатухін нячутна падыходзіў да яго, браў за плячо, супакойваў. Але першае выступленне Арцёма было ўдалым. У той момант, калі

капрал залазіў пад стол, у зале чуліся апладысменты, смех. Пасля канцэрта таварышы шчыра віншавалі яго. Арцём зусім разгубіўся. Ён то чырванеў, то бялеў, штосьці гаварыў у адказ. Яго запаланіла небывалая радасць. Усё ў ім спявала і смяялася. Завяршаў канцэрт сам Залатухін. Прыгожы і ўрачысты, ён выходзіў на сцэну, абводзіў залу сваім мяккім усмешлівым паглядам і гаварыў прыемным і аксамітна пералівістым голасам:

— Ну, а цяпер буду спяваць я!

І зала нібы ўзрывалася. Арцёму здавалася, што ад бурных апладысментаў могуць разваліцца сцены. Спяваў Залатухін арыі з опер, рускія рамансы, лірычныя і народныя песні. Усе, хто яго слухаў, нібы нямелі. Быццам нейкі нябачны магніт прыцягваў гледачоў да спевака. Але больш за ўсё падабалася Арцёму, як спяваў Залатухін пра Сценьку Разіна. І нават не спяваў, а хутчэй расказваў сваім сэрцам пра ўдалога, вольнага і смелага казака. Ад спачування атаману, які ў знак сваёй вернасці казакам кінуў прыгажуню княжну ў Волгу, вочы Арцёма засцілала слязьмі, скрозь якія бачылася шырокая рака з распіснымі чаўнамі. Кожнае слова гэтай песні ўлівалася ў яго, як хмель, кружыла галаву. Пасля канцэрта ён быў як п'яны.

Часта Арцём будзе ўспамінаць Залатухіна і гэту песню, што так моцна ўсхвалявала яго.

Пасля канцэрта, калі ўсе разышліся, Залатухін сказаў:

— Можа, пройдземся да ракі? Нешта незвычайнае са мной сёння... Хочацца пагаварыць.

— Кастусь Сяргеевіч, чаму вы не спяваеце ў тэатры? У вас жа такі голас! — вырвалася ў Арцёма, калі яны паволі ішлі да Дняпра.

— Тваё пытанне мне — як нож у сэрца,— сумна

уздыхнуў Залатухін.— Я спяваў у тэатры... Даўно гэта было.

Ён змоўк. Шапацелі каменьчыкі пад нагамі. Рака мерна калыхалася ў пакатых берагах. У хвалістую роўнядзь яе, афарбаваную ружовым агнём, уразаліся адбіткі старых вербаў, што нізка схіліліся над вадой. На супрацьлеглым беразе, над хатамі, над шызай далячыннню патухаў, нібы гіганцкі касцёр, захад. Барвовым полымем разліваліся па небасхіле яго водблескі.

— Заплюшчыш іншы раз вочы, і, нібы ў сне,— працягваў Залатухін летуценна пявучым голасам,— яркае святло рампы. Публіка. Пазалочаныя роспісы на ложах. На сцэну выходзіш пад авацыі. Жанчыны да ног кветкі кідаюць. Не чалавек, а бог. І гэтым богам быў я, Арцём.

Залатухін сеў на лавачку пад грыбком, стаў глядзець на раку. Арцём прымасціўся побач, задумаўся. Мякка і ціха ўсхліпвала, плёскалася ў бераг рака. Бляклі, хаваліся ў змроку рыбацкія лодкі, што нерухома застылі на сярэдзіне. Ужо зусім патух захад, толькі некалькі воблачкаў стаялі на чыстым ружоваазялёным небе.

— Як жа гэта здарылася? — нясмела спытаўся Арцём.

— Ты яшчэ дзіця, Арцёмка, і, магчыма, не зразумееш мяне. Але я ўсё ж раскажу. Хто ведае, можа, табе ў жыцці калі-небудзь спатрэбіцца ўсё гэта, можа, станеш, як я, спеваком, успомніш мяне, задумаешся над лёсам Залатухіна.

Ён зноў змоўк, быццам для таго, каб сабрацца з думкамі, потым стаў расказваць з журбою і горыччу. Прыгожы голас яго мякка ўплятаўся ў ціхі плёскат хваль, не парушаў вячэрняй цішыні.

— Быў я малады, таленавіты. Выступаў у лепшых тэатрах і філармоніях. Спяваў так, што плакалі жан-

чыны і ўсцілалі мне дарогу кветкамі. Закружыла мяне, Арцём, слава. Як цяпер памятаю, было такое адчуванне, быццам я не хадзіў, а лётаў. І людзі навокал здаваліся мне ў параўнанні са мной нейкімі маленькімі і непрыкметнымі. У нябёсах лунаў... Палюбіў я, Арцём, лёгкае жыццё. Кроў у мяне ці то цыганская, ці то каўказская. Кіпіць і сёння. Чорт яго ведае з якога калена маёй радаслоўнай гэта кроў. І чаму я такі? І давай гуляць я! Эх, як гуляў! Віно, жанчыны, песні. Работу закінуў, рэпетыцыі прапускаў, сябе растрачваў налева і направа. Галоўная бяда ў тым, што голас прападаць стаў. А прырода ж мне дала такі голас, што я не меў права грэбаваць ім. Ды толькі дзе там! Жыццё кружыла мяне, як у шалёным танцы. Не мог я спыніцца, бо вельмі прагны быў да забаў. Жонка ад мяне пайшла. Стаў я зусім вольны і яшчэ больш загуляў. Зусім страціў галаву...

Голас яго стаў ціхі, прыглушаны. Ён змоўк зноў, уздыхнуў сутаргава, перарывіста. Хвалі ляніва лізалі пясчаны бераг. Сціраліся на небасхіле апошнія фарбы захаду. Гусцеў змрок, мацней пахла вада, ярчэй ззяў зорны россып.

— Думаў я на сцэну вярнуцца. Ды куды там! Канцэртныя залы ўжо даўно закрыліся перада мной. Трэба было шукаць работу. І я выпадкова трапіў у Беларусь, у ваш горад.

Пацямнела неба. Халодным зялёным святлом гарэлі на ім буйныя спелыя зоркі. Пачарнела рака. Нібы здані, стаялі прыбярэжныя дрэвы.

— Кастусь Сяргеевіч! Чаму ж так людзі дзіўна жывуць? І як трэба жыць?

— Не магу я табе, Арцём, адказаць, у чым сэнс жыцця, дзе яго шукаць і як разумець. Адно магу сказаць: жыць трэба па-чалавечы, сумленна, каб іншым каля цябе лёгка і проста жылося. Табе я магу параіць толькі адно: як бы ні было цяжка, вучыся, па-

знавай свет розумам і сэрцам. І яшчэ любі кнігі. Праз усё гэта ты прыйдзеш да разумення сапраўднай прыгажосці... А калі не, то жыццё тваё будзе нецікавым, шэрым і пустым.

Да глыбокай ночы яны прасядзелі ля Дняпра. Не ўсё, што гаварыў Залатухін, разумеў Арцём, не з усім згаджаўся. Але розум яго быў устрывожаны, сэрца ўсхвалявана. Прачулыя словы Залатухіна: «Праз усё гэта ты прыйдзеш да разумення сапраўднай прыгажосці» надоўга западуць у памяць. Выконваючы параду Залатухіна, ён вернецца ў школу, будзе шмат і прагна чытаць, пазнае ні з чым не параўнальную, узвышаную радасць ад добрай кнігі.

Там, ля Дняпра, Арцём нават не падазраваў, якая радасць чакае яго дома. Ён не ведаў, што ў гэты дзень быў вызвалены з-пад арышту бацька, што дома даўным-даўно ўсе чакаюць не дачакаюцца яго, Арцёма. Не ведаў, што вясёлы і падпіты Зарудны бясконца пераказваў маці адну і тую ж гісторыю, якая стала прычынай арышту бацькі. Назаўтра такі ж узбуджаны, вясёлы і захмялелы Зарудны будзе расказваць яе на вуліцы кожнаму сустрэчнаму:

«Трэба ж такі выпадак! Камбрыг праз нашага камандзіра-нябожчыка даручыў адну справу правярнуць. Немцы ў Паддубіна з усіх вёсак сагналі жывёлу. А разведка наша тут як тут. Аказваецца, фрыцы праз двое сутак павінны былі кароў нашых у Германію адправіць. Роўна за дзень да адпраўкі Пётра гэту справу зварганіў. Спаіў паліцаяў самагонкай і перадаў загад, быццам бы ад гарнізоннага камандавання, перагнаць статак у іншую вёску, дзе будзе пагрузка. Ну, а тыя і рады старацца. А ў вёсцы той ужо чакалі партызаны. Кароўкі гэтыя потым здорава памаглі нам. На астравах дзяцей і параненых малаком паілі. Большую частку, вядома, сялянам вярнулі... А народ што? Пасля вайны адумаліся, успомнілі

ды і калектыўнае пісьмо арганізавалі, маўляў, здраднік народа і ўсё такое. А таго не ведалі, што па спецыяльнаму загаду гэта рабілася. І ў іх жа інтарэсах дабро ратавалася. Ды, на шчасце, камандзіры брыгадныя жывыя засталіся. Па ўсёй краіне шукаў іх і ўсё ж знайшоў. Прыехалі, праўду расказалі, і ўсё адразу на сваё месца стала».

Людзі ўважліва, са спагадай слухалі Заруднага, радаваліся за Пятра і яго сям'ю.

## 15

Думкі Арцёма надоўга спыніліся на тым часе, калі вярнуўся бацька. Менавіта ён, той час, цяпер набыў для яго асаблівае значэнне. І калі б можна было ўцячы адсюль, вярнуцца назад у мінулае, каб як мага далей застацца з бацькам у тых незваротна страчаных днях, Арцём абавязкова зрабіў бы гэта.

Цяпер ён шукаў ратунку ад таго душэўнага болю, які ніхто не змог бы суняць, калі б і хацеў. І выратаванне было ў мінулым бацькі. Ён хапаўся за гэта мінулае з такім адчаем, так прагна, як хапаецца тапелец за любую травінку, за любы пруцік каля сябе. Успамінамі пра бацьку Арцём як бы хацеў прадоўжыць яго жыццё цяпер, калі таго ўжо не існавала. Толькі б не бачыць нічога, не чуць гэтага бясконцага рэквіема смутку і адчаю.

Арцём перабіраў самыя нязначныя падрабязнасці з жыцця бацькі, калі ён толькі што быў вызвалены з-пад следства. Ён вельмі змяніўся, і бывалі імгненні, калі Арцёму нават здавалася: гэта зусім не бацька, быццам падмянілі яго іншым чалавекам.

Некалькі тых дзён былі выбіты з будзённай каляіны шумным застоллем. Зарудны піў з дзёрзкім

адчаем чалавека, які ад радасці вырашыў утапіць сябе ў віне. Успамінаючы яго такім, Арцём прыйдзе да думкі, што Зарудны, які амаль не браў у рот спіртнога, спусціў сябе з усіх тармазоў, як бы адамкнуў і вызваліў усе свае пачуцці. У ім буяла, клекатала радасць ад усведамлення таго, што ў барацьбе з несправядлівасцю ён перамог, перамагла праўда.

Матруна таксама піла ледзь не нароўні з мужчынамі і спявала сваю любімую самотна-пацяжную песню: «А бог знае, бог ведае, дзе мой мілы начуе».

Пра шчасце маці і гаварыць не даводзілася. Толькі сам бацька быў невясёлы, амаль не піў, а больш маўчаў з тым задуменным смуткам у паглядзе, які бывае ў параненых птушак. А больш за ўсё запомніліся Арцёму перамены ў бацькавай знешнасці, якія адбыліся ўсяго за некалькі месяцаў. Валасы, раней такія жорстка русыя, гушчэзныя, сталі шэрага колеру, быццам іх толькі што змачылі малаком і не выцерлі. Твар завастрыўся, стаў вузкім, бледным. У куточках шчыльна сціснутага рота прарэзаліся глыбокія складкі. Здавалася, што скура ў гэтых месцах растрэскалася. Вочы, такой чыстай маладой сінечы, як бы страцілі свой колер і пабляклі. У іх паявілася халодная сталёвая празрыстасць, якая бывае звычайна на азёрах у перадзім'е.

З месяц бацька не працаваў. Цэлымі днямі прападаў у Заруднага ці ў Матруны, памагаў ім па гаспадарцы, або ішоў да ракі, доўга хадзіў там у адзіноце, думаў, па прывычцы трымаючыся рукамі за салдацкі рэмень на гімнасцёрцы. Аб чым думаў бацька, Арцём не ведаў, але здагадваўся, што яму вельмі дрэнна. Ён нагадваў чалавека, які нешта згубіў і цяпер дарэмна імкнецца адшукаць тое згубленае, без чаго немагчыма жыць.

Зноў прыходзілі родзічы, знаёмыя. Наведвалі бацьку Гардзееў, Гадун, Лазар і Марфа. Пасля су-

стрэч з імі ён яшчэ больш хмурнеў, надоўга замыкаўся ў сабе. У такія хвіліны Арцёму было вельмі шкада бацьку. Аднойчы вечарам, калі той сядзеў, як звычайна, на лавачцы, Арцём спытаў:

— Тата, чаго ты такі сумны?

Бацька не адразу ўзняў на яго вочы, нічога не адказаў, нахмурыўся, быццам раззлаваўся, што сын адарваў яго ад тых думак, якія для яго былі важней за ўсё астатняе. Потым загаварыў:

— З дзяцінства, сынок, мне запомніўся адзін выпадак. У нашым лесе, на паляне, рос велізарны дуб. Такі кашлаты, у ствале шырачэзны. Летам як распусціцца, дык здалёк здаецца, што зялёнае воблака на зямлю апусцілася. Ну і вось нехта вырашыў яго спілаваць. Ды не адолеў, а толькі надрэзаў глыбока ля самага камля. І дуб пачаў сохнуць. Летам распускаў лісты толькі з аднаго боку, а з таго, дзе быў падрэз,— ніводнага лісточка. Голле, голае, чорнае, як карэнне тырчала ва ўсе бакі. Не справіўся ён са сваёй хваробай, не перамог яе... Зламала яго бяда. А я ўсё думаў пра таго чалавека, які ўзняў на яго руку. Навошта яму гэта спатрэбілася? Дроў у нашым лесе колькі хочаш. А дуб гэты столькі карысці прыносіў людзям і птушкам! Хлапчукі, бывала, вельмі любілі лазіць па ім, гуляць. Буслы свае гнёзды ладзілі... І загубіў гэты чалавек не толькі дрэва... Ён загубіў радасць нашу. І адчуваў я сябе так, быццам з душы нешта вынялі. Дуб я гэты запамятаў на ўсё жыццё, пра гэтага чалавека думаю і цяпер. Ці было ў яго сумленне? Ці пакутаваў ён ад таго, што сатварыў? Вось мой адказ табе, сынок... Я хачу, каб ты ніколі не рабіў так, каб ніхто цябе не выклікаў на суд чалавечага сумлення.

Ужо дарослы, Арцём не раз успамінаў бацькаў расказ, разумеў яго сімвалічны сэнс. І ў думках сваіх выклікаў і Гардзеева, і Гадуна, і Лазара, і Марфу,

і Кірыла, і настаўніка Зосіма Сцяпанавіча на Суд Сумлення. Аднойчы ён нават уявіў гэты суд. Вось яны сядзяць у зале «Суда Сумлення», усе разам, побач, хаваюць вочы, маўклівыя і вінаватыя. Ён доўга, пільна разглядае іх, быццам хоча ўбачыць галоўны матыў паводзін, які кіраваў імі ў той цяжкі для яго час. Але твар чалавечы — не люстэрка, калі і заглянеш у яго, то не заўсёды ўбачыш тое, што хацеў бы ўбачыць. Яны панура ўставалі, апраўдваліся перад ім. Але Арцём не адчуваў да іх ні варожасці, ні нянавісці, ні пагарды. Ён быў ужо не той безабаронны хлапчук з далёкага дзяцінства.

Ад пранізлівага голасу знікла, растала зала «Суда Сумлення». Арцём заўважыў, што людзі спыніліся. Ціхі шум, як парыў ветру, пракаціўся па натоўпе і заціх. Арцём не ведаў, што там, уперадзе, адбылося і чаму людзі абураюцца. Ён зірнуў па баках і ўбачыў, што працэсія спынілася ў тым месцы, дзе вуліца заканчвалася і выходзіла на ўзаранае поле.

Удалечыні, на голай хвалістай чарнаце раллі, маячылі высокія, з празрыстымі вяршынямі дрэвы. Там быў могільнік. Але вось зноў паўтарыўся той жа голас, і Арцём убачыў Доньку-дурненькага. Ён падбег да музыкантаў, прыклаў правую руку да галавы і пайшоў побач з імі, як на парадзе, высока ўскідваючы калені і шырока размахваючы левай рукой. Адзін з музыкантаў не выцерпеў, ірвануўся да Донькі і замахнуўся на яго трубою. Потым ад працэсіі адбіўся кульгавы чалавек і, піхаючы Доньку ў плечы палкай, пагнаў да яра, які пачынаўся за полем. Той, баязліва азіраючыся, пабег прэч. У кульгавым Арцём пазнаў былога дырэктара школы Калі ласка і падумаў аб тым, што ён мог і не прыйсці. І ніхто яго за гэта не папракнуў бы. Але ён прыйшоў, значыць, яго таксама нешта звязвала з бацькам.

Калі Донька знік, людзі зноў крануліся з месца

і пацягнуліся цераз поле па разворанай плугамі дарозе. Людзі спатыкаліся на слізкай раллі...

Неўзабаве Арцём убачыў чорныя вароты, драўляную агароджу, якая хавала могільнік ад чалавечых вачэй, быццам для таго, каб не азмрочваць іх пустэльна закінутым і панурым выглядам. Вароты былі закручаны дротам, таму машына спынілася, нібы ўліпла калёсамі ў густое цеста дарогі. Услед за машынай інертна пахіснуўся натоўп і застыў. Нейкі мужчына стаў нервова і паспешліва адкручваць дрот, потым з той жа паспешлівасцю і нейкай гаспадарчай дзелавітасцю шырока расчыніў браму, а сам закульгаў убок. Ён быў у форменным адзенні чыгуначніка, Арцём пазнаў у ім брыгадзіра Івана Кандыбу і міжволі падумаў: у поездзе яны абодва нават і не падазравалі, што бацькі ўжо няма на свеце. Арцём пра гэта даведаўся раней, брыгадзір — пазней і, відаць, пакінуў усе свае клопаты і таксама прыйшоў праводзіць бацьку... Нечакана для сябе Арцём нарэшце ўспомніў яго там, у сваім дзяцінстве. Калі забралі бацьку, Іван Кандыба аднойчы прывёз ім на дровы машыну старых прасмаленых шпал, якія пахлі крэазотам, і некалькі вёдраў чорнага, круглага, як мячыкі, вугалю. Гэта была нечаканая і такая патрэбная дапамога: не было чым паліць у печы. Арцём ужо некалькі разоў прывозіў з лесу на санках яловае голле, але хапала яго ненадоўга. А тут такое шчасце звалілася на галаву. Да красавіка яны не ведалі гора з палівам.

Арцём зноў вярнуўся ў яву, нібы баяўся спазніцца на гэты, як яму здавалася, ненатуральны рытуал. Вось ужо вузкі праём варот уцягнуў, усмактаў на могілкі машыну і людзей. На пярэднім плане, сярод тонкіх крываватых бярозак, сасцябаных дажджамі, Арцём убачыў аплыўшыя магілы, пакрытыя пабурэлай травой. Толькі крыху воддаль у глыбіні

жаўцеў свежы грудок зямлі. Машына пад'ехала да яго і спынілася. Тыя, што былі ў кузаве, знялі труну з нябожчыкам і няроўна паставілі на пясок. Народ маўкліва расцёкся вакол ямы, блізка падступіў да яе. Зямля пасыпалася ўніз вялікімі рыхлымі камякамі. Зарудны ўзлез на ўзвышша. Вецер расхрыстаў на ім кажух, ускалмаціў валасы, нібы спрабаваў зваліць з ног. Але Зарудны стаяў моцна і ўпэўнена, не гаварыў, а крычаў сарваным голасам сваё самае дарагое, запаветнае:

— Не стала яшчэ аднаго салдата на зямлі. Не стала майго баявога таварыша і сябра. І ад таго яшчэ мацнейшы мой боль, што не загінуў ён на вайне, а памёр цяпер, калі паміраць не павінен быў, не меў права... Ён павінен быў жыць... Доўга жыць!.. Прыгожа, радасна, таму што заслужыў, заваяваў сваёй крывёю гэта права...

Ці то ад хвалявання, ці то ад моцнага ветру, што заглушыў яго голас, Зарудны нібы захлібнуўся словамі, нешта яшчэ натужна пракрычаў і саскочыў з капца, пахіснуўся, адышоў, выціраючы далонямі вочы.

А потым на месца Заруднага стаў Восіп Гадун. Ён ні на кога не глядзеў, загаварыў спакойна і не вельмі чутна. Вецер ледзь даносіў да Арцёма словы: «Вялікае гора спасцігла нас... Мы сёння ў апошні шлях праводзім сябра нашага, бясстрашнага партызана. І тое, што ён раней за нас на могілках гэтых,— наша віна. Мая віна. Ты даруй нам, Пётра... Мне даруй, што не зберaглі мы цябе... Я сам лёг бы ў магілу замест цябе, калі б мог...»

Арцём стаяў, бясконца глытаў даўкі камяк, намаганнем волі спрабаваў задушыць у сабе гэту слабасць. Але боль нарастаў, распіраў грудзі, сутаргава перахопліваў дыханне. Вочы засцілала салапавата

цёплым туманам. Ён тыльным бокам далоні выціраў іх і прагна лавіў поглядам усё, што рабілася вакол.

Восіп Гадун, які, відаць, не справіўся з хваляваннем і неяк вінавата закончыў сваю споведзь, адышоў убок. А з людскога натоўпу вынырнулі чатыры хлопцы, узялі века труны, закрылі нябожчыка і кароткімі ўдарамі малаткоў прыбілі века доўгімі цвікамі. Потым учэпістымі, умелымі рукамі спусцілі на вяроўках труну ў яму. Людзі бралі жоўтыя камякі, кідалі іх уніз. Тыя ж хлопцы ўзялі рыдлёўкі, што ляжалі непадалёк, і пачалі таропка зграбаць зямлю. І пакуль яны рабілі сваю няхітрую работу, Арцём заўважыў, што ўсе яны былі рослыя, моцныя, з тугімі, налітымі маладой сілай мускуламі, якія выпіралі скрозь тонкія мокрыя кашулі. І твары ў іх былі спакойна дзелавыя, без аніякага ценю спачування ці жалю...

Арцём стаяў над стракатай гарой вянкоў і кветак, нібы скамянелы, адасоблены ад усяго і ўсіх. Ён не бачыў, як непагодлівае неба рыхлымі, ірванымі хмарамі навальвалася на могілкі, як старыя кашлатыя бярозы хісталіся пад ветрам, не чуў, як яны вылі і стагналі.

...Змёрзлыя, наскрозь прамоклыя людзі нецярпліва рушылі за памінальны стол. Маўкліва, але шумна рассаджваліся. Зарудны адкаркаваў бутэльку, стаў разліваць гарэлку. Да бутэлек з усіх бакоў пацягнуліся чырвоныя ад холаду рукі. Калі зноў наступіла цішыня, устаў мажны мужчына. Арцём без цяжкасці пазнаў былога камбрыга Гардзеева. Ён быў усё такі ж самаўпэўнены і нетаропкі. Толькі на твары яго замест прывычнай начальніцкай усмешкі адбілася стомленасць. Гардзееў дастаў з кішэні паперку і пачаў чытаць пра бацьку добрыя словы, але яны здаліся Арцёму нейкімі казённымі, зацёртымі, таму не кранулі душу. Слых яго ўлоўліваў толькі аднастай-

ны шэлест стандартных фраз. Камбрыг закончыў прамову, згарнуў паперку, запіхнуў яе ў кішэню. Крэсла натужна зарыпела пад яго цяжкім целам.

Арцём памагаў маці і Заруднаму частаваць гасцей. Ён мала гаварыў, быў уважлівы да ўсіх, пільна ўглядаўся ў твары, нібы імкнуўся запомніць іх: мужчынскія і жаночыя, старыя і маладыя. Нехта яшчэ гаварыў пра бацьку, але праз меру шматслоўна, блытана. Так звычайна гавораць людзі, якія падпілі. Арцём ужо амаль не чуў і не ўспрымаў іх.

...Прачнуўся ён на наступны дзень позна. Абуджэнне было такое раптоўнае, што ён нібы вынырнуў з небыцця, і ўсё ўчарашняе здавалася яму даўнім мінулым. І пахаванне бацькі, і пакуты маці, і яго боль — усё адышло далёка-далёка. Прамежак часу, у які ён спаў, быццам расцягнуўся на гады. Ад перажытага засталося адчуванне страшэннай пустэчы.

Арцём спусціў ногі з ложка, зірнуў у акно. На халодным, прамытым да чыстай сінечы небе вугольна-чорнымі штрыхамі адбівалася галінка яблыні. На нерухомым, нібы прыклееным лістку яе вісела сярэбраная кропелька.

Галава гарэла, яе нібы сціскалі жалезнымі абручамі. У другой палавіне хаты ён убачыў Заруднага, Уладзіка, таксіста, што вёз яго з вакзала, і Залатухіна. На вуліцы таксама чулася гамонка, і ён здзівіўся, што людзі да гэтага часу яшчэ тут. Ён устаў, каб пайсці да іх. Ногі былі вялыя, непаслухмяныя. Погляд яго наткнуўся на маці. Яна сядзела на табурэце, і цяжка было зразумець, дрэмле ці задумалася пра нешта вельмі важнае. Тут па-ранейшаму стаяў стол з недапітымі бутэлькамі і недаедзенай закуссю. Арцём падумаў пра таксіста: «Чаму ён тут?» Той нібы адгадаў яго пытанне, падышоў, прывітаўся, растлумачыў:

— Мы з Уладзікам сябры. На заводзе разам працавалі, потым у вячорцы вучыліся.

— Малайчына, што прыйшоў,— з удзячнасцю адказаў Арцём і прысеў да стала.

— Можа, есці хочаш? — спытала маці.

— Ага, мама, хачу.

І сапраўды адчуў, што вельмі прагаладаўся.

— Я паклічу са двара... твае там прыехалі, з работы.

— Калі? — спытаў Арцём.

— Учора, як толькі ты заснуў.

Праз некалькі хвілін у хату ўвайшлі Ігнат, Фаміч, Трафім і той рыжы хлопец, што любіў расказваць «байкі». Ён прыйшоў у тралейбуснае дэпо ўсяго некалькі дзён назад. Арцём нават не паспеў з ім пазнаёміцца і таму здзівіўся, што той прыехаў. І не толькі ён, а ўсе чацвёра выправіліся ў такую далячынь, каб паспачуваць яму. І змрочны Ігнат, і грубаваты, іранічна-вясёлы Трафім, і добры, але бязвольны майстар Фаміч, і гэты рыжы хлопец сталі надзвычай блізкімі і дарагімі Арцёму. Яны селі побач за стол, маўклівыя і журботныя, выпілі, сталі закусваць.

У гэты момант у хату ўвайшла Зойка. Арцём яшчэ не бачыў яе. Але адчуў яе прысутнасць, рэзка павярнуўся. І ўжо не змог адвесці погляду ад яе твару. Ён бачыў, як пацяплелі яе вочы, сталі пяшчотнымі, а потым з іх выкаціліся дзве буйныя слязінкі. Яна не засаромелася сваіх слёз, не выцерла іх, а павольна і ціха падышла да Арцёма, села побач і сціснула яго далонь у сваіх гарачых і вільготных ад хвалявання руках.

— Даруй мне... Даруй, калі можаш,— сказала дрыготкім перарывістым голасам.

Ён нічога не адказаў, толькі пагладзіў яе рукі і адчуў, як горка-шчаслівай хваляй захліснула яго ду-

шу. Жаласць, спачуванне, пяшчота да Зойкі трапяталіся ў ім. Ён дараваў Зойцы ўсё, яму хацелася абняць яе, гладзіць па валасах і суцяшаць, як маленькае дзіця. Але засаромеўся людзей, адхінуўся ад Зойкі і зноў задумаўся.

Арцём успамінаў учарашняе пахаванне, памінкі, Гардзеева, Зосіма, Марфу, Лазара, Кірылу і адчуў, што шкадуе іх. Як хвалі змываюць на пяску сляды, так і час змыў з яго душы пену перажытага. Арцём думаў, што вышэйшы сэнс жыцця не ў помсце і нянавісці, а ў высакароднасці і ва ўменні дараваць. Ён дараваў усім, хто, як ён думаў раней, быў вінаваты перад ім. Сэрца, замарожанае мінулым, адтала і пацяплела. І гэта раптоўная прасветленасць прывяла яго да простай і мудрай ісціны: жыццё само па сабе неацэнны скарб і шчасце. І кожнай жывой істоце дадзена аднолькавае права карыстацца ім, а значыць, трэба жыць так, каб не толькі не перашкаджаць іншым, а памагаць ім карыстацца гэтым вышэйшым дарам.

У гэта імгненне ў акно ўдарыў вецер, і ў пакой уварвалася сонца, што прабілася праз калматыя чорныя хмары. Шырокі слуп промняў асвятліў хату. І ў гэтай лавіне позняга восеньскага святла Арцём убачыў на сцяне фатаграфію бацькі ў самаробнай драўлянай рамцы. Ён стаяў ва ўвесь рост у чырвонаармейскай форме, засунуўшы пальцы рук за рэмень. Іранічна-вясёлыя прыжмураныя вочы нібы гаварылі: «Не падай духам, сынок. Не журыся. Я недарэмна жыў на гэтай зямлі».

Арцём пражыў паўжыцця свайго бацькі, які ўжо назаўсёды пайшоў у небыццё з усімі сваімі радасцямі і пакутамі. Другая палова жыцця яму была невядома, але ўяўлялася шырокай і прасторнай, як неабсяжнае поле. Што будзе на гэтым полі жыцця? Што ён павінен засяваць і зжынаць на ім?..

Ён паглядзеў на маці. Яна стаяла ля акна ў патоку залацістага святла і здавалася нежывой. Праз гадзіну, праз дзве разыдуцца, раз'едуцца госці, блізкія і далёкія сваякі, пакінуць дом Уладзік і Валя. А маці застанецца зусім адна ў гэтай ледзяной пакутлівай цішыні... Арцём падумаў, што яго месца тут, у бацькоўскай хаце, што ён павінен застацца, магчыма, назаўсёды.



## ПОМНІК

— Ну што, браток, закурым?..— сказаў Фёдар Пранчакоў і падаў скураны капшук.

— Пачакай, пачакай, дружа, дык я ж сам пахаваў цябе. Пад дубам паклаў...

Захар памятаў, як ён хаваў Фёдара Пранчакова. Памятаў, як ляжаў Пранчакоў: рукі раскінуў шырока, быццам абдымаў зямлю. Захар плакаў над ім, верыў і не верыў у яго смерць. Не адразу ўцяміў, што Фёдара трэба пахаваць. А калі спахапіўся, то ўспомніў, што ў яго няма рыдлёўкі. Заставалася адно: пакласці Пранчакова тут, ля дуба, у глыбокай варонцы. Захар з цяжкасцю падцягнуў Фёдара да ямы, агледзеў кішэні, але дакументаў не знайшоў. Потым ён доўга і марудна зграбаў пясок з бакоў варонкі — засыпаў Пранчакова...

І вось цяпер той, пахаваны ім больш як трыццаць гадоў назад, Фёдар Пранчакоў дзяліўся з ім тытунём. Захар ведаў, што закурыць яны не паспеюць, не паспее ён і растлумачыць Фёдару, што той мёртвы. Ведаў, бо гэты самы сон бачыў ужо каторы год запар.

І на гэты раз, гэтай раніцай, усё атрымалася як

па пісанаму. Не паспеў ён сказаць Фёдару слова, закрычалі трэція пеўні. Захар усхапіўся, спусціў з ложка ногі, але доўга не мог зразумець, спіць ён або прачнуўся, дзе ён цяпер, у якім годзе, у якім часе.

Доўга сядзеў нерухома, згорбіўшыся, паклаўшы худыя рукі на калені. Потым нацягнуў салдацкія галіфэ, усунуў ногі ў кірзавыя боты, зняў со сцяны пугу і выйшаў на двор. Раніца налівалася шызым прахалодным змрокам. Адзінокая бледна-зялёная зорачка яшчэ гарэла, быццам святляк, на засінелым небе. Прачыналіся, галасілі пеўні з такім стараннем, быццам хацелі перакрычаць адзін аднаго. Радаснае рэха неслася над вёскай, гулка стукалася ў вокны заспаных хат.

Жанчыны спяшаліся да калодзежаў, будзілі раніцу звонкім стукам пустых вёдзер, бадзёрым прывітаннем і вясёлай гамонкай.

— Э-ге-ге-ге! — у радасныя гукі раніцы ўплёў і Захар свой моцны голас і таксама, як учора і пазаўчора — як і ўсе гэтыя дваццаць гадоў,— нетаропка пайшоў за статкам, узняўшы ботамі пыл, прыбіты начной вільгаццю. Яго голас прыспешваў жанок. Яны хуценька даілі кароў і выганялі іх на вуліцу. Паветра пахла сырадоем, расой, цёплым хлявом.

— Добрай раніцы, Захар! — прастуджаным галасам крычыць яму Агата, падганяе цялушку, сцябае яе дубцом. Цялушка ляніва перастаўляе ногі і не зважае на нездаволенасць гаспадыні.

— Пашкадуй жывёліну,— быццам сярдуе Захар.

— Разлянела зусім, спасу няма...— скардзіцца Агата.

— Дарэмна ты так,— супакойвае яе Захар.— Цялушка твая што трэба... Паслухмяная, спакойная, у шкоду, як іншыя, не лезе.

Захар любіць пры выпадку пагаварыць з Агатай. Яна немаладая, але яшчэ і не старая, з серабрыста-

смалянымі косамі вянком вакол галавы і карымі вачыма па абветраным твары. Міма такой не пройдзеш не заўважыўшы. І ён некалі заўважыў... Ды, напэўна, не лёс. Не лёс... Колькі гадоў мінула, а ўсё чакае Агата з вайны свайго Лукаша. Захар спачатку злаваў на яе, потым шкадаваў, а цяпер... А цяпер ён рады, што жыве побач з ёю, можа бачыць яе кожную раніцу. Захар успомніў складзеную кімсьці горкую жартаўлівую прымаўку: «Наша Агата ўсім багата, толькі тым бедная, што ўсё жыццё адна». І ён падумаў, што гэта няпраўда, не адна яна, а ўсё жыццё з памяццю...

Выходзілі іншыя жанчыны, віталіся з Захарам.

Парадзеў густы туман, сонца пырснула ружова-залатымі промнямі. І адразу пацяплела, задымілася трава, пацягнула з комінаў родным пахам жылля і хлеба. Паволі ідзе статак. Спяшацца няма чаго. У гэтым годзе пад пашу аддалі канюшынішча і прыбярэжную лугавіну з духмяным разнатраўем.

На пашы статак разышоўся, каровы прагна пацягнуліся да маладой, сакавітай травы. Захар сеў на купіну, дастаў капшук, скруціў цыгарку, загледзеўся на вёску. Яна раскінулася на раўніне, ахінутая садамі, і нагадвала востраў сярод зжатых ніў... Непадалёк ад вёскі, сярод чаротавых і лазняковых зараснікаў, блішчала рачулка. А паміж ёй і вёскай — дубовы гай. Туды, да гаю, ён і рашыў павярнуць статак. Сабраў кароў ля рэчкі ў лагчыне, а сам пакіраваў да вялізнага разгалістага дуба. Таго самага дуба...

Ногі патаналі ў сыпучым пяску, млелі, няроўна і часта білася сэрца. Нялёгкая сустрэча чакала яго там, наверсе. Захар аддыхаўся, паправіў букецік белых рамонкаў, якія прынёс сюды ўчора перад захадам сонца. Кветкі трохі завялі, на пялёстках дрыжалі ртутна-сярэбраныя кроплі расы. Ён маўкліва па-

стаяў ля магілкі, потым абышоў вакол дуба і пабрыў па гаі, паглядаючы на статак.

У гаі было па-ранейшняму вільготна і халаднавата, чыста і ўтульна, як у прыбранай вясковай хаце. Сонечнае святло лілося на разлапістыя кроны дрэў, унізе зярніста рассыпалася па карэннях і травах. І Захар радаваўся сонцу і чысціні, як быццам гэты гай быў яго ўласным домам... Дарэчы, так яно і было. Звычайна ў выхадныя дні сюды прыязджала шмат гараджан. Яны раскладвалі вогнішчы, пілі гарэлку, спявалі песні, дурэлі. Вечарам вярталіся ў горад, пасля сябе пакідалі бутэлькі, бітае шкло, рэшткі ежы. Захар зграбаў смецце, паліў яго або закапваў у зямлю.

Асабліва падабаўся прыезджым дуб-велікан, яго дуб. У вялізным дупле яны неаднойчы спрабавалі раскласці агонь. Але Захар быў напагатове. Напагатове ён быў кожную нядзелю, за ўсім назіраў, усё бачыў. І неаднойчы ў думках лаяў няпрошаных гасцей: «Эх людзі, людзі! Што вы робіце?! Апамятайцеся! Хіба можна так?.. Чалавек тут пахаваны, разумееце? Ні сораму ў вас, ні сумлення!» А калі, здаралася, падыходзіў і спрабаваў выказаць усё, што набалела, словы губляліся і нікога не краналі. На яго паглядалі, як на дзівака, часам пасмейваліся. «У лесе нельга жыць так, як каму хочацца,— разважаў ён.— Лес любіць цішыню. У гэтым лесе, у адным з дрэў, жыве душа Фёдара Пранчакова. Спакой ёй трэба, спакой і цішыня».

Захар зноў падышоў да дуба, прыхінуўся да яго. Ён глядзеў на рэчку і думаў пра свае пражытыя гады. Было ў яго жыцці ўсё: і шчасце і згрызоты. Жыў, сумленна працаваў. А калі прыйшла вайна, ён і на вайну пайшоў, быццам на работу.

Зенітна-артылерыйскі полк, у якім служыў Захар, трапіў у акружэнне і быў знішчаны ў першы ж

тыдзень вайны. Камандзір батарэі сабраў уцалелых байцоў і вывеў да рэчкі. Пастроіў на беразе, акінуў поглядам замурзаныя змучаныя твары салдат, загадаў:

— Будзем акопвацца... Да вечара... А там на ўсход, прабівацца да сваіх. Сяржант Пашкевіч, на левы фланг. Хто яшчэ з ім... па жаданню?

З шарэнгі не адразу выйшаў салдат у абгарэлай гімнасцёрцы.

— Зараджаючы радавы Пранчакоў!

— Няма што зараджаць,— перапыніў капітан.— Страляеш добра?

— Я — паляўнічы, таварыш капітан.

— Адкуль?

— З Расіі, смаленскі я.

Захар так ніколі і не даведаўся: удалося ім прабіцца альбо не. А пакуль ён і Пранчакоў угрызаліся ў зямлю, рыхтаваліся да кругавой абароны, бо не ведалі адкуль, з якога боку могуць з'явіцца немцы. Нарэшце Захар выцер далонню ўзмакрэлы лоб, прапанаваў Пранчакову:

— Ну што, браток, пакуль фрыца няма, будзем курыць.

Фёдар дастаў з кішэні скураны капшук, расшыты мудрагелістымі ўзорамі.

— Штосьці я не помню, з якога ты падраздзялення? — спытаў Захар.

— Адкуль жа табе помніць? Ішоў да вас на сувязь, ды так здарылася, што назад не вярнуўся... Яшчэ за дэзерціра палічаць...

— Не палічаць.

— А ты адкуль ведаеш?

— Пасля вайны разбяруцца.

— Разбяруцца...

Захар загледзеўся на яго вялікія моцныя рукі, зазначыў:

— А мужык ты, напэўна, дужы?

— У нас у раду ўсе такія... Маці расказвала, дзядуля мой каня валіў... Вось так, браток.

Сядзелі адзін насупраць другога, смачна зацягваліся махорачным дымам. Над полем струменілася мроіва. На бляклай сінечы неба нерухома стаялі чародкі дробных хмарак.

Накурыўшыся, Фёдар лёг на левы бок, паклаў пад галаву аўтамат, пачаў сцішана гаварыць:

— Жыў раней і пра жыццё сваё не думаў. А цяпер вось успамінаецца мінулае. І так, здаецца, добра было!

— Нечага цяпер пра гэта думаць,— заўважыў Захар.

— Не магу. Думкі самі наплываюць. Усё лугі мне помняцца нашы, шырокія, разнатраўныя, густыя. Ідзеш, бывала, ногі блытаюцца. Бацька мяне заўсёды на сенакос браў. Помню, сонца яшчэ толькі пачынае прабівацца, а ўжо ўся вёска ў зборы. Людзі вясёлыя, радасныя, быццам на свята ідуць. А працаваць як пачнуць — залюбуешся. Косы звіняць, трава пад сонцам серабрыцца, расой пахне. Потым стоміцца народ, збярэцца пад копой у цяньку. Мужыкі моўчкі важна кураць, а бабы песні заводзяць.

У вечаровай цішыні патухаў дзень. Сонца барвова афарбоўвала краі аблокаў. Злавесныя водбліскі густа закрывянілі рачную гладзь. Аднекуль здалёк плыў, нарастаў пагражальна роўны гул, ад якога дранцвела, налівалася шчымлівым чаканнем цела. Удалечыні было бачна, як паўзлі да рэчкі танкі. Між імі, нібыта мурашкі, капашыліся падобныя адна на адну чалавечыя постаці.

З таго, што адбылося потым, Захар помніць толькі, як хаваў ён Фёдара. Хаваў на досвітку, перад трэцімі пеўнямі.

А калі неўпі крычалі ўжо з усяе сілы, ён папоўз на іх крык, у вёску, перасохлым языком прагна злізваў з травы расу. Хутка з ранішняга змроку выплылі невыразныя абрысы хат. Захар на імгненне забыўся. Расплюшчыў вочы ад жытнёвага паху свежай саломы, які казытаў нос. Над ім схілілася маладая жанчына. Захар паспрабаваў прыўзняцца, яна спыніла яго:

— Ляжы, не бойся. Немцаў у вёсцы няма.

— Хто ты?

— Хіба не бачыш?.. Баба! — адказала яна.— Агатай завуць.

Пайшла, але хутка вярнулася з глінянай пасудзінай.

— Пасінеў увесь, як нябожчык, пэўна, крыві шмат страціў... Выпі вось сырадою, padужэеш.

Кухонным нажом яна разразала халяву, прыгаворвала насмешліва і з пагардай:

— Гора-ваякі... ад страху паздурнелі... уцякаеце як угарэлыя... Немец, кажуць, аж за Мінскам ужо.

Прамыла цёплай вадой рану, памазала нейкай маззю і абкруціла нагу чыстай анучкай, прыкрыла яго саломай і папярэдзіла:

— На двор не вылазь... Мала што... Усякія людзі ёсць...

...Разамлелы статак разышоўся па пашы. Захар спусціўся ўніз, сабраў кароў і завярнуў іх да вёскі: хутка трэба будзе гнаць на абед. Дзень разгараўся кастром. Бляклі ад гарачыні, стомлена драмалі ў небе застылыя аблокі. Гэтак жа драмалі яны ў той дзень, калі Захар пакідаў вёску, развітваўся з Агатай. Такімі ж былі яны, калі ён вярнуўся ў гэту вёску. Вярнуўся да Агаты, да Прапчакова...

Агата не здзівілася яго прыходу, быццам усе чатыры гады толькі і чакала яго, каб паскардзіцца:

— А мой не вярнуўся... без весткі прапаў,— і па-

чала накрываць на стол.— Ты не крыўдуй, чым багата, тым і рада.

Захар дастаў з мяшка франтавыя гасцінцы, спытаў:

— Жыць як думаеш?

— Як-небудзь... з голаду не памром... людзі добрыя дапамогуць.

— На людзей спадзявайся...— сказаў Захар,— Калі што, я змагу замяніць дзецям тваім бацьку.

— Ды што ты, Захарка!.. Дзякуй табе на добрым слове...

— Я ўжо далей нікуды не пайду... Слова сабе даваў: жывы застануся — прыйду на цябе паглядзець... Вось і прыйшоў... А ісці мне далей няма куды, ні кала ў мяне, ні двара. Тут застануся, у вёсцы.

Захар выгнаў статак на дарогу і накіраваў яго да вёскі. Захар спяшаўся. Нялёгкая справа чакала яго. Яна непакоіла яшчэ з раніцы. Пра гэта і хацеў пагаварыць ноччу з Пранчаковым, ды не паспеў. Але нічога, нічога, ён і без таго ведае, што рабіць. А зрабіць неабходна. Ён вырашыў гэта той ноччу, калі прыйшоў да яго ў першы раз Фёдар і працягнуў капшук. Магчыма, людзі будуць над ім смяяцца. Што ж, хто пасмяецца, а хто і дапаможа. І першай павінна памагчы яму Наста-бабылка. Няхай выганя на вечар кароў, а ён з'ездзіць у горад. У такой, як яго, справе без горада не абысціся. І Захар неадкладна пайшоў да Насты-бабылкі.

Жыла яна на краі вёскі ў невялікай старэнькай хацінцы. Калісьці ў маладосці прыжыла сына, вырасціла яго адна і рана выправіла ў людзі. Цяпер, каб не было так адзінока, завяла катоў і сабаку Дружка. Жыла нялёгка, таму сёння і не зразумець, хто яна, баба або мужык. Спрытам — мужчына, ростам высокая, у любое надвор'е ходзіць у ботах, муж-

чынскіх штанах і ватоўцы, курыць, пры выпадку і моцным слоўцам можа адшыць любога.

Насту Захар знайшоў у хляве, яна выкідвала на двор гной. Кашуля на яе плячах дымілася, з-пад хусткі выбілася пасма, упала з ілба на потны твар.

— Дай-ка я трохі разамнуся...

Захар уганяў вілы ў густое месіва, аддзіраў яго вялікімі цяжкімі пластамі, і кідаў, і кідаў. Наста аддыхалася, потым сказала:

— Хопіць, сама спраўлюся. Зойдзем у хату.

Ён пайшоў услед за ёй. Тры каты кінуліся ў ногі, цёрліся аб халявы ботаў. З-пад лавы вылез падобны на ваўка сабака, уставіўся на гаспадыню адданымі вачыма. Наста дастала з шафкі паўлітэрку, скрыль сала, парэзала цыбуліну, паклала акрайчык хлеба.

— Вып'ем, Захар. Не так ужо часта заходзіш да мяне.

— Па справе я, Наста.

— Ведаю, што без справы не завярнуў бы.

Ён выпіў, крактануў, панюхаў хлеб.

Захар усё ніяк не мог адважыцца выказаць свой клопат.

— Хачу я ў райцэнтр з'ездзіць, у ваенкамат трэба,— сказаў ён нарэшце Насце.

— Калі трэба — значыць, трэба. Статак я выганю.

На тым і дамовіліся.

На наступны дзень Захар па звычцы падняўся рана і пайшоў да аўтобуснага прыпынку. Да райцэнтра было кіламетраў дваццаць, і трэба паспець на першы рэйс. Аўтобус на гэты раз прыбыў са спазненнем, чакаць давялося каля гадзіны.

Рэзка спыніўшы машыну, шафёр, малады, бойкі хлопец, крыкнуў:

— Сядай, дзядуля, ды хутчэй.

Аўтобус быў амаль пусты. Некалькі бабулек з

бітонамі і кошыкамі, напэўна, ехалі на базар. Яны нетаропка пра нешта гаманілі.

Захар сеў ля акна, думаў пра сустрэчу з ваенкомам, пра тое, што ён скажа, а слоў патрэбных не знаходзіў. Аўтобус пагойдваўся з боку ў бок, часам падскокваў на выбоінах.

На адным з прыпынкаў у аўтобус увалілася чародка юнакоў і дзяўчат, якія, відаць, ехалі на работу. Яны гучна размаўлялі, смяяліся, жартавалі. Захар зайздросціў іх жыццярадаснасці, бесклапотнай весялосці і не заўважыў, як прыехалі.

У ваенкамаце было шумна. Па калідоры хадзілі стрыжаныя хлопцы, нечага спрачаліся, штосьці даказвалі адзін аднаму. Ваенкома Захар знайшоў на пляцы сярод прызыўнікоў. Ён падышоў бліжэй, прыслухаўся. Падпалкоўнік сарамаціў п'янага хлопца.

— Ну, скажы мне, Данілаў, дзе тваё сумленне? І не сорамна табе? Калгас адправіў цябе ваеннай справе вучыцца, а ты? Ну што ты нарабіў?

Данілаў, хударлявы, неахайна апрануты хлопец, хістаўся ўзад-уперад, маўчаў, недарэчна ўсміхаўся. Прызыўнікі нязлосна кпілі з яго.

Убачыўшы Захара, падпалкоўнік спытаў:

— Вы да каго?

— Я да ваенкома.

— Не ў час. Зборы... І бачыце, якія зборы. Хіба мы так з вамі збіраліся?.. Дваіх стрыгчыся адправіў, а вось гэтага ў выцвярэзнік трэба.

Падпалкоўнік зняў акуляры, пацёр твар:

— Што ў вас?

— Так,— засаромеўся Захар,— пагаварыць, параіцца...

— Тады пойдзем,— сказаў падпалкоўнік.

Захар прыкмеціў, што ваенком зусім сівы, быццам пафарбаваўся ў белы колер, грузнаваты і цяжкі целам, твар у яго задуменны, стомлены.

Яны селі на лаўку.

Захар доўга расказваў пра вайну і пра сябе, пра Фёдара, пра тое, што яго ўсе гэтыя гады мучыла і непакоіла. Ваенком слухаў яго, не перабіваў. І толькі калі Захар змоўк, спытаў:

— Дык што ж ад мяне патрабуецца?

— Неяк трэба было б адзначыць тое месца.

— Вы маеце на ўвазе ўвекавечыць? Чым і як?

— Вам жа лепш відаць... Магчыма, помнікам?

Падпалкоўнік выпрастаўся, сказаў задуменна:

— Так, нам, вядома, лепш відаць... Мне б сёння ж хацелася паставіць помнікі ўсім, хто ляжыць пад Масквой і Сталінградам, у Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы... Мы вядзём вялікую работу па выяўленню безыменных герояў. Пройдзе час — усім паставім помнікі. І пра Фёдара твайго не забудзем. Пачакай крыху, бацька.

З ваенкамата Захар пайшоў задаволены, што пагаварыў з добрым чалавекам, і разам з тым шкадаваў, што галоўную справу, дзеля якой сюды ехаў, так і не вырашыў. І тут жа наважыў дабрацца да старшыні калгаса.

Мужчына гадоў сарака пяці стаяў ля стала і выкрыкваў у тэлефонную трубку злосныя словы. Лысая галава яго блішчала ад прамянёў ранішняга сонца, якія густа ліліся ў адчыненае акно, круглы твар ад напружання і крыку стаў чырвоным. Не зважаючы на Захара, ён бразнуў трубкай, сеў і хвіліну сядзеў нерухома.

Захар кашлянуў, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Старшыня недаўменна, быццам спрасонку, паглядзеў на яго, спытаў нецярпліва:

— Што табе, Захар?

«Не ў час я»,— падумаў Захар, але адступаць не было куды.

— Іванавіч, ты ўжо выбачай, што я з просьбай... Мяшок цэменту мне...

— Дай табе цэменту, а пасля ты папросіш цэглы,— перапыніў яго старшыня.

— У каго ж мне прасіць, Іванавіч, як не ў цябе...

— А потым скажаш, што і рабочых трэба.

— Не, а рабочых я ўжо не папрашу. Сам спраўлюся.

— Навошта табе?

— Ды ты ўжо не сярдуй, Іванавіч, што я не ў час да цябе,— мямліў Захар.— Задумаў я...

— Што ты там задумаў?! Гавары хутчэй!

— Ну, гэтаму, Пранчакову, пра якога я табе некалі расказваў...

Захар змоўк, заёрзаў на стуле, не адважваўся сказаць тое, што хацеў.

Старшыні, напэўна, надакучыла гэта блытаная размова. Твар у яго нецярпліва зморшчыўся, як ад нечага непрыемнага, ён прамовіў раздражнёна:

— Паслухай, Захар, не вярзі глупства! Пасі сваіх кароў, каб яны малака больш давалі, ад гэтага карысць будзе і людзям і дзяржаве. А пра Пранчакова я помню.

Захар павярнуўся, каб выйсці, але старшыня спыніў яго:

— Пачакай! Вось давай мы з табой так дамовімся: ты мне малакавоз, а я табе цэмент... Згодны?

— Дзе ж я вазьму той малакавоз? — прамовіў Захар. Ён не разумеў, жартуе старшыня або гаворыць сур'ёзна.

— Вось бачыш, у цябе яго няма. У раённым сельгасупраўленні яго таксама няма. А з фермы малако забіраць трэба. А малако ў горадзе рабочым патрэбна. Зразумеў?

Старшыня адышоў да акна, выцер мокрую лысіну.

— Ведаеш, Захар, прыйшоў бы ты да мяне і сказаў, што табе дровы патрэбны, або ў цябе дах праваліўся, або печ перакласці трэба, я дапамог бы. А з гэтай справай пачакай! Давай як-небудзь пасля сустрэнемся, пагаворым. Зразумеў?

Захар не вельмі зразумеў, але і на старшыню не пакрыўдзіўся: у кожнага свае клопаты. А галоўнага ён усё роўна дабіўся. І галоўнае было не ў тым, каб яму дапамагалі, а ў тым, каб не перашкаджалі. Разважыўшы так, Захар адчуў, што размовы з людзьмі яго стамілі. Ужо вельмі да цішыні і маўчання ён прывык. Але позна вечарам усё ж схадзіў да Насты, папрасіў яе яшчэ дні са два пахадзіць за каровамі.

На другі дзень Захар выправіўся на мясцовую будоўлю. Па дарозе заглянуў у магазін, купіў бутэльку «Экстры» і каўбасы.

Будаўнікі сядзелі на бярвеннях, палуднавалі. Захар прывітаўся, сеў побач з імі, закурыў.

— Хто ў вас тут за галоўнага?

— Я, калі па справе,— сказаў Цімох, высокі, мажны мужчына.

— Па справе.

Цімох падняўся. Яны адышлі ўбок.

— Патрэбен мех цэменту і хоць бы воз якоганебудзь камення. Печ думаю паправіць.

Цімох чухаў патыліцу, доўга думаў.

— Цяжкавата... Хаця, можна. Толькі... сам разумееш...

— Ну вядома! — узрадаваўся Захар і сунуў яму пакамечаную дзесяцірублёўку. Цімох заціснуў яе ў кулак, крыкнуў:

— Сашка!

Аднак ніхто не адгукнуўся. Цімох зазлаваў.

Але неўзабаве Сашка вынырнуў аднекуль. Захар пазнаў яго. Гэта быў вадзіцель таго аўтобуса, на якім ён дабіраўся да райцэнтра. Кучаравы, прыгожы

з твару, з зялёнымі хітравата-гарэзлівымі вачыма, бойкі хлопец. «Такія дзяўчатам падабаюцца»,— падумаў Захар з забытай ужо юначай зайздрасцю.

— Прывітанне, дзед! Як ты сюды трапіў?

— А ты як?

— Я ж табе гаварыў: чалавек я вясёлы. Не люблю сумнага жыцця. Працаваць на аўтобусе — усё роўна што ляжаць у бальніцы. Кожны дзень адно і тое ж. Смурыжыш коламі дарогу туды і назад. Кінуў я сваю калымагу. Старшыня абяцаў «газік» даць.

Цімох падміргнуў Сашку, загадаў:

— Сядзь на трактар, падкінь яму мех цэменту,— даў яму дзесяцірублёўку, папрасіў: — Заадно мужыкам якога-небудзь «чарнільца» прыхапі.

— Будзе зроблена! — гарэзліва бліснуў роўнымі бялюткімі зубамі Сашка.

— Глядзі, на старшыню не нарвіся.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.

Агародамі пад'ехалі да Захаравай хаты, хуценька ўсё выгрузілі. Толькі цяпер Захар успомніў пра гарэлку і каўбасу, што адтутурвалі кішэні штаноў. Выцягнуў і падаў Сашку:

— Дабро за дабро. Бяры.

— Сорамна мне, дзед. Не вазьму.

— Бяры, дурань! Я ж табе ад усяго сэрца...

Сашка няёмка прыняў пачастунак, аднёс у кабіну.

Дзень паволі дагараў. Сонца хілілася на захад. Гарачы ветрык разагнаў па небу белыя аблокі і быццам прыклеіў іх. І неба здавалася Захару перакуленым морам з застылымі льдзінамі. Захар пайшоў да конюха Агея прасіць каня. Маленькі, чорны, як галавешка, дзядок здзіўлена зняў з галавы пакамечаную шапку.

— Навошта табе конь?

— Ды мне на гадзінку.

— Навошта, пытаю?

— Каменне падвезці... Хачу печ перакласці.

— Ну, бяры,— недаверліва паглядзеў на Захара конюх.

Захар раней і сапраўды думаў перакласці печ, якая дыміла, але цяпер махнуў рукой: «На мой век і так — хопіць». Ён накідаў на воз пабітай цэглы і каменне, адвёз у гай, скінуў ля дуба, там жа схаваў і цэмент.

А на досвітку ўзяў вёдры, масцярок і, каб нікога не сустрэць, напрасткі, полем пакіраваў да дуба. Заклаў першыя цагліны, спыніўся, вылаяў сябе за тое, што не абдумаў, якім павінен быць помнік.

Ён перабраў у памяці ўсе бачаныя ім помнікі, але не знайшоў ніводнага, які б яму спадабаўся. «Не смуткаваць трэба па салдату, а ўслаўляць яго»,— падумаў ён і вырашыў класці пакуль ніз. А там бачна будзе.

Твар яго пакрыўся кропелькамі поту, гімнасцёрка прыліпла да цела, але стомленасці ён не адчуваў. Калі ўжо выразна была бачна аснова помніка, сеў перакурыць і не заўважыў, як з'явілася, быццам з-пад зямлі, Наста. Захар паглядзеў у бок рэчкі. Там пасвіўся яго статак. Наста здзіўлена загаварыла:

— Гляджу: чалавек на гары. І здалося, што гэта ты. І верыцца, і не верыцца. Думаю, дай-ка я падыду.

Захар закурыў. Яму не падабалася, што прыйшла Наста. Цяпер уся вёска будзе ведаць. Наста абышла вакол грудка цэглы, спытала здзіўлена:

— Што гэта ты надумаў, Захар?

— Ты ўсё роўна не ведаеш яго,— сказаў Захар.— Сябар тут мой пад дубам спіць... У сорак першым... ён загінуў, а я жывы...

Наста маўчала. У вачах яе быў боль. Чутна бы-

ло, як пад сонечным ветрыкам у ранішняй соннай цішыні журботна гамапіў гай.

— Сказаў бы адразу — можа, і я б памагла табе.

— Дзякуй на добрым слове. Толькі я сам спраўлюся.

Вечарам з-пад страхі Захар выцягнуў ліст тонкай бляхі, выразаў зорку, рашпілем абтачыў, пафарбаваў. Успомніў, што на помніку трэба нешта напісаць. Зрабіў квадрацік з той жа бляхі і задумаўся. Знайшоў аркуш са школьнага сшытка, доўга вадзіў алоўкам па паперы. Нічога не атрымлівалася. Адны радкі былі доўгімі, другія надта кароткімі. Ён пачаў ужо адчайвацца, як раптам на паперу леглі простыя словы «Фёдару Пранчакову, салдату».

На наступны дзень, калі сонца пачало ўбірацца ў сілу, у гай прыйшла Агата з клуначкам у руцэ. «Нясе іх нячыстая. Напэўна, ужо растрапала Наста»,— узлаваўся Захар. Агата прывіталася, села ўбаку. Моўчкі назірала за работай Захара. Ён не бачыў, як вочы яе напаўняліся журбой, як па худых шчоках каціліся слёзы. Хто ведае, чаго плакала яна ў гэту хвіліну. Магчыма, думала пра свой горкі, загублены вайной лёс. А магчыма, успомніла Лукаша і свае кароткія шчаслівыя дні маладосці, калі ўсё здавалася такім даўгавечным, трывалым, бясхмарным.

— Ну, што ты сядзіш? — нязлосна, з прытоенай пяшчотай спытаў яе Захар.

— Паесці табе прынесла... Напэўна, стаміўся?

Яна паспешліва развязала клуначак, дастала гарлачык малака, паклала хлеб і нарэзанае сала. Ён паеў і зноў узяўся за работу. Агата сабрала посуд і пайшла. Яна згорбілася, нібыта раптоўна састарэла. Ногі блыталіся ў траве, ступалі няўпэўнена, нясмела.

На зыходзе першай паловы дня на ўзгорак выскачыў легкавік. З яго вылез старшыня калгаса і подбегам пакіраваў да Захара:

— Праўда!.. Ты што, звар'яцеў, дзед? Ну і ўпарты ж ты чалавек!..

— Не сварыся, Іванавіч. Я ж у цябе нічога не прашу.

— А цэглу дзе ўзяў? А цэмент?

— Было ў мяне... печ думаў перакласці.

— Ведаю я гэта ваша «было», ведаю гэту вашу печ.

Старшыня пачаставаў Захара «беламорам» і знік так жа раптоўна, як і з'явіўся.

А потым пад'ехаў грузавік. З кабіны выскачыў Сашка, з кузава — Цімох з мужыкамі. Падышлі, акружылі Захара. Цімох сказаў Сашку:

— Давай-ка нясі ўсё, што там ёсць.

Сашка збегаў да машыны, вярнуўся з дзесяцірублёўкай, бутэлькай «Экстры» і каўбасой. Каўбаса была іншага гатунку, даражэйшая за тую, якую ён купляў. І Захар засмяяўся.

— Чаго рагочаш? — накінуўся на яго Цімох.— Думаеш, адзін ты знайшоўся, герой... Вось як урэжу зараз... Бяры, бяры ўсё: бутэльку сваю, каўбасу...

— Я ж ад душы, гэта вам...

— Ды ідзі ты... Партызан! А вы чаго сталі? Давайце за работу! — прыкрыкнуў на мужчын Цімох.

І закіпела работа. Сашка бегаў да рэчкі за вадой, замешваў раствор. Усе астатнія завіхаліся ля помніка. Наверсе прымайстравалі зорку, пасярод — пласціну з надпісам.

Сашка нарваў палявых кветак і паклаў да помніка. Захар адкаркаваў бутэльку. Сашка нарэзаў каўбасы. Першую паднеслі Фёдару Пранчакову, потым выпілі самі. Калі Цімох з мужыкамі паехаў, Захар яшчэ доўга стаяў, прагна глытаючы дым. Потым пайшоў да статка, які ўдалечыні рассыпаўся па канюшынішчы. Прайшоў колькі метраў, павярнуўся назад, доўга стаяў і глядзеў на помнік.

Сонечныя промні, якія пырснулі з-за гаю, высвецілі помнік залаціста-яркім святлом, запалілі чырвоную пяцікутную зорку і словы «Фёдару Пранчакову, салдату».

## ХУТАРАНКА

Чорны калматы сабака вылез з будкі, стаў пярэднімі лапамі на верхнюю жэрдку плота, задраў морду да бляклага месяца і спачатку тоненька заскавытаў, а потым працяжна завыў. Ён выў тужліва і жалобна, нібыта кагосьці аплакваў.

Гэта жудаснае выццё ледзяніла сэрца Хрысціны, непакоіла і трывожыла. Яна ляжала на печы і пакутліва спрабавала заснуць. А сон упарта не ішоў. У галаве мітусіліся абрыўкі думак і ўспамінаў.

Роўным і ціхім было яе адзінокае старэчае жыццё. І на душы, як на восеньскім полі, ляжаў непарушны спакой. А цяпер, адкуль узялася — нахлынула, захапіла яе трывога. Так бывала некалі перад навальніцай, калі вось-вось ударыць гром, расколецца неба і серабрыста-вогненная маланка абавязкова або спаліць што-небудзь, або кагосьці заб'е.

І пачалося гэта ўчора. Менавіта адтуль паўзлі і паўзлі да яе няпрошаныя, нязваныя цяжкія думкі і змрокам, як хмары на перадзімняе неба, клаліся на сэрца. У гэты дзень здарылася няшчасце: памёр настаўнік Крась. Зусім яшчэ малады. Яна даведалася пра бяду каля магазіна, дзе тоўпілася нямала рознага люду. Хрысціна нічога ні ў кога не спытала, не заплакала, моўчкі села на каменную прыступку, задумалася, як жа такое магло здарыцца. Чамусьці ўспомніла, як леташняй восенню нечакана Крась

прывёў да яе на агарод школьнікаў. Яны за паўдня выкапалі і зносілі бульбу. Тады яна спрабавала пачаставаць яго. Але Крась нават не дакрануўся да пітва, толькі абняў яе за плечы, ласкава сказаў:

— Гэта наш абавязак, бабуля. Бутэлечку вы сваю схавайце. Як-небудзь іншым разам.

І вось яго няма і... не будзе.

Калі людзі накіраваліся на пахаванне Крася, яна ўстала і пайшла разам з імі. На могільніку прабыла да змяркання. Дамоў вярнулася прыцемкам стомленая і хворая. Ні ноччу, ні днём назаўтра ніяк не магла знайсці сабе месца ў пустой цішыні хаты.

Забыцца хаця б да раніцы... Хрысціна нацягнула на галаву кажушок і задрамала. Але тут жа прахапілася ад страху, што разрываў душу, і прадчування непазбежнай бяды. Яна села, выпрастала хворыя замлелыя ногі і прыслухалася. Было чутно, як у непрагляднай цемры гуляе па садзе вецер, калашмаціць дрэвы, шкрабе па сцяне сухім маліннікам. А яблыня б'ецца ў аконную раму голымі галінкамі, быццам просіцца пагрэцца.

Хрысціна дастала з печы цёплыя валёнкі, улезла ў іх босымі нагамі, апранула фуфайку і падалася да парога. У сенцах упоцемку прывычна адсунула засаўку. Моцны парыў ветру вырваў дзверы з рук і з гучным трэскам ляснуў імі аб сцяну. Хрысціна ледзь утрымалася на нагах, пахіснулася і ўдарылася плечуком аб вушак. Ціхенька застагнала і зашлёпала па лужынах да хлява. Сабака пачуў гаспадыню, радасна завішчаў, ірвануўся з ланцуга. «Ну што з табой, родны? Відаць, чуеш нешта, ды расказаць не можаш. Даў табе бог душу, а гаварыць не навучыў, ад таго і пакутуеш ты, бедны мой». Сабака тыцнуўся мордай ёй у грудзі, жаласна заскавытаў і ўсё намагаўся лізнуць твар. Яна гладзіла яго і прыгаворвала: «Супакойся, родны, супакойся. І без таго

на сэрцы цяжка. Ідзі, ідзі ляж. І я таксама пайду».

І яна паволі пайшла зноў у хату. На парозе спынілася. Дробна пазваньвала адарваная на хляве бляха. Ледзяны пранізлівы вецер абрываў апошнія лісты з дрэў. Сярод хмар над самым хутарам ціха плыў месяц, быццам краўся некуды, разліваў дымна-шэры паўзмрок на наваколле. У вільготнай і змрочнай імгле ночы ледзь праглядваліся размытыя абрысы вёскі з рэдкімі агеньчыкамі ў хатах. Гэтыя самотныя агеньчыкі, што нясмела пранізвалі цемру, прыцягвалі яе ласкавай дамашняй цеплынёй. Успомнілася Хрысціне колішняе жыццё ў вялікай сям'і з радаснай мітуснёй і штодзённымі клопатамі. «І куды ўсё падзелася, куды сплыло? Божа мой, божа...» — прашаптала яна.

Часам ёй здавалася, што гэта толькі сон, насланнё. Рана ці позна яна прачнецца ў той сваёй мінулай яве. І нічога не трэба будзе ёй, акрамя як бачыць сваіх дзяцей, дагаджаць мужу, працаваць на калгасным полі. Але сон гэты так і не канчаўся ўжо больш як трыццаць гадоў. Хрысціна даўно змірылася са сваёй адзінотай і ні на што не спадзявалася. Жыла без радасці, са звыклым смуткам у душы. Несла свой цяжкі крыж, сваё нязводнае гора.

Хрысціна заперла дзверы, увайшла ў хату і цяжка апусцілася на лаўку. Доўга сядзела ў здранцвенні, слухаючы свіст ветру і жалобны плач сабакі. Затым паднялася і стала хадзіць узад-уперад, каб знайсці сабе які-небудзь занятак. Ды ўспомніла, што ўсю работу перарабіла яшчэ звечара, спынілася.

І нечаканая думка прыйшла да яе. Хрысціна зразумела, што жыццё падыходзіць да канца і таму ўся мітусня і клопаты па гаспадарцы ўжо не маюць ніякага сэнсу. Яна дастала з-за іконы, пачарнелай ад часу, з якой глядзела на яе сумнымі вачыма божая маці, пахаронкі на сыноў і мужа. Гэтыя пажоўклыя,

з выцвілым чарнілам трохвугольнічкі яна зберагала як самую дарагую памяць аб мінулым. Хрысціна доўга і асцярожна разглядала іх, потым паклала на ранейшае месца і хацела паплакаць. Але слёз не было. З горла вырваўся ціхі стогн, а вусны намагаліся штосьці вымавіць.

У яе з'явілася неадольнае жаданне камусьці расказаць пра сваё гора. Але каму? Доўга, так доўга жыве яна на зямлі, што даўным-даўно перажыла сваіх братоў і сясцёр, мужа і сыноў. Толькі адзін чалавек, унук Рыгор, мог зразумець яе, паспачуваць і суцешыць. І Хрысціна вырашыла заўтра ж да яго паехаць. Ёй вельмі хацелася парадаваць свайго ўнука вясковымі гасцінцамі, таму яна стала збіраць у дарогу ўсё самае лепшае, што ў яе было.

Потым яна патушыла лямпу, распранулася і зноў узлезла на печ, дзе так прыемна пахла ўгрэтым старым адзеннем, высахлай глінай, сушанымі яблыкамі і грыбамі. Закалыханая аднастайным свістам ветру і трывожным шэлестам дрэў, заснула неспакойным сном.

Прачнулася яна задоўга да світання, выпаліла ў печы, накарміла сабаку і прыблудных галодных кацянят, што знайшлі сабе прытулак пад паветкай, сыпанула маладым курам ячменю і паставіла ў карытцы тоўчаную бульбу. Елі ўсе разам: і кацяняты, і кураняты — і нават не біліся паміж сабой. А Хрысціна садзілася побач на калодачку, гладзіла ўсіх па чарзе з замілаваннем і пяшчотай. У такія хвіліны душа яе цешылася. Менавіта так вось калісьці, у першыя гады замужжа, яна карміла сваіх дзяцей, сачыла, каб не дурэлі, не чэрпалі лішняга: усім павінна быць пароўну. Сама ж ела заўсёды апошняя, што заставалася пасля мужа і дзяцей.

І цяпер ёй хацелася пасядзець, палюбавацца на сваіх гадаванцаў-пестуноў. Ды часу было мала. Яна

ўзяла даёнку і пайшла даіць карову. У хляве ўдыхнула звыклы пах жывёлы, гною і духмянага сена. Карова паднялася і пайшла насустрач гаспадыні, датыкнулася мокрай пысай да рукі. Хрысціна дастала з кішэні скібку хлеба, дала карове, прымасцілася на маленькім драўляным зэдліку, пачала даіць. Даіла доўга, рукі млелі: не было ў іх сілы. Ужо даўно думала прадаць карову і ўсё ніяк не рашалася: шкада было расставацца з жывёлінай. Колькі разоў угаворваў яе Рыгор збыць сваю гаспадарку і пераехаць жыць да яго ў горад. Хрысціна, бывала, ужо згаджалася. Але адыходзілі сакавіцкія халады, нібыта зялёным дымком пакрывала зямлю маладой ліпкай траўкай, і яна адкладвала пераезд да наступнага года. Тады, па даўняй завядзёнцы, у сенакосную пару прыязджаў Рыгор з сябрамі, выкошваў выдзелены ёй у рэчышчы Гайны кавалак лугавіны, сушыў сена і звозіў у пуньку. Прыкупляў у суседзяў-аднавяскоўцаў моркву, бульбу, буракі.

Управіўшыся па гаспадарцы, яна апранула сваю лепшую сукенку, падараваную Рыгорам, плюшаўку, на галаву туга завязала шэрую шарсцяную хустку і выйшла на вуліцу. За ноч падмарозіла. Выпаў іней. І быццам соллю траву пасыпалі.

Раніца разгаралася ясным залацістым святлом, напаўнялася галасамі і гукамі. Недзе зусім побач заціўкалі птушкі. Успырхнула сакатуха-сарока, з голай галінкі яблыні пасыпаўся снежна-сярэбраны іней. Залапацеў крыламі, галасіста заспяваў певень. Ад яго раптоўнага кукарэкання вераб'і, што разам з курамі дзяўблі зерне, узляцелі на яблыню. Праз голле распранутага саду прабівалася лімонна-ружовая палоска зары. У мяккім празрыстым змроку матава блішчала апалая лістота.

Хрысціна на імгненне спынілася. Штосьці трывожна і балюча варухнулася ў грудзях. З замілаван-

нем яна акінула поглядам хату, гаспадарчыя прыбудовы, пачарнелы ад дажджоў стажок сена насупраць акна ля плота. Нават непадоўга шкада ёй было пакідаць сваю сядзібу. «Ну, нічога-нічога, не сумуйце тут без мяне. Я хутка. Заўтра і дома буду»,— сказала яна ўголас на развітанне. Па дарозе заглянула да Лук'яна папрасіць прыглядзець за гаспадаркай.

Ад вёскі да лесу бегла пясчаная дарога. Хрысціна ішла нетаропка, як ходзяць звычайна старыя. Зямля, прыхопленая марозікам, зацвярдзела, суха шархацела пад нагамі. Сям-там блішчалі першым лядком лужынкі. Часта спынялася, аглядалася на хутар, быццам баялася, што забудзе дарогу назад. Радавалася, што ўбачыць нарэшце вялікі горад, дзе, як казаў Рыгор, людзі жывуць весела і бесклапотна.

Яна змарылася, паставіла кошык, выпрастала спіну і некалькі хвілін пастаяла нерухома. Злева перад ёй ляжала поле з пабурэлым іржэўнікам і рэдкімі копкамі непрыбранай саломы. Справа застылымі хвалямі чарнела ўзаранае канюшынішча. Ля ўзбочын дарогі тырчала сівая трава, апушаная інеем, не краталася ніводная былінка. І да гэтых пустынных палёў адчула яна мацярынскую жаласць і пяшчоту.

Перадыхнуўшы, Хрысціна пайшла далей і неўзабаве выйшла да высокага бярэзніку. Трава тут была вышэй і гусцей. Яна шаўкавіста зіхацела, асветленая пунсовымі промнямі. Ад пяшчотнага святла ў бярозавым гаі стала ўтульна і святочна. Яна з захапленнем заўважыла, якія дзівосна прыгожыя ў асеннім уборы бярозы, як задымілася, нібы росным летам, трава і як усё ярчэй ружавее сонечнае святло, абуджае да жыцця сонны маўклівы лес. Пахла хвояй, падапрэлай лістотай і яшчэ нечым, з маленства знаёмым.

Раптам яна заўважыла голы клянок з двума лі-

сцікамі, якія на яе вачах адзін за другім адарваліся і паволі ўпалі. Хрысціна і раней бачыла, як губляюць дрэвы лісты, але не надавала гэтаму асаблівага значэння. Цяпер жа, як ніколі раней, яна так ясна ўсвядоміла: усё жыве дзеля таго, каб калі-небудзь адквітнець і ўпасці, саступіць месца новым жыццям.

Адолеўшы лясную дарогу, заплямленую светлымі ценямі, яна выйшла на шлях, з якога адкрываўся неабсяжны далягляд. Навокал ляжалі ўсё тыя ж палі, маўклівыя, пустынныя, самотныя. Удалечыні срэбрам пераліваласся і нясцерпна бліпчала на вылучыне Бярэзіна і нібы на далоні была бачна вёска Касцюкі.

У Хрысціны сталі мацней балець рукі, але яна вырашыла больш не спыняцца, каб паспець на аўтобус. Неўзабаве пачула тарахценне вазка, азірнулася назад і збочыла. Калі конь падышоў зусім блізка, убачыла на возе мужчыну. Ён нацягнуў лейцы, крыкнуў:

— Здарова была, Хрысціна! Куды ідзеш, ды яшчэ ў такую рань?

— Ці ж гэта ты, Мацей? — здзівілася яна.

— Я, я... не бачыш хіба? — бойка і весела азваўся шыракаплечы стары з чорнымі пранізлівымі вачыма на худым зямлістым твары, апрануты ў ватоўку, шапку-вушанку і шэрыя валёнкі.

— А ты хіба не памёр?

— Як бачыш — не.

— Людзі ж казалі, што ты ў бальніцы памёр.

— У бальніцы быў, ды не памёр. Куды табе?

— Далёка мне, далёка...— уздыхнула яна.

— Я хутка зварочваю. На ферму. Але ўсё роўна садзіся, падвязу хоць крыху.

Хрысціна паставіла ў вазок кошык, узлезла сама. Мацей крануў лейцамі. Рыжы дзябёлы каняка з асцюкамі ў збэрсанай грыве дробна патрусіў.

— Дык расказаў бы, ці што, як гэта ты выжыў,— з непрыхаванай цікаўнасцю папрасіла Хрысціна.

— А-а, што там расказваць! — адмахнуўся Мацей.— У бальніцы я з зімы ляжаў. Да ложка прысох. Цела як бервяно стала. А тут — лета ідзе. Сенакос не за гарамі. Баба адна дома. Думаю, ну, хто ёй дапаможа? У кожнага свае клопаты. Вось і прашу я сваіх дохтураў адпусціць мяне на волю. Ну, а яны — вядомая справа — называюць мне нейкую мудроную хваробу і нізашто не адпускаюць. Што тут рабіць будзеш? Душа ад бяздзелля збалелася. Рукі работы просяць. Неяк устаў я раненька ды ў гэтым адзенні іх, бальнічным, сігануў дамоў. Баба ўголас: маўляў, навошта раней часу, не далячыўся і ўсё такое... А я мацюкнуўся на яе, схапіў касу ды к мужыкам на Гайну.

Хрысціна ў захапленні пахітвала галавой, прыгаворвала:

— Ай, малайчына, ну і малайчына, Мацей! Гэта ж трэба — так ты іх усіх!..

— А табе вось што скажу, Хрысціна. Лепшае лякарства ад усялякай хваробы — работа.

— А ўсё ж доўга ты жывеш, Мацей,— не то са спачуваннем, не то з зайздрасцю вымавіла яна, каб не маўчаць.

— Што праўда, то праўда. Зажыўся я.

— І я таксама зажылася,— сумна пагадзілася яна.

— Пара нам месца для маладых выслабаняць.

— Пара, пара, Мацей. Ногі схадзіліся, стаміліся,— не без жалю ў голасе гаварыла Хрысціна.

— Ну, вось мы і прыехалі.

Яна з цяжкасцю злезла, узяла кошык. А Мацей гікнуў, сцебануў каняку дубцом і пагнаў яго да фермы.

Хрысціна глядзела ўслед Мацею і ўспамінала яго ў пасляваенныя гады. Быў ён тады высокі ростам,

багаты сілай. Быццам і на вайне не ваяваў, не мёрз у акопах, не стаяў пад кулямі, не прайшоў пешшу сотні кіламетраў. Колькі памятае Хрысціна, ён ніколі не адмаўляў ёй у дапамозе ў тыя гады, калі яна зусім адна засталася са сваім горам. Зойдзе, бывала, Мацей, моўчкі паходзіць па двары, усё пільна агледзіць гаспадарлівым вокам, спытае яе нібыта выпадкова пра жыццё-быццё і пойдзе. А потым, глядзіш, дроўцаў падвязе, агарод узарэ, плот падправіць. І капейкі не возьме, і чаркі не вып'е. Дзівілася Хрысціна такім незвычайным паводзінам Мацея. І аднойчы на сенакосе, калі ён адолеў сваю дзялянку і адабраў у яе касу, каб дапамагчы, спытала:

— Скажы, Мацей, чаму ты такі?

— Які?

— Не такі, як усе.

Задумаўся ён, раптам няўмела ўзяў у свае вялікія шурпатыя далоні яе рукі, паглядзеў у вочы і сказаў:

— Горка, Хрысціна, што не мне ты дасталася. Усё жыццё хаджу я каля цябе, як цень... Толькі што цяпер пра гэта гаварыць? Не лёс, значыць. Калі б не сям'я, пайшоў бы я за табой хоць на край свету...

Выгаварыўся, схапіў касу і пачаў махаць ёю з такой злосцю, быццам хацеў работай заглушыць усё тое, што балела доўгія гады. А ў Хрысціны ногі падкасіліся. Пайшла яна, сама не ведае куды, як сляпая спатыкалася і блыталася ў траве. Павалілася на зямлю і доўга аплаквала сваю адзіноту, сваё гора, сваё запозненае шчасце, якому не суджана было збыцца.

...З-за павароту насустрач ёй вынырнуў легкавік. Калі машына пад'ехала зусім блізка, Хрысціна збочыла. Але легкавік спыніўся, ледзь параўняўшыся з ёй. З кабіны высунулася рыжая галава Мішкі-брыгадзіра. Твар яго асвятліўся ўсмешкай.

— Добрай раніцы, цётка Хрысціна! Ці далёка выправіліся?

— Добрай раніцы, сынок. Да Рыгоркі я...

— А чым жа паедзеце? Сёння аўтобус, кажуць, не прыйдзе.

— Як не прыйдзе?! — усклікнула яна спалохана і расчаравана.— Што ж мне цяпер рабіць?

— Ладна. Я вас да моста падкіну. А там з Зембіна аўтобусы ідуць адзін за адным. А не — дык на спадарожку можна прыладкавацца.

Мішка развярнуўся, пасадзіў на задняе сядзенне Хрысціну і паімчаў назад, да Касцюкоў. Яна сядзела за спіной у Мішкі, глядзела на яго віхрастую макушку, на якой валасы, шорсткія і рыжыя, тапырыліся ў розныя бакі, і думала, як няўлоўна хутка бяжыць час. І ў гэтай яго імклівай плыні не прыкмячаеш тых перамен, што адбываюцца навокал. Здаецца, зусім нядаўна з вясны да позняй восені Мішка бегаў басанож па вуліцы. Сваволіў, на купалле закручваў суседзям дротам дзверы, затыкаў на дахах коміны. Не раз з такімі, як сам, сваволыіікамі, абдзіраў у яе садзе яблыню-беланаліўку. І неяк неўпрыкмет падарослеў, вывучыўся, стаў паважаным чалавекам.

Хрысціна ехала ў яго, Мішкавай, уласнай машыне і думала, што Мішка і той, якога яна памятала хлапчуком, і ўжо не той. Перамяніўся чалавек — зусім не пазнаць. А Мішка раптоўным пытаннем перарваў яе думкі:

— Дык вы ўсё яшчэ там, цётка Хрысціна?

— Там, сынок, там... на хутары.

— Эх, хутаранка вы, хутаранка. Жывяце, як пры цару Гароху, за трыдзевяць зямель. Калгас хату вам адбудаваў, а вы...

— Дзякую, сынок. За ўсё вялікае дзякуй людзям добрым. Толькі нікуды я не пайду са свайго хутара. Навошта мне, старому чалавеку, новая хата? Маладое ды новае няхай маладым будзе. Ты ўжо даруй, сынок, што я адмаўляюся ад чалавечай дабраты. Не

магу я сваю хату ні на якую іншую памяняць. У хаце гэтай душы сыноў маіх жывуць. Як жа я пакіну іх? Як без іх буду ў гэтай новай хаце? Усё, што ў маім жыцці засталося,— гэта думкі пра іх ды Рыгорка.

Мішка паехаў, а Хрысціна засталася стаяць узбоч дарогі. Аўтобусаў не было, а ішлі міма ўсё больш грузавікі з занятымі кабінамі. Але стаяць доўга не давялося. Нейкі пабіты, аблезлы пусты аўтобус прыпыніўся ля яе. Сярэдніх год мужчына адчыніў дзверы, крыкнуў:

— Сядай, цётка!

— Мне да райцэнтра.

— Сядай, кажу! Будзеш у райцэнтры.

Яна ледзь ускараскалася ў машыну. Аўтобус падскокваў, брынчэў, і Хрысціне здавалася, што ён вось-вось разваліцца. Пахмурны шафёр прамовіў:

— У капіталку ганю развалюху. Адбегаў сваё, адпрацаваў.

Хрысціна дрэнна зразумела сэнс слова «капіталка», але здагадалася, што шафёр гаворыць пра рамонт машыны, і падхапіла нітку размовы:

— А як жа. Трэба. Усё па аднаму закону жыве. І чалавек, і жалеза, і ўсялякае стварэнне зямное. Усяму свой час на жыццё і спакой.

— А вы, цётка, з торбай сваёй, пэўна, да сыноў едзеце? — пацікавіўся шафёр.— Сала ім вязеце. Яны ў гарадах гарэлку п'юць і салам вашым закусваюць, а вы са старым сваім б'ецеся там з гаспадаркай, свіней для іх корміце, карову трымаеце.

— Без жывёлы, добры чалавек, нельга. Усе так жывуць. Усе сваю гаспадарку маюць. А то ж як? А наконт таго, куды я еду, дык вы адгадалі. Да Рыгоркі я еду... унучка свайго.

— Я ў гэтых справах, бабка, не памыляюся. Вока напрактыкаванае. Шмат усялякага люду за жыц-

цё сваё перавёз. Наскрозь кожнага бачу. У гэтых вашых месцах я нядаўна, але таксама заўважыў асаблівасці народа мясцовага. Як толькі пятніца — пруць з горада ў вёску, валам валяць людзі. Пруць, ды ўсё больш з пустымі торбамі, а вяртаюцца з поўнымі.

— Рыгорка мой не такі,— перапыніла яна шафёра,— сам мне дапамагае і нічога не бярэ, хоць і сям'я ў яго. Прымушаю браць.

— Гэта добра, што ваш унук шкадуе вас. Але ж колькі такіх харошых Рыгоркаў, Колькаў, Іванкаў у гарадах ашываюцца ўсё больш без справы. Толькі і ведаюць адно: гарэлку піць, сваволіць ды за бабамі бегаць.

Шафёр выгаварыўся і змоўк. Хрысціна таксама маўчала, разважала над тым, што сказаў ён.

— Ну, вось і райцэнтр, бабка. Куды табе?

— Мне на вакзал трэба.

— Не бадзяцца ж табе, старому чалавеку, па горадзе. Так і быць. Зафургоню цябе і на вакзал.

Хрысціна дастала з кішэні жменю медзякоў, адлічыла ў два разы больш, чым, на яе думку, трэба было, і падала шафёру.

— Кінь, цётка,— адвёў ён яе руку.— Хавай, хавай свае медзякі назад у кішэню.

Ён дапамог ёй выйсці, падаў кошык, і хутка аўтобус знік за паваротам.

Людзей ля кас было мала. Хрысціна купіла білет, выйшла на перон, стала чакаць поезда. Падышла электрычка, і пасажыры накіраваліся да вагонаў. Пайшла і Хрысціна. Ухапілася за поручні, хацела падняцца і адчула, што не можа, што сіл у яе не стае. У гэты момант хтосьці схапіў яе пад пахі, прыўзняў і ўпіхнуў у тамбур. Хрысціна і апамятацца не паспела, як ля яе ног ужо стаяў кошык. Яна азірнулася, убачыла хлопцаў і дзяўчат з рукзакамі, вудамі, гітарамі. Яны таксама заходзілі ў гэты ж вагон.

Хрысціна села на лаўку ля акна. Пасажыраў было нямнога, усё больш маладыя, шумлівыя. Адны ўглядаліся ў часопісы і газеты, іншыя гучна размаўлялі, жартавалі, смяяліся або задуменна глядзелі ў акно. І тыя хлопцы і дзяўчаты, што дапамагалі падняцца ёй у вагон, таксама расселіся побач.

Электрычка кранулася. На імгненне здалося Хрысціне, што поезд застаўся на месцы, а вакзальныя прыбудовы, дамы і дрэвы сарваліся з месца і паплылі назад.

Яна ўгледзелася на светлавалосага блакітнавокага юнака ўсё з той жа кампаніі. Сурова ссунуўшы выцвілыя бровы, ён размерана біў пальцамі па струнах гітары і спяваў ваенную песню. Яе горкія словы сціснулі сэрца Хрысціны. Потым спявалі другую песню — ужо вясёлую — сучасную. Асабліва стараліся дзяўчаты.

Хрысціна слухала песні, пільна ўглядалася ў празрыстыя глыбокія далі за акном, думала, што хутка прыйдзе зіма з бясконца доўгімі начамі, заваліць сумётамі яе хутар. Будзе выць-бушаваць, плакаць завея, працінаць сэрца болем успамінаў.

За думкамі не прыкмеціла, як прыехала ў горад. Жывы чалавечы паток праз падземны пераход вынес яе на цесную плошчу, запоўненую мноствам машын і людзей. Машыны снавалі паміж людзьмі. І здзіўляла Хрысціну тое, што як гэта ўсе ездзяць і ходзяць і ніхто нікому не замінае.

Хрысціна на нейкі момант здранцвела ад гэтага бясконцага руху машын і людзей, стракатасці іх адзення, шуму, лязгу і адышла да жалезнай агароджы, задумалася, як бы ёй не заблудзіцца, не згубіцца ў натоўпе. Калі агледзелася, выняла з кішэні плюшаўкі канверт з адрасам Рыгора. Вырашыла папрасіць каго-небудзь паказаць дарогу, але ніяк не асмельвалася гэта зрабіць: вельмі ўжо ўсе спяшаліся.

Нарэшце пераадолела сябе, спыніла нейкую дзяўчыну, падала ёй канверт:

— Дачушка, паглядзі ты, як гэта да майго Рыгоркі даехаць?

Тая ўважліва прачытала, стала падрабязна тлумачыць:

— Вам трэба перайсці плошчу. Вунь, бачыце, дзе машыны спыняюцца, сесці ў трэці тралейбус і да «Турыста», а там спытаеце.

— А што гэта такое «Турыст», дачушка?

— Гасцініца так называецца.

— А-а,— нібыта зразумела сэнс гэтага слова, кіўнула Хрысціна галавой.— Ну, дзякуй. Дай бог табе здароўя.

Яна баязліва, асцярожна перасекла плошчу і ўціснулася ў тралейбус. Ён быў біткам набіты людзьмі, але ёй тут жа ўступілі месца, і яна села побач з мужчынам у чорным паліто і такім жа капелюшы. Хтосьці кінуў насмешліва:

— Вайна даўно скончылася, а бежанцы ўсё едуць і едуць.

Жарт ніхто не падтрымаў. Толькі тонкія вусны мужчыны ў капелюшы кранула горка-самотная ўсмешка.

Некаторы час Хрысціна з цікавасцю разглядала пасажыраў, а потым гучна сказала:

— Колькі ж людзей у вас тут! Божа мой, божа! І ўсіх накарміць, напаіць трэба.

Хтосьці засмяяўся. Мужчына ў капелюшы доўга глядзеў на яе, як глядзяць на нешта незвычайнае. А Хрысціна раптам павярнулася да яго, спыталася:

— А вы не ведаеце часам майго Рыгора?

— Не, не ведаю,— здзіўлена паглядзеў ён на яе.— У нашым горадзе Рыгораў, пэўна, з паўмільёна будзе...

Праз некаторы час кантралёр, які з асаблівай доб-

расумленнасцю і стараннем правяраў талоны, звярнуўся да яе:

— Бабуля, ваш праязны?

— Які, сынок, у мяне праязны? Капеечку я табе зараз дам. Не хвалюйся, дарма ехаць не буду.

— Не патрэбны мне вашы капейкі. Вы мне талон пакажыце.

— Які такі талон? Няма ў мяне ніякага талона.

— Хіба вы не бачыце, што бабка ўпершыню ў горадзе? — умяшаўся мужчына ў капелюшы.

— А мне якая справа?! Я на службе,— рэзка адказаў кантралёр.— А вам, бабка, сорамна без білета ездзіць.

— Пакіньце яе,— папрасіў усё той жа мужчына.— Я закампасцірую для яе талон.

Ён тут жа прабіў талончык, аддаў яго Хрысціне, і на прыпынку, ужо з дзвярэй тралейбуса, сказаў:

— Не згубіце, калі ласка. А то сфатаграфуюць вас, і выйдзе сівы, стары «заяц».

Знайсці дом, у якім жыў яе ўнук, было зусім няцяжка. Ён стаяў ля праспекта, доўгі, пяціпавярховы, з чырвонай цэглы, з блакітнымі балконамі. Яна хадзіла з пад'езда ў пад'езд і ўсё ніяк не магла вызначыць, у якім з іх жыве Рыгор. Жыхары, да якіх яна звярнулася за дапамогай, ахвотна паказалі ёй дарогу да ўнукавай кватэры.

Хрысціна падымалася па лесвіцы з паверха на паверх вельмі марудна. Ногі ад слабасці падгіналіся, сэрца то моцна тахкала, то замірала. Нарэшце падня лася на пляцоўку, паставіла кошык, адшукала вачыма нумар кватэры, аддыхалася, потым з радасцю і нясцерпным хваляваннем стала ціхенька стукаць у дзверы. Але ніхто не адчыняў. «Можа, дома нікога няма?» — спалохана падумала яна. Але тут, на яе шчасце, выйшла жанчына з суседняй кватэры, спытала:

— Вам каго?

— Да ўнука я прыехала. А яго, відаць, няма дома.

— Як няма?

— Стукаю, не дастукаюся ніяк.

— Дома яны. Гуляюць. Вось і не чуюць. Вы пазваніце лепш.

— А як званіць?

— А вось так.

Жанчына падышла, націснула чорненькую, як гузік, кнопку. За дзвярыма рэзка і моцна зазваніла штосьці, і ўслед пачуліся крокі. Дзверы адчыніліся, і высокі чорнавалосы мужчына спачатку вельмі здзівіўся, пасля — абрадаваўся. Адной рукой згроб Хрысціну, другой падхапіў кошык і перанёс цераз парог.

— Рыгорка! Родненькі мой! Засумавала я зусім па табе, па дзетках тваіх.

Ён абняў, пацалаваў яе некалькі разоў у вусны і павёў у пакой да гасцей. На вуснах у яе застаўся моцны пах віна, тытуню і адэкалону. А за ёй беглі яго, Рыгоркавы, дзеці, здаровыя, вясёлыя, і радасна крычалі:

— Мама, мама! Ідзі хутчэй. Бабуля прыехала!

— Знаёмцеся, дарагія госці. Гэта маці майго бацькі. Так сказаць, мая бабуля.

Усе погляды сышліся на ёй. Хтосьці клапатліва падставіў ёй крэсла, хтосьці наліў у прыгожы высокі бакал пеністага празрыстага віна, якое адлівала пяшчотным залацістым колерам. Хрысціна ўбачыла некалькі састаўленых сталоў пад бялюткім абрусам. А за сталамі — мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя.

Вось устаў прыгожы пасівелы мужчына і прапанаваў выпіць за яе здароўе. Яго дружна падтрымалі, і адусюль пацягнуліся да яе рукі з поўнымі чаркамі.

Ёй здавалася: усё, што яна бачыць, адбываецца ў сне. Ад шчасця, якое так нечакана нахлынула на яе,

зашумела, закружылася галава, вочы нібы засланіў туман. Скрозь нейкае ружовае пакрывала бачыла яна невыразна акрэсленыя твары. Яны то набліжаліся, то паступова аддаляліся і зусім прападалі. Хрысціна ўстала і, хістаючыся, выйшла з-за стала.

— Куды ж вы? Пасядзіце з намі! — падбеглі да яе Рыгор з жонкай.

— Стамілася я, дзеткі мае дарагія. Адпачнуць хочацца.

— Ну, што ж, як вам лепш... Прыляжце,— ветліва пагадзіўся Рыгор.

Яны праводзілі яе ў ціхі пакой, паклалі на тахту, дапамаглі зняць валёнкі.

— Гасцінцы там, у кошыку... Дзеткам яблычкі дайце...

— Не хвалюйцеся, адпачывайце. Гэта потым,— ласкава сказаў Рыгор і выйшаў з жонкай да гасцей.

Хрысціна доўга ляжала з адкрытымі вачыма. Ад святла, якое ледзь пранікала праз завешанае квяцістай фіранкай акно, у пакоі было ўтульна. На чорным бліскучым стале, на паліцы з кнігамі, на карціне ў пазалочанай раме ляжаў мяккі вячэрні паўзмрок. На імгненне Хрысціне здалося, што нешта цёплае і густое бясшумна ўліваецца ў пакой, затапляе яго. Яна адчула ва ўсім целе незвычайную лёгкасць і асалоду. З залы даносіліся прыглушаныя галасы, звон посуду, смех, музыка. Потым гукі сталі ўсё менш выразнымі і яшчэ больш прыглушанымі. Стомленасць падала на павекі, зводзіла іх. Перад вачыма знізу ўверх праплывалі бліскучыя сонечныя кружочкі. Але як толькі яна імкнулася ў думках спыніць іх, яны адразу знікалі.

І раптам Хрысціна ўбачыла сябе на вясновым, усыпаным кветкамі лузе разам з Рыгоркам. Ён зусім яшчэ маленькі, толькі валасы ў яго, як у дзяўчыны, доўгія і светла-русыя. Ён ляціць стрымгалоў, звонка

крычыць і залівіста смяецца. Хрысціна бяжыць за ім, блытаецца нагамі ў высокай траве, хоча злавіць яго і ніяк не можа. Нечакана ўпаў Рыгорка ў траву, быццам знарок схаваўся ў ёй.

— Ры-гор-ка! — бегла і клікала яна ўнука, шчаслівая, поўная нявыказанай любві і пяшчоты да яго.

А голас засеў у горле, заглух, задыхнуўся...

Познім вечарам госці разышліся. Рыгор, стомлены, крыху п'яны, успомніў, што ў яго рабочым пакоі адпачывае бабка, і пайшоў пажадаць ёй добрай ночы. Пры ўваходзе ўключыў святло. Хрысціна ляжала на спіне з адкінутай убок рукой. Твар яе застыў у спакойнай і шчаслівай усмешцы. Вочы, у якіх яшчэ не згасла радасць, і рот былі адкрыты. Быццам хацела яна крыкнуць сваё апошняе...

## У ВЯСКОВАЙ ЦІШЫНІ

На гэты раз яму пашанцавала. Пачыналася бабіна лета з ціхімі неспякотнымі днямі, празрыстымі далячынямі і глыбокім ясным небам. У прыродзе ўсталявалася самотная стомленасць і ціхая журба, якія вымушалі да роздуму, сузіральнасці і нетаропкасці.

Віктар устаў на досвітку, паклаў у рэчавы мяшок няхітры харч, прымацаваў да багажніка матацыкла рыбалавецкія прылады і выехаў з дому.

У раёне, куды ён накіроўваўся, у яго не было знаёмых. Таму і ехаў наўздагад, асабліва не клапаціўся пра тое, дзе яму давядзецца спыніцца. Можна было б, вядома, загадзя заказаць нумар у гасцініцы, і — ніякіх турбот. Але Віктар падобнай практыкай ігнараваў. Цікавей было паявіцца нечакана, перана-

чаваць у якога-небудзь простага вяскоўца. І столькі наслухаешся, і даведаешся з выпадковых размоў, што ўражанняў хопіць на некалькі газетных артыкулаў.

А пакуль што да бляску аб'езджаная шаша з сухім шалясценнем клалася пад колы, пругка біўся ў грудзі і свістаў за вушамі астуджаны да сцюдзёнасці вецер. Потым асфальт змяніўся калдобістай гравейкай, і пачалася тая тыповая бездараж, што сустракаецца паўсюдна, варта толькі ад'ехацца ад горада. Месцы пайшлі зусім незнаёмыя, з дробным рэдкалессем, густым ельнікам, рыжымі плямамі зжатых палёў і светлымі бярозавымі гаямі. Хацелася хутчэй знайсці жыллё і ў той жа час не прапусціць дарэмна такую раніцу — цёплую, з сярэбранымі карункамі павуціны, якія бісерам расінак ззялі на кустах, на елках, на перастаялай траве, з негарачым сонцам, што выспела ў чыстым небе і крылатым веерам павісла над соннымі лясамі і зямлёй.

І Віктар запятляў па лясных сцяжынках, пакуль не натрапіў на возера. Непатрывожанае ні адзіным усплёскам, прытоена адпачывала яно, схаванае ад чалавечых вачэй паміж густых зараснікаў. На тым баку возера быў бачны рознакаляровы грэбень дахаў, за ім — зубчастая палоска далёкага лесу. Віктар без ваганняў вырашыў спыніцца ля вёскі. І ўжо не дарога, а вузкая сцежка павяла ўздоўж берага. Неўзабаве ў ляснай прагаліне ўся як на далоні вывернулася вёсачка, невялікая, хат у дваццаць, з лапінкамі агародаў, хлеўчукамі і лазенькамі, з шырокім купчастым выганам.

Пры ўездзе ў вёску ён напаткаў загразшы воз, нагружаны бярвеннем. Мужчына ў кірзавых ботах і салдацкай гімнасцёрцы без папружкі сцябаў пугай калматага каняку і пацягваў лейцамі. Конь дзіка, загнана хроп, касавурыў вогненнае вока, натужна рваўся і, абяссілены, падаваў назад.

— Можа, дапамагчы? — Віктар спыніў матацыкл.

Мужчына кінуў на аглоблі лейцы, вылаяўся. Быў ён нізкага росту, але грудасты, шырокі ў касці, з хударлявым тварам, абпаленым сонцам.

— Нажыў хваробу на сваю галаву,— сказаў ён у роспачы.— Каб яго воўк задраў.

— На ногі ён у вас слабаваты,— Віктар па-гаспадарску агледзеў маслястага канька.

— Гэта вы правільна падмецілі. Мабыць, у вёсцы жылі?

— Жыў калісьці.

— Ну, а чаго да нас? — пацікавіўся ён і смачна зацягнуўся дымам.

— На выхадныя дні. Адпачыць. Паветрам падыхаць.

— Да нас сюды не так ужо часта хто заглядвае.

Гаварыў ён нетаропка, нібы ўзважваў на далоні кожнае слова. І з расказу яго вынікала задаволенасць сваім жыццём: ні кропелькі горычы, шкадавання, ні суму. Віктар падумаў аб тым, як добра было б вось так, як гэты стары, пражыць вялікае жыццё з пакутамі і нягодамі. Каб потым, на старасці, ні аб чым не шкадаваць, ні ў чым не раскайвацца, а ісці да свайго канца з пачуццём выкананага зямнога абавязку.

Мужчына апошні раз зацягнуўся самакруткай, ухапіў лейцы, злёгку нацягнуў іх, ласкава паганяючы каня. Віктар з усяе сілы піхнуў воз, і ён выкаціўся.

— Вялікі дзякуй вам за дапамогу,— сказаў мужчына.

— Няма за што. Вы мне лепш скажыце, у каго тут можна на дзянёк-другі прыпыніцца?

— Ды к любому... і ў мяне месца знойдзецца, а не, дык ідзіце да Лізаветы. Яна адна жыве. Вунь, крайняя хата, ля самай вады,— і ён паказаў пугаўём у напрамку возера.— А лепш давайце да мяне. Мы

з бабай толькі ўдваіх. Хата пустуе. Праўда, заязджаюць часам дзеці, але рэдка, як госці.

— Цяпер ужо вам дзякуй,— сказаў Віктар.— Толькі я бліжэй да вады.

— Ну, глядзіце... Скажыце, Ігнат параіў. Калі спатрэблюся, дык знойдзеце мяне на выгане. Я там коней буду пасвіць.

Яшчэ не старая хата цёткі Лізаветы, з чарапічным дахам, сенцамі, зашклёнымі пад веранду, пунькай і хлявом для жывёлы, адным бокам глядзела на возера, другім — на чэзлы, запушчаны яблыневы і вішнёвы сад і агарод, на недагледжаныя градкі, парослыя травой-макрыцай. «Даўно тут, відаць, ніхто не прыкладаў мужчынскай рукі»,— падумаў Віктар. Ён нырнуў у духмяны змрок сенцаў, вобмацкам знайшоў дзверы, пастукаў, няўпэўнена пераступіў парог, прывітаўся. Яму ніхто не адказаў. Ён крыху пастаяў у нерашучасці, потым выйшаў на падворак, разгублены: ці то ехаць да дзядзькі Ігната, ці дачакацца гаспадыні.

— Дзень добры! — раптам пачуўся голас.

Ён павярнуўся і ўбачыў высокую хударлявую бабулю ў заношанай цёмна-шэрай сукенцы і бурках з галёшамі. У руках яна трымала два кошыкі яблыкаў. Рэдкія, перасыпаныя сівізной чорныя валасы яе былі зачасаны на прамы прабор і сцягнуты на патыліцы ў вузел.

— Мне сказалі, што ў вас на дзянёк спыніцца можна... Дзядзька Ігнат...

— Ён што, сваяк вам? — тут жа перабіла яна.

— Ды не... сустрэў вось, пазнаёміліся.

— А-а-а,— прыязна зірнула старая на Віктара.— Што б я рабіла без яго? Ён жа мне дапамагае, як родны. Ці агарод пасеяць, ці бульбу восенню выбраць — усё ён. А начаваць чаму ж нельга? Месца

ў мяне хапае. І ежа нейкая знойдзецца. Яшчэ вось кароўку трымаю, курэй з дзесятак.

Потым спахапілася:

— Што ж мы стаім? Праходзьце. Зараз я вам што-небудзь паснедаць прынясу.— Віктар паспрабаваў адмовіцца, але тая настаяла на сваім. Пры яго з'яўленні цётка Лізавета ўся нібы засвяцілася знутры, замітусілася, загрукала посудам, некалькі разоў выходзіла ў сенцы і вярталася назад.

Віктар з асалодай паснедаў, падзякаваў гаспадыні, сабраў рыбалоўныя прылады і пакіраваў да возера.

Пакручастая, да бляску вытаптаная сцежачка вілася паміж сакавітых кучаравых зараснікаў трыпутніку, канюшыны і лебяды. Віктар ішоў асцярожна, быццам баяўся разбудзіць дрымотную цішыню возера.

Вільготная трава, нібы ржэўнік, шархацела па штанах, абсыпалася на ногі расой. Дурманіў сытны пах укропу, рамонкавай горычы,ераспелай крапівы. Дзесьці лена ўзбрэхвалі сабакі, з асалодай спрабавалі хрыплаватыя галасы пеўні, мычалі спрасонку каровы.

На возеры Віктар таропка разматаў лёску, закінуў вудачку ў круглае акенца, акаймаванае чаротам, і нецярпліва стаў чакаць, прыкаваўшы позірк да паплаўка. Але паклёўкі не было. Не было і звычайнай ранішняй гульні рыбы. Толькі шапацеў ветрык у чароце, бясшумна накатваліся дробныя хвалі на бераг. Празрысты туман падымаўся з вады і, як расчасаная кудзеля, рассцілаўся і паступова раставаў.

Віктар пачаў ужо шкадаваць, што дарэмна патраціў час, як паплавок раптам нырнуў у ваду. Ён падсек на ўвесь размах рукі і адчуў на канцы лёскі вялікую рыбіну. Усю яго істоту захліснула радасць. Праз некалькі секунд на пяску тапырыў плаўнікі

акунь-гарбыль. Пачаўся клёў, рэдкі, але ўдалы. Віктар забыўся пра ўсё на свеце, да паўдня выцягваў вялікіх акунёў. І калі ўжо сонца набрала сілу, бязлітасна запякло ў галаву, ён, здаволіўшыся неўтаймоўнай сваёй страсцю, стомлена і вольна раскінуўся на зямлі. Неба, далёкае і бяздоннае, было ўжо з халаднаватай перадвосеньскай празрыстасцю. Віктар сеў, абхапіў калені рукамі, прыслухаўся.

Усё маўчала, нібыта затаілася ад прысутнасці чалавека і разам з тым жыло сваім непрыкметным таямнічым жыццём. Ярка серабрылася, струменіла і дрымотна лепятала зеляніна прыбярэжнага гусцяру. Нячутна, быццам нябачны велікан языком, залізвала возера жоўты акрайчык берага, пакідала на глыбокіх залысінах пенны накіп. Мітусліва таўкліся ля берага малькі. Як кавыльныя травы ў стэпе, хіліўся долу чарот з расчасанымі ў адзін бок султанамі, самотна шапацеў шурпатымі лісцямі.

Нейкая надакучлівая страказа час ад часу падлятала да Віктара, завісала ў паветры насупраць яго твару, усё роўна як пытала: «Навошта ты тут і што табе трэба?» Ён неадрыўна глядзеў у чорныя вочы-гарошынкі страказы і думаў: «Хтосьці сказаў, што шчасця няма, а ёсць спакой і воля... Не, няпраўда. Тое, што я сёння ўбачыў і адчуў, і ёсць шчасце. Магчыма, яно толькі маё, адзінае. І нікому іншаму не дадзена яго зразумець». І Віктар задумаўся над тым, што вельмі добра было б вось так проста і неадмыслова жыць, як яго далёкія продкі ў поўным суладдзі з прыродай.

Цяпер ён ужо не сумняваўся, што абавязкова напіша нарыс аб гэтай першароднай вясковай цішыні, аб шчаслівым, як ён думаў, жыцці цёткі Лізаветы і дзядзькі Ігната, якія набылі сэнс і шчасце быцця ўдалечыні ад шумнага горада і чалавечай мітусні.

Дзень дагараў павольна, як велізарны касцёр.

Сонца астыла, звалілася ў пеннае месіва рознакаляровых хмар і запаліла іх знутры чырвоным золатам. Ужо ва ўсю моц палымнелі малінава-барвовым агнём вокны хат, і ад дрэў пабеглі доўгія цені.

Начаваў Віктар у пуньцы. Ён забраўся на сена, зрабіў сабе логава, накрыўся старэнькай коўдрай і аддаўся мяккай цішыні наступаючай ночы. Гусцеў змрок, наліваўся цемрай, у якой растварыліся і лес, і возера, і суседнія хаты, і дрэвы. Хутка праз шчыліну ў даху сталі заглядвацца на яго бледны серпік месяца і зялёныя агеньчыкі зорак, што праклюнуліся на лімонным небе. Навокал было так ціха і ўрачыста — аж звінела ў вушах, а галава налівалася дурманнай млявасцю ад водарнага асенняга духу. Зрэдку ў гэту тонкую празрыстую цішыню ўрывалася запозненае стракатанне конікаў ці спуджаны крык засынаючай птушкі. Без аніякіх думак, падпарадкоўваючыся ўладарнай сіле сну, ён імкліва правальваўся ў мяккае глыбокае бяздонне.

Прачнуўся ён гэтак жа раптоўна, як і заснуў, з жалем падумаўшы аб тым, што спазніўся на першы клёў: сонца ўжо ўзышло высока. Віктар устаў, поўны сіл, бадзёрасці, душэўнага спакою, і ўжо наважыўся быў спусціцца ўніз, але, пачуўшы зусім блізка чыйсьці голас, сеў і паглядзеў у шчыліну. Напраcткі да берага ішлі двое: адзін сярэдняга росту з шырокімі плячамі, таўстатвары, са стрыжаной галавой і рыжымі валасатымі грудзьмі ў расхрыстаным каўняры белай кашулі. Другі быў ростам крыху меншы, але таксама, відаць, дужы, з хударлявым тварам і сівой грыўкай, якая па-хлапечы спадала на лоб. Стрыжаны выцягнуў скамечаны пачак папярос, закурыў, зацягнуўшыся дымам, заклапочана сказаў:

— Што будзем рабіць, Шурка?

— Хто яго ведае. Справа як быццам і простая, але хітрая.

Памаўчалі.

— Чуў я сёння, бабы ля калодзежа гаварылі, што да яе гэты самы прыехаў... як яго? Запамятаваў, ёлкі зялёныя!

— Юрыст, ці што?

— Ды не, воўк яго задзяры!.. На языку круціцца. Ну гэты, што закон змацоўвае! — злаваў стрыжаны.

— Натарыус?! — запытальна выкрыкнуў Шурка.

— Во-во, натарыус! Каб яго кот убрыкнуў. Гэта ж трэба такое слова мудрагелістае выдумаць! — абураўся стрыжаны.

— Усё можа быць. Я сам учора бачыў, як да яе хтосьці прыехаў,— памяркоўна прамовіў Шурка.

— Трэба падысці, яшчэ раз пагаварыць, усё ж такі маці — свой чалавек,— прапанаваў стрыжаны.

Потым яны, як па камандзе, кінулі пад ногі акуркі, накіраваліся да возера, адвязалі лодку. Стрыжаны наваліўся на вёслы, ламаючы люстраную паверхню.

Віктар збегаў да возера, памыўся і пайшоў у хату. Раніца выдалася такая ж цёплая, росная, як і напярэдадні. Але прыгажосць яе не кранала Віктара, не будзіла ранейшага захаплення. Усё гэта неяк само па сабе адступіла на задні план перад яго незразумелым неспакоем і незадаволенасцю сабою.

Цётка Лізавета сядзела на лаве заклапочана самотная і паглыбленая ў сябе. У яе твары, поглядзе было столькі разгубленасці, быццам яна толькі што атрымала нейкую непрыемную вестку. Віктар нерашуча пераступіў цераз парог, павітаўся і спытаў пра яе здароўе.

— І дзе яно будзе, гэта здароўе? — цяжка ўздыхнула яна, устала і пачала варушыць качаргой чырвоныя, як медзь, вуголлі, што дагаралі ў печы. Ён бачыў: цётку Лізавету нешта непакоіць і прыгнятае, і ўсяляк спрабаваў выклікаць яе на шчырую размову. Але гэта яму не ўдавалася: яна была па-ранейшаму

маўклівай. То часта хадзіла па хаце, то раптам садзілася ў знямеппі, то спахоплівалася і мітусліва бралася за работу.

Паспешліва паснедаўшы, Віктар падаўся да возера, разважаючы аб тым, што, магчыма, ён нечым не дагадзіў гаспадыні. Але колькі ні думаў, а віны за сабой ніякай не знаходзіў, не бачыў таксама і прычын такой раптоўнай перамены ў яе настроі.

Ад шапялява-дрымотнага ветрыку, асляпляльнай люстранасці вады стамляліся вочы, сціскала млявасць галаву. Парыбаліўшы яшчэ некалькі гадзін, канчаткова разамлелы, ён расцягнуўся ў росным цяню пад разгалістай вярбой і забыўся сном. Калі прачнуўся, сонца так напякло патыліцу і размарыла, што перад вачамі ўсё плыло і кружылася. Ён зайшоў у ваду, некалькі разоў акунуў галаву і выбраўся на бераг з адчуваннем свежасці і бадзёрасці.

Віктар нетаропка сабраў прылады і, паразважаўшы, канчаткова пераканаўся, што з цёткай Лізаветай нешта адбылося. Яе маўклівасць сведчыла аб тым, што яна не хоча раскрыцца перад ім — чужым чалавекам. А гэта значыць: ён больш нічога не даведаецца пра яе лёс. Пакуль не позна, ён вырашыў ехаць у раён, каб у райкоме камсамола ўзяць кандыдатуру лепшага хлебароба і напісаць пра яго нарыс.

З цяжкасцю ўгаварыўшы цётку Лізавету ўзяць плату за начлег і ветліва адмовіўшыся ад яе настойлівай просьбы яшчэ застацца, ён развітаўся і сабраўся ўжо ісці, як яна раптам з адчаем прамовіла:

— А вось і яны... Шурка з Колькам.

Віктар выглянуў у акно і ўбачыў тых, чыю размову чуў раніцай. Ён адразу здагадаўся, што гэтыя двое і ёсць яе сыны. І незнарок падслуханая ім размова была пра яе — цётку Лізавету — і пра яго — Віктара, каго яны прымалі за натарыуса.

Увайшлі яны шумна, упэўнена, павіталіся і тут жа селі. На хвіліну ўсталявалася маўчанне. Яно прыгнечвала ўсіх. Сыны прыбылі з пэўнай мэтай, але, убачыўшы Віктара, разгубіліся і не ведалі, што рабіць. Стрыжаны, гэта значыць Колька, паважліва, але з прытворным здзіўленнем прамовіў:

— У вас сёння госці... А мы і не ведалі.

— Гэта так... чалавек з горада,— абыякава сказала яна.

— Рыбак? — бесцырымонна спытаў Колька, паглядаючы на Віктара.

— Адгадалі,— усміхнуўшыся прытоенай усмешкай, пацвердзіў той.

Колька з палёгкай уздыхнуў, прамовіў з раздражненнем:

— Цяпер кожны то рыбак, то паляўнічы. Кожны сваю здабычу шукае.

— Што праўда, то праўда,— падтрымаў яго Шурка.

Колька дастаў з кішэні бутэльку, зубамі выцягнуў папяровую затычку, разліў у шклянкі самагонку, ветліва папрасіў:

— Ідзіце, мама, вып'ем за ваша здароўе. І вы таксама,— кінуў ён абыякава ў бок Віктара.

— А чаго ж... можна і выпіць,— ахвотна і разам з тым неяк задзірыста адказала яна і тут жа паслужліва нарэзала хлеба і сала. Віктар адмовіўся.

— А вы, відаць, фанабэрысты. Ну, як ведаеце,— пакрыўджана адазваўся Колька.— Не п'юць цяпер толькі тыя, у каго няма за што піць.

Яны чокнуліся, апаражнілі шклянкі. Маці толькі паспытала гарэлку. Колька, раздзіраючы зубамі тоўсты скрыль сала, прамовіў:

— Мы зноў да вас па гэтай самай...

— Ведаю, па якой вы справе,— прыглушана сказала яна і павольна апусцілася па лаўку. Вочы яе

наліліся слязьмі, худыя спрацаваныя рукі бязвольна павіслі з каленяў.

— Давайце мы як людзі абмяркуем,— прымірэнча прапанаваў Колька.

— Ды што ж абмяркоўваць, дзеці? Усё ўжо абгаварылі,— уздыхнула яна.

— Трэба ж па-людску, мама,— азваўся Шурка, які да гэтага часу маўчаў, і з дакорам паглядзеў на маці.— Мы як-ніяк не чужыя вам.

Цётка Лізавета маўчала як нямая. Яны зноў выпілі, і Колька зноў вярнуўся да пачатай размовы.

— Якая вам карысць ад таго, што ўсё застанецца калгасу? Яны што, дапамаглі нам, калі бацька будаваўся?

— Я яшчэ паміраць не збіраюся,— пакрыўджана зазначыла цётка Лізавета.

— Ды хіба мы пра гэта,— не адступаў Колька.— Жывіце сабе на здароўе. Хочаце ў мяне, а хочаце ў Шуркі. Але навошта, каб гэта ўсё камусьці засталося.

— На ліха мне ваш горад,— злосна адказала яна.— Што я буду там рабіць? Сядзець, як у турме, у вашай кватэры і смерці чакаць.

— А чаго вы пад старасць хочаце? — раззлаваўся Шурка.— На якога чорта вам гэта гаспадарка? У магазін пайшоў і купіў што трэба. І ніякіх клопатаў. І хлеб, і малако, і мяса... А калі прададзім, то за вашу сядзібу ведаеце колькі дадуць?

Рабаціністы твар Шуркі пачырванеў, рудзенькія валасы на галаве ўскалмаціліся, грыўка спаўзла на вочы.

— Сваё нажывіце і тады прадавайце...— баранілася маці.

— Сваё-то нажывём... Але ж гэта таксама не чужое,— прымірэнча заўважыў Шурка.

— Самі вінаваты. Нанесла па свету! А хто вас у шыю гнаў?

— Тады, мама, многія пакідалі вёску,— прамовіў у роздуме Колька.

— І тады жылі людзі... Рабіць трэба было,— гаварыла яна.

— А на ліха яна нам трэба, гэта зямля?! — з гарыччу сказаў Колька.

— Час быў такі,— сумна сказала цётка Лізавета.

— Час?! — са з'едлівай злоснай ухмылкай адгукнуўся Шурка.

— Ідзіце ў калгас. Цяпер зарабляюць вунь як...

— Душа не ляжыць, мама,— шчыра, з болем і крыўдай прамовіў Колька і з жалем паглядзеў на маці, працягваючы споведзь: — Вы думаеце, лёгка нам тады было? Мы адрывалі сябе ад зямлі... як бінт ад раны. Рад бы вярнуцца, ды ўжо не магу. Рана зажыла. Не баліць ужо, не шчыміць больш. Няма, мама, ахвоты на зямлі працаваць. Не патрэбна яна мне цяпер... ні за якія грошы.

Шурка маўчаў, схіліўшы да каленяў галаву, і змрочна глядзеў у падлогу. Маўчалі і ўсе астатнія. Было чуваць, як б'ецца аб аконнае шкло і гудзіць муха. Пасля чарговага выказвання Шуркі і Віктар ужо не вытрымаў, сказаў нечакана для іх рэзка і прама:

— Вы абодва памыляецеся. Зямля патрэбна дзяржаве, а значыць, і кожнаму чалавеку... І нельга на свой аршын мераць усіх астатніх.

Шурка ўскінуўся на яго цікаўна здзіўленым і непрыязным паглядам. Увесь твар яго быццам гаварыў: «Бач ты які певень бойкі, які абаронца!»

— Вы сказалі так таму, што вам грошы за гэта, напэўна, плацяць. А мне не плацяць. І я гавару так, як думаю.

— Ладна, Шурка, не спрачайся,— перапыніў яго Колька і тут жа звярнуўся да Віктара, быццам шукаў у яго падтрымкі: — Бачыце, родная маці, а не

разумее нас. Усё, што нажывалі, пойдзе па ветру, ёлкі зялёныя!

— Не вы нажывалі,— злосна сказала яна, і вочы яе пачырванелі ад слёз.

— Ды хіба справа толькі ў гаспадарцы? — прымірэнча і глуха прамовіў Шурка.— У мяне, можа, душа разрываецца ад жаласці да вас... што вы адна тут, у гэтай вёсцы... Жывём мы неяк не па-людску.

— Ну што ж,— цяжка ўздыхнуў Колька.— Пойдзем мы... А вы, мама, падумайце. Мы ж не ворагі вам.

Развітаўшыся, яны пайшлі. А цётка Лізавета, уткнуўшы твар у далоні, заплакала.

Потым, крыху супакоіўшыся, выцерла хусцінкай вочы, заклапочана сказала:

— Вам ужо, напэўна, ехаць трэба: вечарэе. А то заставайцеся. Жывіце, колькі хочаце.

— Дзякую. Толькі ехаць мне неабходна.

З пачуццём нейкай віны і няёмкасці ён выйшаў на вуліцу. Вёску ахінаў змрок. Усё навокал дыхала мірнай цішынёй і шчасцем. Але не было ні цішыні, ні спакою.

Віктар выкаціў матацыкл са двара і паехаў да выгану, дзе пасвіліся коні. Ён убачыў дзядзьку Ігната, які сядзеў на кукішках, путаў свайго каняку. Нягледзячы на тое, што час быў позні, Віктар прыпыніўся, каб пагаварыць з чалавекам, які яму спадабаўся, а заадно распытаць пра цётку Лізавету...

Умомант развялі агеньчык з ціхім, роўным, але гарачым полымем. Віктар з асалодай удыхнуў гаркавата-салодкі пах альхі і асіны, прыемна адчуваючы ва ўсім целе пякучую цеплыню. Чырвоныя водбліскі агню нібы вылізвалі твар дзядзькі Ігната, густа крывавілі яго. Доўгай палкай паварушыўшы вуголле, ён сказаў:

— Бачылі, які сад у Лізаветы? Ну дык вось... За-

кончылася вайна, народ у родныя мясціны пачаў вяртацца. Вярнуўся і Ягор — муж Лізаветы. Ён, казалі, недзе партызаніў. Прыйшоў ён, а тут ні кала ні двара. Немцы пры адступленні ўсё спалілі. Сад у Ягора быў. Ды які сад! Дык вось яго гэтыя гады пад корань ссеклі. Памятаю, прыйдзе, бывала, Ягор, сядзе на мяжы, як каменны. Пакуль Лізавета не пакліча. Многія лічылі, што ён розум страціў. Неяк іду я, а ён сядзіць, галаву на калені паклаў, усё роўна як спіць. І вочы ў яго як у падстрэленай птушкі. Падышоў я і пытаюся: «Ты чаго гэта, Ягор? Ды пара ўжо і забыць, не тое перажылі». А ён мне адказвае: «Я гэтаму саду ўсё сваё жыццё аддаў. Кожную яблыньку як дзіця роднае песціў». І на твары ў яго такая скруха, быццам пахаваў кагосьці. Ну, пабедаваў-пабедаваў Ягор ды і пайшоў. Туды, к балоту, дзе цяпер Лізавета жыве.

Дзядзька Ігнат перапыніў расказ, зачаравана глядзеў на агонь.

Віктар устаў, размяў здранцвелыя ногі, азірнуўся. Туман шчыльным воблакам наплываў з лесу, разліваўся па выгане і затапляў яго. Коні плавалі ў ім, нібы ў разведзенай малаком вадзе. У чуйнай цішыні вечара гучна патрэсквала паленне. Полымя, кучаравячыся дымам з іскрамі, выхоплівала са змроку бліжэйшыя кусты, падобныя на птушак з распластанымі крыламі. Непадалёк ад іх прабег нейкі звярок, шамоцячы травой. Віктар сеў, захінуўся штармоўкай, спытаў:

— Навошта ж ён на новае месца пайшоў, калі свая сядзіба была?

— Не хацеў на апаганеным месцы зноў жыццё пачынаць. Горды быў чалавек. Любіў зямлю Ягор, ды як любіў! Цяпер так не любяць, не ўмеюць. І, здавалася б, усё добра было, толькі зноў яму не пашанцавала. Старэйшы сын з вайны не вярнуўся. Да Бер-

ліна, кажуць, дайшоў. Напэўна, ужо лёс яго такі. А тыя двое вылецелі з бацькоўскага гнязда, захацелася ім па свеце пабадзяцца, а Ягор ні ў якую. Разгневаўся, кажа, я вырас на зямлі і памру на ёй, а вы можаце ісці куды вочы глядзяць. Вы мне не дзеці. Як сказаў, так і зрабіў... І што вы думаеце? Пайшлі. Пасля гэтага Ягор пачаў здаваць. Можа, гараваў моцна, а можа, гады здароўе падламалі. Паміраў ён спакойна, мудра. Дзяцей не ўспомніў, не дараваў, значыць, і наказ даў Лізавеце — усю гаспадарку ў калгас. А дзеці? Вядома ж, памыкаліся па белым свеце ды і зноў вярнуліся дадому. Эх, усюды, кажуць, добра, дзе нас няма... Побач тут, у раёне, уладкаваліся. На заводзе працуюць. Жывуць як быццам нядрэнна. Вось і патрабуюць цяпер ад маці, каб яна сваю гаспадарку прадала. Ды, відаць, не такая яна, Лізавета. Спраўна блюдзе наказ мужнін.

Датлявала вуголле. Ужо зблізку не было бачна ні лесу, ні возера, ні коней. Усё растварылася ў цемры. Віктар развітаўся з дзядзькам Ігнатам, завёў матацыкл.

— Прыязджайце да нас. Месцы тут добрыя, прывольныя. Хата ў мяне вялікая, хоць ваўкоў ганяй. Ды і нам са старой весялей будзе,— шчыра запрашаў Ігнат...

...Калі матацыкл імкліва вылецеў на дарогу, Віктар спахапіўся, што не спытаў у дзядзькі Ігната назву вёскі.

## АДЗІН ДЗЕНЬ ДА ПЕНСІІ

Восеньская ноч шапацела за сценамі дажджом, густой цемрай прыліпала да вокнаў. Голая галінка стукала ў пераплёт рамы, шкрэбла па шкле.

Старшына Бандаровіч нацягнуў на галаву коўдру, павярнуўся тварам да сцяны. Ложак зарыпеў. Жонка ўздыхнула, нешта незадаволена прамармытала. Іван Пятровіч зразумеў, што не засне, лёг на спіну, утаропіўся ў цемру, задумаўся.

Ён падаў рапарт на звальненне. Саслужыўцы віншавалі яго з выхадам на пенсію. Спачатку Бандаровіч радаваўся: спакой і воля — ні камандзіраў, ні начальнікаў. Але чым больш ён думаў пра сваё вольнае жыццё, тым трывожней рабілася на душы. Усё часцей лезлі ў галаву адны і тыя ж пытанні: як будзеш жыць, чым зоймешся?

Ціхая цемра затапіла пакой. У ёй, як у чорнай вадзе, зданямі плавалі шафа, паліца з кнігамі, на сцяне светлай плямай выдзялялася сямейная фатаграфія.

— Ты спіш? — спытаў ён жонку, і голас густа раскаціўся ў цішыні, якая вярнула пакою дамавітую ўтульнасць і жывую цеплыню.

— Як я магу спаць, калі ты не даеш,— сярдзіта адказала жонка спрасонку хрыпатым, нібы прастуджаным, голасам.

— Давай пагаворым, Маша,— ласкава папрасіў ён яе.— Ляжу вось і думаю: на пенсію іду.

— Дык радавацца трэба.

— Чаму ж тут радавацца?

— Як чаму? На адпачынак ідзеш.

— На адпачынак...— уздыхнуў ён. Івана Пятровіча крыўдзіла, што жонка не разумее яго.— Як жа жыць далей?

— Як іншыя людзі...

Гэтыя абыякавыя словы балюча ўкалолі яго. Як жывуць іншыя, ён не ведаў, бо не меў празмернай цікаўнасці да чужых лёсаў. Яго жыццё — жыццё вайсковага чалавека — было для ўсіх зразумелым і адкрытым, як роўная баразна на полі. Іван Пятровіч

з памяркоўнасцю селяніна ўдумліва і дабротна рабіў сваю справу і ўжо не адзін дзесятак гадоў цягнуў армейскую лямку. Але яна не церла яму шыю, не давіла на плечы. Ён прывык да яе, адчуваў сябе зручна, як конь у добра прыгнаным і абношаным хамуце.

— Спі. Чаго гэта ты раптам на старасці думаць пачаў? — міралюбна параіла жонка і зноў заціхла, соладка засапла.

Але сон не ішоў да яго. Іван Пятровіч адчуў, як нешта вострымі кіпцямі асцярожна, але балюча драпае сэрца. Гэта падкрадваўся да яго старэчы сум.

Выразна, нібы ўсё было ўчора, перад ім паўстала яго сірочае дзяцінства з адным-адзіным жаданнем паесці ўволю, юнацтва ў ваенных акопах і аднастайныя, як дзве кроплі вады, будні казармы. Усё сціснута, спрасавана бязлітасным цяжарам часу. Ён разумеў, што жыццё ўжо не вярнуць, не расцягнуць, не разматаць нанова, як клубок нітак, і ўпарта вымушаў сябе заснуць.

Улёгся і заціх вецер. І месяц нырнуў у ватную глыбіню шызага неба. Яшчэ больш пацямнела ў пакоі. У непарушнай цішыні яго глухлі ўсе гукі вуліцы. Сцішыўся нарэшце і Бандаровіч, як той месяц, спачатку нырнуў у бяспамятную трывожную дрымоту, а пад раніцу ў балючы і страшны сон, які не раз яму сніўся.

Яго кулямётны ўзвод, намёртва зачапіўшыся за вышыню, ужо суткі стрымліваў лавіну нямецкай пяхоты. Азлобленыя храбрасцю рускіх, іх упартасцю і пагардай да смерці, немцы лезлі па знявечаным полі на вышыню. І ўжо зусім блізка, як мурашы, разбягаліся, рассыпаліся, хаваліся ў густой бурай траве, а потым, як зялёныя чарвякі, паўзлі на траншэю і яе флангі. Бандаровіч разумеў, што немцы хочуць акружыць іх, і першы пачаў бой. А калі нямецкая пяхота ўдарылася аб полымя сустрэчнага агню, задыхнула-

ся, абпалілася і стала адкатвацца назад, пакінуўшы на зямлі зялёныя плямы мёртвых цел, Іван Пятровіч закрычаў на ўсю моц:

— За мной! Уперад!.. Ур-а-а-а! — і выскачыў з траншэі. Але тут ён адчуў штуршок у бок і прачнуўся, здзіўлены: як трапіў ён у гэта мірнае жыццё з той страшнай явы, у якой толькі што быў? Потым зразумеў, што яго разбудзіла жонка, але ніколькі не пакрыўдзіўся на яе, толькі сказаў з дакорам:

— Зноў атаку не дала дакончыць!

— І як жа ты мне надакучыў са сваімі атакамі! Вечна спаць не даеш,— незласліва дакарала яна мужа.

Іван Пятровіч абняў жонку, цмокнуў у шчаку, весела рассмяяўся.

— Маятнік ты начны. Ва ўсіх мужыкі як мужыкі, а ў мяне ліха ведае што: не п'е, не курыць, а кожную ноч ваюе,— уздыхнула яна. Іван Пятровіч прывык да яе клапатлівых ласкавых ушчуванняў, за якімі крыліся сапраўдная адданасць і пяшчота.

Ён устаў, уключыў святло, стаў збірацца на службу. Каржакаваты, шырокі ў плячах, Іван Пятровіч няўклюдна рухаўся па кватэры, здаваўся непамерна вялікім у цеснаце пакоя. Пагаліўся, па звычцы напіўся чаю, апрануўся. Перад адыходам акінуў сябе прыдзірлівым поглядам, каб не было парушэнняў у выпраўцы. З люстэрка глядзеў на Івана Пятровіча яшчэ не стары мужчына ў ваенным шынялі і фуражцы, моцны, падцягнуты, з сівізной на скронях. І твар у яго быў таксама не стары, з маладым ясным поглядам. Толькі густая сетка з маршчынак-павуцінак ды сіняватая пухліна пад вачыма напаміналі пра бяссонную ноч. «Нічога, Іван, яшчэ паслужым, папрацуем»,— падбадзёрваў ён сябе. І тут жа ўспомніў, што яму не трэба больш ні служыць, ні працаваць, што застаўся адзін дзень да пенсіі.

Ён нетаропка спусціўся па лесвіцы, пакіраваўся да кантрольна-прапускнога пункта. Світанак ззяў пурпуровымі, лімоннымі, барвовымі фарбамі.

На КПП салдат змятаў лісце, што шчодра насыпалі за ноч дрэвы. Бандаровіч павітаўся з ім, паскорыў крок: да пад'ёму заставалася менш як дзесяць мінут. Справа са змрочнай маўклівасцю паглядалі на яго казармы, злева — доўгай стройнай шарэнгай, здранцвела, як салдаты на інспектарскай праверцы, застылі высокія бярозы. Далей за дрэвамі ціснуліся да каменнага плота пляцы, палосы перашкод, спартыўная пляцоўка. Усё бачанае ім ужо абмывала світанне свежымі фарбамі.

Ён ішоў і думаў аб тым, што заўтра ўжо не трэба рана ўставаць, спяшацца, рабіць тое знаёмае і звыклае, што ён рабіў заўсёды. У адзін дзень ён стане непатрэбным ні гэтаму гарадку, ні казарме, ні салдатам, ні той рабоце, якая чакала яго з раніцы да позняга вечара.

Ад гэтых нудных, маркотных думак падкатваўся да сэрца камяк. Гэта быў ужо знаёмы боль. У апошнія дні ён нібыта падсцерагаў яго. І адступаў толькі тады, калі Бандаровіч з галавой акунаўся ў работу.

У казарме ля тумбачкі Бандаровіча сустрэў днявальны — хударлявы, маленькага росту, са смуглявачорным, нібы абвугленым, тварам. Гэта быў навабранец, салдат першага года службы, родам з Аджарыі. Ён стукнуў абцасамі, ад старання і напружання на імгненне застыў, потым ускінуў руку да пілоткі, адрапартаваў:

— Таварыш старшына, за час вашай адсутнасці надзвычайных здарэнняў у батарэі не было.

Іван Пятровіч дабрадушна ўсміхнуўся, павітаўся з салдатам за руку, скамандаваў «Пад'ём». І не гучна, як заўсёды, а неяк прыцішана, спачувальна-вінавата, усё роўна як не хацеў будзіць салдат. «Ма-

ладыя» ачмурэла ўзляталі з ложкаў, мітусіліся, улазілі ў абмундзіраванне. «Старыя» падніmаліся спакойна, апраналіся хутка, без паспешлівасці і лішніх рухаў, салідна і ўпэўнена займалі месца ў страю. І пакуль рос, расцягваўся ў праходзе строй, старшына рабіў выгляд, што не заўважае ні тых, хто спазніўся, ні неахайнасці ў выпраўцы некаторых салдат, ні часовага беспарадку, які бывае звычайна ў казарме адразу пасля пад'ёму.

Пасля ранішняй паверкі ён загадаў сяржантам выводзіць падраздзяленні на зарадку. Салдаты падмяталі, працірали падлогу, папраўлялі ложкі.

Іван Пятровіч разгублена пахадзіў па казарме, зазірнуў ва ўмывальнік, бытавы пакой, курылку, у вучэбныя класы з той жа няўважлівасцю і неакрэсленасцю, якіх ніколі раней за сабой не прыкмячаў. Паўсюль быў парадак. Калі б і хацеў, ні да кога не прычапіўся б. Усё рабілася акуратна, правільна і як быццам паміма яго волі, незалежна ад таго, быў ён тут ці не быў. Жыццё казармы цяпер бесперапынна качылася па той каляіне, якую ён сам калісьці пракладваў. І зноў усплыло шчымлівае пытанне: «Што я буду рабіць заўтра? Куды пайду?» І выходзіла так, што і рабіць яму няма чаго, і ісці няма куды, акрамя як у казарму. Ён сеў на табурэтку, спрабаваў выдумаць для сябе новае жыццё. Але як ні стараўся, нічога не атрымлівалася.

Да яго падышоў дзяжурны па батарэі сяржант Крыванос, бадзёра спытаў:

— Шо, таварыш старшына, прызадумаліся?

Іван Пятровіч узняў галаву, глянуў на сяржанта, у думках пазайздросціў яго моцнаму целу, здаровай сіле, чырванашчокаму твару.

— Што нам застаецца пад старасць... толькі і думаць,— няпэўна адказаў Бандаровіч.

— Таварыш старшына, а пытанне нясціплае

можна? — не адступаў Крыванос, і ў вачах яго засвяцілася хітрынка.

— А чаму ж нельга?

— Хто ж замест вас у наша падраздзяленне?

— Як гэта... заместа мяне? — ускінуўся Іван Пятровіч, хаця добра разумеў, пра што пытае сяржант.

— Усе ўжо ведаюць, таварыш старшына,— тымі ж хітрымі, але спачувальна-жаласлівымі вачыма глядзеў на яго Крыванос.

— Хто ведае? Аб чым вы? — падхапіўся, нібы ўджалены, Бандаровіч.

— Ды чаго ўжо там... ведаем мы, што ўходзіце вы... на пенсію,— з жалем уздыхнуў Крыванос.

— Дапусцім, на пенсію, ну і што? Другі прыйдзе на маё месца. Незаменных людзей няма.

— Яно так. Але ведаеце... Калі шчыра, то не хацелася, каб пасля вас які-небудзь зануда прыйшоў. Прывыклі мы да вас.

— Рана вы мяне спісваеце,— сказаў Іван Пятровіч, з прыхаванай усмешкай загадаў Крываносу: — Займайцеся сваёй справай, таварыш сяржант.

Крыванос, бухаючы каванымі ботамі, уразвалку пайшоў па казарме. А Іван Пятровіч задумаўся над словамі сяржанта і здаўся самому сабе бездапаможна слабым і базабаронным.

Закончыўшы ранішнюю зарадку, распарана-потныя, салдаты шумна ўваліліся ў казарму, мыліся, галіліся, рыхтаваліся да новага дня.

Праз некаторы час падраздзяленне ў суправаджэнні Крываноса пайшло на снеданне. Старшына стаяў каля днявальнага, глядзеў на худыя стрыжаныя патыліцы салдат, слухаў гучную гамонку іх, разнабойны грукат ботаў па лесвіцы, пакуль усе не выйшлі з казармы.

А казарма быццам вымерла, стала няўтульнай, нейкай чужой. Нібы трапіў ён у нежылы і пусты

дом, адзінокі, нікому не патрэбны. Каб не паддацца гэтаму новаму, незвычайнаму стану, ён таропка пакіраваў да выхаду, на ранішняе святло і свежае паветра. Боты з перабольшанай гучнасцю грукалі па падлозе, злавалі яго. Здавалася, нехта нябачны ўслед яму стукае жалезнай палкай.

Ноч усыпала зямлю апалым лісцем. Раніца стаяла маўклівая і бадзёрая, з празрыстым халаднаватым паветрам, далёкім небам і рэдзенькім, бледна-рыжым разлівам сонца.

Бандаровіч пахадзіў, пасядзеў у альтанцы, з нецярплівасцю чакаў, калі збярэцца падраздзяленне на развод.

Салідна крочылі старшыны, прапаршчыкі, сяржанты звыштэрміновай службы. Брава, размашыста, прыгожай зухавата-гнуткай хадой падплывалі маладзенькія лейтэнанты. Нетаропка, паважна, з заклапочанымі тварамі падыходзілі штабныя афіцэры.

Іван Пятровіч з многімі вітаўся, размаўляў, але ўжо неяк адчужана, быццам усе гэтыя людзі былі дзесьці далёка ад яго. Ён ведаў: заўтра не будзе для яго ні разводу, ні знаёмых твараў саслужыўцаў, ні салдат, якіх любіў строга, як сваіх сыноў, што служылі цяпер афіцэрамі ў розных канцах краіны. Штосьці прыкрае, балючае, горкае, як жаласць да самога сябе, набухала, разрасталася ў ім.

Пасля разводу падраздзяленні разышліся: на заняткі, на работу, на ўборку тэрыторыі. Пяць чалавек, у асноўным «маладых» — з нядаўніх навабранцаў, накіравалі зграбаць лісце. Плац зноў апусцеў, сіратліва ціснуўся да казармаў, да алеі, дзе барвова пылалі таполі, да старога сквера, які яшчэ палымнеў рознымі колерамі.

Бандаровіч надумаў паглядзець, як салдаты зграбаюць лісце. Сквер быў урачыста ціхі, у святочным уборы, напоўнены яблычным пахам. Сонца затапіла

яго золатам, промнямі лашчыла задуменна расслабленыя, паружавелыя твары салдат, што сабраліся вакол цэлай гары лісця.

Салдат дастаў запалкі, чыркнуў. Малінавы язычок лізнуў лісцік, скруціў яго, пераскочыў на іншы, разбегся, распоўзся. Выцеснены агнём сіні дымок выскачыў на паверхню, закучаравіўся воблачкам, пацягнуўся да неба. І гэты гаркавы дым зноў нагадаў Бандаровічу дзяцінства з пахам позніх яблык-антонавак, печанай у кастры бульбы.

Салдат зачаравана наглядаў за полымем. А Іван Пятровіч нахмурыўся, пасур'ёзнеў, сказаў яму па-начальніцку:

— Глядзіце тут, каб парадак быў.— І пайшоў прэч, незадаволены самім сабой.

Але ісці яму не было куды. Справы свае ён даўно вырашыў. А ў казарму не хацелася. І ён накіраваўся ў «парк», дзе ішлі заняткі па агнявой падрыхтоўцы. Але і там ён быў лішні, непатрэбны. Ніхто не звяртаў на яго ўвагі: усе былі заняты работай. Салдаты сядзелі на гарматах, выконвалі чоткія і гучныя каманды ўзводнага. Гарматы то, як вялізныя распластаныя чарапахі, варочаліся ў розныя бакі, то ўскідвалі доўгія ствалы-хобаты ўверх, нібы вышуквалі некага, то задуменна ўглядаліся ў гарызонт.

Старшына бязмэтна пахадзіў па дарожках «парку», заглянуў у адчыненыя боксы, дзе стаялі машыны,— рабіў выгляд, што некага шукае, хоць шукаць яму не было каго. Яго неадольна цягнула да людзей, і ён вырашыў схадзіць у сталоўку, пагаварыць з паварамі, а заадно і пацікавіцца наконт абеду.

Спачатку ён заглянуў на кухню. Знаёмы повар гадоў сарака, сяржант звыштэрміновай службы Спірыдон Чувалаў, рэзаў качан капусты. Іван Пятровіч крыкнуў яму знарок гучна, па-сяброўску:

— Здарова, Спірыдон! Чым думаеш сёння маіх арлоў карміць?

— Прывітанне, прывітанне! — адказаў той мімаходзь і дадаў значна: — На першае боршч з мясам, на другое — макароны па-флоцку.

— Ого-го! — здзівіўся Іван Пятровіч.— Гэта з якой нагоды?

— А ў гонар суботы,— Спірыдон выцер рукі аб халат, прысеў на табурэтку.— Прыслаў бы ты мне пару лайдакоў на кухню. Не хапае рабсілы. Што, табе шкада?

— З задавальненнем бы. Але няма ў мяне такіх,— адказаў старшына.

— Ды ну? Што, у самаволку не ходзяць ці пад старасць нюх страціў, злавіць не можаш?

— Мае не ходзяць,— упэўнена адказаў Іван Пятровіч.

— Што, што? — паглядзеў на яго повар недаверлівымі хітрымі вачыма і зарагатаў.

Уволю насмяяўшыся, Спірыдон спытаў:

— Гэта што за салдат, які ў самаволку не ходзіць? Я сам, бывала, не адзін раз па начах да дзевак бегаў... Так, дзеля забавы. Праўда, лавілі рэдка, шанцавала. Дык дасі самавольшчыкаў на дзянёк?

— Не, самавольшчыкаў не дам. Але магу выдатнікаў.

— Ладна, спатрэбяцца і гэтыя,— пагадзіўся повар і раптам крута павярнуў да іншай тэмы: — Можна павіншаваць цябе, Іван Пятровіч? Праз дзянёк-другі будзеш вольны, як казак, і свабодны, як птушка.

— А навошта мне гэта свабода і воля? — выдыхнуў старшына. Твар яго пакутліва зморшчыўся.

— Ты што, не рад? — здзіўлена вырачыўся на яго повар.

— А чаму радавацца?

— Ну як,— з ранейшым недаўменнем тарапіў во-

чы, повар.— Рыбачыць будзеш... гаспадаркай займацца. Адным словам, адпачываць.

— Ды якая ў мяне гаспадарка?! Жонка ды я... А рыбалкай я ніколі не захапляўся. Не было часу для гэтай забавы.

— Божа ты мой! Ды ці мала заняткаў! Дачу купіш, агародзік маленькі. Садзік вырасціш, клубнічку пасадзіш, што, ці не так?

— Ды навошта мне ўсё гэта? Навошта? — скрывіўся Бандаровіч.— Для мяне лепшы адпачынак — работа.

— Дзівак ты, Іван, як я пагляджу,— крытычна сказаў повар.— Работа дурняў любіць, а ты ж разумны мужык.

— Хітры ты, Спірыдон, баламуціш штосьці,— падазрона глянуў на яго Іван Пятровіч.

— Ды што там баламуціць? — ускінуўся ўсім целам повар.— Я б на тваім месцы ў рэстараны хадзіў, музыку слухаў... сяброўку завёў бы.

— Каго-каго? — Бандаровіч зарагатаў.

— Дурань ты,— асуджальна, нават неяк зняважліва заўважыў повар.— Цяпер жа гэта модна, калі стары ды з маладымі... Для падняцця тонуса, кажуць.

Іван Пятровіч рашуча ўстаў, сур'ёзна сказаў:

— Ладна, Спірыдон. Вары ты лепш кашу салдатам, а я пайду.

— Ты што, незадаволены? — з непрыкрытай цікаўнасцю спытаў повар.

— А чаго радавацца?..— разгублена сказаў старшына і не развітваючыся пакіраваў да выхаду. Усё здавалася, што ззаду Спірыдон Чувалаў пасміхаецца над ім. Ён рэзка павярнуўся, але повара не было. Пастаяў крыху ў роздуме — куды ісці — і пабрыў дадому.

Чатырохпавярховы дом, у якім жыў старшына, стаяў па ўскраіне гарадка. З аднаго боку несціхана

гудзеў машынамі разбіты камяністы шлях. З другога — сіратліва прыціскаўся калматым бокам сасновы лесапарк, у сярэдзіне якога была танцавальная пляцоўка. У суботу і нядзелю яна аглушальна грымела музыкай.

Іван Пятровіч не любіў ні лесапарк, ні пыльны бойкі шлях пад вокнамі, ні свой дом. Насяляў яго народзец неахайны, усё больш прыезджы. У пад'ездах было заўсёды наплявана, насмечана, паўсюль валяліся акуркі. Здавалася, што тут жылі часова ці рыхтаваліся да перасялення. Зімой вечарамі ў пад'езды набіваліся падлеткі, гучна лаяліся, брэнькалі на гітарах. Тады Бандаровіч не вытрымліваў, пад пратэст і прычытанні жонкі выходзіў і праганяў падлеткаў.

Цяпер, на падыходзе да дому, Іван Пятровіч хацеў непрыкметна праслізнуць ля замшэлых, надзвычай цікаўных бабуль, што песцілі на лаўках свае старэчыя целы пад асеннім сонцам, ля даміношнікаў, якія шумна ўссядалі за самаробным сталом, нават ля дзяцей, якія корпаліся ў пяску. Але зрабіць гэта не ўдалося. Ледзь толькі ён параўняўся з мужчынамі, як хтосьці крыкнуў:

— Эй, служывы, давай да нас!

Бандаровіч спыніўся ў нерашучасці: падыходзіць не хацелася, але адмаўляцца адразу здавалася яму няветлівым. Ён пераадолеў сябе, падышоў, павітаўся. Мужчыны азартна рэзаліся ў даміно, з усяе сілы білі касцяшкамі аб стол, адмыслова лаяліся. Закончыўшы партыю, з павагай пацяснiліся, аслабанілі яму месца.

— Садзіся, служывы, на высадку, а то нам аднаго не хапае.

— Дзякую, таварышы, але я не гуляю ў даміно.

— Як не гуляеш?

— Не ўмееш, ці што?

— Можа, устаў не дазваляе?

— Гуляць я ўмею, але не хачу,— сказаў ён.

— Кідай маслы, старшына, навучым,— бадзёра запрасіў яго нейкі хлопец.

— Не, не, дзякую!

— Тады давай у прэферанс, га?

— А можа, у дваццаць адно?

— Я ў гэтыя гульні не ўмею, не навучыўся.

— Дзіўны ты, служывы. Нейкі не такі, як усе.

Іван Пятровіч адзначыў, што мужчыны былі ў асноўным маладыя, здаровыя, моцныя. У душы ён пашкадаваў іх, як шкадуюць дарослыя хуліганістых хлапчукоў, якія марна растрачваюць сябе на нікчэмную справу. Ён вымучана ўсміхнуўся, прамовіў:

— Дзякую, вы без мяне тут управіцеся. Стараваты я для гульняў.

Ён хутка пайшоў да свайго пад'езда, адчуваў, што наліваецца пякучай нянавісцю да мужчын, да свайго заўтрашняга вольнага жыцця.

У кватэры, як у лясным азярку, усё было сонным, ціхім: і жонка, што вязала панчохі для сыноў, і пакой з абрыдлай мэбляй, і выцвілыя дываны на сценах і на падлозе, і вялізны мясіста-тоўсты кактус у драўлянай кадушцы. І святло, што лена плыло ў кватэру, таксама было сонным. Яно нібы паглыбляла магільную цішыню гэтага жытла.

І раптам усё ў ім запратэставала супраць таго, што павінна было адбыцца заўтра. «Не, не! Толькі не на пенсію! Ні за якія грошы. Што я буду рабіць сярод гэтага ламачча?» Ён стаяў на парозе здзіўлена разгублены, з нянавісцю ўслухоўваўся ў нежывую цішыню кватэры.

— Што з табой? Табе дрэнна? — шумна, нязграбна паднялася з тахты жонка, калыхнулася вялікім целам, паплыла насустрач яму.

— Не магу я,— зняможана прамовіў ён і сеў не распранаючыся ў крэсла.

— Што, што?.. Ты аб чым гэта, Іванка? — у вачах яе мітусіліся страх і недаўменне.

— Не хвалюйся, Маша,— супакоіў ён яе.— Я перадумаў.

— Што ты перадумаў? Ну што? Гавары! — патрабавала яна ўжо рашуча, адолеўшы разгубленасць і страх.

— Ды сядзь ты, супакойся. Заштокала, як сарока,— сярдзіта перарваў ён яе.— На пенсію перадумаў я.

— Як жа так, га... а рапарт?

— Ліха з ім! — устаў ён.— Вось пайду зараз і забяру.

— Я не пярэчу. Толькі навошта табе гэта? Ты сваё адпрацаваў,— угаворвала яна яго няўпэўнена, баязліва.— Адпачыў бы.

— Як гэтыя мужыкі, што ў даміно з цямна да цямна гуляюць у двары? — калюча, непрыступна абараняўся ён.— Ці як наш сусед, што патануў у бутэльцы?

— Што ж цяпер рабіць? Я ж гасцей паклікала! — разгублена спытала яна.

— К чарцям гасцей! Усё адставіць! — загадаў ён, схапіў фуражку, павярнуў да дзвярэй.

— Куды ты?

— У штаб. Можа, камандзіра застану.

Ішоў ён паспешліва, узбуджаны неадольным сваім рашэннем і разам з тым прыўзнята-радасны, быццам ашчаслівлены кімсьці нечакана.

Ля штаба казырнуў паставому, нырнуў у цемнавата-прахалоднае паветра калідора, імкліва ўзышоў на другі паверх. Было горача твару, галаве, усяму целу. Размерана, глуха білася ў грудзях сэрца. Увесь распарана-гарачы, з шумным дыханнем, ён штурхнуў уперад дзверы камандзіравага кабінета...

## СУХІ ПАЁК

Перад адбоем старшына Федарэнка загадаў камандзірам аддзяленняў пастроіць батарэю, салдатам узяць рэчавыя мяшкі. Калі сяржанты далажылі аб выкананні загаду, старшына скамандаваў:

— Батарэя, ррраўняйсь! Смі-і-і-рна! Другая шарэнга два крокі назад — арш!

Шарэнга бездакорна выканала каманду. Старшына, былы франтавік з засяроджана-строгім тварам, падыходзіў да кожнага салдата, браў рэчавы мяшок знізу за канцы і ўсё вытрасаў з яго. Пасля таго як мяшкі былі правераны, Федарэнка даручыў камандзірам аддзяленняў сабраць усё лішняе і аднесці ў капцёрку. Потым, заклаўшы рукі за спіну, моўчкі прайшоўся ўздоўж строю.

— У рэчавых мяшках дазваляецца захоўваць толькі асабістыя рэчы. Зразумела?! Разыдзіся! Адбой!

Перад тым як пакінуць падраздзяленне, Федарэнка зрабіў яшчэ заўвагу днявальнаму за кепскую выпраўку і накіраваўся дамоў.

Як толькі ён знік, у казарме павесялела. Салдаты, укладваючыся спаць, гамanілі, жартавалі. Невысокі салдат па прозвішчу Іванаўскас, распрануўшыся да ніжняй бялізны, стаяў басанож на праходзе і павучаў першагодкаў.

— Вучыцеся ў «старых», як трэба рыхтавацца да вучэнняў.

— Вучэнняў не будзе,— хтосьці спакойна запярэчыў яму.

— Паспрачаемся! — з гатоўнасцю азваўся Іванаўскас.

— Адкуль ты ведаеш? — пачуўся голас з другога канца казармы.

— Салага! Калі паслужыш з маё, даведаешся,— выкрыкнуў Іванаўскас.

— Сам ты салага! — агрызнуўся той жа голас.

— Што-о-о?! Хлопцы, вы чулі? Ён мяне салагам назваў. Трэба прысягу яму...

Да яго падышоў дзяжурны па батарэі, сяржант, строга папярэдзіў:

— Радавы Іванаўскас, калі вы зараз жа не скончыце, атрымаеце нарад без чаргі.

Выхвалянне і зухаватасць Іванаўскаса быццам рукой зняло. Ён лёг на ложак, заціх.

Сямён Гвоздзеў са звычайнай паспешлівасцю распрануўся, залез пад коўдру і, як некалі дома, на імгненне адчуў цеплыню і вільготны халадок свежай прасціны. Ён скруціўся абаранкам, заплюшчыў вочы і хутка заснуў у чаканні трывогі.

А другой гадзіне ночы дзяжурны па батарэі ўключыў святло, крыкнуў на ўсю сілу сваіх лёгкіх:

— Па-а-а-д'ём! Трывога!

Гэтыя словы, нібы стрэл, абудзілі казарму. Быццам нябачныя спружыны выштурхнулі салдат з ложкаў. Паляцелі ўверх коўдры і прасціны. Сямён хуценька нацягнуў гімнасцёрку, надзеў штаны, усунуў абгорнутыя апучкамі ногі ў боты і пабег у зброевы пакой.

— Хутчэй, хутчэй! — прыспешваў Федарэнка, які, здаецца, і не клаўся спаць.

Сямён апрануў шынель, схапіў аўтамат, процівагаз, дыскі з патронамі і заняў месца ў страі.

Гучна, уразнабой стукаючы ботамі па лесвіцы, спусцілася з трэцяга паверха батарэя. І гэтак жа ўразнабой, цокаючы па асфальтаваным пляцы, беглі салдаты ў снежнай віхуры да парку.

Сямён адчуў, як холадам абпаліла дыханне, вострыя крупінкі снегу балюча секлі твар, сустрэчны вецер дарэшты выдзімаў з адзення казарменнае цяпло.

У парку камандзіры зноў пастроілі батарэю, але

на ўзводах, загадалі заводзіць машыны. Па-дзелавому, спакойна і без мітусні людзі прыводзілі ў рух тэхніку. Прыглушана гулі маторы, разбаўляючы марознае паветра пахам бензіну і машыннага масла, чуліся каманды і загады.

У той момант, калі Хеладзе, Іванаўскас, Рузматаў і Свердлік чаплялі да цягача гармату, камандзір аддзялення сяржант Белавус сказаў:

— Радавы Гвоздзеў, хуценька ў машыну, пералічы боепрыпасы.

Сямён забраўся ў кузаў. У цемры, навобмацак пералічыў скрыні з боепрыпасамі і хацеў ужо саскочыць з машыны, як раптам спатыкнуўся аб нейкі прадмет. Сямён пхнуў яго нагой і тут жа вызначыў, што гэта таксама скрынка, але толькі лёгкая, яе нельга было параўнаць з гарматнай. Ён прыўзняў гэтую скрынку з падлогі і паставіў на лаўку. «Што ў ёй можа быць?» — зацікавіўся Гвоздзеў. Нядоўга думаючы, дастаў з ножнаў штык, праткнуў ім заклеены верх скрынкі і рэзка пацягнуў на сябе. Разрэзаўшы кардон, асцярожна прасунуў руку ў дзірку. Калі пальцы намацалі штосьці шурпатае і цвёрдае, а ў нос тхнула хлебна-салодкім пахам сухароў, Сямён здагадаўся, што гэта былі сухія пайкі.

З мінуту ён думаў, не ведаючы, што рабіць. «Адкуль у машыне прадукты? Хто іх сюды паклаў і навошта?» Пры думцы аб сухарах, якія заўсёды так прыемна і смачна хрумсцяць на зубах, у Сямёна ў роце з'явілася сліна. «Трэба ўзяць некалькі штук»,— мільганула ў галаве.

— Радавы Гвоздзеў, што ты там корпаешся?!

Сямён здрыгануўся ад нецярплівага крыку камандзіра і паспешліва адказаў:

— Усё ў парадку, таварыш сяржант!

— Злазь давай. Дапамагай хлопцам.

Сямён хутка прывёў у парадак парваны верх

скрынкі, засунуў яе за боепрыпасы, саскочыў далоў і пачаў дапамагаць астатнім. Калі гармата была прымацавана, Белавус скамандаваў: «Па машынах!» — і сам сеў у кабіну да вадзіцеля.

Адзін за адным пачалі выпаўзаць за КП цягачы з зачахленымі гарматамі на прычэпах.

Фары машын паласавалі начную цемру. У асляпляльна-зыркім святле роем кружыліся сняжынкі.

Увесь разлік быў у зборы, і ў цёмна-халодным кузаве машыны быццам стала цяплей. Жартавалі, расказвалі адзін аднаму розныя гісторыі, выстуквалі нагамі «чачотку», пляскалі ў далоні — грэліся хто як мог.

— Я ж казаў, што будзе трывога, а вы не верылі,— вярнуўся да свайго Іванаўскас.

— Гэта ж салагі не верылі,— азваўся Федзька Свердлік.

Нягледзячы на тое, што слова «салага» ў нейкай ступені датычыла і Сямёна, ён не пакрыўдзіўся. У разліку, куды яго нядаўна прыпісалі зараджаючым, усе размянялі апошні год службы. Сямён жа толькі пачынаў служыць.

— Як вы думаеце, гэта звычайная трывога ці вучэнні? — спытаў Рузматаў.

— Вядома, трывога,— упэўнена адказаў Хеладзе.

Гвоздзеў вельмі баяўся холаду, і яму хацелася, каб гэта была проста трывога. Тады яму не давядзецца мерзнуць, прыводзіць да бою гармату, цярпець усе тыя цяжкасці, што выпадаюць салдату на зімовых вучэннях. Таму ён і звярнуўся да Хеладзе:

— Ты адкуль ведаеш?

— Дарагі, калі б гэта былі вучэнні, нам бы выдалі валёнкі, цёплую бялізну... і абавязкова сухія пайкі.

Пры слове «пайкі» ў Сямёна затрымцела ў грудзях. Скрынка стаяла за снарадамі. Аб гэтым, праўда, пакуль ніхто з салдатаў не ведаў, мусіць, акрамя яго,

але цяпер Сямёна палохала ўжо не тое, што могуць быць вучэнні — доўгія і цяжкія, а тое, што распораная ім скрыня з пайкамі належала менавіта іх разліку.

— Але вы ведаеце, браточкі, здаецца мне — і сапраўды хлебам пахне,— загаварыў Свердлік.

— Адразу відаць: бульбаш,— незласліва азваўся Хеладзе,— што-што, а паесці ты — майстра.

— Як жа, браток?.. Але ж і працаваць умеем!

— Ды ты, Федзька, не хлопец, а гвозд. Без малатка лезеш,— груба пажартаваў Іванаўскас.

Усе дружна засмяяліся. Толькі Сямён нават не ўсміхнуўся. Ён радаваўся таму, што ў цемры ніхто не бачыў яго твару.

— Хлопцы, давайце закурым.

— Давай, калі не жартуеш,— з гатоўнасцю згадзіўся Іванаўскас.

Сямён адкрыў новы пачак цыгарэт, якія нядаўна прыслала яму маці, пачаставаў усіх. Курылі прагна, асвятляючы твары чырвонымі агеньчыкамі, хвалілі тытунь.

Раптоўна калона спынілася. Белавус выскачыў з кабіны, крыкнуў:

— Хлопцы, як вы там — жывы-здаровы?

— Жывыя, таварыш сяржант,— бадзёра адказаў Хеладзе.

— Змагаемся! — азваўся Свердлік.

— Вы за Гвоздзевым прыгледзьце. Ён першы раз.

— Дзякуй, таварыш сяржант, за клопат. Толькі я сам пастараюся справіцца,— з удзячнасцю адказаў Сямён.

Белавус пайшоў у галаву калоны і неўзабаве вярнуўся, дазволіў разліку злезці пагрэцца. Неба было цёмнае і бяздоннае. Павольна падаў рэдкі снег. Справа і злева ад дарогі шчыльнай сцяной стаяў лес.

Салдаты ўзад-уперад бегалі каля машыны, скака-

лі, штурхаліся. Сямён ніяк не мог сагрэцца. Цела, скаванае марозам, здавалася чужым, ногі былі быццам драўляныя, рукі так змерзлі, што ён не мог выпрастаць пальцы.

Сямён наставіў каўнер шыняля, засунуў рукі ў кішэні і прыхінуўся да цёплага радыятара машыны. З'явілася абыякавасць да самога сябе, да людзей, да ўсяго навакольнага. У думках ён ставіўся з пагардай да сябе, да сваёй слабасці і непрыстасаванасці да жыцця. Цяпер ён успомніў, як яго прымушалі бегаць кросы, падцягвацца на перакладзіне да знясілення, вучылі скакаць цераз «каня» і «казла». Тады Гвоздзеў не надаваў сур'ёзнага значэння фізічным заняткам. Цяпер ён зразумеў, што гэта было патрэбна.

Падышоў сяржант, спачувальна спытаў:

— Радавы Гвоздзеў, што з табой?

— Замярзаю, таварыш камандзір.

— Ты што гэта? Калі мы ўсе замерзнем, хто ж ваяваць будзе?

— Цяпер жа не вайна,— нясмела запярэчыў Сямён.

— Кожны салдат павінен быць заўсёды гатовы. Для гэтага ён і салдат. І запомні: цяжка на вучэнні — лёгка ў баі.

— Мне вельмі холадна, таварыш сяржант. Ногі змерзлі.

— Мне таксама. Што зробіш,— прытанцоўваючы, сказаў Белавус.— А пакуль стаім, залазь, пагрэйся.

Сямён забраўся ў кабіну, і яму стала цёпла, толькі ногі пачало ламаць нясцерпным болем.

У гэты час пачулася каманда «па машынах!», і салдаты рассыпаліся па сваіх месцах. Сямён дакульгаў да задняга борта, з цяжкасцю падцягнуўся на руках і перакуліўся ў кузаў. Потым знайшоў чахол ад каліматара, які валяўся ў кузаве, і захінуў ім ногі. Убачыўшы гэта, Іванаўскас здзіўлена спытаў:

— Што гэта ты робіш?
— Як бачыш: грэю.
— Можа, адмарозіў? — спытаў Рузматаў.
— Не ведаю. Вельмі баляць. Косці баляць.
Хеладзе запаліў запалку, паглядзеў на Гвоздзева.
— Э-э... дарагі, зусім дрэнны ты, вельмі дрэнны.
— Здымай боты! — загадаў Свердлік.
Гвоздзеў з цяжкасцю зняў абутак. Федзька сеў побач з ім, памацаў яго ступні. І тут жа сам зняў з сябе боты. Сваімі цёплымі анучамі абкруціў ногі Сямёну, параіў:
— Пасядзі крыху. Як сагрэюцца, тады боты надзенеш. А ў мяне ёсць другія анучы.
Падраздзяленне кіравалася да зыходнага рубяжа. Дзе гэты рубеж — ніхто з іх не ведаў. Ды і ведаць салдату не належала.
— Калі снеданне будзе? Як вы думаеце? — парушыў маўчанне Рузматаў.
— Ты ж такі худы, навошта табе есці? Аддаў бы мне сваю пайку,— жартаваў Іванаўскас.
— Бач, чаго захацеў! — шматзначна сказаў Рузматаў.
— Дарагі, ты мне лепш скажы: як ты, такі танюткі, звонкі і празрысты, у армію трапіў? Табе балетам займацца трэба. Танцы танцаваць,— з насмешкай прамовіў Хеладзе.
Падумаўшы, Рузматаў засведчыў без крыўды ў голасе:
— Кожны мужчына павінен зрабіць тры справы: вырасціць сына, пасадзіць дрэва, быць воінам. Так гаворыць наша народная мудрасць.
— Хоць ты і маленькі, але ўдаленькі,— заўважыў Свердлік.
Сямён маўчаў. Ногі, якія сталі адыходзіць ад холаду, пачалі балець яшчэ мацней. Ён уабраў галаву ў плечы і паспрабаваў хоць на некалькі хвілін за-

драмаць. Але не змог — праз адзенне з усіх бакоў падбіраецца бязлітасны холад, ад якога карчанее, паволі замярзае цела, а тут яшчэ час ад часу то падкідвае высока ўверх, то штурхае ад аднаго да другога борта, то так трасе, што адчуваеш, як дрыжыць кожная часцінка цела.

Ён устаў, надзеў боты і, ухапіўшыся за верхнюю металічную перакладзіну, доўга скакаў, стараючыся сагрэцца, потым зноў сеў, упёрся ў скрыні, каб пры штуршках яго не скінула з лаўкі, і драмаць ужо больш не спрабаваў.

— Вось што, хлопцы. А ці не час нам перакусіць? — прапанаваў Іванаўскас.

Хеладзе тут жа пстрыкнуў запалкай. Іванаўскас развязаў рэчавы мяшок, дастаў чорны бохан хлеба, разрэзаў яго на дзве паловы. Адну паклаў назад, а другую падзяліў на пяць роўных кавалкаў.

— Браточкі, у мяне ж скрылёк сала ёсць,— пахваліўся Свердлік.

— Ура-а-а! — радасным шэптам закрычаў Хеладзе.

— Я сала не ем,— катэгарычна заявіў Рузматаў.

— Ведаем, ведаем. Нам больш будзе,— з задавальненнем зазначыў Іванаўскас.

— Яго долю мы аддадзім Сямёну. Малады. Няхай папраўляецца,— сказаў Федзька.

Свердлік пакорпаўся ў рэчавым мяшку, дастаў невялікі кавалачак сала, загорнуты ў паперу, парэзаў на роўныя часткі. Дзве з пяці аддаў Гвоздзеву.

Падсілкаваўшыся, Сямён дастаў пачку цыгарэт, пачаставаў хлопцаў, закурыў сам.

У гэты момант машына рэзка павярнула ўбок, і ўсе пасунуліся на снарадныя скрынкі.

— Падрыхтавацца! Зараз каманда будзе,— сказаў Іванаўскас.

І сапраўды, не паспеў цягач спыніцца, як пачуўся голас Белавуса:

— К бою!

Увесь разлік з машыны быццам ветрам здзьмула. Сямён адразу ж забыўся на тое, што стаіць моцны мароз, што зусім нядаўна пакутаваў ад холаду. У складанай рабоце разліку ён быў маленькім механізмам, які павінен дзейнічаць бездакорна. Сямён гэта разумеў і стараўся з усяе сілы. Яму нават стала горача.

За нейкае імгненне гармату расчахлілі, гарматныя нумары далажылі аб гатоўнасці. Белавус узняў флажок і крыкнуў у цемру ўзводнаму камандзіру:

— Трэці гатовы! — І, радуючыся за свой разлік, пахваліў хлопцаў: — Добра папрацавалі, малайцы! Раней за ўсіх управіліся.

Разлік чакаў далейшых загадаў. Сямён пачаў прыглядацца да мясцовасці. Вакол, наколькі хапала вока, было поле. Голае поле з рэдкім хмызняком, чорныя плямы якога ледзь відаць былі на белай раўніне.

Хутка пачулася каманда «адбой». Гармату зноў зачахлілі. Белавус загадаў разбіваць палатку і класціся спаць. Выбралі невялікую палянку між кустоў. Старанна, да самай зямлі, разгрэблі рыдлёўкамі снег. Гвоздзеву і Свердліку Белавус даручыў секчы галлё. Аднак гэтая, няхітрая на першы погляд, работа аказалася не такою ўжо лёгкаю і простаю. Ад прамёрзлых камлёў лазы і алешын сякера адлятала, як ад гумы.

На разасланае галлё паставілі палатку, прымацавалі канцы вяровак да кустоў.

— Ну, хлопцы, цяпер і адпачыць можна,— сказаў сяржант.— Рузматаў, нясі дровы, распальвай печку. Мяняцца будзеце праз кожную гадзіну. На змену табе Гвоздзеў, потым Хеладзе, за ім — Свердлік.

Рузматаў прынёс маленькую паходную печку і

бярэма дробна насечаных дроў. Праз некалькі хвілін у печцы загуло, затрашчала, запахла сасновым дымам і пацягнула цяплом.

Сямён доўга не мог заснуць. У правай кішэні шыняля ляжалі сухары, якія балюча рэзалі бок. Але ён не мог ні зварухнуцца, каб неяк легчы зручней, ні дастаць іх адтуль, і вырашыў крыху пацярпець, а там будзе бачна.

Калі Сямёна разбудзіў Рузматаў, той здзівіўся. Яму не верылася, што гадзіна прайшла так хутка. Але Рузматаву не сказаў нічога, баючыся пакрыўдзіць яго, і заняў месца днявальнага.

Ён падкладваў у печку дровы, падтрымліваючы цяпло ў палатцы, неадрыўна і задуменна глядзеў на чырвоныя языкі полымя. Твар абпальвала гарачынёй, і па ўсім целе, як ад моцнага віна, разлівалася прыемная млявасць, зноў неадольна навальваўся сон. Каб адагнаць гэту пакутліва салодкую дрымоту, ён выйшаў з палаткі.

Было па-ранейшаму цёмна, ціха і марозна. На ўсходзе ледзь прыкметна пачало святлець ля самага небасхілу. І было незразумела яму, ці то водбліскі далёкага зарыва, ці надыходзіла раніца.

Ён пацягнуўся, салодка пазяхнуў, схапіў прыгаршчы снегу і стаў церці твар. Скуру спачатку апаліла агнём холаду, потым па шчоках разлілася гарачыня. Пальцы рук анямелі, ён сунуў іх у кішэні шыняля і адразу наткнуўся на сухары.

Сямён адышоў далей ад палаткі, ботам разгроб снег, зрабіў ямку, паклаў у яе сухары і зноў прысыпаў. На ўсялякі выпадак, каб не забыць месца, побач уваткнуў галінку.

Час праляцеў непрыкметна. Гвоздзеў разбудзіў Хеладзе, а сам лёг на яго месца і адразу заснуў.

Раніцай прыйшоў старшына Федарэнка, спытаў у Белавуса:

— Як абстаноўка ў разліку?

— Усё ў парадку, таварыш старшына!

— Хворыя, абмарожаныя ёсць?

— Няма!

— Ідзі атрымай на людзей валёнкі, ватоўкі і бушлаты. На снеданне сухія пайкі. Возьмеш у сваёй машыне.

Белавус паслаў Свердліка па пайкі, а сам павёў людзей пераапранацца. Калі вярнуўся, Свердлік разгублена стаяў ля кардоннай скрынкі.

— Што здарылася? — спытаў Белавус.

— Таварыш сяржант... хтосьці ўкраў паёк.

Белавус сам пералічыў.

— Хто ўзяў?! — сярдзіта спытаў ён. На пабялелым ад злосці твары з'явіліся барвовыя плямы.

— З нас ніхто не мог,— упэўнена заключыў Рузматаў.

Белавус кожнаму паглядзеў у вочы і, сустрэўшы прамы погляд, задумаўся.

— Не хацелася б мне, каб гэта было ў маім разліку,— засмучана сказаў ён.

— Не хвалюйцеся, таварыш сяржант. Гэта работа якога-небудзь салагі,— паспрабаваў суцешыць яго Іванаўскас.

— Хопіць! — злосна перапыніў яго Белавус.— Для вас салагі і салагі. А для мяне — непрыемнае здарэнне ў маім разліку. Ты гэта разумееш?

— Разумею, таварыш сяржант.

Сяржант патаптаўся на месцы, утоптваючы валёнкамі снег, абышоў вакол разарванай скрынкі, раптоўна ўдарыў яе нагой, як мячык, сказаў:

— Усё, што засталося, дзяліце!

Свердлік пароўну падзяліў пайкі. Хеладзе набраў у чайнік снегу, растапіў яго, закіпяціў ваду і заварыў чай.

Ніхто не глядзеў адзін аднаму ў вочы, быццам кожны падазраваў другога. Ва ўсіх былі вінаватыя і адчужаныя твары.

Іванаўскас шумна сёрбаў чай з кацялка. Свердлік вінавата і неяк няёмка хаваў пад нахмуранымі бровамі свае добрыя шэра-блакітныя вочы. Толькі Белавус і Рузматаў апетытна даядалі сухары, запіваючы чаем, і твары ў іх былі спакойныя.

Пачуўся далёкі гул, які з кожнай мінутай набліжаўся. Адтуль, з-за далягляду, павінна была вось-вось паказацца чарада самалётаў. Белавус ускочыў, задраўшы галаву ў неба. Свердлік і Іванаўскас падхапіліся і пабеглі да гарматы. Сямён на імгненне разгубіўся і не ведаў, ці то стаяць яму ля сяржанта, ці то бегчы да гарматы.

Раптоўна пачуўся рэзкі і гучны голас камандзіра, які разарваў ранішнюю марозную цішыню:

— Ба-та-рэя-а-а! К бою!

— К бою, Гвоздзеў! — быццам апамятаўшыся, крыкнуў сяржант.

Сямён бег услед за камандзірам, цяжка дыхаючы, спатыкаючыся і падаючы ў снег.

Імгненна ўсё ажыло. Паўсюль чуліся дакладныя каманды і загады. Гарматы доўгімі ствaламі шукалі ў небе цэль.

Сямён узвёў замок, спрытна засунуў абойму са снарадамі, праверыў, каб не было перакосу патрона, далажыў аб гатоўнасці. І, ці то ад чакання, ці то ад унутранага страху, па ўсім целе папоўз непрыемны халадок. Сямён баяўся выдаць свае пачуцці. Яму было сорамна прызнацца самому сабе ў тым, што ён баіцца гэтага першага стрэлу.

Сямён і не думаў, што такое ліхаманкавае ўзрушэнне перажывалі ў гэту хвіліну ўсе, хто быў ля гарматы.

— Агонь!

Ён нават не паспеў заўважыць, як абойма тарганулася да замка. Гармата здрыганулася і застыла. Ствол выплюнуў вогненны камяк у неба. І толькі тады балюча ўдарыла ў вушы: «Гах!» Сямён міжволі шырока адкрыў рот, і яшчэ тры разы так жа стукнула па вушах: «Гах! Гах! Гах!»

Калі стральба закончылася, Іванаўскас схапіў яшчэ гарачую гільзу, сунуў яе Гвоздзеву як не ў нос:

— Нюхай, салага! Нюхай! У цябе сёння баявое хрышчэнне!

— Давай, давай,— тонам загаду падтрымаў Іванаўскаса сяржант.

Сямён беражліва ўзяў гільзу, удыхнуў моташна-салодкі пах згарэлага пораху, радасна зморшчыўся.

— Ты, Сёмка, сёння салдатам стаў,— важна сказаў Хеладзе.— Ганарыся гэтым.

Сямёна перапаўняла гордасць. Цяпер ён, Гвоздзеў, паўнацэнны воін, раўнапраўны з усімі «старымі». Нават Іванаўскас будзе радзей называць «салагам» і пачне ставіцца да яго з большай павагай.

Адна толькі думка па-ранейшаму хвалявала, вярэдзіла душу, не давала спакою Сямёну: «Што рабіць з сухарамі?» Пазбавіцца ад гэтай думкі ён не мог, а адкрыцца таварышам было страшна.

Стральба працягвалася. І Свердлік, і Хеладзе, і Рузматаў, і Іванаўскас вельмі стаміліся, але былі задаволеныя, вясёлыя, нават радасныя ад удалай стральбы. Толькі Гвоздзеў быў хмурны і задуменны. У час перакуру Белавус яго спытаў:

— Гвоздзеў, што з табой? Зноў мерзнеш?

— Ніяк не, таварыш сяржант.

— Можа, захварэў?

— Не... проста так.— І тут жа спытаў: — Таварыш сяржант, вы калі-небудзь кралі?

— Не. А што за дзіўнае пытанне? — падазрона паглядзеў на яго сяржант.— Для цікавасці лепш ма-

тэрыяльную частку гарматы вывучайце. Хутка інспектарская праверка.

Гвоздзеву стала няёмка ад недарэчнага пытання.

Белавус, падумаўшы, зноў павярнуўся да Гвоздзева, сказаў:

— Краў я. Яблыкі ў суседавым садзе. Пасляваенны я. Жэрці так хацелася, аж жывот да хрыбта прысыхаў... Не адзін я... усе хлопцы на нашай вуліцы. Але ж тады час быў іншы.

Гвоздзеў падумаў аб тым, што тады, у пасляваенны час, лазіць у чужыя сады лічылася натуральным, само сабою зразумелым свавольствам. Ніхто за гэта асабліва не дакараў хлапчукоў.

— Батарэя, стройся на абед! — пачуўся гучны голас старшыны.

Праз некалькі хвілін з'явілася паходная салдацкая кухня. Пах смачнай гарачай ежы ўсіх быццам ажывіў. Пастроіўшыся па разліках, салдаты, бразгаючы кацялкамі, нетаропка тапталіся каля гармат, чакалі сваёй чаргі.

Нарэшце атрымаў сваю порцыю і разлік Белавуса. Елі каля гарматы. Рузматаў пакорпаўся лыжкай у тлустай капусце, дастаў кавалак мяса, працягнуў Гвоздзеву:

— На, Сёмка, папраўляйся.

— Не трэба, Рузматаў, аддай каму-небудзь іншаму,— адмовіўся Гвоздзеў.

— Бяры, бяры, Сямён, не саромейся,— заахвочваў яго Іванаўскас.

Але Гвоздзеў мяса не ўзяў. Ён пачаў перабіраць у памяці ўсё тое добрае, што рабілі для яго хлопцы з самага пачатку вучэнняў. Разумеў, што ўчынкамі таварышаў кіравалі сапраўдная дабрата і спагадлівасць да другога чалавека. І вось цяпер яму было сорамна карыстацца гэтай шчырай, бескарыслівай дабратой людзей, якіх ён, па сутнасці, абмануў. Ся-

мёна прыгнятала пачуццё віны перад імі. Ён нетаропка і маўкліва даеў капусту, падняўся і пайшоў да таго месца, дзе ўчора стаяла палатка.

— Гвоздзеў, ты куды? — спытаў Белавус.

— Я на хвілiначку, таварыш сяржант... трэба мне...

— Нетрыманне ў яго,— пажартаваў Іванаўскас.

Але ніхто чамусьці не падтрымаў жарту.

Сямён рукамі разгроб снег, дастаў сухары, абтрос іх і пайшоў назад. Але не прайшоў і дзесяці крокаў, як ахрыплы голас батарэйнага камандзіра прагучаў нечакана:

— Батарэя! Па машы-ы-нах!

На імгненне Сямён спыніўся як укопаны. Але тут жа адумаўся і пабег да свайго разліку. Хеладзе і Свердлік з усяе сілы круцілі дамкраты, павольна падымаючы з зямлі гармату. Белавус, Іванаўскас і Рузматаў паспешліва надзявалі каркас і нацягвалі на яго чахол. Гвоздзеў пачаў ім дапамагаць. Белавус, заўважыўшы, што Свердлік раней прыўзняў свой бок гарматы, крыкнуў Сямёну:

— Гвоздзеў, дапамажы Хеладзе! Хіба не бачыш, гармата пайшла на перакос?!

Сямён кінуўся дапамагаць таварышу.

...Вучэнні працягваліся. Падраздзяленне ішло да намечанай мэты. І толькі глыбокай ноччу, пад усыпаным зоркамі небам, пасярод нейкага поля, быў зроблены прывал.

Як і першы дзень, разбілі палатку і спалі па чарзе, падтрымліваючы слабае цяпло ў паходнай печцы. Твары ва ўсіх выцягнуліся, пацямнелі, быццам абпаленыя марозам.

— Давядзецца, напэўна, расходаваць НЗ,— сумна звярнуўся Іванаўскас да Свердліка.

— Нічога не зробіш, браце. Трэба.

Паўбохана чэрствага прамёрзлага хлеба Іванаў-

скас падзяліў на шэсць роўных кавалачкаў, каб нікому не было крыўдна. Нават крошкі ссыпаў на той кавалачак, які здаўся яму меншы, чым іншыя. Свердлік зверху паклаў на іх танюткія, амаль празрыстыя кавалачкі сала. І калі гэта цырымонія, за якой так уважліва ўсе сачылі, была закончана, Іванаўскас жартам крыкнуў:

— Хапай!

Але ніхто не хапаў. Салдаты асцярожна, з нейкай асаблівай урачыстасцю працягнулі рукі да хлеба. Толькі Сямён як стаяў, так і застаўся стаяць.

— Ты чаго гэта, Гвоздзеў? Што, грэбуеш? — спытаў Белавус.

— Нельга яму. Ён за фігуру баіцца,— з усмешкай сказаў Іванаўскас.

Хлопцы засмяяліся. А Сямён паволі зняў рукавіцы і палез у кішэні, дастаў адтуль сухары, паклаў іх каля сваёй порцыі, прамовіў:

— Сухі паёк узяў я...

Гэтай навіной усе былі так уражаны, што на нейкі момант усталявалася цішыня.

Свердлік, насунуўшы шапку на лоб, чухаў усёй пяцярнёй патыліцу, твар яго выцягнуўся, шэрыя вочы застылі ў здзіўленні. Потым ён падняўся, па-старэчы нетаропка закурыў, секануў рукою паветра і з нейкай толькі аднаму яму зразумелаю палёгкаю ў голасе прамовіў:

— А-а... бывае. Усялякае бывае...

Смуглявы твар Хеладзе з прамым, у нітачку носам і чорнымі вачамі засвяціўся радаснай усмешкай. Ён дружалюбна ляпнуў Гвоздзева па плячы:

— За храбрасць маладзэц!

Сяржант Белавус, заклаўшы рукі за спіну, нахмурыў твар і задумаўся. Усе маўчалі і з нецярплівасцю чакалі рашаючага слова камандзіра. А камандзір не спяшаўся. Ён шукаў адзіна правільнае рашэнне. На-

рэшце нібы ачнуўся, ускінуў на Гвоздзева вочы, сказаў:

— Ну, што, Сямён?.. Здаецца мне, што ты сёння не толькі салдатам — чалавекам стаў.

Ён падышоў да салдата, узяў яго руку ў сваю і па-мужчынску моцна сціснуў.

## ДВА НАРАДЫ БЕЗ ЧАРГІ

Апошняе пісьмо ад Наташы прыйшло ў пачатку лютага. Вось ужо і вясновы ветрык прыблудзіў, пагуляў над гарадком, дыхнуў цяплом на сумёты, што ўзвышаліся ля пляца. Абмяк, асунуўся снег. Талая вада ўранку яшчэ схоплівалася лядком, але пад дрэвамі бурую леташнюю траву пракалолі зялёныя стрэлкі.

Над бярозавым гаем гучна і бадзёра гамапілі гракі,налівалася лазурна-мяккай сінечай неба. У адчыненыя вокны казармы павеяла прэллю ляжалага лісця, напорыста ламалася асляпляльна яркае сонца. А пісем ад Наташы ўсё не было.

Перад абедам салдаты забеглі ў казарму, стоўпіліся ля днявальнага, нецярпліва паглядалі на пісьмы. Атрымаўшы, таропка распячатвалі і прагна прынікалі вачыма да лістоў. Некаторыя беражліва хавалі канверты ў кішэні, каб потым дзе-небудзь у адзіноце нетаропка перачытаць, яшчэ раз перажыць радасць вестачкі з роднага дому.

Анцік бачыў, як задуменна свяціліся твары хлопцаў, якімі пяшчотнымі станавіліся вочы. Ён таксама падышоў бліжэй з надзеяй знайсці на канверце сваё прозвішча. Але дарэмна. Ён саступіў убок, прымасціўся на табурэце, задумаўся.

З забыцця вывеў рэзкі, моцны голас узводнага:

— А-атрымаць аўтаматы, патроны, процівагазы і выходзіць на пастраенне!

У зброевым пакоі было поўна салдат. Яны весела гаманілі, бралі зброю. Выходзілі на вуліцу, курылі, чакалі далейшых распараджэнняў. Потым лейтэнант пастроіў узвод і павёў у «парк» да цягачоў. Іх здымалі з калодак, выводзілі на волю.

Заняткі на палігоне асабліва падабаліся Анціку. З аўтаматам у руках ён бег наперад, поўз па-пластунску, уставаў з укрыцця і кідаўся на «ворага». У гэтай гульні ў «вайну» было шмат трывожнай рамантыкі. Але сёння выезд не радаваў Антона. За пакутліва доўгія тыдні чакання ён не атрымаў ніводнай вестачкі ад Наташы. Трывога і журба захліснулі душу, выцеснілі з яе ўсё.

Да палігона ехалі па бездаражы. Машыны ныралі ў глыбокія каляіны, напоўненыя снегавой кашай. Неўзабаве праскочылі абуджаную ад зімовага сну вёсачку. За ёй распасціраліся голыя палеткі ў бруднабелых плямах наздраватага снегу. Страціўшы свой былы залаты бляск, іржэўнік тапырыўся з-пад снежнага покрыва. Адолеўшы бальшак, які пралягаў праз каржакаваты ельнік, машына затармазіла і ўрэзалася ў ліпкае цеста ўзбочыны. Салдаты павыскоквалі з кузава, пастроіліся. Узводны прайшоўся ўздоўж шарэнгі, пачаў тлумачыць правілы стральбы. Потым пабег на пазіцыю, далажыў маёру пра гатоўнасць і стаў выклікаць для выканання практыкаванняў. Салдаты ішлі на зыходны рубеж, укладваліся, ляскалі затворамі і рапартавалі аб гатоўнасці. Узводны, праверыўшы зброю, камандаваў: «Па мішэнях агонь!» — і ўзмахваў чырвоным флажком. Аўтаматы выхлёствалі кароткія чэргі, гучным сухім трэскам ірвалі цішыню.

Мішэні, падобныя на чалавечыя фігуркі, то падалі, то падымаліся, то доўга стаялі нерухома. Калі пер-

шыя адстраляліся, лейтэнант зноў пастроіў узвод. Над тугой скурай шчок качаліся жаўлакі, погляд драпаў твары салдат.

— Дрэнна страляеце! Чаму аўтамат у руках танцуе? — накінуўся ён на ўсіх адразу.

— Так атрымліваецца,— паспрабаваў апраўдацца нехта.

— Колькі раз я вас вучыў,— не зважаючы на рэпліку, злаваў лейтэнант.

— Выправімся,— прашапацеў чыйсьці нясмелы голас.

— Не выпраўляцца трэба, а страляць вучыцца! Зразумела?!

— Так точна! — уразнабой пачулася са строю.

Усё, што казаў камандзір, абцякала Анціка, не закранаючы, нібыта і не датычыла яго. Ды і навошта было слухаць яму канкрэтна абавязковыя настаўленні, калі страляў ён заўсёды без промаху, з зайздроснай меткасцю.

Прыжмурыўшы вочы, углядаўся ён у дрыготкую далячынь гарызонта. Там, за няроўным грэбенем лесу, дзе млява драмала чародка хмарак, нешта неадольна прыцягвала, трывожыла, хвалявала яго. Неадступна стаяла перад вачыма Наташа. Мроіўся ўсыпаны кветкамі аксамітны луг ля Дняпра, цёплыя, як нагрэтая вада, чэрвеньскія ночы. Усё гэта было наяве, ды засталося ў мінулым, аддзеленым часам і прасторай.

— Аўтаматы праверыць, паставіць на засцерагальнік,— загадаў лейтэнант.

Анцік не пачуў каманды, бо ў гэту хвіліну знаходзіўся далёка-далёка ад узвода.

— Радавы Пятруша, вам асобнае запрашэнне трэба? — спытаў узводны.

— Выбачайце, я задумаўся,— адказаў Анцік і таропка зняў аўтамат.

— Думаць будзем пасля, а зараз трэба вучыцца страляць.

Заўвага камандзіра апякла Анціка, і ён паспрабаваў агрызнуцца:

— Каб добра страляць, трэба таксама думаць.

У пранізліва-вострых вачах камандзіра ўспыхнуў халодны агеньчык. Анцік зніякавеў, замаўчаў. А ўзводны строга сказаў:

— На першы раз за спрэчку аб'яўляю вам заўвагу.— І загадаў усім спусціцца ў траншэю адпрацоўваць стральбу на мішэнях. Анцік выканаў некалькі трэніровачных практыкаванняў, потым стаў думаць пра ўзводнага.

Камандзір як камандзір. Гадоў мо на пяць старэйшы за Анціка. Справядлівы, але празмерна замкнёны, гаварыць не любіць. Ніколі не зведаеш, пра што ён думае, з салдатамі трымаецца на адлегласці. Добра гэта ці дрэнна, Пятруша не ведаў. Але вось за тое, што ўзводны ніколі не размаўляў з падначаленымі па шчырасці, Анцік не любіў яго.

З траншэі патыхала свежай зямлёй. Анцік адкінуўся спіной да бруствера, заплюшчыў вочы, глыбока ўздыхнуў. Галава закружылася, як ад віна, у вачах мітусіліся ружовыя плямы, твар лашчылі гарачыя промні яркага сонца. І зноў пацягнула да ўспамінаў пра дом, Наташу.

Як і ў кожнага чалавека, у Анціка былі свае незабыўныя падзеі жыцця. Часта ўспамінаўся дзень, калі яго выпраўлялі ў армію. Маці, як таго патрабавала традыцыя, наладзіла вечар. На ім былі ўся радня, сябры, знаёмыя Анціка. Яны пілі віно, спявалі песні, танцавалі пад гармонік. Цётка Гашка, таўшчэзная, з пульхным, як пірог, тварам, бясстрасным мужчынскім голасам папура выводзіла:

Последний понешний денечек
Гуляю с вами я, друзья...

Ей падцягвала тоненькім прастуджаным галаском вяртлявая сухенькая бабулька Насця. Шавец Мікіта, кульгавы сівы дзядок, нахіліўся да Анціка і, торкаючы пальцам, зрэзаным дратваю, яму ў грудзі, павучаў:

— Ты ж глядзі, сынок, матку не сарамаці. Яна цябе выгадавала, у людзі вывела.

Надвячоркам Анцік пакідаў родную хату. Чырвонае, без промняў сонца павісла на чорных, нібыта нежывых галінках яблыневага саду. Аголеная таполя ў маўкліва самотным парыве імкнулася да неба. Маці праводзіла яго да поплаву, адкуль цераз пустэльнае, па-восеньскаму непрытульнае поле вяла дарога да зборнага пункта ваенкамата.

— Ну хопіць, мама, ідзі,— сказаў ён сурова, саромеючыся абняць яе.

— Ага, пайду, пайду, сынок,— лапатала яна сарваным, дрыготкім голасам і прамакала ражкамі хусткі бясконцыя слёзы. У Анціка зашчымела сэрца, на вочы накацілася нешта гарачае, вільготнае.

— Мама, ну супакойся. Не на вайну ж я...

— Бацька таксама не на вайну ішоў,— і яна затрэслася ў ціхім нястрымным плачы. Тады ён абняў яе, пагладзіў па валасах, як малое дзіця, рэзка адхіснуўся і пайшоў. Ён не бачыў, як няўпэўнена, нібы падстрэленая птушка, ступала маці, як часта прыпынялася, глядзела яму ўслед.

Анцік адолеў поле, выйшаў да шляху, узбоч якога палымнеў кляновы гай. І стала да болю шкода пакідаць гэты стары шлях і халоднае асіроцелае поле з калючым іржэўнікам. Але трэба было спяшацца. Ён паправіў рэчавы мяшок з харчам і пакрочыў далей. І не прыкмеціў, як з ляска, наскрозь працятага сонечнымі промнямі, вылецела насустрач Наташа. Яна з'явілася так нечакана, бы з неба птушкай апусцілася.

— Ты чаго тут? — спытаў ён, адначасна абрадаваны, здзіўлены і спужаны. Наташа стаяла ў двух кроках ад яго ў сіняй балоневай куртачцы і джынсах, лёгкая, незвычайна прыгожая.

— Не хочаш, каб я цябе праводзіла? — голас яе здрыгануўся, як быццам зламаўся. У вачах адбіліся разгубленасць і недаўменне.

— Праводзь,— пасля доўгага маўчання з горыччу прамовіў ён.— Толькі дарэмна. Вось паеду я, і ўсё сатрэцца ў тваёй памяці. Не будзеш ты мяне чакаць... Не вытрываеш...

Наташа павярнулася, пайшла прэч, растварылася ў загусцелым змроку. Анцік не адважыўся гукнуць яе, доўга слухаў сыпуча пясчаны шорхат лісця пад нагамі дзяўчыны. Разумеў, што пакрыўдзіў жорстка і несправядліва, і тут жа пашкадаваў, што зрабіў гэта. Але нешта перашкаджала клікнуць яе, папрасіць прабачэння...

— Радавы Пятруша, вы што... заснулі?

Але Анцік па-ранейшаму стаяў нерухома, усё ў тым жа здранцвела-задуменным стане адасобленасці, адрынутасці ад усяго. Запознена словы ўзводнага даляцелі да яго слабым рэхам, закранулі розум. Ён здрыгануўся, збянтэжана ўтаропіўся на камандзіра:

— Я нічога, трэніруюся.

— Як жа «нічога»? Аўтамат вунь у зямлю глядзіць.

— Гэта ў мяне?

— У вас, радавы Пятруша. Яшчэ адно папярэджанне — і атрымаеце нарад без чаргі. Ясна?

— Так точна, таварыш лейтэнант!

Узводны з дакорам глядзеў на Анціка. Пад гэтым поглядам ён сцяўся, зморшчыўся як ад невыноснага болю. Стала крыўдна, што ўзводны не разумее яго. Потым ён суцешыў сябе: «Нічога не паробіш:

служба не дружба». І тым самым нібы апраўдваў узводнага.

Ад дурманнага паху зямлі, сцякотлівага мроіва, што асляпляльна пераліваліся над палігонам, ад пранізліва блакітнага неба ён зусім разамлеў, галава налілася свінцовым цяжарам. Яму хацелася вырвацца з палону гэтай прыгнечанасці і расслабленасці. Анцік схапіў аўтамат, рашуча перакінуў яго цераз плячо, выскачыў з траншэі і пабег услед за камандзірам. Насціг яго ля каманднага пункта, гукнуў:

— Таварыш лейтэнант?

— Што яшчэ такое, радавы Пятруша? Хто вам дазволіў спыніць занятκі?

— Дазвольце адстраляцца без чаргі.

— Чаму без чаргі? Вы што, лепшы за іншых? Няўжо яшчэ не прывыклі да дысцыпліны і парадку? Вы ж у арміі.

Салдат спахмурнеў.

— Вы мяне сёння здзіўляеце сваімі ўчынкамі, радавы Пятруша,— з дакорам зазначыў лейтэнант.

Анцік павярнуўся і пабрыў назад. Але тут аб'явілі перапынак. Салдаты павылазілі з траншэй, сталі прыкурваць адзін у аднаго. Іншыя, размораныя ап'яняючай цеплынёй, свежым палявым паветрам, разлягліся на падсохлых узгорках, песціліся на сонцы.

Абхапіўшы калені рукамі, Анцік сядзеў змрочна задуменны. Яго не цягнула ні да курава, ні да размовы. Хацелася пабыць у адзіноце. Ён нетаропка ўстаў, паправіў аўтамат, расшпіліў верхні гузік шыняля, што калюча-вільготным каўняром націраў шыю, асцярожна наступіў на лужыну, зацягнутую тонкім хрумсткім лядком, які тут жа суха растрэскаўся, схапіўся знізу павуціннай сеткай. З цікаўнасцю дзіцяці стаў ён хадзіць па лужынах, ламаць іх слюдзяныя акенцы, прыслухоўваючыся да звону льдзінак.

Раптам з-пад ног выпырхнуў жывы камячок, штопарам узмыў увысь, зазвінеў манатонна-гучнай трэллю. Анцік ускінуў галаву, неадрыўна наглядаў, як птушка ўсё вышэй і вышэй падымалася ў блакітную прастору, зачаравана слухаў яе неўтаймоўна-пералівісты спеў. І ад бясконцай радасці, усепаглынаючай любві да ўсяго і ўсіх, што раптоўна запалапілі душу, яму захацелася абняць увесь свет. Але жаўрук раптоўна сціх, нібы анямеў, і знік з поля зроку. Цішыня стала нерухомай, глухой. Да болю ў вачах ён углядаўся ў бясплотна-пустэльную гладзь неба і не знаходзіў птушку.

Тады Анцік сеў на краёк акопа, аплыўшага, парослага ўсярэдзіне жухлай травой. Чамусьці падумалася, што, магчыма, на гэтым полі некалі ішлі жорсткія, крывавыя баі. Ён нават бачыў, як беглі салдаты ў атаку, прагна глыталі паветра, падалі, нібы крылы, распасціралі на знявечанай зямлі напрацаваныя рукі. Хто ведае, можа, гэтак жа, як сотні, тысячы іншых воінаў, недзе ўпаў і яго бацька. Яму стала невыносна шкода тых незнаёмых хлопцаў, сваіх аднагодкаў, іх непражытых жыццяў. Ён адчуваў нешта падобнае на дакоры сумлення, бо жыве быццам бы за іх кошт, у неаплатным даўгу перад загінуўшымі. Як адплаціць за гэта? Ён не ведаў. Але быў перакананы: служыць павінен добра...

— Радавы Пятруша, вы чаму не ў страі?

Анцік не здрыгануўся на гэты раз, не спалохаўся, а толькі пашкадаваў аб тым, што не далі дадумаць. Не ўстаючы, ён павярнуўся. Асляпляльны адбітак сонца ад лакіравана-бліскучай скуры ботаў ударыў у вочы. Як флаг, гайдалася пад ветрам крысо афіцэрскага шыняля. Ён зразумеў: гэта быў камандзір. Анцік устаў, паправіў шынель, заўважыў: узвод пастроены ўжо, усе чакаюць яго.

— Прабачце, я не чуў каманды.

— Вам, відаць, трэба асобнае запрашэнне.

— Ніяк не, таварыш лейтэнант.

— У строй бягом, марш! — строга адчаканіў узводны.

Гэты загад яму здаўся зневажальным. Хацелася адказаць лейтэнанту рэзка, груба. Але ён сцяў зубы, пабег. Папрокі таварышаў успрыняў як нешта непазбежнае, справядлівае:

— Аднаго цябе і чакаем.

— Трэба прапанаваць узводнаму, каб ён табе страявую назначыў.

— Праз цябе і нас пастроілі...

— Вінаваты, хлопцы,— усё, што сказаў Анцік у сваё апраўданне.

Лейтэнант падышоў услед за ім, скамандаваў:

— Узвод, смірна-а-а! Радавы Пятруша, выйсці са строю на два крокі!

Анцік выйшаў, павярнуўся тварам да шарэнгі. Салдаты выцягнуліся, застылі нібы каменныя. На абсіверана загарэлых тварах хмурыліся вочы. Вецер пагойдваў крыссе шынялёў, нізка да ног прыгінаў сухі быльнёг.

— За неаднаразовае парушэнне воінскай дысцыпліны аб'яўляю вам два нарады без чаргі.

Крыўда на камандзіра і незадаволенасць сабою змяшаліся ў пачуццё горкага роздуму над сваімі ўчынкамі. Ён разумеў, што вінаваты і пакараны справядліва, і разам з тым не ўяўляў, як ён — дысцыплінаваны салдат, які заўсёды бездакорна нёс службу, пойдзе ў нарад без чаргі.

— Радавы Пятруша, на зыходны рубеж! — рэзка крыкнуў узводны.

Анцік пабег на пазіцыю, лёг, тузануў затвор. Прыціснуўся шчакой да прыклада, пільным позіркам акінуў узвышша, дзе павінна была з'явіцца мішэнь. Ад напружання вочы слязіліся, білася ў скро-

нях кроў, міжволі ўздрыгвалі рукі. «Не хвалюйся, Антон, не хвалюйся,— супакойваў ён сябе.— Дакажы гэтаму салагу-лейтэнанту, на што ты здольны».

Але мішэнь з'явілася зусім не там, дзе ён яе чакаў.

Анцік прыцэліўся, ірвануў курок, але выстралу не пачуў, толькі адчуў нямоцны тугі штуршок у плячо. Мішэнь яшчэ некалькі хвілін пастаяла і паволі, плаўна легла. «Прамахнуўся»,— маланкай успыхнула ў свядомасці, хаця паверыць у гэта было немагчыма. Калі ў другі раз узнікла чалавечая постаць, ён спакойна прыцэліўся і націснуў на курок. Паспеў заўважыць: далёка за мішэнню пырснулі фантанчыкі зямлі. Адбылося непапраўнае, чаго ніколі з ім не здаралася і чаму не было апраўдання.

Ад пякучага сораму, перажытага хвалявання і спякоты з-пад шапкі па скронях ручайкамі сцякаў пот, гімнасцёрка на спіне ўзмакрэла. Узводны спытаў не раздражнёна і сурова, а надзіва спагадліва, нават ласкава:

— Што з вамі здарылася, радавы Пятруша?

Ад непрывычна лагоднага голасу Анціку зрабілася яшчэ горш. Лепш бы камандзір пасварыўся на яго, аб'явіў яшчэ пакаранне.

— Не ведаю,— не ўздымаючы галавы, нейкім чужым, непаслухмяным голасам прамовіў Анцік і, гатовы заплакаць, пацягнуўся з пазіцыі.

— А я на вас спадзяваўся,— ціха, расчаравана, нібыта са шкадаваннем прамовіў яму ўслед лейтэнант.

Радавы Пятруша ішоў і кожнай сваёй клетачкай адчуваў на сабе погляды таварышаў.

Сустрэлі Анціка маўчаннем. Адны рабілі выгляд, што не заўважаюць яго, іншыя, наадварот, глядзелі асуджальна. Ён не вытрываў, з раскаяннем сказаў:

— Я не хацеў... так атрымалася, ну, зразумейце ж вы...

— Задавала,— з'едліва, з іроніяй зазначыў Міхась Кандрацьеў.

— Калі будзеш так страляць, Пятруша, інспектарскую мы як піць даць завалім,— падтрымаў яго Алесь Шэўчык.

— Ды хопіць вам,— нечакана заступіўся за Анціка Мэлс Ісхакаў, маладзенькі, хударлявы, чарнавокі салдат.— Можна падумаць, што самі ніколі не «мазалі».

Ісхакаў адвёў Анціка ўбок, спытаў:

— Можа, аўтамат не прыстрэлены?

— Ды не. Я ўжо год з яго страляю. Ніводнага разу міма, а тут...

Анцік зняў аўтамат, падаў Ісхакаву. Той клацнуў затворам, прыцэліўся ў паветра і раптам заўсміхаўся:

— Ды ў цябе ж прыцэл стаіць не на тым дзяленні. Што ж ты перад заняткамі не паглядзеў?

Толькі цяпер Анцік успомніў, што перад стральбой ён і сапраўды забыўся на гэты прыцэл. А збіў яго, відаць, пры пасадцы ў машыну ці, можа, калі вылазіў з яе. Але гэта адкрыццё не абрадавала яго, а выклікала неадольнае жаданне направіць памылку і апраўдацца перад камандзірам і ўзводам. Ён ірвануўся бегчы, але Ісхакаў затрымаў яго:

— Чакай, я зусім забыўся... Пасля каравула, як толькі вы паехалі, я заскочыў у казарму. Гляджу, пісьмо табе. На, трымай.

Ён дастаў з нагруднай кішэні гімнасцёркі канверт, падаў Анціку. Той выхапіў з яго рук пісьмо, зірнуў на зваротны адрас і тут жа разарваў канверт, выцягнуў акуратна складзены аркуш са школьнага сшытка, стаў прагна чытаць. Здрыгануўся, абмяк

твар, разлілася на ім расслаблена-пяшчотная ўсмешка, у вачах успыхнуў радасны агеньчык.

Анцік рынуўся на Ісхакава, абхапіў яго так, што ў таго хруснулі косці. Ісхакаў ледзь вызваліўся з жалезных абдымкаў таварыша, недаўменна спытаў:

— Ты што, з глузду з'ехаў, Пятруша?

— Мэлс, дарагі! Гэта ж пісьмо ад Наташы. Разумееш, хварэла яна доўга, таму і не пісала,— даверліва адкрыўся таварышу Анцік.

— Хіба справа ў пісьмах? — глыбакадумна заўважыў Мэлс.— Трэба, каб любіла.

— Любіць,— запэўніў Мэлса Пятруша.— Піша, што прыедзе. У суботу.

Ісхакаў пажаваў вуснамі, са спачуваннем паглядзеў на Анціка.

— Ты чаго гэта ўтаропіўся? — здзівіўся той.

— А таго... Нарад жа табе аб'явіў узводны. Забыўся, ці што?

Твар у Анціка пабялеў, вочы трывожна, са страхам скіраваліся на пазіцыю. Ён пакінуў Ісхакава і пабег да ўзводнага.

— Таварыш лейтэнант! Дазвольце яшчэ раз адстраляцца... Разумееце, прыцэл падвёў,— прасіў салдат.— Я своечасова не пагледзеў...

Але ўзводны быў няўмольны.

— Не. Не дазваляю. Іншым разам выправіце вашу памылку,— адрэзаў ён.

— Іншым разам нельга,— не прамовіў, а прашаптаў Пятруша сарваным, быццам здушаным голасам.— Дзяўчына да мяне прыязджае. Як жа я сустрэнуся з ёй? Вы ж мне нарад аб'явілі...

— Які ж я камандзір, калі буду адмяняць свае загады. Як вы лічыце?

— Правільна,— пагадзіўся Анцік.— Але што ж мне рабіць? — разгублена спытаў ён.

Узводны заклапочана задумаўся.

— Добра. Як выключэнне з правілаў я адмяняю свой загад, каб вы сустрэлі дзяўчыну. А выпраўляцца будзеце ў наступны раз на палігоне. Я спадзяюся, што вы мяне не падведзяце.— І крыкнуў: — Па машынах!

Салдаты абляпілі цягач, падцягваліся на руках, пераваньваліся цераз барты, таропка рассаджваліся на лаўках. Анцік залез апошнім, уціснуўся ў шчыльны рад чалавечых цел. Машына пагойдвалася, бы лодка на хвалях, кацілася па дарозе, выстрэльвала з-пад колаў струменямі снегавой жыжы.

— Хлопцы, давайце заспяваем,— прапанаваў нехта. І адразу чыйсьці бадзёры голас вынес песню на шырокі прастор:

Пой, солдат, пой
Про путь солдатский свой...

Яе падхапілі іншыя галасы, павялі ўпэўнена, зладжана. І песня, і гэтыя хлопцы ў салдацкіх шынялях, і востры пах абуджаных палёў — усё стала шчымліва-родным, блізкім. І нават узводны не здаваўся яму, як раней, чэрствым і абыякавым. Ён сядзеў сярод салдат з задуменна сумнымі вачыма, пакорлівы, маўклівы. Яго малады, засяроджана строгі твар нібы высвеціўся знутры. Скура на шчоках, як у дзяўчыны, пунсова зардзела, вусны, па-дзіцячаму прыпухлыя, былі паўраскрыты.

Анцік думаў пра тое, што хутка прыйдзе субота, сябры пойдуць у звальненне, а яго, відаць, пашлюць у пасудамыйку. Ад гарачай пары будзе цячы па твары пот, да болю размякнуць, разапрэюць падушачкі пальцаў. Але калі нават і ўдасца яму пазбегнуць пасудамыйкі, то ўжо кухні — ні ў якім разе. А там паспрабуй паабірай бульбы на ўсё падраздзяленне. За гэтымі думкамі ён не заўважыў, як праехалі палігон, падабраліся да вёскі. Непадалёк ад яе па сцеж-

цы, што пралягала па зжатым полі, у стракатым адзенні ішлі ў школу дзеці. Яны нагадвалі першыя вясновыя кветкі, якія гойдаліся пад лёгкім ветрыкам.

Анціку стала шкода, што ён ужо не школьнік, што той бесклапотна рамантычны свет юнага жыцця застаўся ў мінулым — незваротным і страчаным назаўсёды. Што ж, трэба як мага хутчэй сталець, мужнець, вучыцца бездакорна рабіць сваю салдацкую справу. Менавіта для гэтага яго і прызвалі ў армію. І ў параўнанні з гэтым найвышэйшым мужчынскім абавязкам дробязнымі і нікчэмнымі здаліся дзіцячыя крыўды на камандзіра, смутак па дому.

## ПАДАРУНАК

— Малодшы сяржант Савіцкі!.. На выхад да старшыны,— гучна крыкнуў днявальны.

Савіцкі сядзеў у бытавым пакоі і падшываў чысты падкаўнерык. Ён хуценька накінуў гімнасцёрку, зашпіліў гузікі, зірнуў у люстэрка на свой ружовашчокі, чарнабровы твар і пакіраваў да старшыны з прыкрай думкай: «І навошта я яму так позна?» Пасля вячэры старшына Клімянок заўсёды ішоў дадому, даручыўшы сяржанту праводзіць вячэрнюю паверку ў батарэі. А тут нешта затрымаўся.

— Таварыш старшына, малодшы сяржант Савіцкі прыбыў па вашым распараджэнні,— бойка адрапартаваў Савіцкі, казырнуў і стукнуў абцасамі.

— Вось вам папаўненне,— сказаў старшына, немалады ўжо мужчына з сівымі скронямі, і кіўнуў на салдата, што ціха, як цень, стаяў ля акна.

— Адкуль ён? — спытаў сяржант.

— З каранціну... Максім Міронаў... Толькі што

прысягу прыняў. Зараджаючым яго на гармату. Узводны загадаў,— стрымана сказаў старшына.

Савіцкі заўважыў, што салдат быў невысокага росту і хударлявы. Амуніцыя вісела на ім як на калу, тонкія ногі тырчалі з шырокіх халяваў. Сяржант быў незадаволены, што ў яго выдатнае аддзяленне піхаюць гэткага слабака, з якім, па ўсяму відно, нямала давядзецца павалаводзіцца, пакуль зробіш з яго сапраўднага салдата.

У аддзяленні Аляксея Савіцкага ўсе байцы былі як на падбор: рослыя, дужыя, натрэніраваныя хлопцы, якія нідзе ні разу яго не падводзілі. Таму сяржант пастаянна атрымліваў падзякі ад начальства. На вячэрняй паверцы Савіцкі павучальна казаў навічку:

— Будзеце служыць у лепшым аддзяленні. Хачу, каб вы сталі выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі. А для гэтага давядзецца шмат над сабой працаваць... Зразумела?!

— Так точна, таварыш малодшы сяржант! — нібыта саромеючыся, нягучна прамовіў Міронаў.

Савіцкі ведаў службу як свае пяць пальцаў, бо таксама прайшоў нялёгкую школу вучэбнага падраздзялення. Страявая хадзьба, доўгія ночы ў каравулцы, паходныя маршы на вучэннях, стрэльбы на палігоне — усяго паспытаў удосталь. І цяпер, пасля каманды «адбой», калі салдаты распраналіся, сяржант асабліва пільна сачыў за новенькім. Але Міронаў распрануўся раней за ўсіх, акуратна склаў абмундзіраванне і схаваўся пад коўдрай. І на ранішняй зарадцы ён адолеў многакіламетровы крос. Гэта таксама прыкмеціў Савіцкі, але пасля ўсё ж спытаў салдата:

— Цяжка, радавы Міронаў?

— Вельмі цяжка,— шчыра прызнаўся Максім, ві-

навата і стомлена ўсміхнуўся, дадаў: — Буду вечарамі самастойна займацца.

І праўда, штодня перад вячэрай Міронаў забягаў у спартыўную залу, скакаў цераз «каня», падцягваўся на перакладзіне, рабіў розныя практыкаванні. Праз месяц салдат прыкметна змяніўся. Ён стаў больш упэўненым, у страі не блытаў крок. І абмундзіраванне цяпер сядзела ямчэй на яго падужэлым целе, рэмень туга апярэзваў тонкі стан. Толькі адно непакоіла камандзіра: салдат быў маўклівы і задуменны. У вольныя хвіліны асобна ад усіх стаяў ля акна і глядзеў на распрануты восенню сквер. Савіцкаму здавалася, што салдата нешта прыгнятае. Але ніяк не мог знайсці зручнага моманту, каб пагаварыць з Максімам шчыра. І вось неяк у «парку», калі ўсё аддзяленне займалася агнявой падрыхтоўкай, а Міронаў дняваліў, яфрэйтар Андрэй Бондараў без дай прычыны сказаў:

— А наш новенькі — дзівакаваты хлопец.

— Нейкі аднаасобнік,— падтрымаў яго сакавітым баском Васіль Каламіец.

Савіцкі прыхінуўся спіной да гарматы, маўкліва выслухаў усіх, павучальна зазначыў:

— Нельга так пра чалавека меркаваць катэгарычна. Хто ведае, што ў ягонай душы.

— Трэба ўзяць яго з сабою ў звальненне,— прапанаваў Бондараў.

— Во, во! Правільна! — ухваліў яго Каламіец.— Паглядзім, што ён за птушка.

— Добра,— пагадзіўся малодшы сяржант.— Пойдзем у звальненне ўсім аддзяленнем. А пакуль, я прашу ўсіх, будзьце больш уважлівымі да новенькага.

Прайшоў лістапад, прыляцелі сцюдзёныя снежаньскія вятры. З шоргатам яны ганялі па пляцы адзінокія засохлыя лісты, балюча сцябалі салдат па

тварах белымі крупінкамі. Аддзяленне Аляксея Савіцкага несла каравульную службу. Як начальніку каравула малодшаму сяржанту спаць ноччу не дазвалялася. І ён з дзяжурным па часці правяраў пасты, сачыў за парадкам. А днём у вызначаны тэрмін пайшоў у спальнае памяшканне, лёг на цвёрды ложак, паспрабаваў заснуць. Але сон не браў. Думалася пра будучыя вучэнні, дзе аддзяленню давядзецца вытрымаць сур'ёзны экзамен па воінскую вывучку. І асабліва непакоіла думка, каб не падвёў новенькі. Міронаў таксама нядаўна вярнуўся з паста і ляжаў цяпер у прыцемках непадалёк ад Савіцкага.

— Вы спіцё? — ціха спытаў Савіцкі.

— Не... Ляжу вось, думаю.

— Відаць, пра дом?.. Адкуль родам?

— З Гомельшчыны. Вёска мая ля самай Прыпяці... Эх і здорава ў нас! — летуценна прагаварыў салдат.— Увечары прыйдзеш да ракі... ідуць цеплаходы, маторкі, як птушкі. Імчышся насустрач сонцу па залатой вадзе... Ну, дзе яшчэ такое ўбачыш!

— А дома як? — крыху счакаўшы, спытаў камандзір.

— Маці цяжка хварэе. Інваліднасць далі. А сястра на агранома ў тэхнікум паступіла. Бацька наш памёр, як я яшчэ малы быў.

Савіцкі маўчаў, больш не адважваўся распытваць салдата, каб не вярэдзіць яму душу. Ён шчыра спачуваў гэтаму кволаму хлапчуку і вырашыў памагаць яму.

— Таварыш малодшы сяржант, пусціце ў звальненне,— раптам парушыў цішыню Міронаў.— У сястры хутка дзень нараджэння...

— Пойдзем... у суботу,— адказаў Савіцкі і, пераможаны салодкай млявасцю, заснуў.

Прамільгнулі ў клопатах і справах яшчэ некалькі дзён. Выязджалі на палігон на начныя стрэльбы.

Нечакана Міронаў зноў здзівіў камандзіра і таварышаў: адстраляўся лепей за ўсіх і зарабіў выдатную адзнаку. Перад аддзяленнем сяржант хваліў:

— Малайчына, Міронаў! Рэдка хто з нас у першы раз на начных стрэльбах не мазаў. А ты...

Аднойчы вечарам аддзяленне ўладкавалася ў кутку казармы. Алесь Ганчарык іграў на гітары і спяваў мяккім, прыемным барытонам. Бондараў і Каламіец дружна падцягвалі. Твары ва ўсіх былі задуменныя. Па ўсяму відно — знаходзіліся хлопцы ў гэту хвіліну недзе далёка-далёка. Максім Міронаў моўчкі слухаў, і празрыста-блакітныя вочы яго былі такія самотныя, што ў сяржанта здрыганулася сэрца. Міжволі падумаў Савіцкі, што вось праляціць гэты апошні год службы і, мажліва, ніколі больш не ўбачыць ён гэтых хлопцаў.

У суботу старанна паголеныя, адпрасаваныя, пачышчаныя, хлопцы ўсім аддзяленнем бадзёра падаліся ў горад. Доўга блукалі па вуліцах, завіталі ў парк і, нібы тыя дзеці, пабеглі да арэляў. Потым зайшлі ў маленькую ўтульную кавярню, заказалі марожанага, кавы, вольна ўселіся за столікам. Калі афіцыянтка паставіла перад Міронавым адзінокую шклянку з газіроўкай, Андрэй Бондараў пацікавіўся:

— У цябе што, грошай няма?

— Вазьмі ў мяне колькі трэба,— прапанаваў Алесь Ганчарык.

— Дзякуй, хлопцы, не трэба,— адмовіўся Міронаў і пачырванеў.— Грошы ў мяне ёсць.

— Ты, пэўна, мільянерам вырашыў стаць, эканоміш на ўсім,— пажартаваў Васіль Каламіец.

Савіцкі маўчаў. Ён здагадваўся, пра што думае зараз салдат. А той раптам паглядзеў на камандзіра і не папрасіў — узмаліўся:

— Таварыш малодшы сяржант, мне вельмі трэба ў магазін, дзе гадзіннікі прадаюць.

— Так, хлопцы, пад'ём,— скамандаваў Савіцкі і гэтым вельмі здзівіў падначаленых. Неўзабаве салдаты стаялі ля прыгожай вітрыны з гадзіннікамі.

— Пакажыце мне вунь той, электронны,— папрасіў Міронаў прадаўшчыцу.

— Калі ласка. Усяго сорак рублёў.

Вочы Міронава пацямнелі. Ён расчаравана пакруціў у руках карабочак, потым паклаў на прылавак і рушыў да выхаду.

— Што з вамі, Міронаў? — дагнаў яго Савіцкі.

— Вы разумееце, таварыш малодшы сяржант... сястрычка электронны хацела... Яна так пра яго марыла! А ў мяне не хапае,— у роспачы сказаў салдат.

— Ідзіце да кінатэатра і чакайце там! Мы — хутка! — крыкнуў сяржант і пабег да магазіна. Салдаты ўсё яшчэ тоўпіліся ля вітрыны.

— Бондараў, Каламіец, Ганчарык, за мной! — напаўголаса загадаў Савіцкі. Потым расказаў ім пра Міронава і прапанаваў:

— Паможам? Ён жа наш, з нашай сям'і.

— Вунь які, гэты Міронаў,— неяк вінавата прамовіў Андрэй Бондараў.

— Эканоміў на ўсім, каб сястрычцы падарунак зрабіць,— ухваліў таварыша Алесь Ганчарык.

— А я яшчэ так кепска пажартаваў,— засмуціўся Васіль Каламіец.

Праз паўгадзіны салдаты з аддзялення Савіцкага сядзелі ў фае кінатэатра, разглядвалі новенькі электронны гадзіннік. Міронаў час ад часу пазіраў на таварышаў удзячнымі вачыма. І ніхто з іх не ведаў, што ранкам аддзяленне падымуць па трывозе і некалькі марозных віхурных сутак яны будуць вучыцца ваяваць. А радавы Міронаў першы раз у сваім жыцці зарадзіць гармату сапраўдным баявым снарадам і выстраліць па цэлі...

ЗМЕСТ

**Аповесць**

**Жалязоўскі А.**

Ж 25 Горкі хлеб: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 238 с., іл.

У пер.: 85 к.

Аповесць «Горкі хлеб» расказвае пра сям'ю былога партызана Пятра Апаровіча. У цэнтры твора лёс сына Апаровіча Арцёма. Ён з годнасцю адолеў жыццёвыя выпрабаванні, выхаваў у сабе сумленнасць, ідэйную перакананасць, нецярпімасць да хлусні, крывадушша, фальшу.

Героі апавяданняў «Помнік», «Хутаранка», «У вясковай цішыні», «Адзін дзень да пенсіі» — былыя франтавікі і партызаны, калгаснікі і пенсіянеры, салдаты і афіцэры Савецкай Арміі. Яны розныя па характарах і па ўзросце, але ўсіх іх яднае вернасць роднай зямлі, адданасць Радзіме.

Ж $\frac{4702120200-124}{М302(05)-85}$ 14—85

ББК84 Бел7

Бел2

**Анатолий Петрович**
**ЖЕЛЕЗОВСКИЙ**

**Горький хлеб**

Повесть и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. К. Лявонаў
Мастак В. В. Сокалаў
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар І. М. Паланейчык

ІБ № 2271

Здадзена ў набор 09.10.84. Падп. да друку 10.07.85. АТ 12258. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,68. Ум. фарб.-адб. 9,68. Ул.-выд. арк. 10,34. Тыраж 8000 экз. Зак. 765. Цана 85 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.